## *ЗМЕСТ*






ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»



**Галіна ВАСІЛЕЎСКАЯ**

# І АДЗІН У ПОЛІ ВОІН

*Эсэ*

## 1

Верасень у той год выдаўся цёплы, сонечны. Дажджы за ўвесь месяц ішлі ўсяго разы два і таксама па-летняму цёплыя. Грыбныя дажджы. Адпачываць у такое надвор'е было прыемна. У памяшканні не сядзелася, і ля галоўнага корпуса санаторыя перад абедам сабраліся амаль усе, каму ў гэты месяц пашчасціла прыехаць сюды.

Пажылыя ўладкаваліся на лавачках, у кожнага ўжо было сваё любімае месца. А моладзь перакідвала мячык, гуляла ў валейбол.

Пад'ехала легкавая машына з маскоўскімі нумарамі. Вадзіцель — мужчына сярэдніх гадоў, па ўзросце мой сын, пачаў насіць рэчы ў памяшканне, а жанчына стаяла ля машыны. Была яна намнога маладзейшая за мужчыну, і я падумала, што ўзрост яе падыходзіць якраз да ўзросту маёй унучкі, недзе каля трыццаці.

«Значыць, не першая жонка», — вырашыла я.

Усе мужчыны як па камандзе павярнулі галовы і ўтаропіліся на жанчыну. Вочы самі глядзяць куды ім хочацца. Хутка і яна ўвайшла ў дом.

Праз нейкі час усіх паклікалі на абед. За маім сталом было два свабодныя месцы. Суседзі, што раней сядзелі там — вельмі сімпатычная пара, — паехалі дадому, і мне было сумна без іх. Я чамусьці хутка прывыкаю да харошых людзей, а потым сумую.

Калі я ўвайшла ў сталоўку, новая пара сядзела ўжо за маім сталом.

Пазнаёміліся. У санаторыі гэта робіцца хутка. Яго звалі Мікалай Іваноў, яе — Юлія. Мужчына быў звычайны, нават непрыкметны. Убачыш такога на вуліцы і не звернеш увагі. Пройдзеш міма.

---

***Васілеўская Галіна Ануфрыеўна*** *нарадзілася 15 студзеня 1927 года ў гарадскім пасёлку Клічаў. У 1932 годзе сям'я пераехала ў Мінск. Да вайны скончыла шэсць класаў сярэдняй школы. Пасля вайны экстэрнам здала экзамены за дзесяцігодку (1945). У 1950 годзе скончыла аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта БДУ. Працавала радыёжурналістам, літаратурным супрацоўнікам часопіса «Сельская гаспадарка Беларусі». З 1959 да 1977 года была рэдактарам аддзела часопіса «Работніца і сялянка», з 1977 года загадвала аддзелам нарыса, а з 1979 была адказным сакратаром часопіса «Полымя». З 1982 па 1988 гг. узначальвала Бюро прапаганды мастацкай літаратуры СП БССР.*

*Выдала кнігі: «Маланка ўначы» (1963), «Малюнак на снезе» (1969), «Я еду на вярблюдзе» (1970), «Бывай, Грушаўка!» (1979), «Юныя назаўсёды» (1983), «Выбранае: аповесці і апавяданні» (1986), «Крылы, альбо Адзін год з жыцця Віталя Пятроўскага» (1987), і іншыя.*

А на жанчыну не звярнуць увагу было проста немагчыма. Не толькі таму, што маладая. Прыгожы твар, выдатная фігура, як кажуць — усё пры ёй. Апранута не толькі дорага, але і з вялікім густам. І ўся яна была надзіва дагледжаная, быццам свяцілася ўся. Нібы ў яе ўнутры агонь гарэў, асвятляў яе і ўсё, і ўсіх навокал.

Імя ёй вельмі пасавала — Юлія (як у італьянцаў Джулія).

Я спытала, адкуль яны прыехалі?

Ён адказаў, што з порта Находка. Мяне зноў здзівіла тады, што праз усю Расію, з другога канца свету, недзе побач з Японіяй, прыехалі яны адпачываць да нас у Беларусь. А нумары машыны маскоўскія. Здзівіла ўсё гэта мяне вельмі. Але не стала я нічога ўдакладняць. Якая мне справа? Прыехалі і ўсё. Так ім захацелася. На здароўе.

На наступны дзень, робячы заказ таксама на заўтра, Юлія раптам спытала ў свайго спадарожніка:

— Ты рыбу любіш?

Мяне і гэта здзівіла. Але зноў жа: што мне да гэтага? Спытала толькі, ці былі яны раней у Мінску. Ён адказаў адмоўна.

— Чулі пра вашу сталіцу многа, і ўбачыць хочам вельмі. Таму і прыехалі сюды.

У Мінску я жыву ўсё сваё свядомае жыццё. Доўгае жыццё. Расказваць пра горад магу многа. Што я па іх просьбе і зрабіла:

— Дзяўчынкай бачыла горад у час вайны, у час фашысцкай акупацыі. Ён ляжаў у развалінах. Стоячы на плошчы Мяснікова, бачыла я некаторыя ўцалелыя будынкі першай клінічнай бальніцы. Мінчане ведаюць, якая гэта адлегласць — праз увесь тады горад, праз увесь яго цэнтр. Першы раз фашысты бамбілі Мінск на другі дзень вайны, 23 чэрвеня 1941 года — нішчылі вакзал, аэрапорт і збудаванні, што забяспечвалі горад вадой. Яны ведалі дакладна, дзе што знаходзіцца. У аэрапорце разбамбілі ўзлётную паласу, каб самалёты не маглі падняцца ў паветра. У горадзе не стала вады, не было чым тушыць пажары. Астатняе рабілі агонь і вецер, што ў час пажараў узмацняўся. Ён валіў на зямлю абгарэлыя сцены дамоў.

Паміж развалін жыхары горада, што засталіся ў жывых, пратапталі сцежкі. Па іх і хадзілі тры доўгія гады акупацыі. Расчышчаныя дарогі былі заняты машынамі. У самым цэнтры горада абгарэлымі жалезнымі ложкамі былі агароджаны грады, на якіх расла бульба і цыбуля. Тыя, хто зрабілі гэтыя грады, вартавалі іх, бо яны не давалі ім памерці з голаду.

Эвакуацыя ў Мінску аб'яўлена не была. Гэта я ведаю дакладна. Не паспелі аб'явіць яе. Самае высокае начальства ўцякло з горада ў першыя дні, на радыё пакінулі вартаўніка, які ўключаў плёнку са словамі «Грамадзяне! Ніякай панікі. Заставайцеся на сваіх месцах. Вораг будзе адбіты». Гэты зварот я чула сама і помніла ўсё жыццё. Потым іграла музыка. Зварот да насельніцтва паўтаралі часта.

На шосты дзень ад пачатку вайны за Мінскам быў скінуты вялікі парашутны дэсант. Усе ў новенькай форме чырвонаармейцаў. Толькі пад каўняром быў фашысцкі знак — свастыка. Каб свае не пераблыталі.

Гэтыя парашутысты не пускалі бежанцаў, што ўцякалі з палаючага горада, на Маскоўскую шашу, бераглі яе для сябе, а накіроўвалі ўсіх на Магілёўскую шашу, якую па некалькі разоў на дзень бамбілі.

Мае веды — гэта не толькі мае ўласныя ўспаміны, а яны настолькі моцныя, што помняцца добра. Гэта ўспаміны яшчэ маіх бацькоў, нашых знаёмых, месяцы працы ў партархіве ў той час, калі я пісала сваю «Грушаўку»…

Відаць, маладую жанчыну мала цікавіла гісторыя Мінска, бо яна спытала раптам:

— Дзе ў вас можна купіць оптам беларускае адзенне?

Пытанне было ўжо не да мяне, бо па магазінах, тым больш аптовых, я не хаджу.

У размову ўключылася наша чацвёртая суседка па стале — Валя. Яна расказала, што частка стадыёна «Дынама» ў Мінску ператворана ў базар, там можна купіць усё, што пажадаеш. А калі прыехаць туды ў панядзелак у чатыры гадзіны раніцы, то там для тых, хто гандлюе, прывозяць оптам тавары.

Маладую жанчыну такая інфармацыя зацікавіла. Як чалавек дзелавы, стала распытваць, як з санаторыя даехаць да стадыёна. Атрымаўшы дакладны маршрут, нашы новыя суседзі былі вельмі задаволены.

У канцы абеда на развітанне я сказала ім, каб яны абавязкова з’ездзілі ў Хатынь. Тое, што яны ўбачаць у Хатыні, не ўбачаць больш нідзе ў свеце.

Дзень быў цёплы, ласкавы. Не хацелася ісці ў свой пакой, і я накіравалася ў лес. Ён абкружаў санаторый з усіх бакоў, быў сухі і дагледжаны, з мноствам акуратных сцежак, пракладзеных між дрэў. Хадзіла і думала. Думала пра Хатынь.

Была там многа разоў, і адразу, як быў адкрыты гэты трагічны мемарыял, і потым, пасля рэканструкцыі. Думала і ўспамінала. Памяць — цікавая штука, яна хаваецца недзе ў закуточках мозга, сядзіць там ціха да часу. А раптам успамін так зачэпіць яе, так кране, што яна ўспыхне маланкай, раптам асвеціць тое, што здавалася даўно забытай мінуўшчынай…

## 2

Кажуць, што адзін у полі не воін. Сапраўды, калі ў чалавека ў руках зброя, а поле — гэта поле бітвы, адзін салдат — не воін. Але бывае сітуацыя, калі ўсё залежыць ад таго, хто гэты «адзін» і што перад ім за «поле».

З гэтай думкай я ўпершыню сутыкнулася многа гадоў назад, у 1960 годзе, калі была ў сваім першым падарожжы за мяжу — у Чэхаславакіі і трапіла ў Лідзіцэ — адзіную на ўсю краіну вёску, якая ў час Другой сусветнай вайны была знішчана, спалена фашыстамі і пераарана.

Што я ўбачыла ў Лідзіцэ? Памятаю да гэтага часу — першае, што сустрэла экскурсантаў, — быў высокі чорны крыж, зроблены з абгарэлага ў вёсцы дрэва. З калючага дроту на крыжы было прымацавана кола, якое сімвалізавала закончаны круг жыцця людзей. Былі мы ў музеі, дзе сабрана тое, што засталося ад вёскі, ад людзей: абгарэлыя дзіцячыя цацкі, абгарэлы абутак, дзіцячы і дарослы, пакручаныя ад агню лыжкі, абпалены сялянскі інвентар і многае, многае іншае.

Сабрала ўсё гэта былая жыхарка вёскі, тады маладая дзяўчына, якая паехала напярэдадні трагедыі да сяброўкі ў далёкую вёску і там затрымалася. Калі вярнулася дадому — ні хаты, ні вёскі, ні людзей.

Яна збірала абгарэлыя сведкі былога жыцця, складвала іх у адно месца, яшчэ не думаючы, што ўсё гэта потым стане экспанатамі музея.

На месцы былой вёскі мы ўбачылі плантацыю руж, прысланых з усяго свету. Там я ўпершыню сустрэла чорную ружу — сімвал смутку. Каля вёскі былі створаны сімвалічныя магілкі, дзе быў названы кожны загінуўшы жыхар. Дзяўчына ведала ўсіх…

Мяне, журналіста, усё гэта настолькі ўразіла, што я падышла да дырэктара мемарыяла — былой жыхаркі вёскі і сказала:

— Мы, беларусы, разумеем трагедыю жыхароў вашай Лідзіцэ, шчыра спачуваем вам, бо ў нас такіх спаленых вёсак многа.

Яна паглядзела на мяне здзіўлена.

— У вас ёсць спаленыя вёскі? Назавіце мне іх.

Я назвала тры, можа, чатыры загінуўшыя вёскі, што былі на маёй памяці, і адчула, яна мне не верыць. Бо сказала:

— У нас адна Лідзіцэ, яе ведае ўвесь свет. А хто ведае вашы спаленыя вёскі?

— А ў нас сталіца Беларусі — Мінск ляжала пасля вайны ў развалінах. Не толькі вёскі… І калі б мы ў кожнай спаленай вёсцы рабілі мемарыялы, у нас не было б дзе сеяць хлеб…

Канечне, крыўдна было да слёз, што яна мне не паверыла. Але не паважаць гэту жанчыну было немагчыма. Фактычна яна стварыла мемарыял. А калі ўспамінала сваіх аднавяскоўцаў, у яе вачах стаялі слёзы. Яна не толькі паважала іх, але і любіла.

Вось усяго адзін чалавек і яго поле дзейнасці. Гэтая думка ў мяне ўзнікла яшчэ тады ў Чэхаславакіі.

Працавала я ўжо год у часопісе «Работніца і сялянка». Была «сялянкай». Бо да гэтага шэсць гадоў займала пасаду літсупрацоўніка часопіса «Сельская гаспадарка Беларусі». І там пісала нарысы пра сялян і сялянак, вялікіх пасляваенных працаўнікоў, якіх бясконца паважала за іх цяжкую працу.

Вярнуўшыся дадому з Чэхаславакіі, я адразу прыйшла да галоўнага рэдактара «Работніцы і сялянкі» Аляксандры Паўлаўны Ус, расказала ёй пра Лідзіцэ, пра тое, што бачыла там і што адчувала. І прапанавала:

— Давайце ўвядзём рубрыку «Нашы Лідзіцэ» і будзем пісаць пра спаленыя вёскі, каб хоць назваць іх.

Рэдактар адразу згадзілася. Яна была харошым арганізатарам і руку трымала на пульсе грамадскага жыцця.

Так паявілася ў часопісе рубрыка «Нашы Лідзіцэ». Вяла яе я.

Кожнага пісьменніка або журналіста, хто ад часопіса ехаў у камандзіроўку, я прасіла прывезці інфармацыю пра спаленыя вёскі. Ведала яшчэ тады, што атрымаць яе можна ў рэдакцыях раённых газет, дзе звычайна адзначалі камандзіроўкі.

І сама прывозіла абавязкова такую інфармацыю. Мой нарыс «Андрэйкава вёска» акрамя нашага часопіса быў надрукаваны і ў маскоўскай «Крестьянке».

Са светлай цеплынёй успамінаю нашага вядомага паэта Сцяпана Гаўрусёва, які з кожнай камандзіроўкі незалежна ад аддзела, ад якога ехаў, заўсёды прывозіў усё новыя і новыя факты. Яму нават не трэба было напамінаць.

Рубрыка жыла каля двух гадоў. Аднойчы Аляксандра Паўлаўна паклікала мяне да сябе ў кабінет і сказала, што рубрыку «Нашы Лідзіцэ» ўжо можна зняць, бо ствараецца мемарыяльны комплекс, дзе будуць названы і ўсе спаленыя фашыстамі вёскі ў Беларусі.

Потым з газет я даведалася і пра назву мемарыяла — Хатынь.

Аляксандра Паўлаўна Ус была ў гэты час узнагароджана ордэнам. Мы, супрацоўнікі, шчыра яе віншавалі.

Скульптар Селіханаў Сяргей Іванавіч працаваў над скульптурай жыхара Хатыні, што адзін застаўся жывы. Я пазваніла і спытала, ці можна мне прыйсці ў майстэрню ў час сеанса, каб пабачыць гэтага чалавека і пагаварыць з ім. Селіханаў згадзіўся. Я прыйшла і там пазнаёмілася з Іосіфам Камінскім, скульптурная фігура якога з сынам на руках стаіць у Хатыні.

Камінскі расказваў:

— Усіх жыхароў вёскі з дзецьмі і старымі сагналі ў вялікі свіран і падпалілі. Мой сын Адам выскачыў праз агонь са свірна. Фашысцкія аўтаматчыкі

прастрачылі яго кулямі. Я пачуў стрэлы і кінуўся да сына, падняў яго на рукі, ён яшчэ быў жывы, прашаптаў толькі адно слова «піць». Быў сакавік, яшчэ на зямлі ляжаў снег. У Хатыні ён быў чорны ад дыму, ад спаленых дамоў вёскі і ад свірна з людзьмі, які гарэў. Я стаў на калені з сынам на руках, разгроб рукой цёмны снег, узяў чысцейшы і паклаў сыну на вусны. Ён зрабіў толькі адзін глыток… Яму было ўсяго пятнаццаць гадочкаў… У мяне чамусьці страляць не сталі…

Нідзе ў свеце няма могілак вёсак. У Хатыні ёсць, у іх пахаваны капсулы з зямлёй спаленых фашыстамі вёсак, якіх не было каму ўзнаўляць. Такіх вёсак — 186.

Нідзе ў свеце няма «дрэва жыцця», на галінах якога названы вёскі, спаленыя фашыстамі, але ўзноўленыя пасля вайны. Такіх вёсак — 433.

І яшчэ адна страшэнная лічба ёсць у Хатыні — на тэрыторыі нашай рэспублікі ў час акупацыі былі створаны лагеры смерці. Толькі буйных канцлагераў — 66.

Вось што такое наша Беларусь і наша Хатынь. Пра што напамінаюць людзям свету яе званы…

**3**

Час на адпачынку ляціць хутка, бо дні падобныя адзін на адзін. Сняданак, працэдуры. У мяне толькі адна, новая, модная. Раней пра такую працэдуру і не чулі — дыхаць соллю. Кажуць, гэта карысна. Не ведаю. Асабліва не думаю. Але пасля такой салёнай працэдуры з задавальненнем гуляю па лесе, дыхаю чысцейшым паветрам і ўспамінаю…

Успамінаю, вядома, таксама салёнае мора, адпачываць да якога то ехала на машыне, то ляцела самалётам, імчалася хутчэй убачыць яго, акунуцца ў яго празрыстыя, ласкавыя хвалі. Разумею, што гэта было шчасце. Успамінаю радкі, якія самі прыходзілі ў галаву і складаліся ў верш:

А здесь о берег бьют все время волны,
Шумит прибой. И кажется порой,
Что это лес шумит тревоги полный.
Наш лес родной, с березой и сосной.

Шумит прибой, а высоко над нами
Синеют горы рядом с облаками,
И ветерок, забыв про все дела,
Ласкает загорелые тела.

А рядом чудо голубое бьется,
И чайка чуть волны крылом коснется…
Как хорошо на свете жить,
Когда ты можешь в море плыть и плыть…

Ужо так створаны чалавек: у лесе ён успамінае мора, ужо яму недаступнае, а ля мора не забывае лес, такі ж прасторны, такі ж вольны. Ходзіш па лесе, дыхаеш чысцейшым паветрам, чуеш спевы птушак, якія лашчаць твой слых, і ты — шчаслівы ад таго, што ты тут, што ў цябе ёсць лес…

Нехта любіць стэпы, нехта горы, даліны, а беларусы — лес.

І рэчка ля санаторыя ёсць маленькая. З берага на бераг можна нават пераскочыць. А вада хуткая, халодная, празрыстая. Кажуць, тут водзіцца нават фарэль — стронга. Няхай водзіцца на здароўе. Я не бачыла.

Цяпер, калі я ўспамінаю паездку ў Чэхаславакію, у мяне ў руках запісная кніжка, куды я занатоўвала там тое, што бачыла. Я была тады ўжо вопытным журналістам. Вось пачатак запісу.

**«20 ліпеня 1960 года**

Пішу пры святле неонавых лямп рэкламы. Гатэль. Ноч. Недзе ў іншым свеце іграе музыка, ціха, спакойна. Яе да мяне прыносіць прыёмнік. Сяджу ля акна высока, пада мною горад Готвальдаў, горад абутку, створаны Бацей. Толькі што вярнулася з вуліцы. Прыемна ў Чэхаславакіі жыць у гатэлі «Масква». Ліхтароў у горадзе не відаць. Вуліцы тонуць у моры агнёў рэкламы і яркіх вітрын.

Вось дом напамінае запалкавы карабок. Нічога лішняга. Толькі з двух бакоў на лесвіцах свецяцца тонкія прамыя лініі. Яны зіхацяць. Запалкавы карабок у 14 паверхаў. Магчыма, гэта корпус камбіната «Світ».

Раніцай побач з ім убачыла дзве вялізныя, нізкія, цагляныя шырокія трубы. З іх ішоў белы дым. Падобна на вулкан, які дыміцца…»

Наступныя запісы рабіліся па ходзе падзей: Прага — амаль паўблакнота, Жалезны Брод, Карлавы Вары і… Лідзіцэ.

У кожным новым горадзе мяне здзіўляла мноства старажытных прыгожых будынкаў. Значыць, гэтыя гарады фашысты не бамбілі, як наш Мінск.

Лідзіцэ мяне ўразіла, так прымусіла хваляваяцца, суперажываць зноў яе трагедыю, што адбылася 4 чэрвеня 1942 года. Ёсць адно ўдакладненне з блакнота:

«У Празе быў замах на намесніка Гітлера — Гейдрыха, гаўляйтэра Чэхаславакіі. Фашыстам стала вядома, што зрабілі яго двое маладых хлопцаў з Лідзіцэ…»

Запісы ў блакноце кароткія, амаль адны лічбы: у Лідзіцэ было 103 будынкі, значыць не вёска, а сяло, жыло 500 чалавек, 192 мужчыны. (У нас у акупіраваным Мінску столькі не было мужчын.) Іх сагналі ў вялікае сутарэнне, выводзілі па 10 чалавек і расстрэльвалі.

Расстралялі 173. Самаму малодшаму было 14 з паловай гадоў. (Як сыну Камінскага.) 203 жанчыны былі вывезены, 130 вярнуліся. Вывезлі 105 дзяцей. Вярнуліся да 1947 года толькі 17, а 88 загінулі. (Я ведаю, у дзяцей на акупіраванай тэрыторыі бралі кроў для раненых фашыстаў. Многа дзяцей гінула ад гэтага.)

Блізка ад мемарыяла пасля вайны вырасла Новая Лідзіцэ. Для фундаментаў бралі каменне са старой. Тут жывуць і супрацоўнікі мемарыяла. А былая дзяўчына, што збірала абгарэлыя сведкі трагедыі — стала дырэктарам яго… І гідам, калі я там была… Звалі яе Ружэна Крчкова, па мужу Петракова.

Яе полем бітвы, як воіна, аказалася спаленая Лідзіцэ…

## 4

Набліжаецца дзень вяртання з санаторыя дадому. Ёсць ад гэтага і лёгкі сум, і лёгкая радасць. У жыцці свае законы, яны няўмольныя — трэба адусюль вяртацца дадому, і ад гэтага радасць. Што ёсць дом, які цябе чакае. Ён твой.

З новымі суседзямі за сталом мы пасябравалі. Праз некалькі дзён яны запрасілі мяне ў свой чатырохпакаёвы люкс. Быў дзень нараджэння гаспадара Мікалая.

Прыйшла. Шампанскае — найлепшае. Я з Юляй патрошку пілі толькі яго.

Мікалай сказаў, звяртаючыся да мяне:

— Мы сёння былі ў Хатыні. Перш за ўсё хачу падзякаваць вам за параду з'ездзіць туды. Тое, што мы ўбачылі там, сапраўды не ўбачыш больш нідзе ў свеце. Што перажыла ваша Беларусь, нам, тым хто нарадзіўся пасля вайны, нават у страшным сне не можа прысніцца. Мы шчыра спачуваем вам.

Юля паглядзела на яго з трывогай.

— Коленька, — сказала яна, — давай праменім тэму, сёння ж тваё свята. — І ўжо да мяне, — мы былі так узрушаны там, у Хатыні, наперажываліся… А ў Мікалая хворае сэрца.

Яшчэ нейкі час Мікалай памаўчаў, потым страсянуў галавой, нібы адкідваючы цяжкія думкі, і пачаў гаварыць ужо зусім іншае:

— Я адчуваю, што вы ведаеце — мы не муж і жонка. Калі вы пра гэта здагадаліся?

— На наступны дзень, — адказала я.

Ён здзівіўся:

— Няўжо адразу?

— Не адразу, толькі на наступны дзень, — зноў удакладніла я. — У мяне вельмі багаты жыццёвы вопыт і ёсць яшчэ дрэнная рыса, я заўважаю дробязі, на якія іншыя, можа, і не звяртаюць увагі. Я ж па адукацыі журналіст і доўга працавала журналістам. Пісала нарысы.

Сядзелі мы да паўночы. Тое, што я пачула ад іх, настолькі мяне ўразіла, настолькі здзівіла, прымусіла зноў задумацца пра лёсы чалавечыя і, самае галоўнае, — бясконца запаважаць гэтых людзей…

Дзіцячая мара, яна можа стаць мэтай усяго жыцця. Калі яна здзяйсняецца — гэта шчасце для чалавека. Мікалай лічыў сябе шчаслівым. Ён марыў у дзяцінстве стаць мараком — і стаў.

Драіў палубу як матрос, змагаўся з хвалямі, вышэйшымі за карабель у час шторму. Месяцамі не бачыў зямлі — толькі мора навокал. У маракоў паходка асаблівая, устойлівая, выпрацоўваецца на караблі гадамі, а потым застаецца на ўсё астатняе жыццё.

Яго роднай гаванню быў порт Находка. Там ён упершыню ўзышоў на палубу карабля, туды вяртаўся дадому. Аб'ездзіў увесь свет. Дaслужыўся да памочніка капітана. Выйшаў у адстаўку. У яго тады ўжо была жонка Надзея, трое дзяцей і многа сяброў.

— Аднойчы з адным маім харошым сябрам я ехаў на машыне, — расказваў Мікалай. — Шаша была мокрая пасля дажджу, значыць, слізкая. Маю машыну закруціла, і я апынуўся на левай частцы шашы. Перада мной была не крутая, але доўгая горка. Наверсе горкі паказаўся вялікі міжгародні аўтобус, як заўсёды поўны людзей. Тармазіць вадзіцель аўтобуса не можа, слізка. А на яго шляху — мая машына. Катастрофа непазбежная. Страшэнная катастрофа. Гэта я цяпер расказваю доўга, а тады, на шашы, я імгненна ацаніў абстаноўку, павярнуў машыну ў кювет і выключыў матор, каб машына падаючы не загарэлася. Як мы ляцелі ўніз з вялікай вышыні, не памятаю. Я ўдарыўся моцна галавой і страціў прытомнасць. Апрытомнеў на насілках у машыне «хуткай дапамогі». Спытаў, дзе мой сябар? Мне адказалі, што ён загінуў. І я зноў страціў прытомнасць. Гэта быў муж Юліі. А ў мяне сатрасенне мозга і адкрыты пералом абедзвюх ног. Хавалі сябра без мяне. І цяпер я лічу сябе вінаватым у смерці Юлінага мужа, бо я быў за рулём…

Успаміны ўсхвалявалі яго, ён наліў сабе поўную чарку каньяку і адразу выпіў. Юлія падклала яму ў талерку прадуктаў, што былі на стале, і папрасіла:

— Коленька, закусі.

Ён пацалаваў яе руку і стаў закусваць. А яна звярнулася да мяне:

— Калі здарылася трагедыя майго жыцця, я падумала тады, што ўвесь свет супраць мяне. Не хацела жыць. І толькі маленькі сын трымаў мяне на свеце. Мікалай ляжаў у бальніцы, і я нават не ведала, як гэта трагедыя здарылася. Аднойчы прыйшла да мяне жонка Мікалая, Надзея, прынесла ад яго ліст. Ён пісаў, што быў за рулём машыны і іншага выйсця, як накіраваць

машыну ў кювет, у яго не было. І яшчэ пісаў, што мяне ён ніколі не пакіне адну з маёй бядою. Будзе памагаць матэрыяльна гадаваць сына, сына яго сябра. Я быў за рулём, значыць, я вінаваты. І ўсё сваё жыццё буду замольваць перад табой сваю віну.

Мікалай падняўся і выйшаў у другі пакой. Юлія праводзіла яго трывожным позіркам, потым папрасіла ў мяне прабачэння і пайшла следам. Хутка вярнулася, сказала:

— Няхай трошку адпачне, а мы яшчэ пагаворым.

Яна падліла шампанскага ў нашы фужэры і чокнулася са мной:

— Давайце вып'ем за здароўе яго і яго жонкі. Яны вартыя гэтага.

За акном было светла, як удзень. Гарэлі ліхтары. Хмарка на небе павольна адышла ўбок, і сярэбраная поўня яшчэ больш асвятліла пакой.

— Мы сядзелі тады ў маім пакоі з яго жонкай і абедзве плакалі, — працягвала Юля. — Я — з-за сваёй трагедыі, яна — спачуваючы мне. Сынок мой спаў. У Мікалая харошая сям'я, даверлівыя адносіны з жонкай, я яе паважаю. Ён з сям'і ніколі не пойдзе, не кіне іх. Гэта я ведаю, хаця мы з ім на такую тэму ні разу не гаварылі. Я не хачу гаварыць, хаця ведаю, што ён мяне любіць. І я вельмі люблю яго. Ніхто іншы мне не патрэбны. Ён для мяне самы лепшы і самы прыгожы. Яго прыгажосць схаваная далёка, але я яе бачу. У вашым санаторыі я самая шчаслівая жанчына. Мы ўпершыню за многа гадоў паехалі адпачываць разам. Дзесяць дзён шчасця! Я нават не спадзявалася, што яно ў мяне будзе калі-небудзь.

Я вам не сказала самага галоўнага. Ён жа купіў у маім горадзе Находка прасторнае памяшканне, дзе зрабіў магазін жаночага адзення. Я — гаспадыня гэтага магазіна. Мікалай працуе на харошай пасадзе, ездзіць у камандзіроўкі за межы Расіі і шле мне адусюль пасылкі з жаночым адзеннем. Густ у яго харошы. Ён гадамі памагаў мне, нічога не патрабуючы ўзамен. Я гэта цаніла і нарэшце не вытрымала, сама прыехала да яго. Жыву я і цяпер у Находцы, ён з сям'ёй пад Масквой. Пабудаваў трохпавярховы дом. У яго харошая сям'я.

Прыехала я аднойчы ў Маскву, спынілася ў гатэлі і пазваніла яму. Я люблю яго. Ён любіць мяне. Але — нам ніколі не быць разам. Так… калі-нікалі… А потым зноў месяцы разлукі… Мой сын яго таксама любіць, не толькі я…

У тую ноч я доўга не магла заснуць. Лёс гэтых людзей устрывожыў мяне. У пакоі, дзе я жыла адна, светла. Падышла да акна. Цішыня навокал. Сосны стаяць як вартавыя, не зварухнуцца. Цёплая, светлая ноч. І думкі мае былі таксама светлыя.

Колькі на свеце харошых людзей, якія робяць дабро іншым. Сціпла, моўчкі. Думаю пра Мікалая, пра яго сям'ю. Юлія некалькі разоў падкрэслівала, што ў яго харошая сям'я і яна, Юлія, не збіраецца, не стараецца яе разбурыць.

Жонка Мікалая ведае, што яны тут, у Беларусі, разам. І адпусціла мужа ў гэтую паездку.

— Яна — высакародны чалавек, — гаворыць мне Юлія. — Я яе бясконца паважаю і ніколі не зраблю ёй дрэнна.

Тры дарослыя чалавекі, звяла іх траіх бяда, трагедыя, і злучыла ў адну сям'ю.

На мой погляд, погляд сівога чалавека, які многа пражыў, многа перажыў і бачыў, яны трое — вартыя павагі… І ў іх сваё «поле» дзейнасці…

## 5

Думкі, яны нібы вітаюць у паветры, недзе лётаюць самі па сабе, а потым набліжаюцца да цябе, падумаюць, падумаюць і ператворацца ў тваю думку, толькі далёкую…

З групай беларускіх пісьменнікаў я аднойчы паехала ў Лагойск на выступленні. Дзень быў насычаны, і пасля выступлення ў нейкай вялікай майстэрні да мяне падышоў зусім малады чалавек, адзін са слухачоў, і сказаў, што хоча пагаварыць са мной. Я адказала — калі ласка, слухаю вас.

Ён быў вельмі ўсхваляваны, сказаў:

— Не, не, тут нельга. Трэба, каб нас ніхто не мог пачуць.

Зайшлі ў нейкае невялікае памяшканне і ён пачаў:

— Гэта гісторыя майго бацькі. Ён — абаронца Брэсцкай крэпасці. У ноч 22 чэрвеня 1941 года быў вартавым. Ноч — ціхая. Гітлераўцы хацелі зайсці ў крэпасць ціха, непрыкметна, без шуму, без стрэлаў. Таму вартавых забівалі кінжаламі. Бацька ўбачыў, як салдат не ў нашай форме кінжалам забіў яго сябра, які таксама быў вартавым. І яны хадзілі так, каб адзін другога бачыў. Доўга не думаючы, бацька стрэліў са сваёй вінтоўкі і забіў чужога салдата. Гэта з нашага боку быў першы стрэл у Вялікай Айчыннай вайне. І першы забіты гітлеравец. Гэты стрэл разбудзіў крэпасць. Ціхі захоп крэпасці ў фашыстаў сарваўся.

Потым, праз месяц, нават больш, бацька трапіў у палон, быў у фашысцкім канцлагеры, адтуль уцёк і, доўга блукаючы начамі па Еўропе, вярнуўся дадому ў Лагойск.

Калі скончылася вайна, за тое, што бацька быў у нямецкім палоне, яго арыштавалі і адправілі ў савецкі канцлагер недзе ў Сібір. Ён і адтуль уцёк і вярнуўся дадому.

Тады Брэсцкую крэпасць яшчэ не называлі «крэпасць-герой». Пра яе проста маўчалі, пакуль не паехаў туды расійскі пісьменнік Сяргей Смірноў. Толькі пасля яго кніжкі крэпасць назвалі «героем». Многіх абаронцаў, якія былі ў савецкіх турмах, ён вызваліў і таксама яны сталі героямі. Калі Смірноў яшчэ толькі збіраў матэрыял для кнігі, па тэлебачанні ён звяртаўся да майго бацькі і вельмі прасіў яго, каб бацька адазваўся, калі жывы.

А ён, бацька, сядзеў ля тэлевізара і чуў Смірнова, плакаў, чуючы зварот да сябе і… маўчаў. Баяўся, што калі адгукнецца — зноў трапіць у Сібір, і гэта ўжо будзе назаўсёды…

Сваю гісторыю ён расказаў малодшаму сыну, аднаму. А той — мне. Больш нікому. Расказ мяне, безумоўна, усхваляваў, і, вярнуўшыся ў Мінск, хацела напісаць пра пачутае, але таксама баялася нашкодзіць гэтаму чалавеку. Ён тады яшчэ быў жывы.

Я прыйшла да Кастуся Ціханавіча Кірэенкі, каб параіцца з ім. Выслухаўшы мой аповед, ён сказаў:

— Не, пісаць нельга, можна нашкодзіць чалавеку. Ён жа ўцёк і з савецкага канцлагера. А гэта яму не даруюць. Няхай гадуе сваіх дзяцей.

І я нічога не пісала.

Цяпер у маёй памяці засталося толькі яго прозвішча — Петрашкевіч. Петрашкевіч з Лагойска — чалавек, які ў Вялікую Айчынную вайну зрабіў першы стрэл, забіў першага ворага і разбудзіў крэпасць. І сам потым абараняўся да апошняга разам з усімі героямі.

Наш, беларус.

…Упершыню на тэрыторыю Брэсцкай крэпасці я трапіла тады, калі ніякага мемарыяла там яшчэ не было. Я ўбачыла паўразбураныя будынкі, а ўся плошча ля іх засыпаная пластом патронных гільз. Па іх і хадзілі людзі,

што прыязджалі сюды. Я ўзяла жменю гэтых гільз, паклала сабе ў сумку, каб прывезці дадому.

Зайшла потым у рэдакцыю абласной газеты, сказала адкуль іду, паказала гільзы, спытала, чые яны? Мне адказалі, што фашысцкія. І яшчэ я там пачула тады:

— Больш як месяц фашысты не маглі пакарыць крэпасць. Ужо быў нават акупіраваны імі Смаленск, а крэпасць ўсё не здавалася. Фашысты бамбілі яе з самалётаў, абстрэльвалі з танкаў, мінамётаў, залівалі казематы вадой з ракі Мухавец.

І яшчэ… Радзіма не ведала пра іх подзвіг. Ім не скідвалі з самалётаў боепрыпасы, прадукты і медыкаменты. Яны карысталіся толькі тым, што заставалася ў крэпасці. Даелі нават камбікорм для коней.

Калі ў казематы фашысты пусцілі газ, апошнія, ледзь жывыя абаронцы, вырашылі выйсці, каб памерці пад сонцам. У лахманах, абвязаныя бруднымі, акрываўленымі бінтамі, худыя, даўно няголеныя, яны пакінулі крэпасць.

Гітлераўскі афіцэр, які прымаў палонных, зняў каску ў знак павагі абаронцам. Гэта ж зрабілі і яго салдаты. Афіцэр сказаў ім:

— Вось так трэба абараняць сваю зямлю…

Пра ўчынак афіцэра напісана і ў кнізе Сяргея Смірнова «У пошуках герояў Брэсцкай крэпасці». А ён карыстаўся не толькі ўспамінамі абаронцаў, але і фашысцкімі дакументамі, справаздачамі.

Не магу не назваць яшчэ аднаго выдатнага чалавека, героя. Перад пенсіяй я была ў складзе дэлегацыі СССР ва Украіне. У горадзе Галіч мы бачылі помнік беларусу Леаніду Георгіевічу Бутэліну, лётчыку, малодшаму лейтэнанту, які ў першыя гадзіны вайны, 22 чэрвеня 1941 года, у 5 гадзін 15 хвілін тараніў нямецкі самалёт, бамбардзіроўшчык, ля горада Галіча. Помнік яму называецца «Ікар».

Малодшы лейтэнант — яшчэ зусім малады чалавек. У самалёце ён быў адзін. Значыць, самалёт невялікі. Яго полем стала неба і ў ім варожыя самалёты…

Мы, тады грамадзяне Савецкага Саюза, яшчэ нават не ведалі, што пачалася вайна, мірна спалі. А ён ужо здзейсніў свой подзвіг, відаць, першы подзвіг у Вялікай Айчыннай вайне. І зрабіў яго выдатнейшы сын нашага беларускага народа…

Вось і ўсё, што хавала мая памяць. У адным апаведзе я сабрала разам, здаецца на першы погляд, несумяшчальнае. Але, калі ўдумацца — усімі героямі, іх учынкамі кіравала любоў і дабрыня.

Любоў да Радзімы, да людзей. А без дабрыні хіба можна называць сябе Чалавекам?!

Гэтыя пачуцці ў жыцці — самыя галоўныя. Ва ўсе часы!



## Юрка ГОЛУБ

### КОН

«Памру, пазначаны зімой...» —
Калісь прарочыў рыфмы лёкай,
А потым вершы пад замок, —
І пасміхаецца з палёгкай.

Шпітальным цэрберам наўздзіў,
На зайздрасць дробным дабрахотам,
Куды начлегі сам вадзіў,
І зараз ірвануў з ахвотай.

Ля летапіснага трысця
І патаемнага балота
Ён зведаў выраяў працяг,
Балады даўніх закалотаў.

...Чырвоны пыл ад мірскіх веж.
...Расу гальшанскага партала.
...На вейцы свету Белавеж.
...Пралеску з радасных праталін.

Прымеркаваны жыць наўсцяж,
Дзе небасхілы значыў золак,

---

***Голуб Юрый Уладзіміравіч*** *нарадзіўся 20 кастрычніка 1947 года ў вёсцы Горна Зэльвенскага раёна Гродзенскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта (1970). Працаваў у Гродзенскім абласным тэлерадыёаб'яднанні, у газеце «Гродзенская праўда».*

*Аўтар паэтычных кніг «Гром на зялёнае голле» (1969), «Дрэва навальніцы» (1973), «Векапомнае поле» (1976), «Помню пра цябе» (1983), «Сын небасхілу» (1989), «Поруч з дажджом» (2001), «Зажураны камень» (2002), «Брама зімы» (2004), «Багра» (2006) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1999).*

Ён воблака пранёс, як сцяг,
Пад шапаценне зор і зёлак.

Дзівак няўсцешаны, аднак,
Відаць, таму, што лёс на схіле?
Ды думка точыцца адна:
Жыццё не карацей за хвілю.

## ВЕРБЫ

Не схібіць! — давалі зарок
Спакусныя свербам.
Схіляліся:
Вербніку — змрок,
Паэт — да гіпербал.

Казалі: вунь вербы крадком
Шукалі зямлянак...
Нябось гэта іхнім радком
Атулены ранак.

Глухая з-пад цемры сава
Прытулку не мела.
Каб голас савы заспяваў,
Дык вербы знямелі б.

Да вербаў хіснуўся наўскос
Аблыжнік з сякерай,
А тыя касою пакос
Стараліся мераць.

Туляецца скон ля акон:
Жыцця акалічнасць.
Ды хочацца згон і загон
Па-вербна вялічыць!

А вербаў завоблачны след
Аблокі падскрэблі.
Вандруе рамонак у свет
З-пад вербаў у срэбры!

Не сталася сцежка крывой,
Дзе вербніцу кралі.
Кранае вярба рукавом
Ваколіцу краю.

## ФАНТАСМАГОРЫЯ ТАТРАЎ

Стажок. Здалёк. Пажоўк.
Яму нябёсы трафілі.
Пагладжвала стажок
Маланак каліграфія.

Распаліся радкі,
Дзе крэсліў шыбы водсвет
На дробныя драбкі
У вокнах ваяводства.

На Татрах снегу шчыт
Замкнуў вясну і вусны.
І свішча, як з прашчы,
Вяршынь скразная вусціш.

Грыміць цясніна драм,
Нібы курочаць скрыню.
З яе дастаўся там
Студэнцкі плашч Скарыну.

## ВЯРТАННЕ ВЕРША ПРА БЕЛАРУСА І ФРАНЦУЗА

*Беларус Канстанцін Татарын і француз-перабежчык Леон Эйер у Вялікую Айчынную вайну змагаліся разам на Зэльвеншчыне ў партызанскай брыгадзе «Перамога».*

Лес прызначаў сустрэчу:
У лес з асцярогай лезь.
Цвяроза зірнуць на рэчы:
Дабром ці сустрэне лес?

...Закінуў у снег пальчаткі:
Француз адрываў пагон.
Сяброўства — з агню пачатак —
Ступіла яно ў агонь.

...Сусветныя катастрофы
Разгортваюць жаху скрут.
Ды згортваецца патроху
Усепартызанскі гурт.

Расстанне адпрэчваць марна...
Няўмольны яго намер:
«Орэвуар!* — Татарын...»
«Дружа, бывай, Эйер!..»

...Мясцовыя следапыты
Намацаюць хіба след:
Ці людскасць здала іспыты,
Як адрачыся бед?

Еўропа ляціць галопам.
На небе раднёй цяпер
З-пад Зэльвы вясковы хлопец,
З Эльзаса шахцёр Эйер.

## СІНЕЧА ВАСІЛЬКА

Калі, для вылету абрана,
Душа зрывалася з сілка,
У жыце водсветам не крамным
Сінеча йграла Васілька.

Вясковых паказак абраннік,
Змагар,
Асветнік
І ратай,
Ён быў жаданы братняй браме,
Дзе сэрцы грэў і ратаваў.

На растаптаных раздарожжах,
У пушчы,
Полымі,
Турме
Яму сінеча наваражыць
Дашчэнту ў горы не счарнець.

На лёс апала слёз удосталь,
І ў кожнай — бяздані пакут.
Але паэт і сум, і досціп
Прыводзіў зноў у любы кут.

Спрыялі раніца і вечар.
Вятры абмацвалі кішэнь.
Ды свет, сінечаю адвечны,
Быў для яго за ўсё вышэй.

Пасталі сосны бездакорна.
Пад імі часу злёг абоз,

*Да пабачэння (франц.).

Дзе васільковы ў сцежкі колер
І жытні колер у нябёс.

Не тых, хто схільны варажнечы,
Вунь клічуць любасных здалёк
І квет, заручаны сінечай,
І аднакрэўнік Васілёк.

## УСПОМНІМ ПРА ЖЭНЮ ЯНІШЧЫЦ...

Успомнім, як вецер прыціх...
Дзе водгалас донна заблішча,
Не зможаш над прошчай прайсці...
Успомнім пра Жэню Янішчыц.

Барвовую нітку абрус
Збірае па белым навысціг.
Замерзлага сонца абруч.
Успомнім. Іначай — без выйсця.

Падымем з-пад споду лісты,
Што злеглі пад ляск лістапада.
Зарок не бывае пустым,
Бывае да долу дападным.

Чакайце! Таемны туман
Вунь Ясельду цягне за днішча.
Юнача, радок патрымай,
Нагледжаны Жэняй Янішчыц.

На покуць спагадных паэм
Палессе яна намаўляла.
Палессе было, як Эдэм:
Палесся заўсёды замала.

...Спыніліся: безліч маршчын
Не здольныя загадзя знішчыць.
Сурова абвестцы на чын:
Успомнім пра Жэню Янішчыц.

Успомнім пра схрон і адхон.
Забудзем адхоны наперад,
Дзе шыбы сусветных акон
Заклеены накрыж паперай.

Паслухай, юнача! Стаім,
Дзе кнігаўка бездані плішчыць.
Мы помныя шэптам сваім:
Успомнім пра Жэню Янішчыц.

## РАНЫ

Выцягвае шыю, як кран,
Важак каравана.
Скрануў невідушчых каран.
Загорнута рана.

Спяшае праз вырак канец
За морам міранам?
Спазняецца з весткай ганец.
Адбудзецца рана.

Па шклістай расе басанож
Закрэслены ранак.
Завострана помста, як нож.
Адкрытая рана.

Пастава. Паходка. І масць!
Сабраны старанна.
Адрыне вялебную мазь
Сардэчная рана.

Схліснуліся — быць ці не быць? —
На бруку экрана.
Забыцца? Ды нельга забыць...
Вяртаюцца раны.

## КУЛІК

*Кожны кулік сваё балота хваліць.*
Прымаўка

Туман заблытаўся ў трысці.
Блішчасты хвост сузор'е Рыбаў
Здалела ў тоню апусціць,
Дзе схованку сабе надыбаць.

Амаль да поўначы й пасля
Гукала вечнасць сенакосы,
Хацела вестку зноў пасланць,
Маўляў, жыццё заўжды адносна.

І на радзіме куліка
З плывучым воблакам у высях
Хваліць балота заклікаць
Не позна, покуль сэнс не высах.

## ЗАТОКА

Дзе жабкі крэкчуць,
Чуваць здалёку.
Паўстала рэчка.
І глянь — затока.

Быстрак парэнчы
Не збілі з толку:
Спяшала рэчка
Паіць затоку.

Арол ці рэшка:
Бяда з наскоку.
Туліла рэчка
Трысцём затоку.

Дрыжала свечка,
Як трэсла палі.
Матляла рэчку:
Затока спала.

Лядовым вечкам
Ад злога вока
Накрыла рэчка
Зімой затоку.

Са стогам стрэчы
Шукаць запалкам.
Гасіла рэчка:
Затока спала.

Каб стрэмя збоку —
Жадала рэчка.
Тапіць вуздэчку —
Жадна затока.

Ды гучна рэкнуў,
Бо час — ён дока:
Спрамілі рэчку
Апроч затокі.

## ПАДЛІК РЭК: АДВОЛЬНАЕ

Лічылі ўпрэлыя ад спрэчак
І мудрагель, і прастарэк:
Ад Гродна ў Мінск пад дваццаць рэчак,
Ад Мінска ў Гродна — дзесяць рэк.

Сплывалі: сад... пастух... палетак...
Каршук да воблака прыліп...
А рэкі з ласкаю да кветак
З даверам Балтыцы плылі.

Кульгала ноч праз пень-калоду.
Рыпеў нябесны агарод.
А шлях накручваў асалоду —
Адну з бліскучых насалод.

Згубілі купленыя рэчы
І мудрагель, і прастарэк:
Ад Гродна ў Мінск пад сорак рэчак,
Ад Мінска ў Гродна — дваццаць рэк.

Блішчаць анёлы скрыжаванняў
У форме колеру: аўрал!
А рэчка ў цемрадзі жывая
Вартуе крэўны арэал.

Кішэня шэпча пасажыру:
Не дасць хвалы Манетны Двор,
Бо ты па рэках растранжырыў
Майго куфэрка срэбны збор.

Ды закрынічаная Котра
І Гаўя, чый паўстаў выток,
Адмыюць страту і маркоту
Прыгоршчамі вады святой.

І вынік просіцца, дарэчы,
Чаго і прагне чалавек:
Ад Гродна ў Мінск пад сотню рэчак,
Ад Мінска ў Гродна — безліч рэк.

**Алесь РЫБАК**



# НА РАЗДАРОЖЖЫ

*Раман**

## 8

Літаб'яднанне, якое дзейнічала пры універсітэце, правяло трэцяе ў гэтым годзе пасяджэнне. Кіраваў імі — паэтамі, празаікамі, нарысістамі — новы выкладчык беларускай літаратуры Вадзім Уладзіміравіч Туркоў. Вадзім Туркоў сам пісаў вершы і час ад часу змяшчаў што ў насценным друку, што ва «Універсітэцкім лістку», які выходзіў раз на два тыдні. Некалькі твораў змясціла нават адна з маладзёжных газет. Туркоў жа насіўся з імі, бы гэта былі шэдэўры сусветнай велічыні. Хадзіў ён паважна, уразвалку, часам з кійком, хоць гады яго былі яшчэ не тыя, каб трымаць у руцэ палку. Пры сустрэчы са знаёмымі, асабліва жанчынамі, Туркоў спыняў іх, цікавіўся жыццём і як бы між іншым пытаўся:

— Ну, як вам мой новы верш? — называў выданне і дату выхаду. — Ах, не паспелі прачытаць? То не бяда. — Ён поркаўся ў сваім пузатым пацёртым партфелі, вымаў газету, разгортваў апошнюю старонку. — Бярыце. У мяне яшчэ ёсць экземпляр. Ведаеце, колькі ўжо ўдзячных чытачоў адгукнуліся на гэту. публікацыю. Паштарка носіць і носіць лісты мне. Цікава, скуль людзі дазнаюцца, дзе жыву? Мо праз рэдакцыю?

Як пра спецыяліста ў сваёй галіне, пра Туркова ніхто не мог сказаць нічога кепскага. Ён самааддана любіў беларускую літаратуру, вывучаў старыя летапісы, часта за свой кошт ездзіў у Маскву і Вільню, корпаўся ў бібліятэках, вынаходзіў такія скарбы, якім зайздросцілі многія гуманітарыі з Акадэміі навук. І ўсе гэтыя веды перадаваў студэнтам. Яны любілі Вадзіма Уладзіміравіча як чалавека і выкладчыка, але цішком пасмейваліся з яго паэтычных практыкаванняў.

Аднойчы ён прыйшоў у аўдыторыю чарнейшы за хмару. Не распачынаў лекцыю, пасля выйшаў і доўга не паяўляўся. Студэнты выглядвалі ў калідор, але, паколькі ішлі заняткі, усюды было ціха. Нехта з дзяўчат спусціўся ўніз, у вестыбюль, каб глянуць, мо Туркоў там і яму кепска. Тады трэба клікаць «хуткую дапамогу».

Высветлілася праз хвіліну-другую. Дзяўчына — а гэта была Каця Плужына — прачытала ўголас пісульку, якую сарвала з дошкі аб'яў.

Добра ладзіцца ў Туркова —
Пыкнуў-мыкнуў — верш гатовы.
Ён іх столькі напячэ,
На плячах не ўвалачэ.

* Заканчэнне першай часткі. Пачатак у № 6, 2010 г.

Многія засмяяліся, а Рыгор асадзіў насмешнікаў:

— Хай бы гэты вумнік сам паспрабаваў што-небудзь спячы. Выскаляцца лягчэй лёгкага. Туркоў як умее, так і піша. Часам горш, часам лепш. Але з яго будзе толк. А ў таго, хто гэткую брыдоту павесіў, ніколі нічога людскага не атрымаецца.

Вадзім Уладзіміравіч прыйшоў падчас лекцыі, задумлівы і бясконца няшчасны. Па тэме — пра старажытную беларускую літаратуру — гаварыў вяла, часта паўтараўся, шукаў у партфелі і не знаходзіў патрэбную, у дадатак да сказанага, літаратуру. Калі ў калідоры затупацелі і трэба было ісці на перапынак, Рыгор падняў руку і папрасіў слова:

— Вадзім Уладзіміравіч, мы тут агулам верш сачынілі. Паслухайце, ці хоць варты ён чаго.

Туркоў насцярожыўся, ажно пабялеў.

— Ну, што ж, мне ўжо не ў навіну чытаць скарбы народнай творчасці. Валяйце.

Рыгор без запінак на памяць прадэкламаваў:

Добра ладзіцца ў Туркова,
Туркоў — майстар адмысловы.
Ён вучоны і паэт
На ўвесь славянскі свет.

— І гэта ваша калектыўная творчасць? Шчырая? — вочы ў Туркова пасвятлелі і палагоднелі.

Годна і памяркоўна трымаўся Туркоў і на гэтым апошнім пасяджэнні літаб'яднання. Разбіралі апавяданні і гумарэскі Вадзіма Гурко. Пяць лепшых твораў даў хлопец на суд таварышаў. Семнаццаць чалавек тыдзень рыхтаваліся, каб па костачках разабраць кожную рэч. Вадзім хваляваўся, бо ведаў: водгалас аб гэтай разборцы дойдзе і да рэдакцый, аб пасяджэнні абавязкова напіша «Універсітэцкі лісток». Сярод тых, хто меўся сказаць слова, былі паэты, што ўжо заканчвалі вучобу, альбо старшакурснікі. Прозу, акрамя Вадзіма, пісаў яшчэ Барыс Маргуноў, аповесць яго з жыцця партызанскага атрада нібыта рыхтавалася да друку. Больш чым каго Гурко баяўся Маргунова. Ён добра памятаў, як на першым зборы іхняга літаб'яднання Маргуноў чыхвосціў маладога аўтара з яго трыма апавяданнямі пра каханне. Не вытрываўшы здзеклівага тону, малады хлопец згарнуў лісткі і пакінуў пасяджэнне. Больш і нагі яго тут не было. Тады Туркоў трохі паўшчуваў Барыса Маргунова, сказаў, што яны тут збіраюцца не дзеля таго, каб некага караць ці мілаваць, а каб адзін у аднаго вучыцца. І далікатнасць тут вельмі неабходная. Інакш можна спудзіць каго хочаш, назаўсёды адбіць ахвоту брацца за пяро.

Невядома, ці запалі тыя словы выкладчыка Маргунову ў памяць, але Вадзім, хоць знешне стараўся трымацца спакойна і ўпэўнена, у душы ўсё ж хваляваўся: раптам Маргуноў убачыць у Вадзіму суперніка, які хоча перабегчы яму дарогу, засціць уласны аўтарытэт?

Абышліся, аднак, з ім вельмі памяркоўна. Не было той аглабельнай крытыкі, ад якой апускаюцца рукі. Хлопцы гаварылі нешматслоўна, але канкрэтна па кожным творы, давалі розныя парады, з гумарэсак нават шмат смяяліся. Маргуноў таксама далучыўся да агульнай думкі, што Вадзіму Гурко трэба толькі больш дбаць пра нечаканасць кожнага эпізода, бо бессюжэтныя, без вострай непрадказальнай інтрыгі творы малацікавыя, яны не знойдуць шырокага чытача. З гэтым меркаваннем можна было б і не пагадзіцца, але Вадзім змоўчаў.

Калі пагаманілі пра іншыя літаратурныя навінкі, намецілі новую дату пасяджэння, Туркоў абвясціў:

— А зараз вельмі нечаканая і прыемная навіна: нас, усю нашу групу, хочуць бачыць у Саюзе пісьменнікаў, каб пазнаёміцца з кожным паасобку, запісаць адрасы. І яшчэ, што самае найважнейшае, з намі выказаў жаданне пабачыцца сам Якуб Колас, патрыярх нашай літаратуры, наш народны Пясняр.

— Во гэта навіна! — калі ішлі да сябе ў інтэрнат, выказаў захапленне Рыгор. — Ён жа, Колас, казалі, цяжка хварэе. Хіба прывязуць на машыне.

— А ты як думаў? Народны ды каб пехам хадзіў? Ганьба была б усім начальнікам, — Вадзім не менш за сябра быў узрушаны чаканнем такой сустрэчы.

Будынак Саюза пісьменнікаў размяшчаўся ў цэнтры горада, непадалёк ад тэатра імя Янкі Купалы, да якога прымыкаў утульны скверык, дзе спачатку ўсе прыпыніліся ў чаканні Туркова. Вадзім Уладзіміравіч прыйшоў без спазнення. Сказаў, што паспеў пабываць ужо ў будынку саюза, сустрэцца з Броўкам, Кандратам Крапівой, сакратаром партыі Гарбуновым. Усе яны чакаюць прыезду Коласа.

З заміраннем сэрца Вадзім выціраў на ходніку туфлі, ішоў па калідоры, дзе ўся атмасфера была прасякнута творчым духам. Каб яшчэ год-два таму назад сказаў яму хто, што апынецца ў гэтых апартаментах, што вось-вось пабачыць чалавека, якога абагаўляў з дзяцінства, зачытваўся яго вершамі, паэмамі, казкамі, а цяпер і прозай, ён ніколі не паверыў бы. Аднак жа ён тут, разам з калегамі па пяры, стане перад вачыма дбайнага сейбіта беларускасці, мо нават удасца сфатаграфавацца з ім. Няўжо гэта магчыма?!

Іх пасадзілі ў невялікім зальчыку, дзе стаяў стол і некалькі мяккіх крэслаў пры ім. Пятрусь Броўка зайшоў праз бакавыя дзверы першы, за ім Колас і яшчэ нехта. Усе, устаўшы, дружнымі воплескамі сустракалі Песняра і яго світу. Добрымі, прыязнымі вачыма глядзеў народны паэт на маладую змену. Стомлены жыццём, карпатлівай працай над творамі, рознымі хваробамі, ён выглядаў не лепшым чынам: частыя і глыбокія зморшчынкі пакрывалі яго не вельмі свежы ўдумлівы твар, як бы трохі бледны. Адны толькі вочы свяціліся па-маладому бадзёра. Броўка не стаў разводзіць цягамоціну, даў колькі слоў кіраўніку універсітэцкага аб’яднання. Нешматслоўны быў і Колас. Ён парадаваўся, што беларуская літаратура папаўняецца таленавітай моладдзю, што адкрываюцца новыя выданні, на старонках якіх годнае месца зойме паэзія, проза, іншыя літаратурныя жанры.

Фатаграфаваліся з Коласам і ў зале, і ў двары, калі ён, ужо апрануты, з капелюшом на галаве, збіраўся ад’язджаць у свой дом ля Акадэміі навук. Вадзіму тады пашчасціла стаяць бліз саменькага паэта, хоць пазней, як атрымаў фота, прызнаваўся сябрам, што ён ані не імкнуўся аказацца ўсутыч. Так ужо само сабой атрымалася.

Першую сесію здавалі з Рыгорам датэрмінова. Як толькі абвясцілі, што фарміруецца вялікі атрад беларускіх камсамольцаў і моладзі для паездкі на цаліну, хлопцы без ваганняў вырашылі ехаць. Хацелася паглядзець новыя нязведаныя землі, прасякнуцца духам рамантыкі ды і падзарабіць трохі грошай. Пісалі і гаварылі па радыё, што на цалінных землях даспявае нябачаны дасюль ураджай пшаніцы, што спатрэбяцца тысячы і тысячы маладых і гарачых сэрцаў і рук.

Вадзім, атрымаўшы стыпендыю за летнія месяцы, надумаў з’ездзіць спачатку ў Галаброды, а ўжо пасля ў Жорнаўку. Рыгор, у якога былі ў Мінску неадкладныя клопаты з выданнем першага зборніка, рашыў пакуль што затрымацца ў інтэрнаце. Вадзім пару дзён бегаў па мінскіх магазінах, шукаў падарунак сястры і Юзіку. З адзення нічога не стаў глядзець, бо не ведаў, што

ім найперш трэба. Вырашыў інакш: ён аддасць большую частку сваёй стыпендыі, тым больш, што яны распачалі будаўніцтва новага прасторнага дома, а пры ім яшчэ і летняга доміка — кухні. Але ж з голымі рукамі не паедзеш. Падлічыўшы і ўсё размеркаваўшы, пабег і купіў патэфон і некалькі пласцінак з самымі папулярнымі песнямі. Во гэта будзе памяць!

З вакзала ішоў пешкі, бо на спадарожную машыну ў такі позні час спадзеву не было. Гэты раз да Галабродаў вырашыў дабірацца не праз Мікуцічы, а з другога боку, дзе былі стары касцёл і царква. Мінуўшы мястэчка, па палявой гравейцы датэпаў да павароткі на Галаброды. Тут скрозь не было лесу, хіба толькі ў нізіне блізка падступаўся да дарогі малады саснячок. Ноч была не цёмная, хоць неба зацягнулі хмары. Аднак на дождж нішто не паказвала.

Хата зеўрала цёмнымі вокнамі і, вядома, была замкнёна з сярэдзіны. Вадзім ціхенька пастукаў у дзверы, пастаяў, прыслухаўся. Адтуль — ні шолаху. Тады ён адкінуў почапку на варотцах у агародчык, падышоў да акна спальні і кончыкамі пальцаў пабарабаніў у шыбу. Зноў прыслухаўся. З сярэдзіны бы хтось затупаў босымі нагамі па падлозе. І нарэшце ў акно:

— Хто там поначы? — Юзікаў голас.

— Свае, адчыняй.

— Вой, гэта ж Вадзім, відаць, прыехаў, — то ўжо Верка прачнулася.

Прыемна было чуць родныя галасы, па якіх так ссумаваўся ў сталіцы. У кухні ўспыхнула святло, і Верка, ужо апранутая, сустрэла яго на парозе, кінулася абняць і пацалаваць.

— Дай жа хлопцу распрануцца, — Юзік, ветліва ўсміхаючыся, далікатна адхіліў Верку, падаў і моцна пацiснуў Вадзіму руку, папытаў:

— Можа, хто падвёз? Гэта ж нешта ў цябе ў руках, то цяжка пехам.

— Нічога, свая ношка плечы не намуляе.

Пакуль сястра бегала ў свіронак, каб знайсці што падсмажыць, Вадзім разгарнуў пакунак, адчыніў гожую скрыначку, хуценька, пакруціўшы ручку, паставіў на круг патэфона пласцінку, на яе — бліскучую галоўку з іголкай. Юзік зацікаўлена глядзеў на ўвішныя Вадзімавы рукі, чакаў. І палілася па хаце мелодыя, ад якой ажно заняло дух. Пра ямшчыка, які, згубіўшы ў люты мароз і мяцеліцу накірунак, адзінока канаў у бязмежным стэпе. Верка, якая зайшла з кавалкам вяндліны, не адразу зразумела, скуль гэта жаласлівае гранне, а ўгледзела патэфон і расплакалася:

— А мой жа ты братулька! Сам, можа, галодны сядзіць, а купляе такое даражэзнае. Грошай табе німа дзе дзяваць. Можа, гук трохі цішэй зрабіце, а то Анютку пабудзім.

— Яна падалася ў пярэдні пакой, а Вадзім, дастаўшы з кішэні пінжака невялікі жмуцік грошай, паклаў іх перад шваграм, сказаў:

— Гэта частка маёй стыпендыі, ды ганарар такі-сякі. Бярыце. Вам жа цяпер на хату, на абжытак нямала трэба. У калгасе, відаць, з гулькін нос зарабляеце.

— А то ж каб хоць гулькін нос. Няма ні носа, ні паўноса. Абяцалі даць па кілі на працадзень, а выйшла па чатырыста грамаў. Вот тут і разгарніся. Старшыня наш не скажу што кепскі, але не ўмее падхалімнічаць перад начальнікамі. А яны яму і горшую цехніку, і запчастак не даюць. Ты, можа, напісаў бы куды, ты ж умееш. Але не трэба сваю фамілію называць. Калі ўведаюць, што Верка твая сястра, то мне ўжо найперш не паздаровіцца.

Да размовы, пакуль Вадзім еў, падключылася і Верка.

— Ат, — сказала рашуча, — пустое ўсё гэта. Што рабілі, тое й будуць рабіць. Начальству трэба, каб і ў лапу даў, і маўчаў як у рот вады набраўшы.

Перад тым, як легчы спаць (а паслалі яму на кухні, на шлабане), Вадзіму няўсцерп хацелася папытаць, ці ж хоць вярнуліся дадому дырэктар школы

Аляксей Мітрафанавіч са сваёй жонкай. Ён памятаў пра свой доўг і гатоў быў разлічыцца хоць заўтра. Але найперш яго хвалявала, як яны, у чым іх абвінавачвалі, як іхняе пачуванне. Аднак роспыты тыя рашыў адкласці на раніцу, бо ведаў сябе: расхвалюецца, тады ні на хвіліну не змружыць вока. Не сказаў сястры і пра сваё рашэнне паехаць на цаліну. Таксама яна будзе думаць, як і што сабраць у дарогу. Мо што трэба зашыць, залатаць. Сястра ёсць сястра.

Раніцай — вось што значыць родная хата і свежае паветра! — прачнуўся пазней за ўсіх, тады, калі Юзік пайшоў ужо на работу, а маленькая Анютка прытэпала да шлабана і з цікавасцю ўзіралася ў нейкага дзядзьку, спрабуючы, відаць, успомніць кагось знаёмага. Мусіць, успомніла, з радасным гіканнем кінулася да яго, залепятала:

— Дзядзя Вадзім піехаў, дзядзя Вадзім піехаў. — Яна так шчыра была ўсцешана, што Вадзім не ўстрымаўся, хуценька ўскочыў і пашукаў у партфелі шакаладку «Алёнка», а заадно і прыгожую лялькy. Малая найперш ухапіла ляльку, прыціснула яе да грудзей. Лялька выдала якісь гук, які спачатку насцярожыў малую, а пасля яшчэ больш абрадаваў.

Калі паснедалі — дзеля брата Верка напякла дранікаў, Вадзім усё ж пацікавіўся лёсам дырэктара школы.

— Німашака. Быў чалавек і ні гуку больш. Божачка, няўжо ён які вораг ці шпіён?! А такі ж, кажуць, добры і чалавечны.

Павойкаўшы, сястра ўзялася пыніць малую, апранаць на вуліцу. Вось цяпер Вадзім і пра цаліну сказаў.

— Здурнеў ты, ці што?! — захвалявалася Верка. — Казаў Юзіку нехта, што пад цягнікі, якія ідуць на тую цаліну, хтось бомбы, ці як іх, міны падкладвае, знарок урэднічаюць. Лепей бы пасядзеў дома. І на Нёман пабегаеш, рыбку паловіш, і карове травы дзе ўкосіш. А на яблынях бачыў жа, што робіцца? Будзе процьма садавіны. Еш не хачу. На той жа цаліне, калі яшчэ даедзеце, хоць шаром пакаці.

— Не, дарагая сястрычка. Ужо ўсё вырашана. А што палохаюць… То і я чуў гэтыя байкі. Але ваўка баяцца — у лес не хадзіць. Мянціць языкамі нікому не забароніш. Можа, трохі і грошай падзараблю, вам падсобіць.

— Ого, і гэныя, што даў, нам вялікая падмога. А паціфон бяры ў свой інтэрнат, вы ж маладыя. Вам больш трэба. Калі мы тут слухаць будзем?

— А чаго ж: сядзеце калі з бабамі на лаўцы, паставіце пласцінку — там я прывёз і вясёлых — і ў скокі. Не ўсё ж бедаваць да гараваць.

— Жытка такая. Ты ў гару, а чорт за нагу. Але песні і дапраўдачкі мы любім. На радзінах там, ці ў каго вяселле, дзе музыка, мы тут як тут.

Два дні, якія Вадзім намеціў правесці ў Галабродах, праляцелі імгненна. Калі ад'язджаў, Верка напакавала яму і гуркоў, і маладой цыбулі, і бульбы, нарвала спялейшых яблык.

— Палавіну сабе пакінь, астатнія адвязі Славіку. Ён жа цяпер на практыцы на нейкім заводзе. Пісаў, што прыедзе на тыдні два.

Вадзім пагушкаў наназе Анютку, якая, дазнаўшыся, што дзядзька некуды надоўга едзе, разрумзалася на ўсю хату. Ледзьве супакоілі.

— Ну, то бывайце, — Вадзім пацалаваў спачатку пляменніцу, пасля сястру, моцна паціснуў руку швагру і рушыў у дарогу. На сэрцы было чамусь як ніколі маркотна.

## 9

Трэція суткі яны былі ўжо ў дарозе. Праязджалі сотні станцый, міналі большыя і меншыя гарады і гарадкі, лясы і пералескі, бясконцыя палі і зноў лясныя і горныя масівы, а прасторам гэтым, здавалася, не будзе канца-краю.

І ў сне не мог бачыць Вадзім такіх шырокіх рэк, даўжэзных мастоў, такіх высокіх гор.

— Ты паглядзі, паглядзі, — ён паказаў Рыгору рукой у бок маторкі, якая, нібыта спаборнічаючы з поездам, імкліва шыбавала да берага, падымаючы немалую хвалю. Яны таксама набліжаліся да вялікага горада, дзе, сказалі, ім арганізуюць гарачае харчаванне. Гарачага і праўда хацелася. Сухамятка ім ужо даўно абрыдла. Хацелася баршчу ці якога супу.

— Я б тры порцыі злопаў, — сказаў Рыгор, размінаючы костачкі.

У дальнім кутку таварнага вагона, у якім мясціліся хлопцы і дзяўчаты, зашавяліліся, пачалі збіраць карты.

— Ура, пад’язджаем, — глянуўшы ў прачыненыя дзверы, усклікнула Рэня Мятлік, камсорг іхняга курса. — Хоць бы ў які тупік не загналі, дзе ні вады, ні людзей, ні туалета.

— А што, надта прыспічыла? — падкалоў Рыгор. — Гані струмень, мы адвернемся.

— Нахабнік! Паспачуваць бы дзяўчатам, а ты… Дзе ж твая тонкая душа?

— У пяткі пайшла, як глянуў на цябе, такую красуню, — парыраваў Рыгор. — Была б мая воля, то…

— Што «то»? — падступілася Рэня.

— Замуж на цаліне як адну аддаў бы. Механізатары там, відаць, мэнчацца без такіх краляў.

— Ну і выйдзем, а што? Хлопцы як хлопцы. Не горшыя, можа, за нашых таўкачоў, — бліснуўшы вачыма, дзяўчына пайшла да свайго гурту, адкуль хутка выбухнуў дружны смех.

— Атрымаў на абаранкі, таўкач? — засмяяўся і Вадзім. — Лепш іх не задзіраць. Яны і так цярплівыя. А ты яшчэ дражнішся.

Поезд усё ж стаў насупраць вакзала, што выклікала гукі адабрэння ў дзяўчат. Вадзім з Рыгорам сышлі першыя і зараз падавалі рукі, падтрымлівалі сваіх сяброўак. Калі дайшла чарга да Рэні і Рыгор прапанаваў ёй помач, дзяўчына дэманстратыўна скокнула сама. Скокнула няўдала. Падвярнуўшы нагу, распласталася на пероне з кацялком і пустой сеткай. Але і цяпер праявіла ўпартасць і адмовілася ад паслуг Сініцы. Затое Вадзімавай рукі не адхіліла. Атрэпаўшыся і накульгваючы, пайшла шукаць вадакачку ці які кран. Старшыя па вагоне абвясцілі, што састаў з цаліннікамі адправіцца праз паўтары гадзіны. Прасілі не разбягацца, бо хутка паклічуць у сталоўку.

Да Рыгора падбегла чарнявая ў квяцістай хустцы на галаве маладая цыганка, прапанавала паваражыць на картах ці па далоні. Толькі трэба пазалаціць руку, інакш не ўся праўда адкрыецца.

— І што ты мне наварожыш? Калі нарадзіўся, дзе жыву, жанаты ці не? Дык гэта я і без цябе ведаю, — Рыгор рашыў папацвельвацца з цыганкі, не адразу адхіляць яе прапанову.

— А я каб паверыў, назаву тваё імя. Пазалаці вось руку.

Рыгор павагаўся, выняў з кішэні некалькі рублёвак, паклаў у працягнутую руку цыганкі.

— Скупы ж ты, аднак. Але так і быць, скажу. Дык вось, цябе зваць Грыша і ты едзеш…

— Куды я еду, і дурню апошняму зразумела. А вось наконт імя… пэўна, падслухала, як мяне называў сябра. Хітрыя вы, цыганкі. Можа, скажаш, як яго зваць, — паказаў на Вадзіма, — тады паверу.

Цыганка змерала хлопца з ног да галавы, знайшлася:

— А ў яго пуста ў кішэнях. Няма чым пазалаціць руку, таму не буду варажыць. Лепей табе, ты грашовы.

Паклікалі абедаць, і хлопцы, пасмейваючыся, адзін за адным пабрылі ў доўгую прыземістую будыніну, якую прыстасавалі пад сталоўку, каб адразу накарміць вялікую колькасць людзей. Абед быў нясмачны: боршч, катлета з хлебнага мякішу, пусты кампот. Але давялося есці, дзе дзенешся. Калі яшчэ пакормяць, было невядома.

— А я і сапраўды не ўзяў з сабой ні рубля, — палэпаў па кішэнях Вадзім. — Няўжо яна і праўда можа адгадваць? Ды і імя сказала. Нешта не помню, каб я ці хто побач звяртаўся і называў цябе.

— І ўсё роўна я ім не веру. Зладзейкі яны. Неяк на хутары, калі я быў у школе, а бабуля поркалася ў гародзе, дзве цыганкі, яшчэ і дзіця было з імі, пракраліся ў хату і вынеслі што толькі можна: з бабінага куфра два сувоі палатна, з буфета — лепшыя талеркі і яшчэ розную драбязу. Шукалі, відаць, і грошай, бо ўсе рызманы валяліся на зямлі, а ў пасцелях быў поўны кавардак. Тут ім, праўда, не пашэнціла: у нас на той час не было ні капейкі. Бедная бабуля! Як яна гаравала, упікала сябе, што не замкнула хату, што цяпер яны яшчэ большыя жабракі. Нават захварэла пасля гэтага.

— А скуль ты ведаеш, што гэта цыганы пачысцілі вас? Злодзеяў жа ўсюды хапае.

— Бачылі ў той дзень іхні табар на ўскрайку лесу. Але ж не злавілі за руку, і нічога не дакажаш. Нават міліцыя не стала б разбірацца.

— Ты хоць зараз, перад ад’ездам, пакінуў ёй грошай? Я дык сваім амаль усю стыпендыю аддаў. Так што ў мяне цяпер у кішэнях вецер свішча. Цыганка як у ваду глядзела. Не схацела варажыць.

Абвясцілі пасадку, і хлопцы пайшлі ўздоўж выцягнутага мо на паўкіламетра саставу. І зноў дарога, новыя гарады і пасёлкі, рэкі і горы. Чым бліжэй набліжаліся да цаліны, тым цяжэй дыхалася ў вагоне. Хутка пайшоў суцэльны стэп, і вецер, якому было тут дзе разгуляцца, калыхаў густыя травы, сярод якіх пераважалі мятлік, жытняк, лісахвост, ціпец. З пагоркаў несла дурманлівым пахам палыну. І гэтаму разнатраўю не было, здавалася, ні канца ні краю. І хоць бы адзін дзе дамок, якая-небудзь палатка пастуха ўзбоч чыгункі. Нічагусенькі. Толькі хісткае мроіва гарачага сухога паветра, а ў далечыні, на гарызонце — міражы, быццам там, на краі неба і зямлі плешчацца ў берагах вялікае возера альбо ўздымаюцца гмахі гарадскіх ускраін.

— А дзе ж пшаніца, дзе тыя горы зерня, пра якія гэтулькі гавораць? — Вадзім, абапёршыся на парэнчы ў дзвярным праёме, глядзеў і глядзеў на гэтыя прасторы, такія непадобныя на беларускую прыроду. І ўсё ж, хоць ён самааддана любіў усё сваё, бясконцасць і пустэча гэтых прастораў займала дух.

Рыгор таксама, відаць, уражаны, нічога не сказаў. Ён штосьць занатоўваў у свой блакнот, знарок куплены для цалінных патрэб. Цяпер амаль усе з вагона стоўпіліся ля процілеглых дзвярэй, знарок расчыненых і з другога боку, каб трохі прадзімала ветрам спёртае паветра.

— А вунь-вунь, глядзіце, — нехта паказаў рукой на дзіўнага звярка, які, узняўшыся на заднія лапы і выцягнуўшы шыю, праводзіў паглядам поезд. — Ці не ліса гэта?

— То ж тушканчык, — азвалася ўсёзнайка Рэня Мятлік. — Іх тут не злічыць. Яны вельмі асцярожныя і вылазяць са сваіх нораў, калі надта што зацікавіць.

На канцавую станцыю прыбылі да абеду. Шумна выгружаліся, разміналі ногі, той-сёй бегаў, шукаў буфет ці які кіёск, каб купіць бутэльку піва або іншага напою. Грузавых машын на плошчы з другога боку станцыі было некалькі дзесяткаў. Студэнтаў сустракалі прадстаўнікі саўгасаў, якім патрэбна была рабочая сіла.

Іхні курс размясціўся на дзвюх машынах «Студабекер». Адна была крытая брызентам, другая — без верху. Вадзім з Рыгорам рашылі пракаціцца з вецярком, каб можна было бачыць усё наўкруг. Дажджу — бачна было па небе — не прадбачылася, таму не турбаваліся, што могуць трапіць пад лівень. А пылу, якім іх палохалі, не баяліся: ім, вясковым, да гэтага было не прывыкаць. Калі сказалі, што іх чакае дарога ў сто пяцьдзесят кіламетраў, не здзівіліся: яны з поезда нагледзеліся на размах цалінных абшараў.

Дарога ўражвала морам пшаніцы, якая налілася буйным коласам і гатова была легчы пад нож камбайнаў ці жняярак. Зараз, пад ветрам, яна хадзіла хвалямі, і хвалі тыя сягалі дзесь за гарызонт.

Прыехалі ў стэпавы пасёлак спрэс з глінабітных мазанак, акрамя хіба школы, бальніцы і пасялковага Савета. Пад саменькі вечар, калі чырвонае, акурат медны пятак, сонца накалолася на вершаліны скупых бярозак і асін.

Размясцілі пакуль што куды каго: адных у школу на травяныя сеннікі, іншых у вялікую армейскую палатку, нацягнутую дзеля такога выпадку непадалёк ад канторы саўгаса. А на заўтра, толькі паснедалі, зноў у дарогу на тых жа машынах. І зноў сцены залатой пшаніцы, наколькі можна ахапіць вокам.

— Няўжо можна ўсяму гэтаму багаццю даць рады? — падзівіўся Вадзім. — Гэта ж колькі тэхнікі трэба, машын, каб зжаць, высушыць і вывезці на элеватары. Ды якія элеватары змесцяць усё гэта?

— На нешта ж разлічваюць, — азваўся Рыгор. — Змаглі засеяць гэткую плошчу, то змогуць і ўбраць. І нас на тое змабілізавалі.

Іх высадзілі ў голым стэпе, выдалі адну на ўсіх вялікую палатку, паставіць і нацягнуць якую патрэбны былі немалая сіла і ўмельства. І ўвесь клопат з гэтым лёг на хлапечыя плечы. Валаводзіліся да абеда, узмакрэлі, бы мышы, а тут яшчэ падвезлі на прычэпе бароны, і шафёр, малады чупрыністы хлопец, папрасіў скінуць іх на зямлю.

— Мы што, баранаваць будзем? — папытала ў чупрыністага Рэня. — Тут нешта ты наблытаў.

— Не наблытаў, не наблытаў, — заўсміхаўся хлопец. — Бароны будуць вам замест сеннікоў.

— Ты сам будзеш спаць на ім, такі разумнік.

— З табой гатоў хоць на вострых зубцах. Уга, яшчэ як рада будзеш, — рот шафёра расплыўся ў шырокай ухмылцы.

— Павыскаляўся і годзе, нахабнік, — не на жарты зазлавала Рэня. — Ухажор мне знайшоўся.

Хлопцы, хаваючы ўсмешку, усё ж разгрузілі машыну і папыталі, для якіх сапраўды патрэб тыя бароны.

— Я ж сказаў, што спаць будзеце. Матрац натопчаце сіўцом ці саломай, пад ніз — барану, і дрыхніце, як бароны.

— Вось яно што! — хлопцы пасмяяліся і пачалі цягаць бароны ўсярэдзіну, класці па баках.

Тым часам дзяўчаты думалі пра абед, спрачаліся, каго прызначыць галоўным кашаварам. Нікому з іх не хацелася ўзвальваць на сябе такія абавязкі. Але, хочаш не хочаш, есці трэба штодня, таму вырашылі цягнуць жэрабя. Нарвалі аднолькавай велічыні паперак, у адной з якіх алоўкам нехта намаляваў палонік, іншыя пакінулі чыстыя. Старанна перамяшалі. Палонік выпаў на долю пухленькай, бы пончык, Каці Швыровай, якая больш чым хто баялася гэтага жэрабя. Дзяўчына расплакалася, акурат гэта сталася самай вялікай бядой у яе жыцці. Дзяўчаты суцяшалі яе, запэўнівалі, што будуць памагаць складаць меню, а хлопцы клапаціцца пра паліва, ваду, ездзіць у

цэнтр саўгаса па правіянт. Ім выдалі невялікі аванс, і на другі дзень, калі быт трохі ўладкаваўся, калі выспаліся на баронах (з Рэні жартавалі, што дарэмна адхіліла заляцанні чупрыністага хлопца), Вадзіма і Рыгора адправілі пешкі ў цэнтр саўгаса купіць прадукты і, што самае галоўнае, дзе хочаш расстарацца віна. Новае сваё жыццё на цаліне, пакуль яшчэ не ўпрэгліся ў працу, хацелі адсвяткаваць як мае быць.

Дваццаць кіламетраў, якія аддзялялі іх новае жытло ад цэнтральнай сядзібы, хлопцы палічылі не той адлегласцю, каб спалохацца і чакаць які транспарт. Апрануліся лёгка — штаны і на выпуск тэніскі — і пашыбавалі. Сонца стаяла яшчэ не вельмі высока, не прыпякала, таму ішлося лёгка і порстка. Праз дзве гадзіны ходу апынуліся на скрыжаванні трох дарог і разгубіліся: куды, у які бок падацца? Стаялі, меркавалі і так, і гэтак, глядзелі на сонца, але да адзінай думкі не прыйшлі. Вадзім паказваў направа, Рыгор жа настойваў, што трэба зварочваць леваруч, адтуль, маўляў, ехалі на машыне.

— Што мы маглі бачыць, апроч пшаніцы, — не пагаджаўся Вадзім. — Ніхто і не думаў запамінаць напрамак. Ды й прыкмет, якія кідаліся б у вочы, аніякіх.

— Але ж неяк мясцовыя ездзяць, неяк арыентуюцца. Вазьмі таго ж чупрыністага.

Тым часам пачало прыпякаць мацней і мацней, а хлопцы яшчэ тапталіся на скрыжаванні ў надзеі не прапусціць выпадковай машыны. Калі ўжо стала няўцерп ад гарачыні, вырашылі пайсці: дарога некуды ж прывядзе. Гадзіны тры мінула, як пакінулі скрыжаванне, а наперадзе, апроч голага стэпу, нічога не было. Ды і дарога, зараслая травой, ледзьве праглядвалася.

— Вось табе і леваруч, — папікнуў Вадзім сябра. — Трэба было паварочваць аглоблі назад, а не перціся на злом галавы абы-куды. Цяпер і да ночы не дабрыдзём нікуды.

— Не панікуй, — Рыгор таксама быў устрывожаны. — Шкода, што мы так слаба апрануты, бо калі ноч заспее і давядзецца тут дзе легчы, то ад холаду можна апруцянець. Тут жа такая вялікая розніца сутачнай тэмпературы. Былі б яшчэ хоць запалкі, то вогнішча развялі б.

— Замерзнуць не замерзнем, а вось ваўкоў трэба баяцца. У пошуках спажывы яны цэлымі зграямі гойсаюць па стэпе. Для іх мы можам стаць лёгкай здабычай.

Дарога, цяпер ужо ледзьве прыкметная ў шэрым змярканні, хутка і зусім абарвалася каля нешырокага калка, заваленага металічным ломам.

— Вось дзе могілкі спісанай, а то і па-жывому раскурочанай тэхнікі. Галавацяпства сваё далей ад людскіх вачэй хавалі.

Яны спадзяваліся, што ў калку сярод больш пладавітай раслiннасці знойдуць якую крынічку. Ваду і праўда адшукалі, але яна была смярдзючая, хоць нос затыкай, і ржавая ад жалеззя. Аднак і каля гэтай вады яны змецілі чыесьці разлапістыя сляды, і іх разгарачаныя спіны спакваля пачалі пакрывацца халодным потам.

— За што змагаліся, на тое і нарваліся, — прашаптаў Вадзім, узіраючыся ў чэзлыя зараснікі ўздоўж калка. — Трэба хутчэй даваць адсюль лататы.

— А, можа, пашукаем сярод ламачча якія прэнты, каб было чым адбівацца, — прапанаваў Рыгор.

Хутка яны змецілі кабіну «ЗІСа» і, караскаючыся па чымсьці слізкім, набраўшы поўныя туфлі вады, наблізіліся да дзверцаў. Найперш пашарылі ў бардачку і на радасць знайшлі карабок, а ў ім — пяць запалак і, здаецца, не адсырэлых. Вадзім як самую вялікую каштоўнасць паклаў карабок у кішэню.

Цяпер пачалі шукаць прэнты. З той жа кабіны выцягнулі іржавую завадную ручку і вялізны гаечны ключ.

— То й годзе, — сказаў Рыгор і раптам, прыклаўшы палец да губ, шапнуў:

— Ціха. Ні гуку.

Вадзім таксама натапырыў вушы. І праўда: знекуль з боку данесліся да іх мужчынскія галасы.

— Можа нас ужо шукаюць? — выказаў меркаванне Рыгор. — Але давай на ўсякі выпадак схаваемся. Ці мала што? Тут жа, на цаліну, не толькі камсамольцы едуць, але і align рознай масці рэцыдывісты.

— Яшчэ гэтага нам не хапала. Яны страшнейшыя за ваўкоў.

Схаваліся ў той жа кабіне, з якой добра ўсё праглядалася. А іх з берага наўрад ці прыкмеціш. Тым больш і ноч насунулася, хоць пад буйнымі зоркамі, якія густа ўсеялі неба, бачылася далёка наўкруг. Крокі і галасы наблізіліся, і хлопцы стаілі дыханне.

— Ты, у выпадку чаго, не цырымонься. Нават калі на міліцыянера нарвёмся, фінку яму ў бок і гатова.

— На мокрае схіляеш? — мужчына з сіпатым голасам чыркнуў запалкай, відаць, прыкурыў. — Не хацелася б вышку атрымаць. І так пятнаццаць з хвосцікам ад званка да званка баланду хлябаў. Цяпер волі вольнай хочацца.

— Воля вольнай будзе, калі кішэні натопчам дабром. А там, куды заўтра ноччу навастрылі лыжы, гэтага дабра хапае. Усё ж які ні быў, а банк. Хай сабе пасялковы, — гэта ўжо голас напарніка, якісь прастуджаны, таму, можа, і пісклявы.

— Усё ж нешта мяне насцярожвае. З адным наганам у выпадку няўдачы ці адаб’ешся. Ды і патронаў засталося ўсяго пяць штук. Эх, у міліцыянера б разжыцца, — курэц кінуў папяросу ў бок кабіны, яна з іскрамі пшыкнула ў вадзе.

Бандыты пайшлі кудысь далей, і хлопцы, трохі счакаўшы, чуйна ловячы кожны гук, пачалі думаць, як выбрацца адсюль і застацца непрыкметнымі, бо, у выпадку чаго, ім абодвум не знесці галавы. Вадзім неасцярожна ступіў на нейкую жалязяку і нарабіў грукату. Але бандыты не пачулі, інакш тут жа вярнуліся б. Апынуўшыся на сухім, хлопцы спачатку ціха, а пасля, як трохі аддаліліся ад гэтага страшнага месца, з усіх ног кінуліся наўцёкі. Беглі мо з кіламетр, пасля, задыханыя, пападалі на зямлю. Дарогу яны канчаткова згубілі. І было мала надзеі ўпоцемках знайсці яе. Арыентавацца па зорках — марная трата часу. Яны не ведалі, у якім баку іхні часовы лагер і на якое сузор’е глядзець. Заставалася брысці куды вочы глядзяць. Але ж так можна блукаць і суткі, і двое, пакуль канчаткова не падкапыцішся. А з сабою ні вады, ні харчу якога, каб трохі падмацавацца. У страшным сне ні адзін, ні другі не думаў, што апынецца ў такой дурной сітуацыі. Там, у лагеры, пэўна ж думаюць, што маладыя хлопцы загулялі, напіліся да чорцікаў і цяпер дзесь блындаюцца. Вось табе і наваселле адсвяткавалі. Пашлі дурнога, а за ім другога. Так думалі яны, ідучы па начным стэпе. У лагеры ж узняўся пярэпалах. Усе добра ведалі, што хлопцы непітушчыя і не гулякі, не могуць жа яны, забыўшыся пра свой абавязак, бавіцца невядома дзе і з кім. Да вечара былі спакойныя, а як пачало цямнець, замітусіліся, гадаючы, што магло здарыцца з імі. Што ў стэпе прападаюць людзі — зімой замярзаюць, а летам, калі ў вялікую дарогу не запасліся біклажкай вады, канаюць ад смагі, — яны пра гэта чулі ад бывалых людзей. Але ж іхнія хлопцы не ў такую ўжо вялікую дарогу накіраваліся. Дваццаць кіламетраў для іх — што плюнуць. Так яны і самі запэўнівалі. Але ж дзе яны прапалі? Стыла прыгатаваная пачостка, з некалькіх дошак быў ужо змайстраваны стол, пры ім з абодвух бакоў — лаўкі. Толькі было дачакацца ганцоў з вінам і пачаць урачыстую вячэру.

Калі ўдалечыні пачуўся гул машыны, бясконца абрадаваліся: нарэшце-ткі! Рыгор і Вадзім не дурні, каб і назад плесціся пешшу. Пэўна ж, арганізавалі транспарт і зараз выскачаць з машыны, абцяжараныя пакупкамі. Аднак, калі ўбачылі чупрыністага шафёра аднаго, таго, што прывозіў бароны, трывога перарасла ў паніку.

— А хлопцаў, ну, тых, якія памагалі табе разгружацца, не стрэў на дарозе? — першая падступілася да шафёра Рэня Мятлік.

Калі той сказаў, што і почуту няма ні пра якіх хлопцаў, дзяўчаты акружылі чупрыністага і запатрабавалі неадкладна ехаць у пошукі прапажы. Калі не стрэнуцца на дарозе, то трэба заяўляць у міліцыю, падключыць дзеля гэтага механізатараў, тых, хто хоць трохі ведае дарогі і можа поначы арыентавацца ў стэпе.

— Прыйдуць вашы кавалеры, дзе дзенуцца, — выскаліў зубы чупрыністы. — Можа, дзе да маладзіц заваліліся і гоцкаюцца зараз на мяккіх пярынах? Чысценькія ды свежанькія, за іх нашы бабы ў агонь і ваду пойдуць.

Мятлік не на жарты раззлавалася:

— Калі ты зараз не закрыеш сваю зяпу, то невядома, што з табой зраблю. Мы месца сабе не знаходзім, а табе выкабельвацца хочацца. Разварочвай машыну.

— Ды я ж прыехаў не так сабе, — чупрыністы зразумеў, што тут ужо не да жартаў і кепікаў. — Брыгадзір прасіў перадаць, што заўтра к абеду прыедзе саўгаснае начальства цікавіцца, як вы тут. Дык каб не п’яныя былі, нікуды не разбрыліся.

— У нас п’яных не бывае, — адрэзала Мятлік. — Хай лепш за сваімі сочаць.

У кузаў залезлі Віця Баравік, які, нягледзячы, што да чарнаты пабіў палец, як майстраваў сталы, выклікаўся хоць да раніцы бегаць па стэпе і галёкаць, і дзве дзяўчыны: Валя Кірсанава, задзірыстая, але справядлівая дзетдомаўка, і Рэня Мятлік. Яна нізавошта не хацела лезці ў кабіну, колькі не ўгаворваў чупрыністы (Кірсанава дазналася, што яго завуць Арцёмам і ён таксама з Беларусі). У кузаве не было на што сесці. Але стаяла, прыхіленае да кабіны, запаснoе кола. Яны ўсе ўтраіх уселіся на туга напампаваную гуму. Фары ў машыне былі падслепаватыя, высвечвалі перад сабой толькі вузкую палоску, таму дзяўчаты прасілі Баравіка час ад часу станавіцца ва ўвесь рост і як мага ўглядацца наперад, каб часам не размінуцца з хлопцамі. Арцём даехаў да канторы саўгаса і спыніўся. Святла нідзе не было. Пасёлак моцна спаў. Толькі чуйныя да любога гуку сабакі перабрэхваліся між сабой.

— Ну, што рабіць будзем? — Арцём вылез з кабіны і лоўка ўскочыў у кузаў да астатніх. — Да каго ў першую чаргу пойдзеце? Каго будзіць станеце?

— Трэба ў міліцыю заявіць, — Рэня Мятлік першая скочыла на зямлю, размяла ногі. — Там будзе хто?

— А я скуль ведаю? — пачаў выказваць незадавальненне шафёр. — Адны гуляюць невядома дзе, другія, выспаўшыся днём, гойсаюць па стэпе, шукаюць гульцоў-малайцоў. Аднак жа парадачкі ў вас.

— Што ты квакаеш, курыная твая башка, — зноў пачала злавацца Рэня. — З хлопцамі, можа, бяда якая, а ты… Дзе міліцыя? Вязі.

— Ды яна побач, не трэба ехаць, тут усе службы ў цэнтры. Толькі ў міліцыі ці будзе хто. Поўнач жа. А заўтра ці ўжо сёння раненька ўставаць. Тут у нас не дрыхнуць у тры наздры.

Дзяжурны ў міліцыі ўсё ж быў. Схіліўшыся над сталом, пэўна, спаў. Яны ўсе ўтраіх уваліліся ў невялікі пакойчык без стуку, і іхняе нечаканае з’яўленне раззлавала сяржанта.

— Што, зноў пабіліся ці кабялька не падзялілі? — ён брыдка вылаяўся, выняў з шуфлядкі стала аркуш паперы, гатовы пісаць пратакол.

Рэня адразу асадзіла яго:

— Таварыш дзяжурны, мы прыйшлі ў савецкую міліцыю, а не ў шарашкіну кантору. І ваша брыдкаслоўе, вашы мацюкі будуць вядомы вышэйшаму начальству. Мы студэнты, прыехалі па камсамольскай пуцёўцы, звярнуліся да вас па пільнай справе. А вы, акрамя таго, што спіцё на службе, дык яшчэ двайным матам крыеце тых, хто да вас звяртаецца. «Во дае, — у захапленні адзначыў сам сабе Віктар Баравік. — З такой палец у рот не кладзі. Не такі ўжо мяккі і пушысты гэты мятлік».

Міліцыянер, не чакаючы такога наскоку, усхапіўся, залыпаў вачыма, пасля забегаў, пачаў шукаць, куды пасадзіць начных візіцёраў. Калі гэта яму ўдалося, сам сеў за стол і ўжо афіцыйна, як патрабаваў статут службіста, папытаў:

— То якая бяда прывяла вас сюды? Хто першы пачне?

Мятлік расказала, што прапалі іхнія два студэнты. Яшчэ ранкам пайшлі пехам на цэнтральную сядзібу, каб што купіць з харчоў, і да гэтага часу не вярнуліся. А абяцалі ж да абеду быць на месцы.

Як дзяўчына і чакала, дзяжурны таксама выказаў меркаванне, што хлопцы кульнулі дзе лішку, знайшлі часовых сяброўак і… «шумел камыш, деревья гнулись, а ночка темная была», — ён нават праспяваў адзін куплет.

— Гэтага не можа быць, — стаяла на сваім Мятлік. — Хлопцы, абодва паэты, зусім не пітушчыя і да выпадковых заляцанняў не такія ўжо ахвочыя. Карацей кажучы, не ведаем, што думаць і што рабіць далей.

— А з кім і як вы дабраліся сюды з палявога стана?

Мятлік назвала імя шафёра.

— То ідзіце, затрымайце яго, пакуль не пайшоў дадому і не заваліўся спаць. Пасля ўжо, яшчэ калі ў рот возьме, з пушкай не дабудзішся. А я тым часам пазваню ў райцэнтр і далажу пра тое, што вы сказалі. Прыйду да канторы праз колькі хвілін.

Машыны ля канторы ўжо не было. Засмучаныя, не ведалі, што рабіць.

— Во землячок! — абурылася Мятлік. — Яму на ўсё напляваць. Ведаць бы, дзе ён жыве.

Міліцыянер прыйшоў неўзабаве і таксама нічога добрага не параіў.

— Адно скажу, што яны ці заблудзіліся, ці, стаміўшыся, спяць бліз дарогі. Цяпер жа не зіма, не замерзнеш.

— А нам што рабіць? Дзе перакантавацца ноч? Во ўліплі!

— Да раніцы нічога не будзе, ніхто вас не падвязе. А перакантавацца, як кажуць, можна ў дзяжурцы на крэслах.

## 10

Вадзіму і Рыгору давялося цяжэй. Ужо, пэўна, трэцюю гадзіну яны брылі абы-куды, толькі б ісці, а дарогі, з якой так неасцярожна збочылі, уцякаючы ад магчымай пагоні, не было і не было. Ды хоць бы якая! Пад зоркамі, а яшчэ і поўня ў прыдачу, бачылася далёка. Мокрыя ногі — добра яшчэ, што расы не было — прасілі спачыну, але яны вырашылі не паддавацца спакусе, бо варта толькі сесці, як наваліцца сон, злепіць вочы. Тады яны ўжо могуць і да абеду праспаць. Вядома, гэтак натаміўшыся і набраўшыся страху. А іх жа недзе шукаюць, здагадаўшыся, што збіліся з тропу. Вярэдзіла душу і думка, што, покуль яны тут блындаюцца ў стэпе, бандыты перадумалі, змянілі сваё рашэнне абрабаваць банк не заўтра ўначы, а ўжо сёння. Сёння можа праліцца і чыясьці кроў. Гэтыя галаварэзы ні перад чым не спыняцца, тым больш калі

ў іх ёсць зброя. Трэба неяк хутчэй іх апярэдзіць. А вось як? Бегчы яны ўжо не маглі. Нягледзячы на досыць прахалодную ноч, тэніскі іхнія было хоць выкручвай. І ўсё ж, сабраўшы рэшту сіл, яны паддалі ходу. Да нейкага жытла прыб'юцца, быць такога не можа, каб на дзесяткі кіламетраў была пустэча.

— Ціха! — раптам спыніўся і натапырыў вушы Рыгор. — Ці не сабакі брэшуць?

Вадзім таксама прыслухаўся, аднак нічога не пачуў.

— У цябе ў вушах заклала. Яшчэ раз паслухай. Вунь у тым, злева, баку перагаўкваюцца. Давай зварочвай леваруч.

Вадзім не стаў спрачацца, бо сапраўды ў вушах яго — прадзьмула дзе скразняком ці так ад чаго — стаяў гул, акурат там пасяліліся восы ці чмялі.

Праз пятнаццаць хвілін шпаркай хады і ён пачуў лянівае пабрэхванне сабак. Цяпер яны ўжо не сумняваліся, што наперадзе жытло, мо нават і цэнтральная сядзіба. Але ж да каго поначы завітаць? Каму сказаць аб небяспецы? Яны не былі ўпэўнены, што тут ёсць апорны міліцэйскі пункт, і ён можа быць адчынены.

Плошчу перад канторай саўгаса і саму кантору яны пазналі і бясконца абрадаваліся. Нарэшце-ткі яны дабрылі і трапілі туды, куды хацелі. Цяпер можна было трохі і перадыхнуць. Яны селі на прыступку ганка, баючыся, аднак, каб не зваліў сон. Рыгор дык зняў туфлі, пасля шкарпэткі, якія на нагах амаль што высахлі, памасажыраваў галёнкі, ступні і адчуў палёгку.

— Давай і ты, — сказаў Вадзіму, — у цябе ж таксама былі мокрыя ногі.

Аднак, ужо амаль засынаючы, хлопец адмовіўся, і тады Рыгор таўхнуў яго ў бок:

— Пайшлі.

— Куды?

— На кудыкіну гару. Міліцыю будзем шукаць.

Праз пяць хвілін яны ўжо стаялі на ганку невялікага, са шчытоў, доміка, пры ўваходзе ў акне якога гарэла святло. Хлопцы пастукалі, і за газецінай, якой было прыкрыта шкло, мільганула чыясьць фігура.

— Хто? — строга спытаў мужчынскі голас.

— Мы заблудзіліся ў стэпе, — гукнуў Рыгор. — Можна зайсці? Хочам нешта важнае паведаміць.

Дзяжурны памкнуўся ісці адчыняць дзверы, але яго апярэдзіла Мятлік, апантана кінулася ў калідорчык.

— То ж нашы хлопчыкі, — радасцю свяціліся яе вочы. Яна першая адчыніла дзверы, быццам была тут галоўная, прапусціла хлопцаў наперад. — Мы тут ужо ўсіх на ногі паднялі. Думалі, вам каюк, ваўкі зжэрлі ці абрабаваў хто і забіў.

— Не такія мы ўжо і зломкі, каб не пастаяць за сябе, — сказаў Рыгор і звярнуўся да дзяжурнага: — Заблудзіўшыся, мы, калі ўжо змяркалася, натрапілі на калок, куды звозяць усякае жалеззе. Шукалі вады, запалак у якой-небудзь кабіне. І раптам чуем — галасы. Мы стаіліся, не дыхаем. Размаўлялі двое. Як мы зразумелі, гэта былыя крымінальнікі. У аднаго з іх — зброя. Яны плануюць заўтра ноччу напасці на нейкі банк, узяць касу. Дзе і які банк, не ведаем. У вас жа ёсць банк?

— Ёсць, а як жа, — заінтрыгаваны паведамленнем хлопцаў, азваўся міліцыянер. — Ён у нас самы буйны, акрамя абласнога цэнтра. Дык, кажаце, заўтра ноччу?

Пачухаўшы патыліцу, заглянуўшы ў якіясь паперы, дзяжурны набраў нумар тэлефона і праз хвіліну сказаў у трубку:

— Зноў я. Хлопцы знайшліся. Так, самі прыйшлі. Блукалі па стэпе… Што? Не, не бачна, каб выпівалі. Цвярозыя, толькі стомленыя да чорцікаў. Важную навіну сказалі. Быццам падслухалі размову тых двух уцекачоў, якіх

вы беспаспяхова ловіце як не паўгода, — Фенькі Кудлатага і… як яго? Міхалёва, па мянушцы Затычка. Яны нібыта дзесьці ў вобласці рыхтуюцца зрабіць налёт на банк. Калі, пытаеце? Заўтра… Мая справа далажыць, а вы ўжо самі глядзіце… Гэтых двух? Дзе ж у нас сродкі? Хай той банк, які ўратуюць, падкіне ім за інфармацыю. А прозвішчы і ўсё іншае я запішу.

Дзяжурны, паклаўшы трубку, павярнуўся да Вадзіма і Рыгора.

— Калі ўсё так і на месцы злачынства зловяць тых рэцыдывістаў, вы, хлопцы, прагрыміце на ўсю вобласць, а то і рэспубліку. За іх затрыманне, нават падказку, дзе хаваюцца, абяцаюць добрыя грошы. Прасілі цяпер, пакуль што-якое, вам аддзячыць.

Кірсанава Валя і Мятлік, заадно з імі і Віця Баравік, паціснулі хлопцам рукі, а дзяжурны падрыхтаваўся пісаць пратакол. Прозвішчы свае хлопцы назвалі. А вось наконт якой бы там ні было ўзнагароды рашуча запратэставалі:

— Нам бы толькі… — Рыгор наблізіўся да дзяжурнага, шапнуў як не ў вуха: — Бутэлек колькі віна прыстарацца. Ведаем, што зараз тут сухі закон. Але ж, у парадку выключэння… Мы, пакуль не ўпрэгліся ў работу, хочам адзначыць дзвюх дзяўчат дні нараджэння, ну, і наш прыезд сюды. То як, таварыш сяржант? Падсобіце?

Дзяжурны пачухаў патыліцу:

— Але ж гэта не ў маёй кампетэнцыі. Далажу пра вашу просьбу дырэктару саўгаса. Мо і ўважыць. А зараз адпачывайце. Папіце вады, — ён падсунуў ім графін і шклянку, — і размяшчайцеся хто як. Крэслы я прынясу з кабінета начальніка.

Гэта ноч далася ў знакі не толькі Вадзіму і Рыгору, а таксама тым, хто памчаўся ў дагонку, але і астатнім з іхняе групы. Ніхто не клаўся спаць, з хвіліны на хвіліну чакалі вяртання машыны. Але яе не было і не было, хоць пайшла другая гадзіна ночы. Бліз сталоў расклалі невялікае цяпельца, грэлі рукі, спіну, наганялі на сябе страх, расказвалі розныя жахлівыя выпадкі з жыцця цаліннікаў, якіх наслухаліся ў поездзе па дарозе сюды. Толькі калі пачало світаць, і перадранішняя прахалода стала нясцерпнай, большасць пайшла ў палатку на свае сеннікі, пад коўдры і, нават не распранаючыся, не знімаючы цёплых швэдараў, залегла, каб хоць трохі перагнаць сон.

Вярнулася ўся кампанія перад абедам, незадоўга да прыезду саўгаснага начальства. Прывезлі іх у міліцэйскай машыне, убачыўшы якую, можна было абамлець. А ўсмешлівы вадзіла па-заліхвацку крутнуў руль ля саменькіх сталоў і, даўшы сігнал, спыніўся, толькі пыл закурэў з-пад колаў.

— Вы што гэта сабе дазваляеце? — сарвалася з языка ў паварыхі Каці Шмыровай. — Тут у нас праверка намячаецца, а вы пясок гоніце на сталы і каструлі.

З кабіны, з гіканнем і смехам, вывалілася праз розныя дзверы ўся пяцёрка.

— А мы ўжо абамлелі, убачыўшы міліцыю, — Каця гукнула астатніх. — Многія яшчэ спяць, бо цалюткую ночку сядзелі ля агню і чакалі.

Хутка ўся палатка была на нагах.

— Во яны, блудныя сыны, — Мятлік кіўнула на Вадзіма і Рыгора. — Заварылі тут кашу, усё жыццё помніць будуць. І праславіліся. Пасля раскажуць. Стрэнем толькі начальства. У палатцы, калі хто дрыхне, хуценька хай засцілае пасцелі.

Рыгор папрасіў шафёра адчыніць багажнік, выняў адтуль цэлую сетку бутэлек з рознымі наклейкамі.

— Прымай, Каця, пад тваю поўную адказнасць. Вечарам гульнём як мае быць.

Міліцэйская машына паехала і амаль тут жа падкацілі «Волга» і «Масквіч». З «Волгі» выйшаў цёмнавалосы мужчына гадоў пяцідзесяці, з ужо досыць пры-

кметным пузам, якое, аднак, не псавала яго фігуру, а надавала яшчэ большую саліднасць. Гэта і быў дырэктар саўгаса «Стэпавы» Ігнацюк Кірыла Васільевіч. Яго абступілі і студэнты, і тыя, што прыехалі ў «Масквічу» — галоўны аграном, брыгадзір трактарнай брыгады, а таксама важак цалінных камсамольцаў Багамолаў.

— Ну, то з прыездам, таварышы цаліннікі, — звярнуўся да ўсіх Ігнацюк. — Бачыце, якое перад вамі мора пшаніцы. Убраць своечасова і без страт усё зерне — задача з задач, якая перад намі пастаўлена. Людзі нашы згаладаліся па хлебе. Відаць, і ў Мінску ў вас яго няхватка. Белыя батоны і булачкі ўсе любяць, толькі дай. А вось многія гараджане, пэўна, і не ведаюць, якім потам, слязамі даецца гэтае дабро. Так што віншуем усіх вас, што адгукнуліся на заклік і прыехалі нам у помач.

Па колькі слоў сказалі галоўны аграном і брыгадзір трактарнай брыгады. Даўжэй прамаўляў камсамольскі важак Багамолаў. Гэты расказаў страшную гісторыю пра гібель трох першацаліннікаў, якія паехалі па груз на чыгуначную станцыю і па шляху назад у іх заглух матор. Апруцянелых, зацярушаных снегам, іх знайшлі толькі на другі дзень.

— Так што бачыце, — падсумаваў ён, — многія і жыццём сваім ахвяравалі.

Гаспадары саўгаса бавіліся нядоўга. Зайшлі ў палатку, Ігнацюк пацікавіўся нават, што сёння на абед.

— А вы сядзьце за стол, — замітусілася Каця. — Паспрабуйце наша варыва.

— Абедайце без нас, — сказаў Кірыла Васільевіч. — У нас жа не вы адны. Сёння трэба ўсіх аб’ехаць, бо заўтра пачынаем жніво і на такі пальецца зерне, многа зерня. Думаю, вас праінструктуюць, як яго сушыць, пералапачваць. Не лёгкая, скажу вам адразу, праца. Давядзецца і начамі шчыраваць.

Калі адбылі машыны, толькі тады дзяўчаты кінуліся да Рыгора і Вадзіма, да астатніх, хто з імі прыехаў.

— А мы тут па вас паніхіду хацелі заказваць, — засмяялася круглатварая, з доўгай, да пояса, касой Аксана Печкіна.

— А яны з’явіліся і не запыліліся. Ну, цяпер спавядайцеся.

— Дайце хлопцам трохі ачомацца, — заступілася за Рыгора і Вадзіма Рэня Мятлік. — Няхай прасоленыя ад поту сарочкі зменяць, памыюцца як мае быць, тады ўжо… А ты, Шмырова, стаў на стол абед, калі ўсё гатова. Мы як ваўкі згаладаліся. За ядой нашы хлопцы і раскажуць, дзе былі і што ўчынілі.

## 11

Цаліннае лета прамільгнула ў цяжкай, можна сказаць, знясільваючай працы. Дырэктар саўгаса не маніў: бывала, што і па дваццаць гадзін, з невялікімі перапынкамі, даводзілася шураваць лапатай гарчае з сярэдзіны, бы прысак, зерне, выварочваць яго наверх альбо адкідаць у іншае месца. А машыны з паўнюткімі кузавамі ўсё пад’язджалі і пад’язджалі, выгружалі збожжа і зноў імчалі ў стэп, да камбайнаў. І так дзень пры дні, з ночы ў ноч. Больш за месяц ішла ўборка, і пра сябе не было калі падумаць. Самае вялікае жаданне было заваліцца куды — хоць тут, зарыўшыся ў бурт пшаніцы, хоць у палатку — і паспаць колькі гадзін запар, каб ніхто толькі не тармасіў, не галёкаў, што прыбыў груз.

Назад яны ехалі ўжо ў самых што ні на ёсць пасажырскіх вагонах, дзе грэлі і падавалі чай, дзе працаваў рэстаран, у якім можна было смачна паесці, абы былі грошы.

Вадзім з Рыгорам не шыкавалі, але ў першы дзень па дарозе дадому ўсё ж адшукалі той рэстаран і — была ні была — вырашылі-ткі трохі расслабіцца,

а заадно аблегчыць свае кішэні. Сказаць, каб яны вельмі адтапырваліся, было б няпраўдай, але і наракаць ніхто не збіраўся. Многія лічылі — вясковыя дзяўчаты перш-наперш, якія жылі на адну стыпендыю, — што саўгас расплаціўся з імі шчодра, кожнай адваліў прыстойную суму. У вагоне толькі і размовы вяліся, як лепш патраціць гэтыя грошы, каб купіць сабе гожую сукенку ці кофту, што з абутку лепшае, а рэшту перадаць бацькам, бо яны таксама спадзяюцца на якую капейку.

У Мінск прыехалі ў холад і слату. З першых дзён верасня нечакана заімжэла, паўночны вецер працінаў да костачак, а яны, не падрыхтаваныя да такога надвор'я, выскачылі на перон і адразу адчулі розніцу тэмператур у Казахстане і ў Беларусі. Пераапранацца было некалі, бо іх на пероне сустракалі вельмі ўрачыста. Пад гукі двух гімнаў камсамольскія важакі, для якіх паставілі часовую трыбуну, прамаўлялі ўзнёслыя словы і віталі цаліннікаў, называючы многія імёны і прозвішчы як герояў. Сярод тлуму і мітусні, абдымкаў з роднымі і блізкімі да Рыгоравага вуха данеслася: «…не пабаяўшыся нават наведзенага на іх пісталета, яны, мужныя нашы сябры, умудраліся злаўчыцца і выбіць зброю з рук мацёрых бандытаў. Некалькі сутак ідучы па голым стэпе без вады і якога-небудзь харчу, яны зусім выбіліся з сіл, а Рыгор Сініца — бачыце, якога палёту птушкі пасяліліся пад дахам універсітэта — дык вось гэты мужны хлопец усю дарогу ў дзвесце кіламетраў пратопаў з навярэджанай, апухлай нагой. Гурко і ён па чарзе прысаджваліся адпачываць, трымалі на мушцы рэцыдывістаў, якія мелі намер абрабаваць банк, нават, у выпадку супраціўлення, забіць ахоўніка. Іх нашы хлопцы здалі міліцыі, адзначыўшы гэты ўчынак у мясцовым друку…»

— Што ён там пярындзіць? — верыў і не верыў сваім вушам Рыгор. — Гэтак хутка і да звання Героя Савецкага Саюза прадставяць.

Вадзім таксама быў ашаломлены пачутым.

— Ды ну іх, — сказаў, ужо смеючыся, — плюнь і разатры. Не пойдзем нават да трыбуны. Няхай пагалёкаюць. Ім за гэта плацяць. Толькі перад сваімі будзе брыдка.

Паколькі было недалёка ад вакзала, яны перасеклі трамвайныя пуці і ўжо праз пяць хвілін былі ў інтэрнаце. Напалову ён быў зараз пусты, бо з пачатку заняткаў студэнтаў зноў адправілі на бульбу. Дзяжурная дала ім ключ ад пакоя, і яны перш-наперш распакавалі рэчы, пераапрануліся ў сухое, што было ў чамаданах. Кастуся і Сенькі не было, відаць, таксама ў калгасе. На стале, неяк непрыкметна прыхіленую да графіна з вадой, Вадзім прачытаў пісульку: «Рыгор, уключай матор і шпар па ганарар. З цябе навар». Пасмяяўшыся, Вадзім перадаў пісульку сябру.

— Го, дык сёння мы можам баль класны арганізаваць. Эх, дзяўчат бы сюды! Тваю Люсю, а мне… Не, не па маім носе мая краля. Пэўна, з тым марскім афіцэрам мілуецца.

— А ты не давай маху. Афіцэр далёка, а ты побач, толькі ў розных з ёй групах. Цікава, ці паехала яна на бульбу. Гарадскім цяжка цягаць кашы, тым больш у такую слоту. Ведаць бы, дзе яны, то, можа, падскочылі б.

— Не, ты лепш падскоч да Люсі. Пэўна, дзяўчына змэнчылася, чакаючы ад такога дуралея якую вестку.

— Так, трэба і ў Жорнаўку да сваіх заглянуць, і ў Радава падскочыць. Нешта апошні час брат пачаў сніцца. Хоць бы не захварэў ці так каб якая бяда не сталася.

— А пра меншага брата ты помніш? Нешта вы зусім як чужыя, нібыта чорная кошка прабегла між вамі.

— Ведаеш, Рыгор, са Славікам у нас асаблівыя адносіны. Маленькім ён як паехаў з сястрой на новае месца, дык мы мала і бачыліся. Пасля я прыехаў

туды, а ён падаўся ў вучылішча. Перад ад'ездам на цаліну быў дзесь на практыцы. Цяпер, можа, размеркавалі куда на работу. Калі ў Мінску, то, можа, сам акажацца. Ён ведае мой адрас.

Хлопцы пагаліліся, апранулі святочнае і, пераканаўшыся, што дажджу няма, вырашылі прайсціся. Перш-наперш заглянулі ў корпус філфака, каб пачытаць аб'явы, а заадно пацікавіцца поштай. Пры ўваходных дзвярах вісела скрыня з ячэйкамі на кожную літару, і час ад часу туды кідалі пісьмы, запрашэнні на тэлефонную размову, нетэрміновыя тэлеграмы. На ўсякі выпадак яны заглянулі кожны ў сваю ячэйку. І, дзіва, абодвух чакалі аднолькавыя канверты з аддрукаванай уверсе чырвонай шапкай: «Саюз пісьменнікаў Беларусі».

— Шчо цэ значыць?! — на ўкраінскі манер усклікнуў Рыгор. — Мо зноў наш літгурток запрашаюць?

Яны пайшлі ў сквер на лаўку, але яна была мокрая, таму зноў вярнуліся ў вестыбюль і, прыхінуўшыся да акна, акуратна, пры дапамозе алоўка, раскрылі канверты. Паперкі былі аддрукаваныя на машынцы з аднолькавым тэкстам: «Саюз пісьменнікаў Беларусі ладзіць першую рэспубліканскую сустрэчу з маладымі паэтамі і празаікамі, якая адбудзецца ў Доме творчасці па адрасе…» Далей называліся дата, месца збору, умовы пражывання.

— Дык гэта ж яшчэ вельмі няхутка. У лютым толькі, а ўжо выслалі запрашэнне, — абрадаваўся і адначасова засмуціўся Вадзім. — Я думаў у часе зімовых канікул пабыць у Галабродах, памагчы Юзіку габляваць дошкі, ставіць перагародкі. Работы там процьма. А чужых не вельмі ноймеш.

— Ну, і не паедзеш у свае Галаброды. Гэта ж больш важна. Уяві, якія людзі прыедуць з розных куткоў Беларусі, якая можа быць літаратурная школа. Цяпер, пакуль нашы на бульбе, з'ездзі і памажы. Можа, што новае напішаш? Тым больш і з Саюза пісьменнікаў просяць падрыхтаваць творы.

— Яно і праўда, у мяне прозы няшмат надрукавана. А рукапіснае хто ж будзе разглядаць, — пагадзіўся з думкай сябра Вадзім.

— Дзе ж гэта што з майго надрукавалі? — азадачыўся Рыгор. — Пайду найперш у «Маладосць». Там два мае вершы меліся даць. Тады пабанкетуем. А заўтра, відаць, падскочу да бабулі. Толькі што ёй купіць? Вядома, падкіну грошай, але ж падарунак будзе ёй даражэй, яна марыла пра арэнбургскую хустку. Во дзе б дастаць!

Вадзім прапанаваў:

— Давай падскочым на таўчок на Камароўцы. Там цыганкі ашываюцца, і ў іх што хочаш купіш.

Да Камароўкі вырашылі прайсціся пешшу. Хацелася паглядзець, як забудоўваецца праспект, а па дарозе заскочыць у які-небудзь вялікі магазін. Вадзім таксама меркаваў, што з цалінных грошай павінен купіць падарункі Верцы, штокольвечы Юзіку, ну і, само сабой зразумела, Люсі. Да Люсі ён спланаваў заехаць пасля наведвання Галабродаў, па шляху назад. Вядома, трэба было б найперш да яе, бо, пэўна, ужо даўно чакае не дачакаецца якой весткі, а ён, боўдзіла, не даўмеўся за доўгія месяцы чыркнуць ёй колькі слоў. Пэўна, будзе крыўдаваць.

Праспект сапраўды ўражваў і шырынёй, і веліччу будынкаў. Вясковыя хлопцы, якія гадаваліся ў нізенькіх хацінах, толькі ў райцэнтры бачылі двухпавярховікі, зараз, у вольную хвіліну, і маючы за душой нейкую капейку, яны з вялікай цікавасцю заглядвалі ў той ці іншы магазін, што месціўся на першым паверсе такога гмаха. Зайшлі і ў ГУМ, які наогул займаў чатыры паверхі. Вадзім упадабаў цёмна-сіні фетравы капялюш, які пасля прымеркі адразу ж і надзеў.

— Сястра наказала, каб у капелюшы прыехаў. Што ж, пафранчу. Толькі што ёй купіць? І швагру. Ды і пляменніца будзе цягнуць ручкі, каб чаго даў. Дзе дзенешся, трэба раскашэліцца.

Пасля бадзяння па гандлёвых залах нічога не купілі. Вадзім вырашыў, што лепш даць сястры са шваграм трохі грошай, а Анютцы цукерак купіць у булачнай.

Таўчок на Камароўцы гаманіў сотнямі галасоў. І дзіўна, колькі тут было рэчаў, якіх днём з агнём не знойдзеш у дзяржаўным гандлі.

— Во што значыць прыватнікі, — захапляўся Рыгор. — І дзе яны бяруць тавар? Тут жа многа і замежнага. Паглядзі, які плашч фартовы, у ім жа ні ў дождж, ні ў якую слату не страшна. А колер!

Дзяцюк, у якога папыталі пра цану, пагардліва скрывіўся:

— Не па Сеньку шапка.

Рыгора гэта зачапіла:

— Сам ты Сенька негаблёваны. У цябе па-чалавечы пытаюць, а ты выкабельваешся. Вось зараз пакажу табе корачку, свісну сваіх, і ў цябе па ўсёй форме спытаюць, з якога спекулятыўнага гнязда вылез, праз якія кардоны і хто дастаўляе падпольны груз.

Дзяцюк пабялеў, хацеў шуснуць у натоўп, але Рыгор за локаць затрымаў яго.

— Не дрышчы драбней маку. Надалей будзеш ведаць, як з людзьмі размаўляць. То што, якая цана?

Дзяцюк, усё яшчэ не верачы, што можа выблытацца з непрыемнай сітуацыі, назваў цану, якая задаволіла Рыгора, але той прынцыпова прапанаваў у два разы меней.

— Мяне чацвяртуюць, калі я прынясу такую выручку, — ужо як не плакаў нябога.

Рыгор злітасціўся:

— Не хацеў бы, каб з цябе біфштэкс рабілі. Так і быць, даю, колькі назваў.

Ён прымераў плашч і здаволены, адлічыў патрэбную суму.

— Вось так трэба таго-сяго вучыць, — смеючыся, казаў па дарозе назад Рыгор. — За сябе не пастаіш, то ўсюды белай варонай будзеш.

Бліз вакзала яны купілі пляшку белага вінаграднага віна, некалькі рыбных кансерваў, два кольцы кракаўскай каўбасы, кулідку хлеба і, задаволеныя ўдалымі пакупкамі, вярнуліся ў свой пакой.

Вячэра сапраўды была царскай. Вадзім збегаў яшчэ ў гастраном і купіў дзесятак яек, пачак маргарыну, пра які яны забыліся, і зрабіў на патэльні смажаніну.

— Пальчыкі абліжаш, — пахваліў сваё кулінарнае майстэрства Вадзім.

Рыгор адкаркоўваў бутэльку, рэзаў каўбасу і сапраўды глытаў слінкі. Калі выпілі па шклянцы нямоцнага, але вельмі смачнага напою і збольшага закусілі, летуценна пацягнуўся:

— Як жа пабачыць маю чарняўку? Во запала ў сэрца. Думаў, на цаліне забуду, а прыехаў, і зноў затрымцела душа.

— А ты будзь больш настырны і ўпэўнены, — параіў Вадзім. — Так як на Камароўцы. Дзяўчаты не любяць надта сарамлівых. Вось прыеду і разам падумаем, як да яе падступіцца.

## 12

Два тыдні ў Вадзіма і Юзіка праляцелі ў карпатлівай працы. На колькі дзён завітаў быў і Славік, але, ці то спалохаўшыся, што трэба раненька ўставаць і позна класціся, бо не будзеш жа дрыхнуць, калі іншыя ўкалваюць, ці то і сапраўды ў яго скончыўся кароткі адпачынак, але ён, папрасіўшы ў сястры бульбы, квашанай капусты, салёных агуркоў, гарбузовых семачак, адправіўся

пешкі на станцыю. Вадзім, калі Юзік быў на працы, у пустой і пакуль што вельмі халоднай хаце — печ і грубку яны запланавалі зрабіць к Новаму году, каб ужо канчаткова сюды перасяліцца — па-новаму асвойваў інструмент: гэблікі розных памераў, стамескі, іншыя сталярныя прылады. Ён адмяраў, стругаў і, паколькі дошкі былі ўжо сухія, клаў на лагі падлогу. За гэты час зрабіў нямала, акрамя падлогі паставіў перагародкі між залай і спальняй. Заставалася столь, але аднаму ўправіцца з гэтай работай было немагчыма. Юзік да позняга вечара прападаў у калгаснай майстэрні. Капалі бульбу, і бясконца што-небудзь ламалася, выходзіла са строю. Даводзілася варыць, кляпаць, выштукоўваць розныя прыстасаванні, каб тэхніка неяк пратрымалася да капітальнага рамонту ў МТС. Толькі позна ўвечары швагер мог гадзіну-другую падсобіць Вадзіму. Радаваўся за зробленае ім.

— Без цябе невядома калі адужаў бы гэтулькі. На зімовыя канікулы, калі прыедзеш, то ўжо будзем у новай цёплай хаце.

Вадзім толькі зараз мусіў прызнацца, што яго не будзе. Пакорпаўшыся сярод сваіх папер, адшукаў канверт і запрашэнне з Саюза пісьменнікаў.

— Так што я буду ў Доме творчасці, — сказаў не без гонару.

— То дай божачка, каб цябе там прыкмецілі, каб хто важны сказаў добрае слоўка, — сястра расчулілася і ажно пусціла слязу. — Можа, сам Якуб Колас будзе вам за старэйшага і адзначыць цябе. Тады і па радзіву сказалі б. Ого! Тут і так пра цябе ведаюць, а каб яшчэ па радзіву… Вот бацькі радаваліся б, каб былі жывы. Не давялося ім, бедным, пацешыцца дзецьмі, дачакацца ўнучачкі. Такія маладыя параць зямлю.

Да ад’езду Вадзіма сястра зарэзала пеўніка, ашпарыўшы кіпетнем, аскубла, падрыхтавала ў дарогу тое-сёе з гародніны. Ад пеўніка Вадзім катэгарычна адмовіўся.

— Юзіку патрэбен добры харч, бо нешта ён здаў апошнім часам. Ды і вам з Анюткай не зашкодзіць з’есці кавалачак мяса.

Верка ўпарцілася, але ўсё ж пеўніка пакінула сабе. Ранкам, толькі Юзік сабраўся на работу, выйшаў з ім і Вадзім. Гэты раз швагер папрасіў пачакаць на скрыжаванні, бо, сказаў, будзе ў Стаўбуны грузавая машына. Па Юзіка таксама прыехалі, і ён, падаўшы Вадзіму руку, адбыў у сваю майстэрню. «Студабекер» прымчаў хутка, і шафёр, відаць, папярэджаны Юзікам, ліха спыніўся перад Вадзімам.

— Скакайце, — адчыніўшы дзверцы, выгукнуў малады белабрысы хлапец у зашмальцаванай спяцоўцы, — сядзенне я праціраў, так што не бойцеся запэцкацца. Вы, калі ў Мінск, то давязу і туды. Учора позна пераванілі ў кантору і сказалі, каб патрэбны груз забраў на таварнай станцыі ў Мінску.

— Го, то мне пашэнціла, — парадаваўся Вадзім. — Бо поезд мой будзе недзе к абеду. Доўга давялося б мэнчыцца на вакзале.

Ніколі чалавек не ведае, што чакае яго наперадзе, якія сюрпрызы рыхтуе яму лёс. Кажуць жа ў народзе — ведаць, дзе ўпадзеш, саломкі падсцяліў бы. У іхнім выпадку не дапамагла б і ніякая саломка…

З гадзіну, як выехалі на шашу Брэст — Масква, усё ішло добра. Вадзіла аказаўся гаваркім хлопцам. З гумарам расказваў, як служыў у арміі ў Нямеччыне і як яго ўпадабала адна палкоўнічыха, у мужа якой быў за шафёра. Неяк, калі палкоўнік быў на нейкіх курсах каманднага саставу, жонка яго, дзябёлая румянашчокая маладзіца гадоў трыццаці, папрасіла ў кватэры перасунуць мэблю, прыбіць новую вешалку. Прыйшоў са сваім інструментам — малатком і цвікамі, нарыхтаваўся цягаць і прыбіваць. А палкоўнічыха, нарумяненая, расфрэнчаная ва ўсё яркае, бы той пеўнік, стаіць і ўсміхаецца. Пытаюся, з чаго пачынаць будзем. А пачнём з таго, кажа, што сядзем за стол і вып’ем

па кілішку. З халадзільніка вымае бутэльку каньяку «Напалеон» і загадзя падрыхтаваную закусь — рыбу чырвоную, ікру чорную, венгерскія агурочкі, тонка нарэзаную колцамі каўбасу, іншыя якіясь прысмакі, ад чаго ў мяне і сліну пагнала. Стаю, як доўбень, і нічога не разумею. Думаю, мо гасцей важных чакае, мо палкоўнік яе сёння вяртаецца, і з гэтай радаснай нагоды яна рашыла пачаставаць мяне. А яна… Смялей, смялей, кажа, радавы Барыс Пупкін, цяпер я твая камандзірша. Дагодзіш, то будзеш як сыр у масле плаваць. З радавых старшым сяржантам станеш. Я ўсё магу. Я выцягнуўся па струнцы і хацеў ужо гаркнуць: «Служу Савецкаму Саюзу», як яна мяне абвіла рукамі за шыю, упілася ў губы ў гарачым, аж дыханне заняло, пацалунку. Пасля далікатна падпіхнула да стала, усадзіла ў мяккае крэсла. Вось гэта, кажа, усё з'ядзім і вып'ем, тады паглядзім, які ты майстар. Я адразу здагадаўся, чым тут пахне, але маўчу, думаю, што ж будзе далей.

— Ну, і што было далей? — зацікаўлена спытаў Вадзім.

— А далей, калі ледзь не ўсё выпілі ды закусілі, яна павяла паказаць, які ложак трэба перацягнуць у іншае месца. Завяла ў спальню, а сама юркнула кудысь у ванную ці туалет. Я стаю і прыкідваю, дзеля чаго ёй спатрэбілася нейкая перастаноўка. Праўда, ужо здагадваўся, нашто я ёй патрэбен. Пачуліся крокі, я абярнуўся і вачам саім не веру: стаіць палкоўнічыха голенькая, пухленькая, слінкі абліжаш, і … цэліцца на мяне з пісталета. Смяецца:

— Вось цяпер ты ўвесь у маёй уладзе. Што хачу, тое і зраблю.

Нічога сабе жартачкі, думаю. Ад п'янай бабы чаго хочаш можна чакаць. Яна загадвае і мне распрануцца. Я, гледзячы на яе, і сам хуценька скінуў бы ўсё. Але калі пад прымусам… Нешта ў ва мне ўзбунтавалася. Бачыў я ўсякіх баб, а вось каб такую. Не, думаю, дудкі, сцярвоза, пісталецікам мяне не праймеш. Тым больш ён у цябе напэўна ж цацачны. Стаю, не чухаюся, вачэй з яе не зводжу. Зноў загадвае скінуць з сябе ўсё дазвання. А ў мяне і ўсякая ахвота да яе прапала. А я яшчэ ўявіў, што як лягу ды не змагу нічога зрабіць, тады хоць пельку на сябе накінь ад ганьбы. Выручыў званок у дзверы. Спачатку нямоцны, пасля настойлівы, патрабавальны. Палкоўнічыха мая абамлела ажно. «Муж, — шапнула разгублена. — Бяжы праз акно. Тут невысока, з другога паверха не разаб'ешся». Яна кінулася ў ванную апранацца, а я, расчыніўшы акно, скокнуў, ды няўдала: моцна пабіў нагу, не магу падняцца, але ляжу, ажно не дыхаю. Думаю, каб палкоўнік застукаў нас у кватэры (мусіць, у яго не было з сабою ключа), то хана нам была б абаім. Гэты выняў бы і сапраўдны наган. Праз акно чую, як яна сакоча, спрабуе дагадзіць свайму мужаньку. Я так-сяк падняўся і, стараючыся не нарабіць шуму, паклыпаў у казарму. Во, брат, якія сцярвозы бываюць. А мы на іх молімся. Хвалу ім пяём.

— Ну, не ўсе ж такія, — не пагадзіўся Вадзім. — А твая жонка гэтак бы зрабіла?

— Мая — не, бо яе няма ў мяне. Пасля тога выпадку з палкоўнічыхай мяне адвярнула ад дзяўчат.

— Ну, ты яшчэ на сваю не натрапіў. Знойдзецца такая, што ночы не будзеш спаць, толькі і будзеш думаць, як заваяваць яе сэрца.

— Ат, — хацеў запярэчыць хлапчына, ды тут штосьці стрэліла пад колам, і машына імгненна вільнула ўбок і з высокага насыпу ўсім сваім цяжарам гахнулася ў прыдарожнае дрэва. У нейкія долі секунды Вадзіма кінула на шкло, ад якога засталіся толькі вострыя аскабалкі, затым выкінула вонкі, ударыла аб камель, мяшком кульнула ў запыленую крапіву. Болю ён не адчуў, толькі, плаваючы ўжо ў паветры, абыякава назіраў, як цела яго распластана ляжыць на зямлі, як ля кабіны курчыцца ў перадсмяротных сутаргах шафёр, спрабуючы адпаўзці ад машыны далей. І ў гэта імгненне слуп зыркага агню адначасова

з выбухам узняўся ў неба, ледзьве Вадзім паспеў узмахнуць рукамі-крыламі і адплысці далей. Ён бачыў, як спыніліся адна, другая, трэцяя машыны. З іх павыскоквалі людзі і з жахам глядзелі на ахопленае полымем жалеза.

Вадзім пакружыў над імі, хацеў сказаць, каб ратавалі шафёра, ён жа яшчэ такі малады, і не яго віна ў тым, што яны кульнуліся, відаць, лопнула кола, але чамусьці не мог вымавіць ні слова. Мужчыны, ці то пачуўшы яго, ці самі асмеліліся, спусціліся з крутога адхону, пачалі шнарыць бліз машыны, бо бліжэй усё яшчэ гарэла, ішоў густы едкі дым, ад якога слязіліся вочы.

— Во, адзін нехта нібы жывы, — пачуў Вадзім голас над сваёй плоццю. — У каго ёсць люстэрка? — гукнуў жанчыне на насыпе. — Хутчэй нясі. Праверым, ці дыхае. «Адчапіцеся ад мяне. Мне як нікому добра», — зноў гукнуў і не пачуў свайго голасу. Пасля наглядаў, як клалі яго на насілкі, неслі ў легкавую машыну з чырвоным крыжам на баках. Ён, бесклапотны і легкакрылы, ляцеў за імі ўслед, абыякава назіраў, як неслі ў бялюткую палату, клалі на стол. «Што яны хочуць рабіць? Ну, пакінулі б мяне ў спакоі. Мне так добра». Жанчыны, аднак, хутка распранулі яго, пакінулі зусім голенькага. «Здурнелі яны, ці што?» Вадзім хацеў рукой прыкрыць сваё сарамоцце, але ні адна, ні другая рука не слухаліся, ляжалі ўдоўж цела, бы вяроўкі. Ён успомніў, як палкоўнічыха хацела распрануць дагала шафёра, а таму выпадак памог вылузацца з яе абдымкаў. А як ад гэтых вылузацца? Але, дзякаваць богу, жанчыны пайшлі, іхняе месца занялі два, пасля далучыўся і трэці, хірургі з белымі шапачкамі на галаве і ў такіх жа беласнежных халатах. Яны перамаўляліся між сабой, ківалі галовамі, пасля, калі на століку ім падвезлі інструменты, пачалі паласаваць яго цела. «Пакіньце мяне ў спакоі!» — прасіў-маліў Вадзім. Але яны, не зважаючы ні на што, нешта кроілі, шылі, з-за галоў і спін не было бачна.

Пасля ён адчуў, як неадольная сіла выпіхнула яго ў якуюсь трубу. Ляцець было і страшна, і прыемна. Страшна, што занадта вузкая адтуліна, а прыемна ад самога лёту, тым больш, што ўперадзе мільганула святло незвычайнай яркасці, якой на зямлі ніколі не бачыў. У зіхоткай прасторы да яго падплылі маці, бацька, брат Лёва, усё такія ж, як помніў іх з дзяцінства. Ён хацеў усіх абняць, сказаць, як цяжка яму, сястры, абдвум яго братам без бацькоў, колькі яны выцерпелі ўсяго, што адзін Бог толькі ведае. Але маці, хоць і ласкава глядзела, адпіхнула яго ад сябе, сказала адно: «Табе яшчэ рана сюды, пажыві». Яны, узяўшыся за рукі, кудысь адплылі, і ў гэты момант Вадзім адчуў, што зноў неадольная сіла пацягнула яго ў трубу.

— Во, здэцца, пачаў дыхаць, — пачуў Вадзім голас аднаго з мужчын. — Але ж і трывушчы. Другі даўно б канькі адкінуў.

Толькі зараз Вадзім адчуў, як востры боль працінае ўсё цела. Ён застагнаў, у бяспамяцтве нешта прамармытаў.

— Змачыце яму губы, — распарадзіўся той жа голас, — піць, але адну лыжачку.

Калі дайшоў да памяці, першым чынам паспрабаваў пашавяліць рукой, нагой. Правая нага трохі слухалася, а левая ляжала дзеравяшкай. «Божа, хоць бы не аднялі», — жахнула думка. Ён паспрабаваў адкінуць коўдру, каб глянуць, што там унізе, нават падняў галаву, але ў шыі і ў грудзях кальнула так, што страціў на нейкі час прытомнасць. Відаць, моцна застагнаў, бо ў палату прыбегла сястра, схілілася над ім. Прыйшоўшы ў сябе, Вадзім асмяглымі губамі прашаптаў:

— А левую нагу… Што, адрэзалі?

Сястра паклала халодную далонь яму на лоб, супакоіла:

— Ды цэлая, цэлая нага, і правая, і левая. Яшчэ месяц-паўтара і скакаць будзеш. А вось грудзі, шыю, ды і бок правы моцна зачапіла. Як сэрца толькі вытрывала?

— Што з шафёрам, ну, тым, з кім ехаў, сталася? Жывы хоць?

— Не, кажуць, згарэў разам з машынай. Эх, хлопцы, хлопцы. Нап’юцца, а пасля за руль садзяцца. Жонцы, бацькам якое гора.

Вадзіму хацелася сказаць, што чалавек быў зусім цвярозы, што няшчасце здарылася па іншай прычыне. Але ў яго перахапіла дыханне. Пякучыя слёзы пацяклі па твары.

Недзе праз тыдзень яго адшукаў Рыгор. Усяго забінтаванага, схуднелага і ўчарнелага, Рыгор ледзьве пазнаў сябра.

— У міліцыю, ва ўсе бальніцы званіў і ніяк не мог напасці на твой след. Яшчэ ад бабулі дачуўся, што згарэла калгасная машына. Я адшукаў тваю сястру, швагра, папытаў, калі ты паехаў. Супадала, што акурат у гэты дзень з машынай і здарылася бяда. Швагер думаў, што ты сышоў у Стаўбунах, паехаў цягніком, таму не забілі трывогу. А яно во як атрымалася.

Вадзім, аслабелы дазвання, не мог яшчэ пашавяліцца, аднак гаварыць ужо мог, хоць і з вялікай цяжкасцю. Рыгора папярэдзілі, каб доўга не затрымліваўся, каб нічога непрыемнага не гаварыў. Зараз, развітваючыся, папрасіў у Вадзіма адрас Люсі і дазволу ад яго імя напісаць ёй колькі слоў. Швагру і сястры таксама, хай, хто зможа, прыедзе, наведае. Наконт Люсі Вадзім прасіў устрымацца, не хацеў, пакуль трохі не акрыяе, каб дзяўчына бачыла яго такога.

— А на курсе што? — папытаў зацікаўлена. — Я ж так адстану. А тут і зімовая сесія не за гарамі.

— Галоўнае, ачуняць і стаць на ногі. Астатняе неяк асіліш. Я буду прывозіць табе падручнікі, свае канспекты. Будзеш чытаць, як толькі зможаш. Не забывай жа, што нас чакае Дом творчасці. Твае апавяданні і гумарэскі, як я дазнаўся, будзе разглядаць адзін вельмі салідны пісьменнік. Прозвішча пакуль не сказалі. Гэта каб было сюрпрызам.

Рыгор пакінуў палату, і Вадзім, падбадзёраны сябрам, хутчэй пайшоў на папраўку. Люся прыехала ўжо перад самай выпіскай, устрывожаная, бясконца замучаная.

— Сумлення ў цябе няма, каб гэтулькі часу трымаць мяне ў няведанні. А каб са мной што, і ніхто не даў знаць, як бы ты паглядзеў на ўсё гэта. Ага, маўчыш.

Выгаварыўшыся (яны пайшлі ў калідор, на глухую лесвіцу, якая вяла на гарышча), Вадзім прытуліў да сябе дзяўчыну, горача пацалаваў. Развітваючыся, Люся паабяцала наведаць яго паслязаўтра.

— Дык мяне ж можаш ужо не застаць тут. Давай лепш праз тыдзень стрэнемся ў Мінску, у тым жа прывакзальным скверыку. Буду чакаць. Гэты раз, нават калі і не выпішуць, уцяку.

Яны, прызначыўшы час спаткання, яшчэ раз горача абняліся, пацалаваліся і разышліся. Вадзім вярнуўся ў палату акрылены, са ззяючымі вачыма.

— Ты дзе бадзяешся? — накінулася на яго медсястра Каця. — Прыходзіў прафесар, хацеў агледзець, а цябе і след прастыў. Накрычаў на мяне, што распусцілі хворых.

Вадзім павініўся, адчыніў тумбачку і даў Каці шакаладку, якую Люся прывезла ў якасці гасцінца. Медсястра палагоднела, але папярэдзіла, каб хоць цяпер нікуды не адлучаўся, бо прафесар можа вярнуцца. Ён і праўда зайшоў у палату са світай — урач, яшчэ два нейкія медработнікі, адзін з іх з бародкай, якая падкрэслівала яго вучонасць і на фоне белага халата глядзелася досыць унушальна. Другі, гладкаголены, са стомленым, нават нібы хваравітым тварам, трымаў перад прафесарам рэнтгенаўскія здымкі, перагортваў іх, на латыні штосьці тлумачыў. Трохі ўбаку стаяў Іван Парфір’евіч і, усміхаючыся, падміргнуў яму: маўляў, не дрэйфі, усё будзе о’кей. Прафесар, выслухаўшы асістэнтаў, павярнуўся да Вадзіма, папрасіў распрануцца да пояса і легчы на ложак.

Вадзіў перад вачыма нейкай палачкай, прымушаў глядзець то ўверх-уніз, то направа ці налева. Пасля біў гэтай жа палачкай па каленях, агледзеў усе рубцы на нагах, на шыі, на спіне. Нешта яго насцярожыла, ён зноў папрасіў асістэнта паказаць адзін са здамкаў. Пацмокаў, углядаючыся, і сказаў Вадзіму:

— Ну, што, малады чалавек. Вас добра падлячылі. Лічыце, выцягнулі з таго свету. Думаю, заўтра можна выпісаць. Але на паўгода, як мінімум, пра фізкультуру забудзьце. Вам дадуць даведку з прадпісаннем вызваліць ад цяжкіх нагрузак.

Прафесар і світа пайшлі, а ў Вадзіма ўсё ў сярэдзіне клекатала ад радасці: нарэшце-ткі ён убачыць усіх сваіх, пойдзе на заняткі, будзе гадзінамі праседжваць у бібліятэцы, спрабуючы нагнаць упушчанае. Як цяжкі сон будзе ўспамінаць трагічны выпадак з ім.

**13**

Ля будынка Саюза пісьменнікаў ужо тоўпіліся хлопцы і дзяўчаты. Праўда, дзяўчат было толькі дзве, а маладых паэтаў і празаікаў мужчынскага полу сабралася больш за дваццаць чалавек. Усе акружылі маладога, значна старэйшага за астатніх мужчыну гадоў трыццаці з хвосцікам, які штосьці смешнае расказваў, бо з гурту час ад часу выбухаў дружны рогат.

— То ж Васіль Быкаў з Гродна, — з захапленнем сказаў Рыгор. — Я чытаў яго апавяданне ў часопісе. Во гэта глыба! Няўжо і ён з намі будзе на семінары?

Яны далучыліся да астатніх, пачалі ўважліва слухаць, што расказваў гэты чалавек. А ён… травіў анекдоты, адзін смяшнейшы за другі. На ганак выйшаў Пятрусь Броўка, з-пад шкельцаў акуляраў зірнуў на моладзь і, звяртаючыся ўжо да Быкава, сказаў:

— Ты, Васіль, насмяшыў, дык насмяшыў. Нават наверсе ўсё чутна было. Вядзі ўсю гвардыю сюды, у памяшканне. А то замерзнеце. Аўтобус, пазванілі, пададуць недзе праз паўгадзіны. К абеду акурат паспеем.

Дом творчасці размяшчаўся ў яловым бары, дзе, казалі, любіў бываць Якуб Колас, збіраў там грыбы.

— Можа, і дзядзька Якуб будзе нашым настаўнікам? — выказаў меркаванне Вадзім, ідучы па дарожцы да галоўнага корпуса. — Вось было б здорава!

— Кажуць, ён цяжка хварэе і ляжыць у бальніцы, — адказаў Рыгор. — Што ты хочаш, семдзесят чатыры гады чалавеку. Добра што вясной пашэнціла яго пабачыць, сфатаграфавацца разам. Ты бачыў у літаратурнай газеце здымак з ім?

— Не-а, — Вадзім хітнуў галавой. — А калі гэта было?

— Калі ты ляжаў у бальніцы. Я купіў адзін экземпляр газеты і для цябе, але дзе запраторыў, не ведаю. Пакажу сваю, калі захапіў з сабою.

Ім выдзелілі домік на двух, назвалі нумар, далі ключы.

— Размяшчайцеся і праз паўгадзіны прыходзьце ў сталоўку, — сказаў дырэктар Дома творчасці.

Адшукалі зялёны домік між кашлатых ялін, густа зацярушаных снегам. Цішыня стаяла такая, што ажно ўвушшу звінела.

— Няўжо такія райскія куточкі ёсць? — захапляўся Вадзім. — Гэта ж пажыць колькі тыдняў на ўсім гатовым, то можна цалюткую кнігу напісаць.

— Ну вось і пішы, не спі ў шапку, — Рыгор адамкнуў дзверы, першы ступіў у прыцемак прыхожай. На іх дыхнула цяплом добра напаленай грубкі. У прасторным пакоі стаялі два драўляныя ложкі, акуратна засцеленыя, з дзвюма ўзбітымі падушкамі ў галовах. Стол з графінам халоднай вады, чатыры крэслы, шафа для адзення, дзве тумбачкі. Уся гэтая мэбля была адмысловай работы, зіхацела лакам.

— Н-да, — сказаў Рыгор, ацэньваючы абстаноўку. — Добра тым, хто мае сюды доступ, жывецца.

Распакаваўшыся, хлопцы пагоцкаліся на мяккіх ложках і пачалі збірацца на абед. Сталоўку знайшлі хутка, бо туды ўжо кіраваліся многія.

— Калі будуць так карміць, як і пасялілі, то вернемся на лекцыі такімі раздабрэлымі. Здзівяцца ўсе, дзе так ад’еліся. Люся цябе не пазнае. А табе пасля хваробы і трэба ражку адкарміць.

— І табе не шкодзіць, — азваўся Вадзім. — Таксама сохнеш па сваёй чарняўцы. Зрэшты, забыўся, як яе светласць велічаюць.

— Паліна, — адказаў Рыгор. — Паліна Сарокіна. Неяк затрымаў яе на перапынку, папытаў пра жыццё-быццё, яна зардзелася, адвяла вочы ўбок, быццам вінячыся ў чым. А тут мяне чорт пацягнуў зноў са сваімі сцішкамі. Пачытаў ёй:

Ад сарокі-белабокі
На усіх сыходзяць токі,
Водзіць проста у бакі
Ад мілосцяў ад такіх.

О, лепш бы мне рот чым заляпілі. Гэта ж толькі пачаў наладжваць масты, ужо і спатканне хацеў прызначыць, а тут сваім вершаплёцтвам зусім збянтэжыў. Назвала дурнем і пабегла.

— Далікатная дзяўчына. Будзь надалей абачлівы з ёй. А не пытаўся, як марак яе?

— Пытаўся. Хмыкнула толькі і адвярнулася. Відаць, такая ў яго і любоў была.

— Нічога, прыедзеш і ўсё наладзіцца. Ты ёй сур’ёзны верш напішы. А то ўсё хіханькі ды хаханькі.

— Ёсць, ёсць у мяне такі верш. Ды не адзін. Пасля пачытаю.

У сталоўцы іх пасадзілі ля акна. Два месцы за сталом пакуль што заставаліся вольныя. Зайшоў Васіль Быкаў, павадзіў вачыма па зале і спыніў позірк на іхнім стале.

— Вось бы да нас яго, — шапнуў Рыгор. — Не засумавалі б. Ён прайшоў такую школу жыцця, ваенных дарог, што мы, малакасосы, заслухаліся б яго аповедамі.

Быкаў і сапраўды накіраваўся да іх, сеў леваруч ад Вадзіма. Перш-наперш падаў кожнаму руку, моцна паціснуў, назваў сябе.

— Хто ж вас не ведае, Васіль Уладзіміравіч, — сказаў Рыгор. — Чытаў вашу кароткую біяграфію, вашы апавяданні. Куды ўжо нам, маладняку, да вашай глыбіні, да вашага майстэрства. Мы нізка пакуль яшчэ лётаем.

— Ну-ну, не трэба, — асадзіў Быкаў. — Не трэба, не люблю, па-руску кажучы, самоуничижения. Усе мы тут роўныя. Прыехалі, во, вучыцца ў старэйшых і адзін у аднаго.

Прынеслі першае — салянку з кавалачкамі каўбасы, скрылікамі лімона, маслінамі, якія хлопцы бачылі ўпершыню, толькі здагадваліся, што ёсць такія. І ўсё гэта плавала ў апетытнай жыжцы, палітай смятанай.

— Ну, то, хлопцы, паднаціснем. Не кожны дзень такое смакоцце перападае. Зрэшты, вы мяне загаварылі, а самі не назваліся, — Быкаў павініўся за сваю прамашку. — Ваша фота, — яшчэ раз угледзеўся ў Рыгораў твар, — здаецца, бачыў у часопісе. Ага, успомніў, вы — Рыгор Сініца?

— Ён самы, — сціпла адказаў Рыгор.

— Во, бачыце, а пра сябе ні слова, — Васіль Быкаў зноў паціснуў Рыгору руку. — Таленавітыя вершы. Думаў расшукаць вас і сказаць колькі добрых слоў. А тут сам Бог паспрыяў нам такой сустрэчы. Ну, а вы хто? — звярнуўся да Вадзіма.

— Я толькі яшчэ вучуся, — сціпла адказаў хлопец. — За плячыма ў мяне ўсяго некалькі апавяданняў і гумарэсак.

— Хай не сціплічае, — умяшаўся Рыгор. — Вот тут будуць разбіраць кожнага, і скажуць пра яго прозу. Зараз ён новае вялікае апавяданне закончыў. Ён Гурко, Вадзім Гурко.

— О, дык я чытаў у гумарыстычным часопісе вашыя рэчы. Вось і нядаўна была гумарэска. Здаецца, «Певень падвёў». Я не памыляюся?

— Яна самая, — за Вадзіма адказаў сябрук.

Падалі другое — катлеты па-кіеўску з грыбной падліўкай, ад якой ішоў такі смачны пах, што можна было ачмурэць.

— Ну, хлопцы, пры такой ядзе не шкодзіла б і па кілішку ўзяць, — усміхнуўся Быкаў. — У мяне тут у партфелі тое-сёе ёсць. Нават і дзве шклянкі захапіў. Трэба расстарацца і трэцюю. Ціхенька разальём і перад кампотам вып’ем. Як, га?

Вадзім прамаўчаў, а Рыгор падахвоціўся схадзіць на кухню папрасіць шклянку. Быкаў, хаваючыся ад іншых, неўпрыкмет пад сталом адкаркаваў пляшку белай, наліў амаль поўныя дзве шклянкі, а Вадзіму, па яго просьбе, менш, чым палову.

— Ну, то за знаёмства. І «не той паэт, хто піша вершы, а той паэт, хто вып’е першы». Пад смех хлопцаў ён кульнуў усё да донца. Рыгор, па яго прыкладзе, таксама асушыў свой посуд. Вадзіму піць не хацелася, тым больш гарэлку, але, каб не аказацца белай варонай, усё ж змусіў сябе глынуць гэтую пякучку. Адчувалася, што і за іншымі сталамі прычасціліся, бо спачатку ціхая сталоўка напоўнілася вясёлым гоманам і смехам.

Катлеты былі адмысловыя, не тое што на фабрыцы-кухні, куды студэнты, у тым ліку Вадзім з Рыгорам, час ад часу бегалі, калі дазвалялі грошы. Гэтыя былі пульхныя, сакаўныя, па-сапраўднаму мясныя, з цыбулькай і яшчэ якойсьці прыправай.

Перад кампотам абвясцілі, што збор у семнаццаць у вялікай зале галоўнага корпуса.

— О, то можна яшчэ радкоў колькі напісаць. — Васіль Уладзіміравіч пажадаў хлопцам удачы і першы пайшоў апранацца.

— Нам здорава пашэнціла сустрэцца з такім чалавекам, — сказаў Рыгор. — Пасля як-небудзь папросім, каб больш расказаў пра сябе. Як ваяваў, якія ўзнагароды мае, над чым новым працуе.

Яны не пайшлі да сябе, а вырашылі агледзець усе будынкі на тэрыторыі Дома творчасці. Ад галоўнага корпуса ў розныя напрамкі вялі дбайна расчышчаныя ад снегу дарожкі, па абодва бакі ад іх у маўклівай задуменнасці драмалі абцяжараныя снегам пракаветныя яліны. На адну з дарожак адкульсьці выпырхнула вавёрка, і хлопцы як укопаныя спыніліся, прыселі на кукішкі.

— А ты, мая слаўная, — Вадзім працягнуў уперад руку, пацмокаў, заманьваючы да сябе звярка. Вавёрка, на дзіва, не спалохалася, скокнула наперад і ўселася бязважкім сваім цельцам на далоні.

— Няма ў мяне арэшкаў, мая ты харошая. Ведаў бы, то прыстараўся б.

Рыгор пакорпаўся ў кішэнях і дастаў адтуль некалькі гарбузовых семак, працягнуў рыжай госці. Адкуль ні вазьміся, прыскакала яшчэ адна, першая ўхапіла семку і тут жа пачала церабіць яе. Ласунак, відаць, не спадабаўся, бо абедзве, як бы хмыкнуўшы: маўляў, што вы нам падсоўваеце, скокнулі ў пульхны снег і, дурэючы, па камлі яліны сіганулі ўверх.

— Добра ім тут, — сказаў Рыгор, — шышак, а ў іх семак, хоць адбаўляй. Але дзе прыстарацца б арэшкаў?

Удалечыні адной з дарожак яе перасек бяляк, пакінуўшы ў снезе, куды яны наблізіліся, глыбокі след.

— О-го, тут жыўнасці хоць адбаўляй, — прыйшоў у захапленне Рыгор. — Край непалоханых звяроў і птушак. Не здзіўлюся, калі і лось нам перагародзіць дарогу. Ідылія для мастака. Умеў бы маляваць, во карціна была б.

— А многія пісьменнікі і малююць, самі афармляюць свае кніжкі. Карацей кажучы, і швец, і жнец, і на дудзе ігрэц. Мне б так.

Нахадзіўшыся, налюбаваўшыся прыродай, яны вярнуліся ў свой домік. Да прызначанага часу заставалася яшчэ гадзіны паўтары, і яны, распрануўшыся, вырашылі, каб была свяжэйшай галава, трохі падрамаць, хоць ніколі днём гэтага не рабілі.

— Не праспаць бы, — соладка пазяхнуў Рыгор. — Я ўжо як засну, то і з гарматы не пабудзіш. Толькі спадзяванка на цябе, дружа. Ты амаль не піў, адно прыгубіў, так што пакараўуль, пакуль я дрыхнуць буду. Напішы і ты колькі нятленных радкоў. Чалавецтва цябе не забудзе.

— Пацвельваешся, лайдак. Так і быць, дрыхні, але толькі калі пачую храп, то ў рот усуну кляп.

— Табе б катам працаваць, — агрызнуўся Рыгор і ўлёгся ў мяккі ложак.

У галоўны корпус яны прыйшлі ці не першыя, бо на вешалцы не было ні адной апраткі. Падняліся на другі паверх і там убачылі Васіля Уладзіміравіча. Той, кіўнуўшы ім галавой, працягваў размаўляць з прафесарам Гутаравым, на лекцыі якога марыў трапіць кожны. Хлопцы, каб не перашкаджаць і не мазоліць вочы, выйшлі ў хол, прысланіліся да падаконніка. Пачалі сцякацца і іншыя ўдзельнікі семінара. Універсітэцкіх Вадзім налічыў пяць чалавек. Астатнія былі незнаёмыя. Прыехалі з Мінска некалькі салідных пісьменнікаў, сярод якіх Вадзім пазнаў вядомага гумарыста і байкапісца Уладзіміра Корбана, паэтаў Пімена Панчанку і Анатоля Астрэйку, празаіка Макара Паслядовіча. Яны ручкаліся з кожным, хто сустракаў іх, пыталіся прозвішча і жанр, у якім працуе, дружалюбна паляпвалі па плячы. Першы пачаў Іван Васільевіч Гутараў. Гэтага чалавека можна было б слухаць і слухаць гадзінамі, і не надакучыла б. Ён меў фенаменальную памяць, якая выручала яго ў самых нечаканых выпадках. Расказвалі са смехам, як Гутараў лоўка абводзіў вакол пальца самых заўзятых бюракратаў. Не маючы моцы пісаць канспекты сваіх лекцый, ён, калі нечакана заходзілі ў аўдыторыю правяральшчыкі, клаў перад сабою падрыхтаваныя загадзя якіясь спісаныя лісткі і быццам цытаваў класікаў марксізму-ленінізму, чытаў вытрымкі з таго ці іншага твора славутых рускіх і замежных пісьменнікаў. Калі праверка канчалася, ён са смехам адсоўваў паперкі ўбок і працягваў лекцыю, здзіўляючы сваёй эрудыцыяй.

Зараз Іван Васільевіч быў сур’ёзны. Сказаў, што ранкам наведаў у бальніцы Якуба Коласа і той папрасіў перадаць ад свайго імя гарачае віншаванне маладой змене літаратараў. Усе дружна запляскалі, папрасілі расказаць пра здароўе народнага песняра.

— Слабаваты, але вычухаецца. Марыць к канцу семінара пад’ехаць да вас, каб пагутарыць і сфатаграфавацца на памяць.

Гулам адабрэння і радасці сустрэлі словы прафесара.

Пімен Емяльянавіч падзяліўся ўражаннямі ад нядаўняй паездкі ў Швецыю з усесаюзнай дэлегацыяй пісьменнікаў. Калі ён называў некаторыя лічбы, усе ахалі ды охалі. Але, заключыў паэт, у гасцях добра, а дома лепш.

«И дым Отечества нам сладок и приятен», — пад смяшок прадэкламаваў нехта вядомыя радкі.

— Чаго-чаго, а дыму ў нас хапае, — шапнуў Вадзім, але яго пачулі і таксама засмяяліся.

Пачалася сур’ёзная разборка твораў. Кожнаму быў прызначаны яго дзень. Вырашылі збірацца ў гэткі ж час, калі людзі паабедаюць, хто захоча адпачне. Ну, а ранак дадзены для творчай працы.

Да Вадзіма падышоў Макар Паслядовіч і папрасіў у яго новыя і надрукаваныя ўжо творы. Хлопец адкрыў кардонную папку, паказаў усё яе змесціва: тры гумарыстычныя часопісы, выразку з апавяданнем у сельскагаспадарчай газеце, два маладзёжныя часопісы, дзе значылася яго імя.

— Вершы таксама друкаваліся, але я закінуў паэзію, таму не хацеў бы паказваць.

— Чаму ж, — падахвоціў Макар Трафімавіч. — Я паспрабую разабрацца. А што зараз напісаў ці пішаш?

Вадзім зніякавеў:

— Скончыў нядаўна апавяданне, але яно ў мяне ад рукі. Не меў часу даць каму перадрукаваць на машынцы.

— То хай будзе і ад рукі. Почырк жа, можа, у цябе не прафесарскі. А калі не разбяруся, то ў Саюзе пісьменнікаў дам машыністцы, яна любы тэкст рукапісны чытае. Заадно табе экземпляр будзе.

На сёння яны былі вольныя. Пасля вячэры абяцалі паказаць кіно «Чапаеў», і хлопцы вырашылі, што гэтую карціну паглядзець варта. Рыгор пахваліўся, што сам Панчанка падрадзіўся разгледзець яго вершы. Вячэралі без Быкава. Яго, сказаў хтось, некуды павёз Іван Гутараў. Затое чацвёртае месца за сталом заняў малады, вёрткі і вельмі гаваркі хлопец з доўгімі, як у папа, валасамі. Назваўся Барысам Пякарскім. Родам з-пад Баранавіч. Працуе ў раённай бібліятэцы. Спазніўся, бо на паўдарозе зламаўся аўтобус, а пакуль далі іншы, пакуль знайшоў будынак Саюза пісьменнікаў, пакуль растлумачылі, як дабірацца сюды, то і дзень мінуў.

— Спачуваю, — сказаў Рыгор. — Добра тое, што добра канчаецца.

Валасацік, відаць, моцна прагаладаўся, бо папрасіў яшчэ адзін біфштэкс са смажанай бульбай і дзве шклянкі чаю. Пакуль хлопцы дапівалі свой, ён выняў з-за пазухі пінжака скрутак і паказаў публікацыі ў раённым і абласным друку. Гэта былі невялікія навелы, а адно і апавяданне ледзьве на на ўсю старонку.

— Цяпер аповесць пішу, — пахваліўся Пякарскі. — Пра дбайнага гаспадара, старшыню калгаса, які даў людзям годнае жыццё. Думаю, калі скончу, у маладзёжны ці які іншы часопіс завезці.

Ён яшчэ гаварыў бы і гаварыў, але Рыгор перапыніў яго пытаннем:

— А колькі ж зарабляюць тыя, каму так пашэнціла годна жыць?

Валасацік трохі збянтэжыўся, але адказаў з выклікам:

— Пытанне з падтэкстам. Але скажу сумленна: грошай калгаснікі атрымалі на працадзень мізэр, затое зерня далі на працадзень па цэламу кілаграму. А гэта ўжо валюта, ды яшчэ якая. Заробленае жытцо ды свая з агародаў бульба, там буракі, рэдзька — жыві і не тужы.

— Нам трохі рэдзькі захапіў бы, — пасмейваўся Рыгор. — Як нахрумсталіся б, ноччу домік узарваўся б!

— Смейцеся, смейцеся, а людзі ўга як давольныя.

Перад кіно хлопцы вырашылі трохі яшчэ прагуляцца. Ні ў аднаго, ні ў другога не выходзіў з галавы новы напарнік.

— Ці ён дурань апошні, ці проста ачмураны прапагандай чалавек, — сказаў Вадзім. — Сумняваюся, каб што людскае ён напісаў. Хаця паглядзім. Бываюць такія прасцячкі, наіўныя, але таленавітыя.

І на другі, і на трэці дзень чарга не дайшла ні да Рыгора, ні да Вадзіма. Разглядалі найперш тых, што прыехалі з раённых цэнтраў. Хлопцы, не маючы лішніх экземпляраў, невялікія творы чыталі ўслых, час ад часу зіркалі на прысутных, прыкідваючы, як тыя рэагуюць на тое ці іншае наватарскае слова, на нечаканы эпізод ці развязку дзеяння. Гэта што тычылася прозы. Але празаікаў было, уключаючы Вадзіма і Пякарскага, толькі сем чалавек. Астат-

нія — паэты. Па кожным з іх у канцы калектыўнага меркавання выступаў афіцыйны кансультант, прызначаны кіраўніцтвам Саюза пісьменнікаў. Той, бывала, асаджваў таго, хто пераходзіў межы прыстойнасці ў крытыцы, прасіў быць абыходлівымі ў дачыненні да творцаў, якія жывуць у глыбінцы і варацца ва ўласным соку. Мала-памалу абмеркаванне набыло больш канструктыўны, а то і сяброўскі характар. Барыса Пякарскага разглядалі на трэці дзень пасяджэння. Ён, таксама не маючы лішніх экземпляраў, папрасіў дазволу прачытаць услых усё апавяданне, якое было ў абласной газеце і, дзіва дзіўнае, з першага да апошняга радка ніхто ў зале не варухнуўся, не кашлянуў, не кінуў ніякай рэплікі. Апавяданне было пра хлопчыка, які, адбіўшыся ад дарослых, заблудзіўся ў тайзе і семнаццаць дзён ішоў куды вочы глядзяць, толькі б напаткаць жывую душу ці якое жытло. Яго шукалі днём і ноччу, бацькі звярталіся не толькі ў міліцыю, але і да ваенных, і тыя пасылалі верталёт, які гадзінамі кружыў над зялёным морам, пасля, зачапіўшыся ў тумане за верхавіну магутнага кедра, упаў і разбіўся.

Хлопчык, змарнелы і абяссілены да крайнасці, натрапіў на рэшткі гэтага верталёта. Ён не ўзарваўся, ляжаў глыбай на баку з расчыненай насцеж кабінай. Далей распавядалася, як хлопчык ратаваў акрываўленага пілота і як ужо разам шукалі людзей. Апавяданне канчалася трагічнай нотай: пілот, згубіўшы многа крыві, памёр ужо бліз горада, калі да крайніх дамоў заставаліся лічаныя метры.

Пякарскі скончыў і сеў, чакаючы рэакцыі прысутных, а рэакцыя была амаль адназначная: апавяданне і па змесце, і па мастацкай тканіне вартае таго, каб гаварыць пра яго аўтара як бясспрэчна вельмі здольнага чалавека. Кансультант таксама павіншаваў Пякарскага з відавочнай удачай.

За вячэрай Быкаў, які пры абмеркаванні адмоўчваўся, папытаў у аўтара, ці былі ў яго яшчэ якія творы, каб вечарам пачытаць. Той паабяцаў прынесці раніцай, як збяруцца на сняданак.

Па дарозе ў свой домік Рыгор раптам спыніўся, азадачаны нейкім рашэннем. Пасля, калі ўжо клаліся спаць, сказаў:

— Пабудзі мяне чым найраней. Ёсць справа.

— Што, прычашчацца пойдзеш, ці за музу возьмешся? Выспаўся б лепей.

— На снеданне і на абед не чакайце, — сказаў Рыгор. — Паеду вавёркам па арэхі.

Сініцы, калі Вадзім прачнуўся, ужо не было. Хлопец ламаў галаву, што за ідэя ўзбрыла яму ў галаву, каб ні свет ні зара імчацца на дарогу, галасаваць машынам, каб падвезлі да сталіцы. І гэта дзеля арэхаў? Мала верылася, што Рыгор адмовіцца ад магчымасці лішнія гадзіну-дзве падрыхнуць, ахвяраваць сняданкам і абедам, траціць грошы на транспарт і ўсё дзеля той пакупкі. Не, тут нешта не тое…

Рыгор усё ж з'явіўся к абеду, нейкі таямніча-загадкавы, вясёлы.

— Ці не на спатканне са сваёй краляй ездзіў, — з'яхіднічаў Вадзім. — Ужо мог бы звечара сказаць. А то ламі тут галаву, што цябе ўзбурыла. Быкаў сказаў, што сёння цябе будуць чыхвосціць. Вось была б карцінка, каб своечасова не прыехаў. Панчанка тут, усе семінарысты на месцы, а аўтар, спалохаўшыся, даў драпака. Вось смяхоцце было б.

— Будзе смяхоцце, будзе, — загадкава адказаў Рыгор. — Не падганяй коней, яны і так узмыленыя.

Пасля абеду Рыгор гартаў якуюсь кнігу. Калі Вадзім пацікавіўся, што чытае, той хуценька схаваў кнігу ў папку, сказаў, што яна сакрэтная і недатыкальная.

Разбор творчасці Рыгора Сініцы, як і меркавалася, пачаўся з кароткага слова Пімена Панчанкі. Той не стаў многа мудрыць, сказаў, што за гэтым аўта-

рам сочыць даўно, што яго творы — гэта згустак добрага ўмельства, вясёлага народнага гумару, удалага спалучэння формы і зместу. Параіў аўтару пісаць больш, не распыляцца на дробязі, вывучаць жыццё людзей ва ўсіх яго добрых і дрэнных праявах. Семінарысты таксама, хто раней ведаў Сініцу па публікацыях, давалі свае ацэнкі, рабілі дробныя заўвагі па мове, якая вельмі часам адрознівалася ад кніжнай. Васіль Быкаў не сцярпеў, сказаў, што пісаць па-кніжнаму кожны дурань зможа, а вось знайсці залацінкі ў народнай мове ды падаць так, каб яны зайгралі, заіскрыліся, — на гэта трэба мець адменны талент.

Вадзім нагадаў, як і з кім жыў Рыгор, што яго бабуля — скарбніца народнай дабрыні і мудрасці, і яна з маленства прывівала хлопцу любоў да ўсяго жывога на зямлі, да прыроды, казкамі, песнямі гартавала яго чуйную душу.

— Ну ты і гаварун, — хіхікнуў Рыгор, за ім хіхікнулі і іншыя. Але Панчанка ўзмахам рукі супакоіў залу, сказаў, што сам хацеў у заключэнне нагадаць пра бабулю, а таксама пра нявінных бацькоў яго, якія загінулі дзесь у лагерах.

Вадзім расчырванеўся і кіўком галавы падзякаваў Пімену Панчанку за падтрымку.

Барыс Пякарскі таксама папрасіў слова. Гэты доўга і занудліва плёў пра сацыялістычны рэалізм, пра тое, што трэба быць бліжэй да зямлі, а не сягаць у завоблачнай высі. Зыходзячы з гэтай пазіцыі, у вершах Рыгора Сініцы не стае праўды пра сённяшнюю нашу рэчаіснасць. А яна — выдатная, насычаная перамогамі на ўсіх франтах камуністычнай будоўлі. Чаму б аўтару, які, кажуць, быў на цаліне, не напісаць пра энтузіязм людзей, якія здолелі вырасціць такі ўраджай і ўдосталь накарміць наш многанацыянальны народ. Альбо ў часе канікул не паехаць на будоўлю камунізму, у тую ж Сібір, дзе ўзводзяцца такія магутныя электрастанцыі, якія гнілому Захаду не па кішэні і не па сілах.

Ён яшчэ, адчуваецца, доўга гаварыў бы, ды Пімен Емяльянавіч сказаў, што яму хутка трэба ехаць у Мінск і ён хацеў бы, каб Рыгор пачытаў штонебудзь з новага, напісанага гэтай восенню і яшчэ неапублікаванага. Усе заапладзіравалі, а Пякарскі, думаючы, што дзякуюць яму за яго выступ, пакланіўся, узмахнуў чупрынай і сеў.

Рыгор падняўся ўзбуджаны, падзякаваў усім за добрыя словы, сказаў, што зараз пачытае верш, напісаны сёння ж.

— Пакуль першыя радкі, астатнія пасля таго, як чалавек, які пазнае сябе, пакіне гэту залу, — сказаў усмешліва Сініца.

Усе зашумелі ў чаканні нейкай сенсацыі. А Рыгор выняў лісток, складзены папалам, прачытаў:

Слоў добрых ведаю даволі,
Ды пераходжу я на мат,
Калі ў сяброўскім нашым коле
Чысцюткі бачу плагіят.

— Што ён сабе дазваляе? — віскнуў Пякарскі. — Не інакш з галавой нешта.

Рыгор не зрэагаваў, а выняў з папкі нятоўстую кніжку, разгорнутую са старонкай апавядання Пякарскага, падышоў да Пімена Емяльянавіча.

— Паглядзіце, — папрасіў яго, — і параўнайце два тэксты. Ні аднаго слоўка гэты так званы наш празаік, аматар сацрэалізму, не змяніў. Хоць бы дзеля смеху. Сёння гэтую кніжку, якую выпусціла Пермскае кніжнае выдавецтва, ледзьве адшукалі ў нашай «Ленінцы». Яна неяк трапіла мне на вочы яшчэ ў мінулым годзе. Памятаю, зачытаўся і гэтым, і іншымі апавяданнямі сібірскага калегі.

Барыс Пякарскі, пакуль Вадзім паказваў навінку, вопрамець сігануў у хол, адтуль па лесвіцы да вешалкі з верхняй апраткай. Дворнічыха пытала пасля, ці не няшчасце якое надарылася дома ў чалавека, што гэтак, ухапіўшы саквояж, з усіх ног бег да шашы.

Тая вячэра была наўздзіў вясёлая. Цытавалі Рыгоравы радкі, ціснулі яму руку. Цяпер Вадзім чакаў і сваёй чаргі. Ён ведаў, што Паслядовіч прынцыповы чалавек, цудоўны празаік, словы якога многа для яго значаць. Раскрытыкуе, то варта будзе падумаць, працягваць далей пэцкаць паперу, ці пашукаць сябе ў іншым якім жанры, скажам, публіцыстыцы, крытыцы. Але тое, што ён ужо не зможа без творчасці, што пазбаў яго гэтай радасці прачынацца штодзень і думаць, як сядзе за стол, напіша новыя радкі, — без гэтага жыццё яго паблякне, не будзе напоўнена глыбокім сэнсам. Не, наперакор усяму, ён будзе, будзе пісаць. Хай на першым часе і спасцігнуць яго няўдачы.

— Не дрыжы, як авечы хвост, — адчуўшы яго стан, сказаў Рыгор, калі а прызначанай гадзіне яны ішлі на семінар. — Ніхто не дасць цябе ў крыўду. Паслядовіч не той чалавек, каб некага ўтаптаць у гразь.

— Не ад аднаго яго залежыць. Хлопцы нашы зубастыя, асабліва універсітэцкія. Падвядуць да таго, што ты нікчэмнасць, пустое месца ў літаратуры. На гэтым фоне сябе паднімуць.

— Яшчэ раз табе сказаў: не дрыжы.

Рыгор як у ваду глядзеў. І Макар Трафімавіч, і іншыя выступоўцы, якім давялося пазнаёміцца з творамі Гурко, гаварылі пра іх добразычліва. Не вельмі хвалілі, але адзначылі добрую народную мову, уменне стварыць інтрыгу ў гумарэсках, а ў апавяданнях досыць глыбокае псіхалагічнае абгрунтаванне паводзін герояў.

— Думаю, — падсумаваў гаворку Паслядовіч, — гэты хлопец скажа яшчэ сваё важкае слова ў літаратуры.

Калі ішлі дадому, Рыгор паляпаў Гурко па плячы, папытаў:

— Ну, што? Штаны мяняць не трэба? Казаў жа, што ўсё пройдзе найлепшым чынам.

Іх нагнаў Васіль Уладзіміравіч, запрасіў да сябе на кубак кавы. Хлопцы з радасцю згадзіліся.

— Толькі, можа, пасля вячэры, — выказаў пажаданне Рыгор. — Бо праз паўгадзіны трэба будзе ісці ў сталоўку.

— Дык я і меў на ўвазе, што пасля вячэры. Хто ж на галодны страўнік будзе весці інтэлектуальныя размовы, — засмяяўся Быкаў. — Я пасяліўся ў галоўным корпусе, пакой нумар тры. Так што пасля вячэры адразу да мяне.

У сябе Рыгор пакорпаўся ў сваім саквяжы і выняў з яго бутэльку армянскага каньяку.

— Калі ты яго прыдбаў? — здзівіўся Вадзім. — Тут жа побліз, здэцца, няма магазіна.

— А ты думаеш, у Мінску, калі ездзіў, я губляў час толькі на росшук кніжкі пермскага пісьменніка? Дык у мяне на ўме ўжо тады саспела думка запрасіць да сябе Быкава, бліжэй з ім пазнаёміцца. Скончыцца семінар, ён з’едзе ў сваё Гродна, а тады калі яшчэ надарыцца нагода пасядзець з ім, паразмаўляць. Фарштэйн?

— Фарштэйн, фарштэйн. Толькі не фарштэйн, чаму ты такі скрытны. Во апантаны хутаранец! — Вадзім схапіўся барукацца, але Рыгор хутка кінуў яго на ложак.

— Слабак ты яшчэ, каб са мной дужацца, фарштэйн? — сказаў, смеючыся. — Ад’ядайся тут, бо не хутка такая лахва трапіць.

На вячэру Васіль Уладзіміравіч прыйшоў з невялікім спазненнем, папрасіў прабачэння. Сказаў, што заседзеўся за сталом, дапісваючы адну сцэну, і не глянуў на гадзіннік, хоць паклаў перад носам.

Афіцыянтка прынесла яму смажаніну з бараніны пад грыбным соусам, салат з салёных агуркоў, пакрышаных разам з квашанай капустай і палітых алеем. Ад чаю ўсе трое адмовіліся, сказалі, што пап'юць нанач у сябе ў пакоі.

Жытло ў Быкава было і святлейшае, на два акны, і прасторнейшае. Яно прызначалася на аднаго чалавека, не інакш як для старшыні Саюза пісьменнікаў. Хлопцы агледзелі пакой, ухвалілі.

— Заўтра, — сказаў Быкаў, — перасялюся ў іншы. Суседні. Прыязджае Броўка, а гэты пакой замацаваны за ім. Будуць Янка Брыль, Іван Гутараў, Павел Кавалёў, Мікола Ткачоў, яшчэ той-сёй з кіраўніцтва саюза. Хочуць даць развітальную вячэру. Так што не сунь носа не ў сваё проса. Будзем гудзець дапазна.

— А калі ж вас разглядаць будуць? — здзівіўся Вадзім. — Усіх разгледзелі, а вас што? Апошнім?

— Ну, не заслугоўваю, відаць, таго, каб з некім навыперадкі ісці, — усміхнуўся Васіль Уладзіміравіч.

Хлопцы абурыліся такой несправядлівасцю, але Быкаў, усміхаючыся, сказаў, што яго знарок пакінулі на закусь, і заўтра, ужо не ў семнаццаць нуль-нуль, а на гадзіну раней, папросяць на апошняе, заключнае пасяджэнне.

— Там мяне і будуць жэрці. Ведама, такія акулы прыплывуць у нашу ціхую затоку.

— Мы таксама клыкастыя, — Рыгор разявіў рот і паказаў рад белых зубоў. — Адаб'ёмся ад драпежнікаў.

Пасмяяліся. Рыгор выняў з кішэні паліто каньяк, паставіў на стол.

— Во гэта напой, — абрадаваўся Васіль Уладзіміравіч. — У мяне таксама тое-сёе ёсць. З Гродна вёз. А ў Гродна з Польшчы даставілі. Пакаштуем пшэцкай гарэлачкі. Кажуць, не горшая за наш пяршак, — ён адчыніў халадзільнік, выняў талерку парэзанай ужо хатняй варанай каўбасы, ад якой ішоў зманлівы пах кмену, яшчэ якіхсьці прыпраў, і бутлю самагонкі, на дне якой плавалі нейкія травы, чырвоны перац, рознай велічыні карэньчыкі.

— Можа, з майго «чэмергесу» пачнём? — ён зіркнуў на хлопцаў. — А запіваць таксама знойдзем чым. Ё бутэлька мінералкі.

— А што вы зараз пішаце, — пацікавіўся Вадзім. — Казалі, што над нейкім эпізодам думалі. Пра вайну што?

— Там паглядзім. Вядома, вайну я ведаю не па чутках. Сам глынуў гэтага ліха ўдосталь. І доўг мой расказаць, што сам пераржыў, што вынес. Задумаў аповесць пад умоўным пакуль назовам «Жураўліны крык».

— Цікавая назва, — сказаў Рыгор. — З журавамі звязана штось сумнае, цяжкае, пакутнае.

Выпілі «чэмергесу», ад моцы якога нават у Сініцы дых заняло.

— Во гэта напой! — аддыхаўшыся, усклікнуў ён. — Піў пяршак, але, браце ты мой, не тое. Відаць, корань ці перац далі такую моц.

Вадзім толькі прыгубіў, а вось на вараную каўбасу накінуўся, нібы і не вячэраў. Праз паўгадзіны, калі «чэмергес» быў выпіты да донца і хлопцы ўжо расчырванеліся, Рыгор адкаркаваў каньяк. Як толькі Васіль Уладзіміравіч выйшаў у туалет, Вадзім шапнуў сябру:

— А ці не замнога будзе? Яму ж заўтра здаваць экзамен.

Рыгор адмахнуўся:

— Што яму той экзамен. Ён ужо здаў яго «на выдатна». Калі маё і тваё ўпадабалі, то быкаўскае «на ўра» прымуць.

Васіль Уладзіміравіч і праўда выглядаў бадзёра, акурат выпіў кубак кавы.

— Што, хлопцы, замаркоціліся, — ён бліснуў вачыма. — Адкаркуем яшчэ адну? Зрэшты, хопіць, лепш вы, Рыгор і Вадзім, пачытайце што новенькае з напісанага. А я, каб весялей ішло, падрыхтую кіпетню і зраблю смачны напой.

— Я вам памагу, — падрадзіўся Вадзім. — А ў чым мы нагрэем вады?

Гаспадар выняў з саквяжа электракіпяцільнік, паўлітровы кубак і пачак кавы, сказаў:

— У дарозе вельмі неабходныя рэчы. Нават у вагоне, як ехаў сюды, з адным служывым пад каву вялі задушэўную гамонку. Не прыкмецілі, як і ў сталіцы апынуліся.

Аднаго кубка кіпетню хапіла на тры няпоўныя шклянкі. Быкаў не забыўся пра сваю просьбу, каб хлопцы пачыталі што-небудзь. У Вадзіма з сабой не было нічога з прозы, таму, глянуўшы на Рыгора, сказаў:

— Ён першы з універсітэцкіх будзе мець кніжку, таму і карты яму ў рукі. Хай урывак з паэмы пачытае. Ён жа ўсю ведае яе на памяць.

— Ну ты і трапло, — раззлаваўся Рыгор. — Табе па сакрэце, а ты ўсяму свету. Толькі вельмі паважаючы Васіля Уладзіміравіча, я зраблю выключэнне.

Рыгор і праўда ведаў увесь тэкст, чытаў натхнёна, з уздымам, нават жэстыкуляваў. Паэма была пра каханне да дзяўчыны, трохі прыземленай, без узнёслых парыванняў, але статнай, надзвычай прыгожай. Яна смяялася, калі хлопец гадзінамі мог расказваць пра якуюсь казюрку ў траве, пра тое, што ён чуе ў гудзе правадоў, у пошуме дрэў, лістоты. А пра зоркі і казаць няма чаго. Ён ведае ўсе сузор'і, велічыні кожнай планеты, захапляецца жнівеньскім заркападам. І вельмі засмучаецца, што яго каханая такая абыякавая да ўсяго, без чаго ён не ўяўляў свайго існавання. На гэтай глебе ў іх атрымаўся разлад і поўны разрыў адносін, ад чаго хлопец вельмі пакутаваў.

Рыгор скончыў чытаць і галантна раскланяўся.

— А дзе ж воплескі, кіданне шапак угору? Я што, так сабе стараўся?

Васіль Уладзіміравіч, вельмі расчулены, падышоў да Рыгора, моцна пацiснуў яму руку.

— Я ведаў, што вы цудоўны паэт, што ў вашых радках шмат гумару, гэтых іскрынак-залацінак народнай мудрасці, але гэта нешта новае ў вашай творчасці. Так можа пісаць той, хто перажыў падобнае. Скажыце па-шчырасці, у вас была ці ёсць такая асоба? Мне, нашмат за вас старэйшаму, можна даверыць такія-сякія сакрэты.

Вадзім глянуў на сябра: скажа ці не пра сваю чарняўку? Рыгор адвёў вочы ўбок, прапанаваў за такі ўдалы вечар усё ж паспрабаваць яго напою. Васіль Уладзіміравіч заўпарціўся:

— Пакуль не скажаце, так ці не, не падніму чарку.

Рыгор змушаны быў расказаць пра сваё няўдалае каханне, падкрэсліўшы, што спадзяецца на ўзаемаразуменне.

— То во за гэта і вып'ем, — застаўся задаволены Быкаў. — Эх, каб я пабачыў гэту красуню, я б ёй задаў перцу. Такімі хлопцамі не кідаюцца.

Яны заседзеліся да поўначы. Каньяку выпіў і Вадзім, і цяпер ад лёгкага хмелю кружылася галава. Тую ноч ён спаў як забіты.



## Уладзімір МАЗГО

* * *

Гады набягаюць,
                  як хвалі,
Што згадкі
            глыбока схавалі.
А ты,
      нібы ветразь на хвалях,
Трапечаш
          у выстылых далях,
Табе дараваных
                вятрамі,
Дзе думкі святлеюць,
                      што ў храме.

### У ЧАСЕ ВЕКАПОМНЫМ

У Князеве быў князь,
А коні —
          каля Конны.
Рве згадка канавязь
У часе векапомным.

---

*__Мазго Уладзімір Мінавіч__ нарадзіўся 5 сакавіка 1959 года ў гарадскім пасёлку Зэльва Гродзенскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта (1985). Служыў у Савецкай Арміі. Працаваў у выдавецтвах «Юнацтва» і «Мастацкая літаратура», у часопісе «Вясёлка». Цяпер — намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Полымя».*

*Аўтар кніг паэзіі «Пад спеў крыніц» (1982), «Вершаліна» (1987), «Марафон» (1992), «Анёл нябесны» (2007), а таксама кніг для дзяцей «Калі спрачаюцца маланкі» (1989), «Суседзі па сусвеце» (1994), «Смехапад» (1999), «Прыгоды марахода» (2002), «Цуда-вуда» (2008), «Таямнічая планета» (2008).*

*Лаўрэат прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі ў галіне літаратуры (2005), літаратурных прэмій імя Васіля Віткі (2005), «Залаты Купідон» (2008).*

На Зэльвенскі кірмаш
Імчацца тыя коні,
А можа, —
іх міраж,
Які ты не дагоніш.

Гушчар апераzaў
Цябе,
нібыта сына,
Сцяжынай партызан
Грымотнаю часінай,

Каб ты адчуў,
наноў
Народжаны нібыта,
Што недарэмна кроў
Тут прашчураў праліта.

## СВІТАЕ СПЕЎНЫ КУТ

Бярэзнікі і хвойнікі
Світаюць пакрысе.
Вітаюць свята Хойнікі
У выспелай красе.

І Мележа, і Сачанкі
Радзіму адкрывай,
Дзе шчырай песняй матчынай
Шчыміць палескі край.

Вялікі Бор і Глінішча
Да сэрца прыхіні.
Не змог Чарнобыль вынішчыць
Душэўнай цеплыні.

Вякоў мінулых спадчына
Вяртаецца табе.
Але не вернеш Бабчына,
Застылага ў журбе.

Святлее каля Прыпяці,
Паміж палёў, лясоў.
І на душы —
Ад шчырасці
Птушыных галасоў.

Пазбаўлены гаротнага
Настрою і пакут,
Тут
Святам слова роднага
Світае спеўны кут.

* * *

Зачыняцца шчымліва дзверы,
Нібы ты нешта страціў.
Той чалавек,
Якому верыў,
Табе знянацку здрадзіў.

Твой верш —
Яшчэ не на паперы —
Маркоціцца ў паглядзе.
Той чалавек,
Якому верыў,
Табе знянацку здрадзіў.

Шчымяць нацягнутыя нервы
І сэрца,
Што ў асадзе.
Той чалавек,
Якому верыў,
Табе знянацку здрадзіў.

А ты,
Заўжды ў сваёй манеры,
Не просіш аб спагадзе.
Той чалавек,
Якому верыў,
Табе знянацку здрадзіў.

Усе адолееш бар'еры
На цёмным даляглядзе,
Бо чалавек,
Якому верыў,
Табе знянацку здрадзіў.

* * *

Ты — паўночны,
Я — паўднёвы полюс.
Паміж намі,
Нібы шар зямны,
Вар'яцее
Шумны мегаполіс,
Хворы
Ад спакусы і маны.

Часам боль
Сціскае невыносны,
Як тужэй
Зацягнем паясы,

Калі год
Наступіць высакосны,
Ну а мы —
Зямныя палюсы.

## ЛОДАЧКА

Мы з любай лілеі збіралі
На лодачцы ў светлай вадзе
І з кветак рабілі каралі,
Што болей не ўбачыш нідзе.

А потым вяночкі над лодкай
Вянчалі надзеі мае,
Была тая ночка кароткай,
Нібыта спаднічка яе.

Ад водару кветак уночы
Хмялела мая галава.
І вусны,
І плечы,
І вочы
Салодка было мілаваць.

Спявала са мною каханка
Ласкава пад плёскат вясла,
І хваляў рачных калыханка
Далёка той спеў панясла:

«Лодка,
Лодка,
Лодачка,
Ты вяслуй смялей.
Хай мая малодачка
Заплыве далей...»

## ВАРОЖЫЦЬ РАНАК НА РАМОНКУ

Варожыць ранак на рамонку,
Трапеча сонейка ў галлі.
І таямнічую гамонку
Вядуць басістыя чмялі.

Яшчэ ў лугах шчыруе лета,
Сабе збіраючы пасаг,

А ўжо асенняя прыкмета
Ў тваіх бялее валасах.

Ці заблудзіла павуцінка?
Ці ўшанавала сівізна?..
І нехта белаю хусцінкай
Махае ў небе дапазна.

## ГУКАЮ ДЗІЦЯЧЫЯ СНЫ

Гукаю дзіцячыя сны,
Што колісь на ўзлеску заснулі,
Якія абудзіць лясны
Гадзіннік ахрыплай зязюлі.

Насустрач выходзяць грыбы:
Лісічка,
Ваўнянка,
Абабак...
Так хочацца іх ад журбы
Схапіць,
Як траву,
У ахапак,

Бліжэй да сябе прытуліць —
І водар каўтаць да шаленства,
Каб радасць усмак наталіць
Свайго залатога маленства.

* * *

У далях блукаю
Сцяжынкаю роснай,
Нібыта шукаю
Мінулыя вёсны.

Далёкія вёсны
І юныя леты
У краі дзівосным
Зялёнай планеты.

Хоць блізіцца восень,
Не гасне затое
Аддаленых вёсен
Святло залатое.

## ЛІСТЫ, АПАЛЫЯ З НЯБЁС

Халодны вецер
Нам прынёс
Лісты,
Апалыя з нябёс.

Барвовы,
Сіні,
Залаты —
Лятуць
Самотныя лісты.

А ты
Сабрала з іх
Букет —
І пацяплеў адразу
Свет.

## НЯЗМЕННАЕ

Кажуць, змена вякоў.
Кажуць, змена эпох...
А ў маіх землякоў
Ёсць адзін толькі Бог.

Ёсць адзін родны край,
Што нам вечна любіць,
Бо ніколі на рай
У жыцці не змяніць.



Леанід ЛЕВАНОВІЧ

# ЧАЛАВЕЧЫ ВЕК

*З цыкла «Нявыдуманыя гісторыі»*

## КАСАЧЫ

### I

Была сярэдзіна траўня. Дзень выдаўся ветраны, халодны. Акурат зацвіла чаромха і, мусіць, як тое здараецца спрадвеку, абрынулася на квецень халадрыга.

Мы з жонкай прыехалі ў вёску Максімаўка, каб дагледзець, прыхарошыць магілкі ейных бацькоў. Звычайна на вясновага Міколу, а гэтае свята прыпадае на 22 траўня, у Максімаўцы збіраюцца людзі, прыязджае з Радашкавіч бацюшка, асвячае магілкі, правіць імшу. Таму на Радаўніцу тут бывае людзей мала, найчасцей тыя, хто не зможа наведацца на Міколу. Праўда, самыя шчырыя памінальшчыкі ходзяць да сваіх продкаў і на Радаўніцу, і на Міколу.

На маёй роднай Касцюкоўшчыне памінаюць нябожчыкаў на Радаўніцу. Вось тады з усяго былога Саюза — з Масквы, Піцера, Данецка і Калінінграда злятаюцца, як птушкі ў роднае гняздо, былыя насельнікі радыяцыйнай вёскі Клеявічы. Жывыя імкнуць у мёртвую вёску. Штогод стараюся наведаць радзіму і я, пакланіцца магілкам сваіх прашчураў.

Едучы ў Максімаўку, узялі мы патрэбны рыштунак: металічныя граблі, пластмасавае вядзерца, пластыкавыя бутэлькі вады, кветкі. Узялі букецік касачоў-ірысаў і для дзядзькі Сымона.

З Максімаўкай і суседнімі Клімантамі мой лёс зніताваны болей за сорак гадоў. У Клімантах жылі мае цесць і цешча. У мясцовым клубе ў жніўні 1965-га грымела, спявала і скакала вяселле — тагачасны карэспандэнт рэспубліканскай газеты «Знамя юности» шлюбаваўся з мясцовай настаўніцай Рагнедай. Цяпер мы, дзед і баба, прыбіралі магілкі жончыных бацькоў. Падгрэблі сухое лісце, павыдзіралі пустазелле, я прынёс жоўтага пясочку.

---

***Левановіч Леанід (Лявонаў Леанід Кірэевіч)** нарадзіўся 14 верасня 1938 года ў вёсцы Клеявічы Касцюковіцкага раёна Магілёўскай вобласці. Служыў матросам на Балтыйскім флоце. Пасля заканчэння журфака БДУ працаваў у рэспубліканскіх газетах, у часопісах «Нёман», «Полымя», на Беларускім тэлебачанні, у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Выйшлі з друку кнігі нарысаў і прозы: «Зялёны трохкутнік» (1973), «Якар надзеі» (1979), «Валанцёр свабоды» (1983), «Хлеб і мужнасць» (1987), «Вяртанне ў радыяцыю» (1997). Аўтар цыкла раманаў: «Шчыглы» (1986), «Паводка сярод зімы» (1989), «Дзікая ружа» (1993), «Сіняе лета» (2005), «Бесядзь цячэ ў акіян» (2007) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа (1998) і прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі ў галіне літаратуры (2005).*

— Ну што, пайду да дзядзькі Сымона. Аднясу яму касачы.

— Ідзі. І ад мяне пакланіся.

З дзядзькам Сымонам ні я, ні жонка ніколі не сустракаліся: яго расстралялі ў 1938-м, а я ў тым годзе нарадзіўся. Сымон Аляксандравіч і жонцы ніякая не радня. Называю яго дзядзькам з вялікай павагі.

Стаю перад вялізнымі, першародна прыгожымі валунамі. Іх тры, на сярэднім мемарыяльная дошка: «У вёсцы Максімаўка нарадзіўся і жыў палітычны і грамадскі дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, публіцыст і педагог Сымон Аляксандравіч Рак-Міхайлоўскі».

Я падыхаў на букет — касачы яшчэ не распусціліся, сіне-фіялетавыя бутоны толькі падрыхтаваліся расплюшчыць свае вочы насустрач вясне. Паклаў букет побач з сіратлівымі штучнымі кветкамі, выпетралымі, палінялымі ад сонца і ветру. Прыемна, што нечая ўдзячная рука прынесла іх сюды.

З травы, ля краю пліты-пастамента, выбіваліся зялёныя шаблі касачоў. Але бутоны іх ледзьве пазначыліся — тут халадней, мае растуць на прыгрэве, каля веранды. Яшчэ раз перачытаў тэкст, напісаны на дошцы. Міжволі прыгадалася вечарына ў музеі Янкі Купалы ў Мінску.

## II

А было так. Сядзеў увечары каля грубкі ў сваёй вясковай хаце. На дварэ марозлівы студзень. Раптам чую па радыё: заўтра ў музеі Янкі Купалы вечарына, прысвечаная 95-годдзю з дня народзінаў Аляксея Кулакоўскага. Мільгануў успамін: я ж быў некалі даверанаю асобаю Аляксея Мікалаевіча, калі ён балатаваўся ў дэпутаты. Пра гэта магу сказаць толькі я. Паездку ў Мінск планаваў пазней, але раз такая справа, трэба ехаць заўтра. Завёў будзільнік на 5.30, каб а шостай выйсці з хаты, бо аўтобус чакаць не будзе.

І вось я ў музеі. Хоць і няпрошаны госць, але слова мне далі. Спачатку цікава, змястоўна гаварылі Алесь Савіцкі, Сцяпан Лаўшук, дырэктар музея Якуба Коласа Зінаіда Камароўская — некалі Кулакоўскі прымаў яе на працу ў купалаўскі музей. Я выступаў пасля барда, вядомага, таленавітага. Ён выканаў некалькі сваіх твораў. Потым кажа:

— Звычайна я спяваю толькі свае песні. Але сёння хачу праспяваць «Зорку Венеру». Ну, ведаеце, словы Максіма Багдановіча, музыка народная. Аўтара я не знайшоў.

У мяне аж сэрца ёкнула. Як так! Ёсць аўтар!

— Прозвішча гэтага пісьменніка ў сцэнарыі не было. Але мы рады, што ён завітаў на вечарыну, — вядучы аб'явіў мой выступ.

— Пачну вось з чаго. У вёсцы Максімаўка, а гэта Маладзечанскі раён, ёсць тры валуны — мемарыяльны знак Сымону Рак-Міхайлоўскаму, выдатнаму дзеячу беларускага Адраджэння, апрача ўсяго іншага — і аўтару музыкі «Зоркі Венеры», сапраўднага шэдэўра.

Зала ад нечаканасці прыціхла, а потым грымнулі апладысменты. Бард злёгку пачырванеў, ціха сказаў, а сядзеў ён зусім блізка:

— Вялікі дзякуй! Цяпер буду ведаць.

Не, таленавіты бард, шчыры беларус, ні ў чым не вінаваты. Хіба ж часта пачуеш па радыё ці з экрана тэлебачання пра Сымона Рак-Міхайлоўскага? «Зорка Венера» зрэдчас гучыць, але ні разу я не чуў, каб назвалі аўтара музыкі. Вось і зрабілася песня народнай.

Так што, дзядзька Сымон, хай радуецца ваша душа, што «Зорка Венера» свеціць, не закацілася за небакрай. Народ беларускі жыве і памятае пра вас.

### III

Вясновы Мікола ў 2009 годзе прыпаў на пятніцу. Мясцовы святар перадаў парафіянам, што фэст адбудзецца ў нядзелю. Мы прыехалі апоўдні. На дарозе, вакол агароджы могілак, на полі стаялі сотні машын. Навакольныя вёскі апусцелі: маладыя плішчацца ў Мінск, Маладзечна, а старыя ідуць «да Пясэцкага». І тут нічога не паробіш — такія законы жыцця. Нездарма людзі кажуць: каб не мёрлі, дык бы неба падпёрлі. Выходзіць, што ў небе над Максімаўкай лунае свая, адмысловая вёска. Там і душа Сымона Рак-Міхайлоўскага.

Мае сямейнікі — жонка, дачка, зяць, унук, а таксама швагры Вадзім і Валянцін, якія прыехалі з Маладзечна, стаялі каля помніка бацькам. Надпіс на ім, як і на ўсіх іншых, быў зроблены на расійскай мове. Трохі далей, на заімшэлых камянях былі надпісы па-польску. І толькі на мемарыяльнай дошцы напісана на роднай мове. Хіба ж не крыўдна Сымону Рак-Міхайлоўскаму, які аддаў жыццё, каб жыла беларуская мова, разумець гэта?

— Ну вось што, даражэнькія, адпусціце нас з Янкам да дзядзькі Сымона.

Швагры няўцямна пераглянуліся, але хутка зразумелі, што да чаго.

З вялікім букетам касачоў і з двума ярка-пунсовымі гваздзікамі мы з унукам пайшлі цераз могілкі. Вакол высіліся самыя розныя помнікі, высокія і ўжо сучасныя нізкія агароджы, мільгалі словы на мармуры: «любим, скорбим, не забудем»…

На пляцоўцы ля выхаду сабраўся натоўп: рослы малады святар вёў службу. Вернікі сцішана паўтаралі за ім словы малітвы, хрысціліся.

І вось мы з унукам каля валуноў.

— На, Янка, пакладзі дзядзьку Сымону касачы. А я — гваздзікі.

Унук, высокі, танклявы, сучаснае тэле-камп’ютэрнае дзіця, схіліўся, асцярожна паклаў свой букет, я — гваздзікі. Пакланіліся.

Унук чытаў надпіс на дошцы.

— А калі гэтыя валуны ўсталявалі тут? — спытаў ён.

— Ды ўжо даўно. Здаецца, у 1982 годзе. Дзень той помніцца, як зараз. Светлы, сонечны. Народу сабралася поўна. Прыехалі з Мінска пісьменнікі Янка Брыль, Фёдар Янкоўскі (ён партызаніў у гэтых мясцінах), Арсень Ліс, які пісаў пра дзядзьку Сымона. З Маладзечна прыбылі апантаны гісторык Генадзь Каханоўскі, сакратар райкама партыі па ідэалогіі Вячаслаў Ляшковіч. Генадзю Каханоўскаму ўдалося ўгаварыць райкамаўца ўшанаваць памяць земляка-«нацдэма». Ляшковіч — былы партызан, шчыры беларус, не збаяўся. Так і паявіўся помнік. На дошцы ўсяго не напішаш. Рак-Міхайлоўскі быў выдатным палітычным дзеячам, членам урада Беларускай Народнай Рэспублікі. Ён быў шырока адукаваны, таленавіты чалавек. Выдатны педагог. Напісаў задачнік па арыфметыцы для пачатковых школ. Брашуру выдаў. Называлася яна «Страшны вораг: кніжка пра гарэлку». Разумеў, што гарэлка, нібы касой, косіць людзей. Ну і — аўтар музыкі «Зоркі Венеры». Нацыянальнага музычнага шэдэўра.

Расказаў Янку пра вечарыну ў купалаўскім музеі.

— Дзеда, ты шмат ведаеш пра дзядзьку Сымона. Значыць, і гэты бард мог прачытаць пра яго?

— Так, пра Сымона Рак-Міхайлоўскага ёсць у энцыклапедыях. Асабліва грунтоўны артыкул у Энцыклапедыі гісторыі Беларусі. Але гэтыя выданні маюць невялікі наклад. Гэта ў Арменіі ці ў Эстоніі, у Сербіі ці Македоніі амаль у кожнай сям’і будзе кніга пра гісторыю свайго краю. Пра слынных землякоў. А ў нас гістарычныя карані падсечаныя. Людзі не ведаюць сваіх выдатных сыноў. Вось таму і надпісы на помніках па-руску альбо па-поль-

ску. Царква і касцёл спрадвеку змагаюцца за душы беларусаў… Дарэчы, гэта новая дошка. Ранейшую здзёрлі нейкія вандалы. Мне давялося пісаць у газету «Рэспубліка». Мой допіс называўся «Зорка Венера зайшла за Максімаўкай?» Пасля гэтага ўсталявалі новую дошку.

— Дзядуля, калі б дзядзька Сымон падняўся сёння. Убачыў усё, што б ён адчуў?

— А ты як мяркуеш?

— Мяркую, што яго парадавала б мора людзей. Сотні аўто. Ён гэткіх машын не бачыў. Тады былі не машыны, а калымагі.

— Твая праўда, Янка. Але хачу табе сказаць, што навукова-тэхнічны прагрэс і прагрэс маральны, чалавечы — не супадаюць. Да прыкладу, першы самалёт — і сучасны рэактыўны лайнер. Неба і зямля. Таксама, як і першы паравоз, першы легкавік — з сучаснымі не зраўняць. А вазьмі Шэкспіра, Гётэ, Пушкіна ці Льва Талстога, Купалу ці Коласа — і сучаснага літаратара…

— Дык і тады ж большасць людзей былі цёмныя, неадукаваныя. Гэта вяршыні чалавечага духу. Можна сюды дадаць і дзядзьку Сымона.

— Слушна, Янка. Нам ёсць на каго раўняцца. Мы стаім на плячах геніяў. Тытанаў духу. А што б расчаравала дзядзьку Сымона?

— Мабыць, тое, што надпіс на роднай мове толькі на ягонай мемарыяльнай дошцы. І яшчэ тое, што людзі п'юць гарэлку на могілках.

— Так, на жаль, людзі не зрабіліся лепшымі.

### IV

Мусіць, мы ўжо доўга стаялі перад валунамі, бо падышлі ўсе нашы сямейнікі. У іх узнікла шмат пытанняў пра жыццё Сымона Рак-Міхайлоўскага, на якія мы з Янкам адказвалі ўдвух.

— У нас у Маладзечне ёсць вуліца Рак-Міхайлоўскага, — важна зазначыў швагер Вадзім. — І ў Мінску такая вуліца павінна быць.

Мы паехалі ў нашу вёску Пятрылава, каб за сталом памянуць продкаў. Звычайна Янка не п'е ні віна, ні гарэлкі. На гэты раз і ён падняў келіх. Я папрасіў яго сказаць слова.

— За нашых продкаў! За нашы карані! — выдыхнуў ён з хваляваннем.

А ў мяне ўваччу стаялі тры валуны, букет фіялетава-сініх кветак каля сярэдняга. З невысокай травы выбіваліся вострыя бутоны касачоў, якія раслі з гэтай зямлі.

І будуць яны квітнець кожную боскую вясну.

## ЧАЛАВЕЧЫ ВЕК

### I

— Маленькі мой, — праз слёзы кажа стары, масластай рукою са скрыўленымі пальцамі гладзіць блішчастую, пакрытую лакам труну, у якой маўкліва застыла грузнае цела сына.

Шыкоўную дамавіну з целам нябожчыка прывезлі з Мінска. Усю ноч стары Цімох праседзеў каля дамавіны. Ён ніяк не мог даць веры, што ягоны Алежка, саракагадовы здаравяк, які тыдзень таму прыязджаў у госці на шыкоўнай іншамарцы, вярнуўся дамоў назаўсёды ў бязвокнай хаце. А тады яны цалюткі вечар сядзелі за сталом. Выпілі паўлітэрку. Сын дастаў з багажніка другую.

— Сынок, можа, хопіць? — падала голас маці. — Ты ж з дарогі. Ляж, паспі. Табе ж заўтра ехаць. Дарога няблізкая.

— Матка, не клапаціся. Усё будзе хакей. Паеду пасля абеду. Трыста камэ на маёй машыне — тры гадзіны. Мне трэба расслабіцца. На рабоце з сямі раніцы да сямі вечара напруга. Кручуся як Марка ў пекле.

— Ета ўсё крызіс дапякае? — прысела да стала ўсохлая, старэнькая Настуля, маці.

— Анягож, ён, пракляты. Мяне ж скубуць з усіх бакоў: чаму залежы на складах? Я ж — начальнік маркетынгу. Ну, збыт прадукцыі ў маіх руках, — расчырванелы сын гаварыў і размахваў відэльцам, нібы хацеў учапіць на відэлец нябачны крызіс і тых, хто яго скубе, не дае спакою і адхлання ў жыцці.

Настуля, былы бухгалтар нафтабазы, ведала, што ад збыту прадукцыі залежыць і зарплата, і прэмія, настрой кіраўніка і падначаленых. Праўда, тады, за савецкім часам, ніякага маркетынгу не было, усё ішло сваім, планавым парадкам. Таннае паліва лілося ракою ў калгасы і саўгасы, хіба падчас пасяўной здараліся перабоі: бездарожжа не дазваляла завезці «саляру» ў аддаленыя гаспадаркі.

— У нашых заказчыкаў няма грошай. А бясплатна ці за бесцань — нельга. Падпішу дагавор са стратай — упякуць у турму. А ў мяне ж сыны-школьнікі. Падымаць трэба. Ставіць на крыло.

І маці, і бацька згодна хіталі сівымі галовамі, як дзьмухаўцы пад ветрам. Унукаў яны любілі, можа, болей, чымся самога Алежку. Маці асабліва любіла першую дачку, потым нарадзілася другая. А затым паявіўся Алежка. Малы быў крыклівы, хваравіты. А тады пайшоў у рост, у плячах раздаўся — шырэй за бацькавы.

— Праз тыдзень бяру водпуск. Прыедзем сюды. Зробім рамонт у кватэры. І не абы-які. А еўрапейскі. Крызіс крызісам, а жыць трэба па-людску. Усё будзе добра…

Настуля слухала і радавалася, што сын клапоціцца пра іх. Узгадала, як радавалася сынам, з любасцю абдымала — ёй хацелася лашчыць яго, як маленькага, калі ён прыехаў у форме курсанта-танкіста. А потым завітаў маладым прыгожым лейтэнантам. А як маці радавалася, калі сын ажаніўся з прыгожай, здаровай дзяўчынай, дачкой дырэктара школы. Як зайздросцілі суседзі: сын Цімоха-выпівохі, замурзанага бульдазерыста, афіцэрам стаў, мужам жонкі-прыгажуні.

А тады нарадзіліся хлапчукі. Алег трапіў пад скарачэнне з вайсковай службы. Пайшоў вучыцца ў інстытут народнай гаспадаркі. Скончыў бліскуча. Гэты ж інстытут закончыла і жонка Валя. Працавалі на мясцовым заводзе. Ён — эканамістам, а яна — бухгалтарам. Праз нейкі час Алега, маладога галавастага спецыяліста, запрасілі ў Мінск. Уладкавалася ў міністэрстве фінансаў і Валя.

Жыві Настуля са сваім Цімохам ды радуйся. Але радасці было мала. Муж амаль штодня выпіваў, па п’яні кідаўся на яе з кулакамі. Потым засынаў і хроп на ўсю хату. А яна да раніцы не магла заснуць.

Цімох і зараз штодня выпівае пляшку віна. І чорт яго не бярэ. Ужо семдзесят сем стукнула. А маладога, здаровага сына зваліў інсульт. Адна з прычын — дужа шчыра здымаў стрэс.

## II

Цімох і Настуля сядзелі каля дамавіны. Заходзілі людзі, неслі жалобныя вянкі з чорнымі стужкамі, на столік ставілі гарэлку, жанчыны клалі цукеркі, пячэнне...

Прыехаў з Мінска дырэктар завода. Рослы, вузкаплечы, вусаты. З ім яшчэ два чалавекі. Прывезлі прыгожы вянок.

— Бацька, што трэба памагчы? — спытаўся дырэктар у Цімоха. — За аўтобус, які даставіў… За труну. Мы за ўсё заплацім.

— Дзякуй, даражэнькія, — зноў заплакаў Цімох. З раніцы ён паспеў пахмяліцца. — Дзякуй, што не пакінулі ў бядзе. Хто ж мог падумаць? Ета ж яму трэба мяне хаваць, а не мне…

— Мы падзяляем ваша гора. Увесь калектыў завода… Алег Цімафеевіч быў выдатным спецыялістам. Патрабавальным, прынцыповым кіраўніком. Чулым да падначаленых. Добрасумленным чалавекам. Вы можаце ганарыцца…

Дырэктар выказаў спачуванне маці нябжчыка, жонцы.

— З пахаваннем праблем няма, — адказала Валя на пытанне дырэктара. — Я тут усіх ведаю, і мяне ўсе ведаюць. А ў Мінску буду прасіцца да вас на прыём…

— Патэлефануйце. Я вас адразу прыму.

Прыезджыя выйшлі на вуліцу. Пакурылі, пастаялі, развіталіся і пакацілі ў горад.

### III

Затуманенымі вачыма пазірала ўслед машыне Валянціна. Са скрухаю падумала: колькі ў яе наперадзе будзе праблем! Як адной гадаваць двух сыноў? Яна працавала рэвізорам-аўдытарам у фінансавай установе. Апошнім часам няблага зарабляла, нават болей за мужа. Гэта яго раздражняла, пасля п’янкі сварыліся. Валя іншы раз нават думала аб разводзе. Цяпер ёй гэта рабіць не трэба. Пра тое, што сыны будуць расці без бацькі, зараз не думалася. І пра сваё каханне не ўзгадвала. А выходзіла яна замуж па любові. Кавалераў было шмат, выбрала Алега, — самага прыгожага, самага здаровага, самага разумнага. І вось — фінал. Удава ў сорак гадоў.

Цімох і Настуля, правёўшы мінскіх гасцей, прыселі на лавачцы каля пад’езда. Тут сцішанай купкай стаялі мужчыны, дымілі цыгарэтамі. Пад’ехаў грузавік, зусім новы, з блішчастай блакітнай фарбаю. Вадзіцель і другі порсткі хлапец адкінулі барты, каб на машыну паставіць труну.

— Трэба ж заслаць дыванам, — распарадзіўся Цімох.

Але дыван ужо неслі і без яго каманды. Вадзіцель з памочнікам разаслалі цяжкі жоўта-карычневы дыван, прымацавалі крыж, елачкі па баках бартоў. Усхапіўся вецер, пачаў матлашыць тонкі ручнік на крыжы.

— Ой, хлопцы! Завяжыце ручнічок на вузел. А то вецер сарвець, — падала голас Настуля. Яе пажаданне вадзіцель выканаў імгненна.

### IV

Падышоў незнаёмы чалавек з кульбаю і пластыкавым пакетам.

— Каго хаваюць? Маладога ці старога? — звярнуўся да Настулі, бо яна была ў цёмнай кофце і цёмнай хустцы.

— Ой, не пытайся, чалавеча, — уздыхнула Настуля. — Сорак адзін год пражыў мой сынок.

— О, дужа рана. Яшчэ б жыць ды жыць, — са шчыраю шкадобаю мовіў незнаёмец. — Чалавечы век — сто гадоў. Самы росквіт, калі дажывеш да паўсотні. А ваш не дажыў. Што ж, у кожнага свая планіда… Ета ж пасля паўсотні праз кожныя дзесяць гадоў чалавек спускаецца на прыступку ніжэй. Як бы з жыццёвага ганку сыходзіць. Бліжэй да зямлі.

— Адкуль жа ты, чалавеча? — павярнуўся да яго Цімох. — Я тутацька ўсіх ведаю.

— Я ў райцэнтры нядаўна. Жонка памерла, дык цяперыцька ў дачкі жыву. А родам я з Брацькавіч. Аб'ездчыкам у лесе працаваў. Ужо тры гады на пенсіі. Завуць мяне Сяргей Іванавіч.

— Дык сядай, калі маеш час, — Цімох пасунуўся да Настулі.

Сяргей Іванавіч прысеў на вольнае месца, загаварыў зноў.

— У нас, у Брацькавічах, жыў стары. Яму было 95. Ён яшчэ пры сваім розуме, пры добрай памяці. Сам сябе даглядаў. У сям'і сына жыў. Дык вось, неяк запрасіў мяне ў хату. Кажа: глядзі, Сяргейка, тут усё жыццё чалавечае ў карцінках. На сцяне вісяць небальшэнькія малюнкі. У рамачках, лакам пакрытых. Вось — ён і яна. Ім па 20 гадкоў. Маладыя, прыгожыя, абдымаюцца, цалуюцца. Адным словам, гуляюць. А на етай карцінцы яму 30. Вяртаецца з палявання з трахвеем. Прыносіць дзвюх качак. А жонка стрыкае яго. З малым сынам на руках. А тут чалавеку ўжо сорак. Арэць зямлю на парцы коней. Увесь у працы. Лоб мокры, пот цурком цячэць. А тут ужо 50. Сям'я за сталом. А на стале ўсяго настаўлена. І выпіць, і закусіць. Усяго дасціг. І сіла ёсць, і дзеці выраслі. Жыві ды радуйся…

Сяргей Іванавіч перадыхнуў троху, агледзеў сваіх слухачоў. Натапырылі вушы мужчыны, што курылі ля пад'езда, вадзіцель з кабіны прыслухоўваўся. Падышоў старэйшы сын нябожчыка, высокі, танклявы, у цёмнай кашулі.

— А ета што за хлапец? — спытаўся Сяргей у Цімоха.

— Унук мой. Старэйшы сынок, — Цімох, мабыць, хацеў сказаць: нябожчыка, але страшнае гэтае слова застрала ў горле.

— Да-а, жыццё чалавечае — хітрая штуковіна. Ніхто не ведае, як яно павернецца, — Сяргей Іванавіч памацаў кульбу, якую прыладзіў каля нагі, разгладзіў пакет у чорна-белыя квадраты — пакет нагадваў кардонную шахматную дошку. — Дык той дзед паказваў карцінкі далей. Пяцьдзесят гадоў — самы росквіт жыцця. А тады ўжо пакоціцца яно пад адхон. У каго хутчэй, у каго цішэй. Як хто зможа сябе зберагчы. Як будзе жыць. Колькі рабіць, колькі піць гарэлкі, колькі есці. Калі чалавек абжора, дык уласнымі зубамі рыець сабе магілку. Ета мне ўсё той дзед казаў. А на етай, кажа, карцінцы — чалавеку 60. Унучак сядзіць на каленях. А жонка побач. Шкарпэткі з воўны вяжыць. Тут чалавек лысы, зморшчаны. З кульбай. 70 стукнула. На дзве прыступкі ўніз спусціўся. Але яшчэ крэпкі. А на етым малюнку чалавеку 80. Унук падае яму немаўлятка. Паздраўляе з новым званнем — прадзедам стаў чалавек. А тут ужо стаіць на каленях, просіць: «Божанька, прымі маю грэшную душу». Здаволіўся. Жысць ужо збрыдзела яму. Хочыць дамоў. Да сваіх дзядоў і прадзедаў. Вось такое яно, жыццё чалавечае.

— А колькі ж вам гадоў? — спыталася Настуля.

— Мне семдзесят тры. Да 70 рабіў у лесе. А тады ногі пачалі падводзіць. Пайшоў у адстаўку…

## V

Падкаціў чырвоны «жыгулёнак»-пікап. Вадзіцель адкрыў багажнік, пачаў даставаць зялёныя галінкі елкі.

— Дзядзька Цімох! Куды лапнік? На машыну ці мне яго кідаць патроху?

— Ускінь на машыну. А болей пакінь. Сам будзеш кідаць. Паедзеш ты, сынок, па зялёных галінках, — заплакаў Цімох.

Зноў загуў матор, пад'ехаў аўтобус. З яго пачалі таропка, зладжана выгружацца музы́кі. Сонца зайграла на блішчастых жоўтых трубах. Музы́каў было восем. Яны хуценька сталі насупраць пад'езда.

— Ну што, хлопцы, трэба выносіць. Пайшлі, — мажны вусаты мужчына сказаў сваім памагатым.

— Не люблю глядзець, як выносяць нагамі ўперад, — падняўся Сяргей Іванавіч. — Ета ж унучка папрасіла: «Купі, дзеда, марозіва». Дык я іду ў краму, ды во троху заседзеўся. Пакавыляю. Прыміце маё спачуванне. Тут ужо нічога не паправіш. Слязьмі не паможаш…

Стары пайшоў, злёгку накульгваючы. Шырокая, але па-старэчы сутулая спіна, нібы сведчыла: гэты чалавек яшчэ пажыве на белым свеце.

Брыгада мужчын усталявала на машыне цяжкую дамавіну. Музы́кі гралі пахавальную мелодыю.

Валянціна вынесла табурэт, паставіла каля задняга борта машыны, дапамагла ўскараскацца наверх Настулі і Цімоху. Яны селі паабапал труны.

Свяціла зыркае сонца, грымела музыка. Мала хто пачуў, як заенчыў, заплакаў Цімох, цалуючы халодныя сынавы рукі:

— Сынок, не вінаваты я! Не вінаваты… Даруй, сынок…

— Сціхні, п’янтос! — сурова сказала Настуля. — Ета не ты плачаш, а гарэлка. Цвярозым ён цябе рэдка бачыў…

Грузавік-катафалк крануўся, колы бязлітасна ўціскалі ў шэры разагрэты асфальт зялёныя галінкі лапніку.

Начальнік аддзела маркетынгу выправіўся ў апошнюю, бестэрміновую камандзіроўку.

## ПАМЯНЯЕМ ФАРАОНАЎ!

### I

Якое гэта дзіва — зорнае неба жнівеньскай ноччу! Калі Месяца няма, зоркі ззяюць на ўсю спрадвечную моц. Пазіраеш угору і міжволі згадваеш філосафа Канта, які казаў, што яго найбольш здзіўляюць дзве рэчы: зорнае неба і чалавечая душа.

Праўда, вясковаму чалавеку няма калі ў жніўні любавацца зоркамі — жніво забірае час і думкі. Гарадскі жыхар не можа ўбачыць усю веліч зорнага неба з-за высозных дамоў, бляску ліхтароў. Хіба што людзі на адпачынку могуць любавацца нябесным купалам.

Прызнацца, і я не заўсёды маю час любавацца зоркамі, але ў той вечар у мяне быў асаблівы настрой: пашанцавала змалаціць азімую пшаніцу і грэчку. Паспрыяла нябесная канцылярыя: выбліснуў сонечны дзянёк. Паспрыяў і дырэктар мясцовага сельскага вытворчага кааператыву — гэтак цяпер называецца былы саўгас. Парадаваў і ўраджай — важкія буйныя каласы пшаніцы хіліліся долу. Грэчка, праўда, вырасла слабаватая, летась была лепшая, але год на год не прыходзіцца. Камбайн «Бізон», якога прыслаў дырэктар, насыпаў ладную кучу бурштынава-жоўтага зерня. Хопіць на ўсю зіму для маіх чубатак.

Дык вось, ядраным ціхім вечарам я доўга ўзіраўся ў неба. Палярная зорка, нібы сярэбраны цвік, блішчэла на сваім месцы. Вялікі Воз — гэта Вялікая Мядзведзіца, Малы Воз — Малая Мядзведзіца паварочваліся вакол Палярнай зоркі, як і мільёны гадоў таму. Блішчаста-дымным ручніком апаясваў нябесны купал Млечны Шлях. Старажытныя егіпцяне лічылі, што Млечны Шлях — гэта нябеснае адлюстраванне Ніла, і што памерлыя фараоны прымаюць выгляд сузор’я Арыён — Саху. І прыгадалася мне вяселле ў зялёным утульным падмаскоўным гарадку.

**II**

Запрасіў на вяселле пляменнік Валодзя — сын маёй старэйшай сястры Марусі. Я пісаў пра яе сямейку ў аповесці пра беларусаў-цаліннікаў «Зямля і людзі». Валодзя скончыў у Казахстане будаўнічы інстытут. Потым пераехаў з сям'ёй у аддалены раён Падмаскоўя. Дарос да начальніка перасоўна-механізаванай калоны. Калі разваліўся Саюз, стварыў будаўнічую фірму. Меў неблагія заробкі. Ва ўсякім разе ў яго хапіла сродкаў, каб справіць дачцэ грандыёзнае вяселле: арандаваць раённы Дом культуры, сабраць каля паўтараста гасцей. Было амаль усё мясцовае кіраўніцтва за выключэннем кіраўніка адміністрацыі і пракурора.

Валодзя з гонарам паказваў усім маю кніжку «Якорь надежды», якая ўбачыла свет у Маскве перад сканаеннем СССР — у 1991 годзе. У кніжцы быў мой партрэт. І хоць ніхто з гасцей кнігі не чытаў, — а мо і добра, што не чытаў, — увага да маёй персоны была надзвычайная. Слушна некалі зазначыў Яўген Еўтушэнка: «поэт в России — больше чем поэт». У перапынку мяне акружылі, кожны хацеў пацiснуць маю руку, выказаць любоў і павагу да Беларусі. І гэта былі шчырыя прызнанні. Я сказаў тост на роднай мове. І тады шматлюднае вяселле грымнула «Касіў Ясь канюшыну». А далей гучаў амаль увесь рэпертуар «Песняроў». Такое не заўсёды пачуеш у застоллі на маёй роднай Магілёўшчыне. Дый і ў іншых рэгіёнах Беларусі, што мяне вельмі засмучае.

**III**

Вяселле адбывалася ў жніўні. Калі сцямнела, госці ўжо добра падпітыя, наетыя, дый наспяваліся, наскакаліся, дружна высыпалі на свежае паветра. Валодзя стаяў каля мяне, закурыў, угаварыў задыміць і мяне — чужыя цыгарэты самыя духмяныя.

— Ах, якое сёння неба зорнае! — усклікнуў Валодзя.

Ён радаваўся, што вяселле коціцца сваім чынам, нявеста — прыгажуня, жаніх — высокі, сімпатычны. Пара на заглядзенне. І сталы літаральна ломяцца.

— Помніш, Уладзімір Іосіфавіч, як мы любаваліся небам у Егіпце? — абняў яго каржакаваты, лысаваты мацак, следчы пракуратуры. — І як мы пaміналі фараонаў?

— Ой, дзядька, гэта была гісторыя! — зарагатаў Валодзя. — На гэта здольныя толькі расіяне, ну, беларусы. Адным словам — славяне.

Валодзю паклікалі. Апавядаць пра Егіпет узяўся следчы.

— Мы паляцелі ў Егіпет напрадвесні. Калі ў нас у прыродзе поўная неразбярыха. Ці то зіма, ці то вясна. Уранні мароз, а ўвечары — дождж. А ў Егіпце — гарачыня, цёплае мора. І вось павезлі нас на экскурсію. Ну, піраміды паказаць. А мяне егіпецкія піраміды цікавяць даўно. Дасье сабраў вялікае. Пра піраміды напісаны горы кніг. Але іхнія загадкі да гэтага часу неразгаданыя.

Аляксей Сідаравіч, так звалі следчага, захапіўся. Цыгарэта патухла ў тонкіх даўгіх пальцах. Гэта мяне ўразіла: пры мажной паставе ён меў прыгожыя інтэлігенцкія рукі з даўгімі пальцамі.

— Перад экскурсіяй Валодзя кажа: «А што, хлопцы, памянём фараонаў? Яны ляжаць дзве тысячы гадоў. І ніхто не вып'е за светлую памяць». Я кажу: «Дык жа забаронены алкаголь. У Егіпце з гэтым строга. Ды падчас экскурсіі…» А Валодзя сваё: нешта прыдумаем. Наліў гарэлкі ў бутэльку ад мінералкі. Узяў хлеба, пячэння, сыру. Прыхапілі пару апельсінаў. Гід абрынуў на нашы галовы цэлы каскад інфармацыі пра піраміды. Як іх будавалі, якія памеры, колькі ў іх дзвярэй, якая сцяна куды глядзіць. Дарэчы, сярэдзіна аднаго

боку піраміды Хеопса глядзіць акурат на поўнач. Я сам мог прачытаць гэтаму Саіду, так звалі гіда, лекцыю пра тое, як чэшскі даследчык Карэл Дрбал зацікавіўся, чаму кошкі, іншыя зляркі, якія трапляюць у піраміды і гінуць там, не гніюць, а ператвараюцца ў муміі. Як фараоны. Што малако там не кісне, мяса, рыба не псуецца. Я сабе змайстраваў невялікую піраміду. Калі паставіш у ёй на суткі чарку гарэлкі, дык у ёй паяўляецца водар каньяку.

Слухачы недаверліва заўсміхаліся, а следчы гнуў сваё.

— Не, гэта шчырая праўда. Але вернемся ў Егіпет. Саід аб'явіў, даецца дзесяць хвілін, каб самім пахадзіць, памацаць каменне піраміды. Мы адразу адышліся далей. Нас было трое: Валодзя, галоўны ўрач паліклінікі і я. Тут жа напоўнілі аднаразовыя папяровыя шклянкі. Валодзя сказаў тост: «Дзякуй вам, вялікія фараоны. Табе, Хеопс, сыну твайму Хефрэну, што падарылі нам адно з сямі цудаў свету — піраміду. Царства вам нябеснае…» Кульнулі, прыкусілі. Дарэчы, Хеопса старажытныя егіпцяне называлі Хуфу. Зоркам пояса Арыёна далі імёны фараонаў: Хуфу, Хефрэн і Мікарын. Вось калі ўбачыце на небе гэтае сузор'е, успомніце пра фараонаў. Ну, а мы тады дапілі «мінералку». Селі ў аўтобус. Настрой выдатны. Валодзя зацягнуў сваю любімію — «Вы шуміце, шуміце, нада мною бярозы…» Мы падцягнулі. А тады і ўвесь аўтобус памагаў: «А я лягу, прылягу край гасцінца старога». Саід развесяліўся, пытаецца: «Что такое гасцинец? Угощение?» Валодзя кажа: «Это большая дорога. Автобан». А Саід зноў: «Я не всё понимал. Что это за язык?» — «Это язык белорусский. Мой родной язык, — адказвае Валодзя. — Столица Беларуси — Минск». — «А где он находится?» «Между Москвой и Варшавой». — «Теперь все ясно. Хорошая, веселая группа. Такой у меня не было никогда».

## IV

Аповед Аляксея Сідаравіча нагадаў маленства, калі ўпершыню пачуў слова «хваравон». Маці мая, абсалютна непісьменная, сагнала ката з мяккага ложка: «Эйш, улёгся, хваравон! Псік! Ідзі мышэй лаві!» Потым не раз я чуў гэтае слова. Так яна казала на бацьку, калі той дазваляў сабе прылегчы па абедзе, бо ўставаў вельмі рана. Адкуль гэтае слова прыляцела ў глухую прыбяседскую вёску? Пэўна, пачула яна ад сваіх бацькоў, тыя ад сваіх, а мо вычыталі ў Бібліі? Гэтае слова быццам вынырнула з глыбіні стагоддзяў.

Мае згадкі перапыніў Валодзя:

— Дзядзька, пайшлі за стол. Годзе камароў карміць. Трэба самім перакусіць. Сідаравіч можа гаварыць пра піраміды да раніцы…

Валодзя абняў мяне і павёў да гасцей. Вясёлае, шумлівае вяселле кацілася далей.

## V

Я ўглядаўся ў зорнае неба і думаў: гадоў сем прамінула пасля той паездкі ў Падмаскоўе. Валодзя ўжо двойчы дзед, сястра Маруся адсвяткавала 85-гадовы юбілей. Немалы век. Але што гэта ў параўнанні з вечнасцю? Жыццё чалавечае — фараона і раба, беларуса і кітайца — кароткі міг пад вечным купалам неба. На якім ззяюць штовечар зоркі пояса Арыёна, мільярды іншых зорак.

Успыхнула, прачарціла вогненную рысу знічка і згарэла. Як і не было. Людзі не знікаюць бясследна. Яны пакідаюць нашчадкам таямнічыя, загадкавыя піраміды, высозныя хмарачосы, даўжэзныя масты, дзівосныя сады, фан-

тастычныя навуковыя адкрыцці. Але кожнае сузор'е ў небе мае сваё пэўнае месца, спрадвечны шлях. А на Зямлі як не было парадку, так і няма. І ў думках людскіх — таксама.

Мудра некалі зазначыў геніяльны Максім Багдановіч: навошта на Зямлі гэтулькі звадак, бедаў і войнаў, калі ўсе мы ляцім да зор?

Пытанне, на якое не ведалі адказу егіпецкія фараоны. Не ведаем і мы.

# СВЯТА МАЛЬВЫ

## I

Бадзёрым ядраным жнівеньскім ранкам бег я на Цнянскае возера. Рабіць гэтую прабежку ўдаецца нячаста, бо ў Мінску бываю летам рэдка.

Вуліцу подбегам перасек на пераходзе-зебры, выбраўся на сцежку між дамамі і тут спыніўся, як укапаны: каля тарцовай сцяны шэрага дзевяціпавярховага гмаха расцвілі мальвы. Чырвоныя, ружовыя, жоўтыя, белыя. Кветкі густа стаялі па краях шырокай градкі, на якой лапушылася бульба.

На шырокім падаконніку кватэры на першым паверсе чырванеліся буйныя кветкі герані. У нашай вёсцы герань называлі мушкатам. Значыць, гаспадыня, а можа, і гаспадар любяць кветкі. Дачы, пэўна, не маюць, таму зрабілі кветнік і агарод пад вокнамі гарадской кватэры.

З-за вугла суседняга шэрага дзевяціпавярховіка выбліснула сонца. Мутна-ружовае, але ўжо цёплае, яно заліло промнямі градку, успыхнулі кроплі расы на шырозным лісці мальвы, буйныя зоркі-кветкі засвяціліся мокрымі пялёсткамі.

Карціна была фантастычна прыгожай і моцна ўразіла мяне. Бегчы расхацелася, ішоў памалу. Маланкай выбліснуў успамін з далёкага маленства. У нашым палісадніку каля тарцовай сцяны новай хаты, якую збудавалі ў 1946 годзе, бо старую спалілі немцы ў верасні 43-га, калі ўцякалі з Прыбяседдзя, раслі вяргіні і мальвы. Вяргіняў было два кусты: на адным кветкі цёмна-чырвоныя, а на другім — жоўтыя, круглыя, быццам сонечныя шарыкі. А між гэтымі кустамі высіліся тонкія сцяблінкі мальваў, на якіх быццам прыклееныя, красаваліся ружовыя кветкі. Мальвы пачыналі цвісці знізу, паступова распускаліся вышэйшыя, здавалася, што кветкі цягнуцца ў неба, да сонца.

Чарнобыль знішчыў маю родную вёску. На месцы нашай хаты, палісадніка і мальваў зараз буяе чорны палын.

Калі вяртаўся з возера, ранішняе свяціла паднялося вышэй, мальвы іскрыліся, ззялі сваёй першароднай прыгажосцю. Зноў я залюбаваўся гэтай карцінай. Заманулася пазнаёміцца з гаспадыняй кветніка. Але як? Зайсці няёмка. Чакаць, пакуль нехта выгляне ў акно? Таксама няёмка. Дый часу бракуе. Вырашыў: павосені зайду да гэтай кветкаводкі, папрашу насення, бо даўно хачу мецъ мальвы каля сваёй хаціны на Вілейшчыне.

## II

Але мяне апярэдзіла жонка. Аднойчы яна прынесла ад сяброўкі кавалак сухой сцяблінкі, на ёй чатыры круглыя, трохі сплюшчаныя карабочкі. У кожным з іх штук па трыццаць круглых семак, упакаваных на рабро — гэтак пакуюць пячэнне. Кажуць, што амерыканец, калі ўбачыў стручок гароху,

усклікнуў: «Якая арыгінальная ўпакоўка!» Гэтак захацелася ўсклікнуць і мне, бо семкі, подобныя на малюпасенькія сланечнікі, былі ўкладзеныя ў карабочкі вельмі шчыльна.

Вясною жонка пасеяла мальвы. У першы год кветкі кусціліся круглымі, яйкападобнымі лістамі з невысокай галінкай у сярэдзіне. Затое на другую вясну мальвы імкліва шыбанулі ўгору.

Прызнаюся, асаблівай увагі на мальвы не звяртаў, мяне болей цешыла градка блакітнавокай фацэліі, на якой з раніцы да вечара шчыравалі пчолы. Затое мальвы заўважыў сябра-літаратар Зіновій Прыгодзіч:

— Ого, якія мальвы! Мусіць, ужо метры два вымахалі!

Дзівілася кветкамі і яго жонка Святлана.

— Мая сяброўка сказала, што гэта — шток-ружа. У перакладзе з нямецкай «шток» — значыць, палка, ствол, — тлумачыла мая жонка Рагнеда. — Паруску — просвирник пренебреженный.

— А па-беларуску — мальва пагрэбаваная, — уставіў свой грош і я, бо таксама чытаў сёе-тое пра мальвы.

— У Японіі адзначаюць Свята мальвы. Пра гэта прачытаеце ў маёй новай кнізе «Путь полной луны», — пахваліўся госць.

Прыгожым, выразным почыркам Зіновій напісаў: «Рагнедзе і Леаніду Левановічам — з удзячнасцю за гасціннасць у вашай цудоўнай хаце, маляўнічай сядзібе з пажаданнем японскіх поспехаў!»

Госць прыкмеціў, што ў мяне багата яблыкаў, а ў іх няма, затое ігрушаў шмат.

— Паслухай, дружа. Прыязджай на свежы мядок. Будзем піць мёд. Чатырнаццатага жніўня — мядовы Спас. Гэта будзе пятніца. Вось у суботу ці ў нядзелю чакаем.

— Мусіць, у нядзелю. Якраз паспеюць ігрушы.

Госці паехалі, я ўзяўся чытаць кнігу «Путь полной луны». Яна захапіла з першых старонак. Я трохі паездзіў па свеце, чатыры разы быў у Казахстане, ездзіў па еўрапейскіх краінах, двойчы наведаў Амерыку, а вось да Японіі пакуль што не дабраўся. Шмат чытаў пра таямнічую Краіну ўзыходзячага сонца. І зараз адкрываў яе разам з аўтарам.

Вядома ж, мяне асабліва зацікавіла Свята мальваў. Адзначаецца яно ў старажытнай сталіцы краіны горадзе Кіёта. Дата канкрэтная — 15 траўня. Свята мае глыбокую гісторыю. Паданне сведчыць, што ў часы імператара Кімаі непагадзь знішчыла ўраджай. Навісла пагроза голаду. Людзі кінуліся маліцца. Багі паспрыялі сялянам, і ў наступны год і рыс, і проса, і ячмень, і чуміза, і бабы парадавалі добрым ураджаем. У гонар гэтага штогод 15 траўня адзначаецца Свята мальвы. У гэты дзень падводы, у якія запрэжаны валы, адзенне і галаўныя ўборы ўдзельнікаў упрыгожаныя лісцем мальвы.

Цікавая дэталь. Народнае паданне гаворыць, што менавіта мальва валодае незвычайнай здольнасцю адводзіць страшэнныя навальніцы, разбуральныя землятрусы, іншыя стыхіі.

Уразіла шматлюднасць свята. Абавязкова павінна быць 600 чалавек, апранутых у старадаўнія строі. Дзесяткі падвод, тысячы жыхароў горада, якія ўліваюцца ў шэсце, як ручайкі ў раку, пакуль працэсія рухаецца ад імператарскага палаца да святыні Каме. Шэсце па горадзе выглядае вельмі маляўніча і прыгожа.

Прачытаўшы пра гэтае свята я стаў іншымі вачыма глядзець на свае мальвы. І перш-наперш на прыгожае яйкападобнае лісце, густа-зялёнае, нібы выразанае з тоўстай матэрыі. Я сіліўся ўявіць, як зялёнае лісце ўпрыгожвала японскае свята.

### III

Як і дамовіліся, Прыгодзіч завітаў у нядзелю 16 жніўня. Прывёз абяцаныя грушы — духмяныя, салодкія.

— О, дык мальва яшчэ падрасла! Такой высознай не бачыў, — прызнаўся Зіновій Кірылавіч.

Так, мальва квітнела і цягнулася ўгору. Ранейшая падпора зрабілася занізкай. Вецер нахіляў танклявую кветку. Высек я ў лесе даўжэзную галінку іргі, адмераў тры з паловай метры, прыставіў да мальвы — ірга была вышэйшая мо на дзесяць сантыметраў. Завастрыў новую падпору, утыкнуў у зямлю даволі глыбока, верхавіна мальвы аказалася вышэй за падпору. Але расці кветка не пераставала. Мабыць, спрыялі дажджы, якія ішлі амаль штодня. Дый месца было сонечнае, зацішнае. З поўначы мальвы прыкрывала хата, з усходу — парнік, ён, мусіць, яшчэ і дыхаў цеплынёю ў сонечныя дні, з поўдня ад ветру затуляе лазня, ад подыху заходняга балтыйскага холаду захінае высозны хлеў з паветкай і сенавалам.

Вось гэтае райскае месца, ды яшчэ, можа, наша ўвага падганялі кветку-прыгажуню расці вышэй і вышэй.

— Ну што, за новую кнігу, ды гэткую цікавую, грэх не выпіць. Я добра ведаю, якую радасць прыносіць аўтару новая кніга, якая яшчэ дыхае друкарскаю фарбаю, яе хочацца пяшчотна гладзіць, нібы гэта жывая істота — дзіця, якое ты вынасіў, выпесціў, урэшце — вырадзіў.

Некалі адзін крытык усур’ёз даводзіў; мужчыны пішуць раманы, таму што не могуць нараджаць дзяцей. Але цяпер раманы ўсё болей пішуць жанчыны. Яны, як мальвы, караскаюцца ўсё вышэй па службовай лесвіцы. Жанчыны становяцца прэзідэнтамі, прэм’ерамі, міністрамі. Усё ім па плячы, адно самі сябе абняць не могуць. Зрэшты, не могуць гэта зрабіць і мужчыны, таму і жыць мы павінны разам — шчасце, калі дзве палавінкі зліваюцца ў адно цэлае.

Дык вось, наліў я ў шыракаватыя кілішкі бурштынавага мёду, у кубкі — вады халадзёнкі са студні, чокнуліся кілішкамі і са смакам, зажмурыўшы ад насалоды вочы, уцягвалі ў сябе духмяна-салодкае, гаркаватае пітво. Сапраўдны мёд абавязкова трохі гарчыць і пашчыпвае язык. Гэтым ён адрозніваецца ад фальшывага.

На развітанне Зіновій сфатаграфаваў мяне з жонкай на фоне мальваў і пакаціў у горад.

### IV

А мальва расла. Надышоў верасень. Усё болей кветак ляжала на зямлі. І што дзіўна, кветка мальвы не аддае ветру пялёсткі, яна падае адразу, нібы зорка-знічка, праўда, не згарае, апалыя кветкі забірае ў сваё лона зямля, якая ўзгадавала гэтую дзівосную расліну.

Сталася так, што свята мальвы мне пашчасціла адзначыць і ў верасні. У маю вёску прыехаў зямляк, акадэмік-аграрнік Васіль Шлапуноў. Гэта была наша першая сустрэча. Чуў пра яго даўно, ведаў, што ён родам з суседняй вёскі Белая Дуброва, у якой я канчаў сямігодку. І звяла нас Людміла Рублеўская — менавіта па яе просьбе я напісаў для газеты «Баларусь сегодня» эсэ «Там, где Беседь-река». Эсэ ўбачыла свет у канцы студзеня. Я быў у горадзе, і мой тэлефон не змаўкаў некалькі дзён. Патэлефанаваў і Васіль Мікалаевіч.

— Я ж быў пасля вайны ў вашай вёсцы галоўным аграномам. Вашага бацьку ведаў. А ваша эсэ чытаў сястры па тэлефоне. І яна плакала, і я. Трэба нам сустрэцца...

Я паабяцаў прыехаць да яго ў Жодзіна — там у навукова-практычным цэнтры земляробства працуе Васіль Шлапуноў. Дарэчы, ён член і Украінскай акадэміі навук. Лёгка абяцаць, а выбрацца ў госці да земляка ніяк не выпадала. То пчолы раяцца, то старэнькая «Лада» капрызіць — не заводзіцца. Як было б добра, каб машына заводзілася, як жанчына — з паўабарота. А то грэчку трэба малаціць, пчол на зіму падкармліваць.

Урэшце Васіль Мікалаевіч угаварыў сына Міхаіла і той прывёз яго ў маю вёску на Вілейшчыне.

Мы гаварылі паўдня і не маглі нагаварыцца. Уразіла выключная памяць акадэміка, а яму ўжо семдзесят сем! А яго ўразілі мальвы. Памералі самую вышэйшую прыгажуную — тры метры семдзесят пяць сантыметраў. Кветкі цвілі ўжо на самай верхавіне.

— Ніколі не бачыў гэткай шток-ружы, — дзівіўся акадэмік.— Мальва — гэта ж і кармавая культура, і лекавая. Скураныя хваробы лекуе.

Я расказаў яму пра Свята мальвы ў Японіі, паказаў кнігу сябра.

— Быў я сёлета на радзіме. Дзякуй Мішу, звазіў. І ў вашы Клеявічы завітаў. Балюча ўразілі някошаныя лугі. Высозныя кусты алешніку на берагах Бесядзі. Усё вакол здзічэла. Адно добра — рыбы паболела. Нават я ладнага шчупака злавіў. А Міша — заўзяты рыбак, дык у яго ўлоў быў большы. Юшку згатавалі адмысловую.

## V

Будучы ў горадзе зазірнуў я ў энцыклапедыю. І вось што вычытаў: на свеце існуе 125 відаў мальвы, на Беларусі — восем. Бываюць яны аднагадовыя, двухгадовыя, махровыя і паўмахровыя. Расце мальва вышынёю да двух метраў. Шток-ружа — да двух з паловай метраў. Значыць, наша шток-ружа — рэкардсменка.

Надышоў кастрычнік. Выскачылі першыя марозікі. Мальва не здалася — на самай вяршыні цвілі апошнія кветкі. Яна нібы прадчувала, што яшчэ адзін чалавек хоча палюбавацца ёю, што ейнае свята не скончылася. І чалавек гэты — Аляксандр Бардоўскі, таксама зямляк, аднавяскоовец выдатнага паэта, на жаль, ужо нябожчыка, Алеся Пісьмянкова. Абодва з прыгожага мястэчка над Бесяддзю — Бялынкавіч.

Якія назвы на маёй Радзіме! Белая Дуброва, Бялынкавічы, Белы Камень! Пра вёску Белы Камень у Алеся Пісьмянкова ёсць цудоўны верш, які стаў песняй, пранікнёна выконвае яе Анатоль Ярмоленка.

Менавіта Алесь расказаў мне пра Бардоўскага — галоўнага інжынера нафтаправода «Дружба», кандыдата тэхнічных навук, заслужанага рацыяналізатара Беларусі, паэта-песенніка.

## VI

Упершыню сустрэліся мы з Бардоўскім у кастрычніку 2008 на вечарыне ў Мінскім Доме дружбы — ён прыехаў з Гомеля, каб павіншаваць мяне з юбілеем. Прыехаў не адзін, а з ансамблем «Сустрэча», які ён стварыў. У той вечар у Доме дружбы гучалі песні на словы Пісьмянкова, самога Бардоўскага пра Касцюкоўшчыну, пра нашу Бесядзь. Лепшага падарунка для мяне нельга было і прыдумаць.

На пачатку кастрычніка 2009 Аляксандр Бардоўскі разам з пісьменнікам Васілём Ткачовым ездзіў у Бялынкавічы. У школе, у якой вучыўся Пісьмянкоў, адбылася вялікая вечарына. Ансамбль «Сустрэча» спяваў песні пра Бесядзь,

над сцэнай усміхаўся з партрэта незабыўны Алесь Пісьмянкоў. Намаляваў партрэт Аляксандр Бардоўскі, назваў яго — «Алесева ўсмешка».

Гэты партрэт Бардоўскі падарыў Касцюковіцкай раённай дзіцячай бібліятэцы, якая носіць імя паэта.

Бардоўскі абяцаўся яшчэ па вясне прыехаць у Пятрылава, але ўсё нешта не выпадала. Нарэшце дамовіліся: прыедзе ў аўторак 13 кастрычніка. Як на тое ліха, увесь дзень ішоў дождж, па абедзе нават з мокрым снегам. Прыехаў Бардоўскі з жонкай Валянцінай Іванаўнай, смуглявай прыгажуняй, салісткай ансамбля, з сынам Паўлам.

Чакаў я земляка, чакала і мальва. Кветкі, верхнія, апошнія, адцвілі, упалі долу. Але раптам з'явіліся нейкія рэзервовыя бутоны на сярэдзіне высокай сцябліны і расцвілі тры светла-ружовыя пяшчотныя кветкі. І адбылося гэта напярэдадні прыезду земляка. На некалькі хвілін ушчук[1] абрыдлы дождж, мы палюбаваліся кветкай. Павел сфатаграфаваў нас і на фоне мальвы, затым каля вулея-палаца, у якім ёсць і вокны, і ганак, і комін над стрэшкай.

Тры гадзіны былі ў мяне госці. Дзеля гэтага яны праехалі 380 кіламетраў. Для нас з жонкай гэта было свята. Мы ўгаворвалі гасцей застацца, пераначаваць, але Паўлу трэба было раніцай на працу. У Бардоўскіх тры сыны і дачка, усе супрацоўнікі нафтаправода «Дружба». Падрастаюць сямёра ўнукаў. Вось якая сямейка ў майго земляка.

Дамоў машыну будзе весці Павел, то мы з Аляксандрам Міхайлавічам кульнулі мядовай гарэліцы за наша Прыбяседдзе, мае Клеявічы, ягоныя Бялынкавічы, за Белую Дуброву акадэміка Шлапунова.

Ушанавалі мы светлую памяць Алеся Пісьмянкова. Выпілі і за цудоўную, незвычайную кветку мальву, якая падарыла мне трайное свята.

[1] Тут, заціх, спыніўся (дыялект.) —заўвага рэдактара.



Ганад ЧАРКАЗЯН

# ЧАРГАВІ

* * *

Прыдумшчык чалавек, рамантык, летуценнік
На ўсіх прасторах вечнае зямлі.
Даўно пад гістарычныя скляпенні
Імперыі пыхлівыя сышлі.

* * *

З экрана вядзецца прамыўка мазгоў,
Далдоняць штодзённа пра свету канец.
Падман планетарны спыніць хто гатоў? —
Магчыма, адзін Усявышні-Тварэц.

* * *

Дуб пасадзі — і радуйся шчыра:
Учынак твой прывецяць стагоддзі.
Хоць сам падасіся ў вечны той вырай,
А ў цень яго будуць нашчадкі прыходзіць.

---

***Чарказян Ганад Бадрыевіч*** *нарадзіўся 18 кастрычніка 1946 года ў Арменіі. Пасля заканчэння сярэдняй школы вучыўся ў тэхнічным вучылішчы № 1 горада Ерэвана, у прафесійна-тэхнічным вучылішчы № 27 горада Эчміадзін, працаваў на суднарамонтным заводзе імя Ф. Дзяржынскага ў горадзе Туапсе Краснадарскага краю, служыў у Савецкай Арміі. Скончыў Ерэванскі індустрыяльна-педагагічны тэхнікум (1976) і будаўніча-педагагічны факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута (1982). Працаваў у будаўнічых арганізацыях Мінска, у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Цяпер — дырэктар фірмы ТСТ.*

*Піша на курдскай, армянскай і рускай мовах. Выдаў у перакладзе на беларускую і рускую мовы зборнікі вершаў «Прочность» (1980), «Цвет доброты» (1986), «Пространство и время» (1990), «Плач» (1994), «Караваны гор» (1996), «Чаргаві» (2001),«Дом дождя» (2001), «Тоска по дому» (2003), «Зорная глыбіня» (2005), «Мелодия разлуки» (2006), кнігі прозы «Шамдзін» (1998), «Камни печали» (1999), «Белая вежа» (2010), раман «Опередить смерть» (2005) і інш; кнігі для дзяцей «Казкі дзеда Ганада» (1996), «Пумпур у калясцы» (2004).*

* * *

На блакітным экране цуд небывалы:
Дзіцё антылопы корміць ільвіца.
А чалавеку ўсё мала і мала,
У абжорстве сваім не можа спыніцца.

* * *

Снег адабраў у галодных птушак
Харч небагаты — холад журбы.
У цярпенні роўныя ля кармушак
Вароны, сініцы і галубы…

* * *

Праз змрочны туман дасвецця
Сонца промні шпурляе жменяй.
Прыбывае святлыні ў свеце,
А ў душы яе — меней і меней.

* * *

Сабраў чалавек нямала дабра,
Ды ўсё гэта глум, усё гэта тлен.
Згадзіўся б аддаць, каб адна зара
Ўзышла ў нябыце яму ўзамен.

* * *

У вочы сабака пільна глядзіць,
Пагляд удзячны, без ценю пагрозы.
Калі ж недалёка бядзе хадзіць, —
Нат у сабак коцяцца слёзы.

* * *

Вечар, кветкі, салаўіная трэль,
Пчолы, чмялі — казачны цуд!
Ды ўджаліў знянацку пякуча чмель,—
І стаў мой свет светам пакут.

* * *

Краса прыроды — усім па густу.
Ды хлудам яна наскрозь заплыла.
Нібыта ўпусцілі казла ў капусту, —
Тут не да маралі і не да казла.

* * *

Людзі мараць, шукаюць, знаходзяць
Адзін аднаго — і горка расстацца.
Па-чалавечы нішто ім не шкодзіць
Да скону свайго людзьмі застацца.

* * *

Сябру званю, а ён запытаў:
— Што гэта ты зачасціў званіць?
Ён, пэўна, прыкуты да безлічы спраў,
Не ўчуў, як сяброўства парвалася ніць.

* * *

Мы часта спрачаліся, варагавалі,
Бы лёсы сусветныя вырашалі.
Ды лёсу ўдар — сыходзяць сябры,
Цяпло іх астатняе студзяць вятры.

* * *

Чалавек імкнецца лёсу насустрач
І траціць на гэта гады і дні.
Потым, калі ўжо прыходзіць мудрасць,
На глупства сваё глядзіць з вышыні.

* * *

І сёння крывавяць раны вайны,
І часу іх залячыць не з рукі.
Ведаем, зло якое цаны,
Ды зноў на пагібель ідуць юнакі.

* * *

Даносчыкам, што шмат лёсаў падсеклі,
Самае месца — гібець у пекле.
Пакуль жывуць людзі, — і страх жыве,
Гняздуе і ў сэрцы, і ў галаве.

* * *

Кароўка божая на сцяблінцы,
На ружы шчырые пчала ў ахвоту.
Рада пчала нектару іскрынцы,
А мы — кароўкі божай узлёту.

* * *

Снег, народжаны ў небнай вышэчы,
У госці спяшаецца да зямлі.

Яго палошыць крок чалавечы,
Жыць будзе, дзе ногі людзей не прайшлі.

* * *

Жыццё дыхне загадкава і сурова,
І зноў на скразняках ягоных празяблі.
Падчас не ўратуе ніякае слова,
Наступіш на тыя ж самыя граблі.

* * *

Мой дружа Мікола, даўно мы ссівелі.
І з сіберам восень кружляе ў палях.
Не страшна падацца ў холад мяцеліц —
Мы годна жылі, быў чэсным наш шлях.

* * *

Жылі мы ў пошуку мудрасці і дабрыні
І дажыліся — срэбрам пабраліся скроні.
Спасцігглі: не ўзрост спеліць трагедыі ў цішыні,
А жыццё цягне насустрач сонцу далоні.

* * *

Весняй паводкі вада аджуркоча,
Сціхне завея, сыдуць снягі.
Зноўку туманы, як белыя ночы,
Плыткай ракі звядуць берагі.

* * *

Час свой у прыроды ўсяму,
Нават памылку ў жыцці
Зрабіць выпадае таму,
Хто толькі на свет спяшае прыйсці.

* * *

Слёзы людскія льюцца — уга!
Злодзею не зразумець тых слёз.
З радасцю побач ступае туга —
Разам гартуюць лёс.

* * *

Хто нарадзіўся пад зоркай якой,
Век гэтак свой і пражыве.
Некаму толькі бяда з тугой,
А каму — і карона на галаве.

* * *

Навошта прыйшоў я на Божы свет?
Напэўна, камусьці патрэбна было.
Свет і сягоння — з сакрэтаў сакрэт,
Толькі ў сэрцы святла прыбыло.

* * *

Час — адзіны настаўнік суровы,
Дні прамільгнулі старонкамі кніг.
Пакорна вучыўся чужому слову,
А роднае — патаемна спасціг.

* * *

Пакінуў няшмат. Ды пакінуў
След на грэшнай зямлі.
Хай новы век дыхае ў спіну,
Ды не астудзіць мае мазалі.

* * *

Іншым мару дарыў — дамы,
Нехта шчасце знайшоў пад уласным дахам.
Садок узвёў для дзіцячай гурмы, —
Хай свет будуюць без звадаў і страху.

* * *

Што атрымаў, будаўнік, узамен? —
Памяць, як белы аркуш паперы.
Хтось напаткае між родных сцен
Кроплю дабра, любові і веры.

* * *

На скрыжаванні стаю адзін,
Вецер цярэбіць пасмы сівыя.
На шляху жыццёвым шмат каляін,
Зораць наступнасці вочы жывыя.

* * *

Мы — на дарозе жыцця хадакі,
Вечар глядзіцца вусцішшу шэрай.
І толькі вершаў светлых радкі
Мераюць шлях наш сваёю мерай.

* * *

Жылі беларусы пад гнётам чужым,
Быў шлях да волі суровы, круты.
Колькі падману і слепаты
На долю гаротную выпала ім!

* * *

Пакаленні ўзышлі цярпліва і годна
З попелу забыцця і агню.
За волю і долю не ўпершыню
Каціліся гулкай хваляй народнай.

* * *

Не раз пагражалі рабства і смерць,
Ды не гублялі стойкасці духу.
Прагналі і ворагаў, і смуту-скруху —
І выпала ніве жыцця зарунець.

* * *

Кожны чацвёрты ў апошнім баі
Лёг за свабоду сваёй Айчыны.
Крывёй Перамога абмыла руіны.
Маўчаць у хатынскіх лясах салаўі.

* * *

Воды па рэчышчах зноў паплылі,
Зямля залячыла гарачыя шрамы.
Над папялішчам ахвярнае драмы
Зноў беларусы душой узышлі.

* * *

Моцы няма цяжар лёсу трываць, —
Ганяць, а ты адказаць не можаш.
Калі пачынаюць ворагі зноў кляваць,
Выстаяць дапамажы мне, Божа.

* * *

Адбіраюць, а смеласці няма запярэчыць.
Калі супольна людзьмі нажытае
Прысвойваюць, як прыватныя рэчы, —
Сыходзіць сумленне з высокай арбіты.

* * *

Ужо забойства стала рамяством,
Рабуюць нас, дурманяць, забіваюць.
Феміда ўжо з павязкай пад брывом,
Забойцамі — і суддзі ўжо бываюць.

* * *

На дня сыходзе і года сыходзе
Вынікі працы сваёй падводзь.
Штось не дадаў абаронча прыродзе,
Нешта спакусна хапіў мімаходзь.

* * *

Усё на свеце проста і зразумела.
Калі не кахаў, — закаханых не зразумець.
Па свеце каханне ступае штоміг нясмела,
Ды сэрцу загучна ад крокаў гэтых шчымець.

* * *

Крыўдна толькі за страты
І за няўдалыя вершы.
У прошласці — век дваццаты,
Наперадзе — век дваццаць першы.

* * *

Была надзея і мэта зайздросная —
Жыццё жадала разгарнуць крылы.
Ды падкасіў іх лёт год высакосны,
Згаслі марна душэўныя сілы.

* * *

Патрэбна было па Божай ласцы
Пароўну ў жыцці падзяліць
І тое, што робіць жыццё як казку,
І тое, што ў ім гэтак баліць.

* * *

На адных лёс узвальвае ношу,
Што па сіле і дзесяцярым не панесці.
Ступаю пад цяжарам — дыханне ледзь зводжу,
Божая літасць падзелася дзесьці.

* * *

Стаю на Купалавай вуліцы
І думаю, як мне шанцуе.
Поўня да хаціны туліцца,
Бачыў і ён якую.

* * *

А потым, у крэсле седзячы зручным,
Як малы, што ўсяму здзіўлёны,
Купалу бяру — жыцця падручнік.
І чую голас ягоны.

* * *

Шанцуе мне, бо сябра сустрэў.
Мелодыяй мовы яго счараваны.
Верша  Купалы чароўны спеў,
На ім цэлы народ узгадаваны.

* * *

І разумею, што лёс беларуса і мой
Гэтак падобны гаркотай.
Дарога да волі не йдзе па прамой,
Мужнасць ступае не ўпотай.

* * *

Мудрасць Купалы — у прастаце мужыцкай,
Гэта падмурак жыцця, самы трывучы.
У лёс народны мільёны спрасованы жыццяў,
І чуе наступнасць гісторыі подых гаючы.

* * *

Чалавек — люстра сваёй душы,
Прачнуўся, а побач — нікога.
Доўгай была дарога ў глушы
Да Бога.

* * *

Блуканні з пустымі вачыма,
Узятыя храмы ў аблогу.
Веру забіць немагчыма,
Дзякаваць Богу.

* * *

За праўду і веру доўжацца бітвы
У сэрцах, дзе холаду змога.
Голас званоў — нашы малітвы
Да Бога.

* * *

Думкам старэчым сцвярджэнне
У кожнай гадзіне лёсу.
Ступаюць ад нараджэння
За намі жыцця дзівосы.

* * *

Волю — сумлення сцяг —
Здабыць і дастойна пражыць.
У свеце ты толькі ў гасцях,
Памяць адно б заслужыць.

* * *

Свабода застанецца марай
Усяго чалавечага шляху.
Колькі ў стагоддзях Ікараў
Пайшло за яе на плаху!

* * *

Гучна гаворым з блізкімі,
Хоць шэпту і дастаткова.
І голасам шэпчам нізкім,
Дзе трэба гучнае слова.

* * *

Хто дзе змог, — прыпыніўся,
Лічым — ад нас не ўцячэ.
А хто і дзе правініўся, —
Адразу ж пад корань сячэм.

* * *

Дзе дазволенага мяжа?
Мы самі таго не ведаем.
Справа — аблажа-імжа,
І снедаем з ёй, і абедаем.

* * *

Лю́бая мая ўнучка,
Будзь шчаслівай заўсёды.
Вырасцеш не беларучкай,
Юны век — твой пагодак.

* * *

За брамай падлетак з пахкім букетам —
Век дваццаць першы, твой спадарожнік.
Хай стане тваімі вясною, і летам,
І нават сівою восенню позняй.

* * *

Сваю Беларусь любіш ты,
Яе і я мілую вачыма.
Люблю яшчэ болей, бо сніцца й Радзіма —
Даліны яе, гор хрыбты.

* * *

У морак гісторыі рушаць гады,
На плошчы Коласа сталеюць бярозы.
Ды будзе класік з народам заўжды,
Яму не страшныя веку пагрозы.

* * *

Глядзіць мудры Колас вачамі прарока
На адроджаную вакол прыгажосць.
Беларусь будзе крочыць і дальш цвёрдым крокам,
Пакуль Купала і Колас ёсць.

* * *

Людзі былі б на вяршыні славы,
Калі б мелі мысленне гаспадара,
Бо гаспадар — аснова дзяржавы,
Бачыць шырэй ён свайго двара.

* * *

Ты любіш свой азёрны край,
А ў маёй памяці жывуць горы.
Яны майму сэрцу сапраўдны рай,
Як твайму сэрцу сінечы азёры.

* * *

Сэрца высокім агнём апалі,
Роўным па сіле пошугу духу.
Хто мы? — пакутныя дзеці зямлі.
Нам навучыцца б яшчэ змагчы скруху.

***Пераклад з курдскай Міколы Мятліцкага.***



Уладзімір ЦІШУРОЎ

# «ФІРУРГ» І ІНШЫЯ

*Апавяданне*

У мястэчку на Магілёўшчыне на цэнтральнай вуліцы цяпер стаяць літаральна праз тры двары ад бальніцы два вялікія абшаляваныя дамы. Ну калі абшаляваныя, то і пафарбаваныя — каб дом выглядаў прыгожа, жыццярадасна, выклікаў павагу ў прахожых. Павагу як да дома, так і да гаспадара. Гаспадаром аднаго быў галоўурач раённай бальніцы, вяскоўцы яшчэ называлі яго «фірург». Гэта было няправільнае вымаўленне слова «хірург». Вядома ж, хірург — гэта той медработнік, які робіць аперацыі. Быў ён невысокі, тоўсты, з чырвоным тварам, пад ніжняй сківіцай звісала мяшэчкам падбароддзе. Здавалася, той мяшэчак наліты вадой. Вочы ў хірурга былі затуманена-блакітныя і пукатыя. Замест зрэнкі правага вока было бяльмо — па форме кароткага белага, сагнутага ў дужку чарвяка. І паглядаў ён на людзей нейк бокам, спадылба. Пэўна ж, правае вока было невідушчае, дык уся нагрузка клалася на левае. Працаваць у раённай бальніцы пачаў недзе пасля вайны. Якую меў адукацыю па медыцыне — вышэйшую ці сярэднеспецыяльную — невядома. Звалі яго Зміцер Майсеевіч Камахія. Ёсць людзі, якія здольны падпарадкоўваць сваёй волі волю іншых. Пастава, хада, манера размаўляць, загадваць казалі, што ў чалавека цвёрды кіраўнічы характар. Ці не таму доўгі час быў галоўурачом райбальніцы? У раённай бальніцы робяць просценькія хірургічныя аперацыі. І ён іх рабіў.

У вёсцы, паблізу мястэчка, у мнагадзетнай сям'і цесляра Хведара і даяркі Агны рос спрытны кемлівы хлапчук. Калі гуляў у футбол, здавалася, не бег, а ляцеў па часова прыстасаваным футбольным полі ля калгаснай пуні паблізу могілак. Звалі яго Альфрэд, дзятва называла скарочана, — Альф. Гадкоў дзесяць яму было, калі моцна застудзіўся і на спіне, бліжэй да копчыка, выскачыла чырвоная балючая скула — фурункул. Устрывожаная маці павяла малога ў раённую бальніцу. Дамоў прыйшла адна, без Альфа.

— А дзе ж твой сын? — спыталі вясковыя жанчыны, што сядзелі на лавачцы ля хаты пасярод вёскі.

— Паклалі ў бальніцу... Нешта сур'ёзнае апрадзялілі, дык паклалі.

---

***Цішуроў Уладзімір Карпавіч*** *нарадзіўся 24 студзеня 1966 года ў вёсцы Навапруддзе Круглянскага раёна Магілёўскай вобласці. Скончыў Круглянскую СШ. Пасля службы ў войску вучыўся ў Маскоўскім і Магілёўскім педуніверсітэтах. Працаваў фізкіраўніком у школе, у Мінскім абласным музычным таварыстве.*

*Аўтар кніг вершаў «Бярозавы шлях» (1988), «Выслухай вецер» (2004), кнігі прозы «Першая струна» (1996) і інш.*

— А што ў яго баліць? — спытала адна з жанчын, худая, з жоўта-карычневым аблічам і папяросай між пальцаў.

— Што-што? Скулка выскачыла!..

— Во-о-о, дык такую хваробу я і сама, без урачоў, вылечыла б, — сказала другая, што сядзела побач з курыльшчыцай.

— Ай, сядзі ты ўжо! Яна вылечыць, фірург гэткі, — сярдзіта, насмешліва прамовіла маці хворага хлапчука.

Хлапчук знаходзіўся ў бальніцы даволі доўга. Прывезлі яго дадому праз месяц. Але ён з невядомае для вяскоўцаў прычыны зрабіўся ціхім, хада змянілася: ступаў па зямлі асцярожна, як па бітым шкле, крыху нагнуўшыся наперад, адстаўляючы задок. Дзятва стала прыкмячаць, што порткі ў яго там, дзе расшпільваюцца гузікі, і ніжэй, мокрыя... І патыхае ад яго непрыемна, як з прыбіральні. Нехта з нясціплых нетактоўных дзецюкоў неяк сказаў небараку ў вочы з грубай радасцю:

— Альф, дык ты ж сцы...сся! Паглядзі, у цябе паміж ног мокра, — і торкнуў у тое месца пальцам, павярнуўшы галаў да натоўпу дзятвы.

— А-га-га-га!.. — зларадна зарагаталі дзеці.

Хлапчук моцна пачырванеў, пацягнуў рукой за борт хэбэшны пінжачок, каб закрыць месца, у якое пільна ўглядалася дзятва. У хлапчука быў сябрук Серж. Ён быў тоўсты, камлюкаваты, дужы і злосны.

— Ну што вам нада? — засланіў сабой сябра. — Гэта ён упаў у лужыну, а вам смешна, дурням...

Альф павярнуўся, ціхенька пайшоў па дарозе ўскрай агарода да сваёй хаты.

Назаўтра, забыўшыся на здзеклівы смех дзяцей, Альфрэд зноў бавіў час з імі: гуляў у хованкі, або ў футбол. Але к абеду яго порткі ў вышэйпамянёным месцы зноў былі мокрыя. Ён выцягваў кашулю са штаноў, каб яна закрыла мокрае месца. З часам і дзеці, і дарослыя звыкліся з тым, што Альфрэд ходзіць... у штаны. Нехта з дарослых спытаў у ягонай маці:

— Што з ім? Раней здаровенькі быў, дзіцёнак як дзяцёнак, а цяпер во, штаны трэба кожны дзень мяняць...

— Гэта ж яму пасля аперацыі так здзелалася, — праз слёзы сказала тая. — Нерв нейкі зачапілі, і во, не дзержыцца ў яго. А што я здзелаю, што я здзелаю? Няшчасце, і ўсё.

— Дык гэта Камахія яму здзелаў... Ай-яй-яй, во здзелалі, — спачуваючы жанчыне, прамовіла суседка, якая некалі казала, што яна б сама такую хваробу вылечыла б.

Хлапчук у школу не хадзіў — саромеўся. Толькі праз некалькі гадоў пасля аперацыі ўрачэбная камісія прызнала яго інвалідам другой групы. У юначым узросце Альфрэд працаваў у калгасе на адкорме жывёлы. Нейкім чынам скончыў вячэрнюю школу, потым курсы трактарыстаў. Працаваў ударна, зарабляў няблага, назбіраў на «Жыгулі». Пайшоў жыць у прымакі ў недалёкую вёску, да разведзенай маладзіцы. Цешча ўпадабала зяця за працавітасць, гаспадарлівасць, шанавала яго. Маладзіца спрабавала неяк прыстасавацца да інваліда, але, мусіць, цярпенне лопнула, сказала:

— Вымятайся з хаты! Матрац пад табой згніў, нада вон выкідваць, новы купляць...

Альфрэд вярнуўся да бацькоў. Праўда, нейкім чынам выбіў сабе кватэру ў калгасным доме. Стаў жыць адзін. Атрымаўшы пенсію, набіраў у магазіне ў ахапак бутэлек віна і бавіў час у кампаніі выпівох. Вінам частаваў, і выпівохі скрытна радаваліся, што выпадала ім такая лафа.

Неяк п’яны Альф прыйшоў у хату да старой маці. Павітаўся, сеў на мяккую канапу, крыху памаўчаўшы, спытаў:

— Нашто ты мяне, матка, на аперацыю павяла? Скалечыла мяне!

— А ці ж я, дзетачка, вінаватая, калі цябе фірург паклаў на аперацыйны стол?.. Ці ж я вінаватая?..

Гора чорнай вяроўкай сціскала сэрцы і душы сына і маці. На доўгі час. А калі вяроўка аслабла, адпусціла, зрабілася пустэльна там, ціха, не раўнуючы, як у магіле ці ў абрабаванай царкве. А маці доўгі час не можа зразумець, чаму сын ускладае віну за сваю інваліднасць на яе, а не на «фірурга». Той і сапраўды падаецца ёй не заплямленым трагічнай памылкай у час аперацыі, а паважным чалавекам, якога ўсе ў мястэчку паважаюць і баяцца. Ён — як помнік, якому трэба кланяцца і прыносіць у прызначаны дзень кветкі ў падарунак. Былая даярка, лежачы на печы, уяўляе, як ідзе з кветкамі ў руках да помніка Камахію-«фірургу», дрыжачай рукой кладзе іх на пастамент. Бачыць толькі яго каменныя, у сіне-зялёнай фарбе чаравікі і каменнае халоднае калашынне штаноў. Але на душы пуста. Паклала кветкі, пайшла прэч ад помніка і забылася на яго. У яе проста не хапае сілы крыкнуць яму: «Чалавек, навошта ты сына мне скалечыў?» Камахія-помнік глядзіць у далеч, не бачыць старую даярку і кветкі, што яна паклала ля яго ног.

Камахія памёр, калі даярчынаму сыну-інваліду было ўжо за сорак. Помніка яму не паставілі. Але ён быў настолькі паважаны ў мястэчку чалавек, што адносіліся да яго як да помніка. Камахія толькі спачатку ўяўляўся Агні помнікам, потым помнік развальваўся, як тканіна ад сернай кіслаты, і ў душы заставалася чорная, круглая і балючая пляма. Такім у канчатковым выглядзе заставаўся ва ўяўленні маці сына-інваліда мястэчковы, з бяльмом на правым воку хірург. «Мусіць, ён троху недабачыў, як дзелаў майму сыну аперацыю, — разважала старая даярка Агна. — На правым воку — бяльмо, а во ж, узяўся. Сам калека, і дзіця скалечыў. Скальпель у рукі — і давай скулку рэзаць, — у душы старой Агны расце гарой абурэнне. Гара расце, чарнее, і жанчыну цягне на ваніты. — Не-е, і яго Бог пакарае. Казалі людзі, жонка ад рэўнасці памерла, з другімі бабамі любіў пагуляць... Адзін у бальшым доме застаўся — няма каму вады падаць. Во якая старасць. Сына гадаваў-гадаваў, у Мінску кватэру яму выстраіў. Ну і што? Сын прыехаў на машыне, бацьку забраў і ў дом састарэлых завёз. Казалі, сам дрэнна з сваёй жывець».

— Матка, чаго ты маўчыш? — пачула Агна голас Альфрэда.

— Што, Альфрэдка? — адзываецца. — Ляжу маўчу, думаю.

— Налі-ка чарку.

— Няма. Ці я б табе пашкадавала?

— Ну, тады не маўчы.

Голас у сына згараваны, глухі, як аднекуль з глыбіні калодзежа.

— Я во думаю, што фірурга Бог пакараў.

— Чым ён яго пакараў?

— Ну як чым? — Агна пачынае распавядаць тое, што хвілю таму прыгадвала.

Сыну, пэўна, нецікава слухаць гэта, перабівае маці, зноў просіць чарку.

— Дзе я табе знайду, ну дзе? — знервавана крычыць маці. — З калена выламаю?!

— Ну дай мне кусок сала, ды я пайду...

— Бяры, ці шкада...

Альфрэд выйшаў з хаты. Маці чула, як шаргацяць дзверы ў каморку, дзе стаіць кубелец з салам, як сын закрыў тыя ж дзверы.

— Ну я пайшоў, — кажа ў шчыліну між дзвярамі і вушаком.

— Глядзі ж там, акуратна, многа не пі! — б'е кулаком па калене маці, зноў слёзным выглядае яе твар.

— Не пі, не еш... — чуе ад сына.

— Нікога з баб у кватэру не прывадзі, а то яны ля цябе блытаюцца. Грошы з імі прап’еш, як жыць будзеш? — крыкнула ўслед.

— Не бойся, — кажа сын ужо з вуліцы.

У хаце ўсталёўваецца цішыня. Агна адчувае прысутнасць сына — у сэрцы, у думах. І яна не ведае, колькі пра яго будзе думаць і думаць.

Праз акно Агна ўбачыла на вуліцы постаць мужчыны ці хлопца. На галаве рудая лыжная шапачка. Чорная куртка са скуразамяняльніка звісала з плячэй. Спартовыя цёмна-сінія штаны грэлі крывыя ногі формы літары «Х». «Мусіць, Міхась Лісік пайшоў дамоў. Як і мой Альфрэдка, гаруе без жонкі. З бацькам жыве, маці памерла. Тожа во пад скальпель папаў к фірургу. Машоначная грыжа была. Як разануў сляпец, дык во і дзеўкі яму не нада, адцураліся. Казалі, нейкі канал перарэзаў. Во што натварыў. А людзі кажуць — «паважаны чалавек». Ой-х во-хо... — Агна ўздыхнула са спачуваннем, але ўжо да Міхася. Двое хлапчукоў з тае вёскі, дзе жыве Агна, патрапілі пад скальпель, які трымаў у руцэ «фірург».

Што ж Міхась... Ён не родны сын для Агны. І душа па ім баліць меней. Маці Міхася была жанчынай звадлівай, асабліва ў маладзейшыя гады. Сварылася і з Агнай.

— І твой во сын непрыпучаны ходзіць, — папікнула неяк той Агна.

— А якое тваё г... дзела? Непрыпучаны, дык прыпуціцца, ты не бойся за майго сына!

Словы звадніцы не спраўдзіліся — была ў Міхася дзеўка, ды з вядомай прычыны адцуралася яго.

Не ўвесь час чуць боль у душы. Душа, як скакун няўмелага вершніка, скідвае з сябе гэты боль. У Агны ёсць яшчэ два сыны і дзве дачкі. Усе сямейныя, маюць дзетак. Яны — радасць для Агны.

«Няма свайго шчасця — радуйся шчасцю сястры ці брата», — думае Агна, адрасуючы словы Альфрэду. Засынае на цёплай ляжанцы. Ад ватоўкі, што ляжыць у яе пад галавой, востра пахне прыбіральняй гэтак жа, як і ад сына Альфрэда. Яна не адкідвае ад сябе смярдзючую ватоўку, а прыціскаецца да яе шчакой, кажа: «Сынка ты мой родненькі... гаротнік...»

Ёй снілася футбольнае поле ля калгаснай пуні, дзе ссыпалі субар — адвеянае зерне. Хлапчукі з вёскі бегалі за мячыкам і бухалі нагой па ім, нібыта ў вялікі бубен, а ён глуха і радасна азываўся: «Бух!» Выглядала, дзе ж у гурце малых футбалістаў яе сын.

— Альфік, — паклікала, убачыўшы, — хадзі-тка, сына, сюды.

— Ай! — не жадаючы слухацца маці, крыкнуў той і пагнаў мячык да футбольных варотаў — убітых у дол двух высокіх калоў. Агна клікала і клікала сына да таго часу, пакуль той здаўся ва ўпартасці і падышоў.

— Пайшлі, сыначка, са мной...

— Куды?

— Пайшлі-ка сходзім да дохтура...

— Не-е, не пайду, не пайду, — сын нахіліўся, нібы нехта ўдарыў яго нагой у пахвіну, — не пайду-у-у.

— Чаго? — закрычала Агна.

Альф, не павярнуўшыся спінай, стаў адыходзіць ад маці. Дзень быў тумановы, і яго цёмная постаць па меры аддалення ўсё меншала і меншала ў тумане. Альф спінай ішоў, набліжаўся да могілак... «А Божачкі! Во збяжыць малец, збяжыць, а трэба ж было б... трэба ж было б, трэба ж было б...» — шаптала Агна ў сне.

— Здраствуйця, — пачула нечы мужчынскі голас. — Хто ёсць у хаце?

«Хто гэта? Ці то мне сніцца, ці то так хто прыйшоў?»

— Ці ё хто ў хаце?

Старая Агна расплюшчыла вочы і ўбачыла над сабой белую столь, комін рускай печы, таксама белы. «Гэта ж я дома, у хаце». Агна прыўзняла галаву над складзенай на манер падушкі ватоўкі, убачыла ў хаце аднавяскоўца — адзінокага бабыля Кастуся. Бацькі ў яго памерлі год дзесяць таму. Пачынаў свой самастойны прафесійны шлях даволі ўдала: пасля службы ў войску паступіў у сельскагаспадарчую ВНУ, але не скончыў. Працаваў заатэхнікам у многіх гаспадарках раёна. Але да першага канфлікту з начальствам. Апошнія пяць год невядома на якія грошы жыў. Праўда, на сотках садзіў увесну бульбу, буракі, сеяў пшаніцу. Увосень лішак бульбы, пшаніцы збываў за грошы. Многа жанчын да яго прыходзіла, але ніхто не застаўся з ім жыць у ягонай старой хаце, дзе ўзімку было ўсяго градусаў пяць.

— Што ты скажаш, Косця?

— Ці вы адна дома, цётка?

— Ну?

— А дзе ваша ўнучка? Аліна дзе?

— Нашто яна табе?

— Каб памагла мне бульбу выкапаць на агародзе... А то я адзін, сам за плугам, а збіраць няма каму... А бульбы многа...

— Во табе як... А чаму ты бабу, жонку сабе якую не шукаеш? Лянісся?

— Ай, цётка... — Кастусь махнуў рукой, прысеў на канапу, нібы ногі не трымалі.

— Што «ай»?..

— Хварэю... Бабам я не нада.

— Чаму?

— Ну як вам сказаць? — Кастусь утаропіў позірк цёмных вачэй у бок дзвярэй. — Ёсць такая мужчынская хвароба, прастатыт завецца. У туалет сходзіш, ідзеш у хату, а яно ўсё капае... Бяллё кажны дзень трэба мяняць. Не памяняеш — смурод! Ды такі, што людзі адварочваюцца. Лячылі, грошы такія ўсадзіў, а што толку? Ніякага...

— Ах-ха-ха-ха-ха... — засмяялася з фальцэтным піскам Агна. — Гаворыш, цячэць... Хі-хі-хі...

Кастусь маўчаў, глядзеў, апусціўшы галаў, на пафарбаваную падлогу.

— Дык, цётка, ці дома Аліна ваша?

— Няма, паехала дамоў да бацькі...

Кастусь уздыхнуў. Мо яму і хацелася сказаць якое салёнае слова, ды, мусіць, не хапіла духу.

— Пайду я... — накіраваўся да дзвярэй.

Прызнанне Кастуся спачатку ажывіла, развесяліла Агну. А потым пыл гэтага ажыўлення апаў. Зноў, уздыхнуўшы, пачала разважаць над лёсамі Кастуся і сына. «Няшчасныя дзеці... Якое ў іх жыццё — без сям'і? Колькі пражывуць, але ўсё без радасці сям'і, без жонак, дзяцей... Во якія мужчыны ў дзярэўні... Харашо, што не ўсе...»

На другі дзень да старой Агны прыехала са сталіцы ў госці дачка з мужам і дзвюма дочкамі — мілавіднымі, прыгожымі, стройнымі. Прыехалі на ўласным легкавіку, што дадавала доччынай сям'і павагі ад вяскоўцаў. Хата адразу напоўнілася гарадскімі пахамі дэзадаранту, жаночых духоў, свежага халаднаватага паветра з вуліцы. Паставілі сумкі на падлогу, палезлі да маці на ляжанку, каб бліжэй павітацца, пацалаваць у шчаку. Дачка прывезла ў падарунак новую лёгкую хустку, калготкі. Падарунак паклала ў рукі. Потым пачала даставаць з сумкі і класці на стол каўбасу, чырвоныя памідоры, бля-

шанкі рыбных кансерваў, яшчэ нешта, загорнутае ў магазінную шэранькую паперу. Зяць сеў на мяккую канапу, дачка пачала рэзаць каўбасу — збіраць стол. Загадала адной з дачок дапамагаць. Дала ў рукі нож, дзве галоўкі цыбулі, каб пачысціла.

— Злазь, мама, з печы, давайце будзем што-небудзь есці, — звярнулася дачка да маці.

Твар яе чысты, бялявы, далікатны, не раўнуючы, як у прынцэсы. Было ў яе абліччы штось ад цыганкі: чорныя бліскучыя валасы, чорныя бровы, толькі вочы цёмна-валошкавыя. Зяць, наадварот, светлавалосы, рыжабровы, блакітнавокі. З гадамі сямейнага жыцця распаўнеў, ацяжэў, хада зрабілася няспешная, упэўненая.

Малая дачка, аблупіўшы цыбулю, разам з другой пайшлі на вуліцу, сказаўшы, што есці не хочуць. «На рэчку пабеглі ўнучкі, — здагадалася Агна, — на прыволле... Любяць там пабыць...»

Агна, якая ўжо даўно не злазіла з печы, з прыездам малодшай дачкі падбадзёрылася, адчула сябе здаравей, нібы нехта ўдыхнуў у яе свежага паветра, даў сілы. «Хто ж, як не дачка?» — падумала.

— Не, дзеткі мае, піце-ешце без мяне. Я буду ляжаць ды вас слухаць. Калі хочаце, дайце паўчаркі гарэлкі — за ваш прыезд вып’ю!

— Злазь, мама, пасядзі з намі, — пакрыўдзілася дачка.

— Ну куды ёй, старой, злазіць? Ну калі не хоча. Туды падай, на печ, — шэптам сказаў зяць.

Старой Агне падалі на ляжанку паўчаркі гарэлкі, лустачку хлеба, некалькі кавалачкаў памідора і каўбасы. Пажадаўшы здароўя, Агна выпіла гарэлку, стала кусаць памідор і хлеб.

— А тут у мяне да вас такія госці былі, што ой...

— Якія? — спытала дачка.

— Альфрэд наш быў. Выпіўшы. Пасядзеў троху, прасіў гарэлкі. А дзе я яму вазьму? Смалы яму, а не гарэлкі! Быў і гэты... заацехнік Кастусь... Тожа во гора. Хацеў, каб наша Аліна памагла бульбу збіраць, а я схлусіла, што няма дома. Яна ў магазін пайшла... Я думала, гэты Кастусь — чалавек о-го-го! А ён, аказваецца, саўсім бальны. Гора, і ўсё! Як пагляджу на вас, дык сэрца радуецца! Здаровыя, надзетыя, машыну купілі, кватэру маеце, дочкі растуць... І жывіце, дзеткі мае. Жывіце і радуйцеся. Каб усе завідавалі.

Смуглявая дачка зірнула ў акно. Мусіць, ёй падалося, што на вуліцы стаіць натоўп вяскоўцаў — жанчын, мужчын. Усе з зайздрасцю глядзяць на іншамарку і ў акно, каб убачыць шчаслівую дачку Агны, зяця і іх дачок. Але ў акне — анікога.

— Радуюся я вамі, — адно казала захмялеўшая Агна і паўтарала. — Радуюся я вамі, радуюся... А гэтыя гаротнікі...



***Палымянскі дэбют***

## Алесь СПІЦЫН

* * *

Скрозь галактыку
Веснавога каштана
Я назіраю
Бяздонную цемру сусвету:

Цёплыя ночы
Ўпрыгожваюць галіны
Зоркамі
Раскрытых пупышак,
А нябёсы —
Раскрытымі пупышкамі
Зорак…

І сёння
Яны так блізка,
Што я адчуваю
Іх даўка-салодкі пах.

* * *

Гарачыня і навальніцы —
Ранак лета.
Шматкаляровыя духмянасці ў паветры.

Язмін так пахне —
Можна задыхнуцца:
Ад слодычы таксама паміраюць.
Але ж як соладка, мой Божа,
Дзякуй, Божа!..

---

*__Спіцын Аляксандр Аляксандравіч__ нарадзіўся 6 верасня 1979 года ў Мінску. Скончыў біялагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта (2001). Працаваў у Інстытуце эксперыментальнай батанікі імя В. Ф. Купрэвіча, у Мінскім палацы дзяцей і моладзі. Цяпер — у Інстытуце фізіялогіі НАН Беларусі.*

*Аўтар паэтычнай кнігі «Цені верасоў» (2001).*

Так пахне на світанку Мілавіца —
Чырванаваты пах ад белай кветкі,
І, як напой, салодкі пах ліецца —
Да болю
У грудзях —
У сэрца…

* * *

Калі позірк
Узносіць сэрца
Ў цішыню аксамітнай ночы,
Да зорак і поўні
Над цёмнаю хваляю бору, —
Так хочацца застацца тут,
У гэтай таямнічай прасторы,
І не бачыць людзей
З іх патрэбамі
І патрабаваннямі,
І не вяртацца болей
Да мітусні
І тлуму.

Хіба побач была б
Яшчэ толькі тая,
Якую хочаш трымаць за руку,
Якой адзінай хочаш дарыць
Сваю пяшчоту…
А больш —
Нікога.
Нікога з людзей…

Тут маліцца так лёгка,
Гукаючы: «Ойча».
А Бог абдымае душу
Лагоднымі крыламі
Зорнае ночы,
Пяшчотна праводзіць па валасах
Цёплым ветрыкам
І са спагадлівай усмешкай
Кажа:
«Ідзі да людзей…»

## ДЗВЕ ЗОРКІ

Ноч залегла над горадам.
У жаўтаватай цемрадзі вецер
Насіў апалае лісце
І вогкую халадэчу…

А мы былі побач —
Так блізка-блізка,
І я глядзеў на тваe зоркі,
На дзве ясныя зоркі:
Адна — у куточку вока,
А другая — на дыяменце завушніцы.

А ты казала мне пра тое,
Як цяжка стаць дасканалай,
А я глядзеў на тваe зоркі,
На дзве ясныя зоркі,
І думаў: якая ты прыгожая…

А ты распавядала мне,
Колькі ў свеце болю і пакутаў,
А я глядзеў на тваe зоркі,
На дзве ясныя зоркі,
І думаў: якая ты прыгожая…

А ты гаварыла мне,
Як цяжка суцішыць людскі боль,
А я глядзеў на тваe зоркі,
На дзве ясныя зоркі,
І думаў: якая ты прыгожая…

І так хацелася
Цябе прытуліць да сэрца,
Ахінуць сваёю цеплынёю,
Абараніць ад халоднага ветру.
Ды было мне страшна,
Што ты скажаш:
«Ты такі ж, як усе!»

* * *

Поўня гліняная свеціць.
Майскае ночы паветра —
Бы сырадой кунежны.
Кінь у яго пярсцёнак, —
Выбухнуць белыя пырскі:
Белае вішні квітненне.
Гэтаю ноччу дзівоснай
Соладка дыхаць і бачыць.
Слодыччу мяккай кладзецца
Прысмак згушчонкі на вусны;
Хочацца ім падзяліцца,
Іншыя вусны сустрэўшы…

## САНЕТ МАЎЧАННЯ

Маўчанне замоўчвае сонна
Маўклівую тайну прасторы,
І вецер халодны бязмоўна
Прылёг на сцямнелыя горы.

Туманам залітыя далі
Маўчаць, зберагаючы сілы.
Так, можа, зацята маўчалі б
Халодныя нетры магілы.

Бязмоўя трывалая вера
У гэтым зацятым маўчанні —
З лагчын і да самага неба.

Лясы цішыню ўскалыхалі.
А зрэшты — маўчанне патрэбна,
Каб словы мацнейшымі сталі…

* * *

У гэтым трымценні месячных блікаў
Я заўважаю гармонію святла і цемры…
На дне няма нічога —
Усё дарэшты выпіта.
Сіняя-сіняя ноч.
Месяца след на сцяне
Як адлюстраванне акна.
Паветра рух
Як нашчадак дыхання:
Учора і сёння
Зліваюцца ўночы
Ў адзінае цэлае,
Якое
Завецца
Пачаткам…



Уладзімір СЦЯПАН

# МЕНСКІ АЛЬБОМ

*Навелы*

## Рэрых і Ліўшыц

Любое сховішча з карцінамі мае пэўныя памеры.

Надыходзіць час, і старыя палотны павінны саступіць сваё месца новым. Так было і так будзе. Мне даводзілася запісваць палотны з фонду кафедры станковага жывапісу БДТМІ. Даводзілася замалёўваць палотны сваіх выкладчыкаў-настаўнікаў, калі яны былі яшчэ студэнтамі. Пісаў і паверх сваіх уласных старых палотнаў…

Мой выкладчык жывапісу — Хаім Майсеевіч Ліўшыц, расказаў пра свае гады вучобы ў Ленінградскай акадэміі мастацтваў. Пра суворыя і жорсткія трыццатыя гады. Палотнаў не хапала, грашовых сродкаў не было, каб набыць чыстае льняное палатно. Паперы добрай — не знайсці… Студэнтам выдалі старыя карціны навучэнцаў яшчэ той — Імператарскай акадэміі. Выдалі са сховішчаў і тры вялізныя карціны Мікалая Рэрыха. Студэнты разрэзалі іх на кавалкі. Паабцягвалі свае падрамнікі і пазамалёўвалі.

Я тут палітыкі не бачу.

Сумна? Несправядліва? Можа і так. Але жыццё рухаецца па сваіх законах. Некаму, гадоў праз дваццаць, выдалі са сховішчаў і палотны Хаіма Ліўшыца. Нехта замаляваў іх… Адкуль апантанаму студэнту пяцідзесятых—шасцідзесятых гадоў было ведаць, што ён весела квэцае фарбай па палатне Мікалая Рэрыха.

## Менск—Віцебск—Парыж…

Калі табе дзевятнаццаць, то выкладчыка, якому шэсцьдзесят пяць, успрымаеш неверагодна старым. У 1977 годдзе, столькі і было майму інстытуцкаму настаўніку жывапісу і кампазіцыі — Хаіму Майсеевічу Ліўшыцу. Гэта яго пераняў на парадней лесвіцы пры вялізным акне Глобус і паказаў невялікага памеру фотаздымак, кепскай якасці. На той картачцы быў сфатаграфаваны сам Глобус, які праходзіць па местачковай вуліцы ля аднапавярховага цаглянага дамка.

---

*__Сцяпан Уладзімір (Сцепаненка Уладзімір Аляксандравіч)__ нарадзіўся 22 студзеня 1958 года ў гарадскім пасёлку Касцюкоўка на Гомельшчыне. Скончыў Мастацкае вучылішча імя Глебава і тэатральна-мастацкі інстытут, служыў у войску, працаваў на тэлебачанні.*

*Аўтар кніжак прозы: «Сам-насам» (1990) і «Вежа» (1990). Піша таксама вершы, п’есы, сцэнарыі дакументальных і мастацкіх фільмаў.*

Я стаяў праваруч і маўчаў. Хаім Майсеевіч уздзеў акуляры з тоўстымі шкельцамі, адставіў здымак на даўжыню рукі.

— Што гэта, Хаім Майсеевіч? — спытаў мой сябар у майго выкладчыка.

— Дзе?

— На здымку?

— Чалавек ідзе па вуліцы.

— А што гэта за дом? — тыцнуў пальцам у картачку Глобус.

— Ну, дом, і што? Аднапавярховы.

— Хаім Майсеевіч, гэта ж дом Шагала, — сказаў я расчаравана.

Ліўшыц паглядзеў спачатку на мяне, потым на майго сябра, потым на здымак, потым падышоў да акна бліжэй. Раптам з яго тварам нешта зрабілася.

Я не магу гэта апісаць дакладна. Трэба доўга і старанна падбіраць словы. Карацей, Хаім Майсеевіч на вачах памаладзеў. Таргануўся. На паўгалавы зрабіўся вышэйшы, акуляры зляцелі з носа і павіслі на шнурку.

— І вы што думаеце, што я не знаю, што гэта дом Шагала? Думаеце так?.. Мой дом, наш дом, мы жылі праз два ад гэтага. Вось тут. — Кароткі ўказальны палец зрабіў пятлю і завіс у паветры, быццам да сцяны дакрануўся.

Семдзесят сёмы год. Менск. Пра Шагала ўголас лепей было не гаварыць. Вучылі сацыялістычнаму рэалізму, навуковаму камунізму і гісторыі партыі… Парыж здаваўся недасягальным.

Мы з Глобусам ішлі па праспекце і гаварылі пра Парыж. Пра Шагала і Пікасо, пра Жоржа Брака і Фернана Лежэ. Мы гаварылі пра выдатных мастакоў. Купілі ў гастраноме партвейна і напіліся. Але і п’яныя працягвалі гаварыць пра карціны і Парыж. Большасць інстытуцкіх выклачыкаў «прафукалі» свой талент на партрэты перадавікоў, брыгадзіраў, калгасніц і калгаснікаў, партызан і чырвонаармейцаў... І калі яны бачылі, што нехта збіраецца пайсці не іхнім шляхам, то раздражняліся.

Яны, як тапельцы, хапалі за рукі жывых і цягнулі на дно. Мы пачыналі вучыцца падманваць настаўнікаў, уладу, пачалі вучыцца выжываць.

Мы не баяліся будучыні.

Праз пару месяцаў я сядзеў у майстэрні і маляваў. Прыйшоў Ліўшыц. Час быў позні, нават вячэрні, малюнак скончыўся. Я маляваў Менск. Маляваў, як Парыж… Маляваў тэлевежу і хацеў, каб яна была падобная да Эйфелевай. Хаім Майсеевіч сеў на табурэтку. Доўга разглядаў мае эскізы і накіды. Потым закрыў твар рукамі. Потым мне падалося, што ён заплача. Потым, калі адыме далоні ад твару, то яго рот стане крывіцца, а вочы мружыцца, як ад сляпучага святла...

«Яны вас, Уладзімір… Я ж Паўла Філонава ведаў, чулі пра яго? Бедны чалавек. І Шагала бачыў. Ён з’ехаў назаўсёды. Калі б не з’ехаў, то і… Паслухайце мяне, я вам дабра жадаю, не піце столькі віна, не трэба. Я ў Ленінградзе напіўся ў трыццаць трэцім — ледзь не памёр… Віно добрае было, старое, сапраўднае… Не паказвайце гэта нікому. Сабе малюйце, а іншым не паказвайце. Можа потым, калі-небудзь… І сябру свайму скажыце… І я быў левы, такі левы, ну такі… Бачыў эцюд Веласкеса, той, з Эрмітажа, які прадалі амерыканцам. Яны шмат прадалі. Лепшае прадалі. Я ўсе тыя карціны бачыў. На свае вочы, як вашы… А Шагал, што Шагал… Рэмбрант ёсць. «Начная варта» — самая лепшая карціна ў свеце… Эх, стары я… Эх, я столькі бачыў усяго. Не піце столькі, я вас вельмі прашу». Хаім Майсеевіч Ліўшыц пайшоў.

Ён выглядаў прыгнечаным і спалоханым. Я зірнуў на яго плечы, на патыліцу і пачаў збіраць з падлогі малюнкі. Яго спіна — была спінай палоннага…

На наступны дзень ён прыйшоў на заняткі. Ён быў звычайны. Сціплы, ветлівы і крышку абыякавы. Больш з такой шчырасцю ён са мной не гаварыў.

Ліўшыц памёр у Амерыцы, куды з’ехаў на самым пачатку дзевяностых да сына.

Не ведаю, ці захаваліся яго ўспаміны пра дваццатыя—трыццатыя гады, калі ён вучыўся ў Віцебскім мастацкім тэхнікуме, а потым у Ленінградскай Акадэміі мастацтваў…

Я маляваў тэлевежу, старыя кварталы Верхняга горада, Траецкае, мост праз Свіслач, касцёл і царкву…

Пачыналі будаваць гандлёвы цэнтр «Няміга» і дом Мусінскага…

У цагляным і абшарпаным двухпавярховым дамку на вуліцы Астроўскага мастакі ладзілі выставу. Мікола Паўлоўскі выношваў план уцёкаў у Парыж. У вялікім і брудным пакоі, дзе боўталіся дзве яркія лямпачкі, а ўсе вокны закрывалі планшэты і зацягвалі посцілкамі, ён расстаўляў на падлозе свае палотны, расфарбаваныя аэрографам. Ён хадзіў сярод іх у брудным сацінавым халаце, у спартовых штанах з адвіслымі каленямі і кедах на босыя ногі. Рукавы халата былі закасаныя вышэй локцяў... Яго чорна-зялёна-цытронавыя карціны на тэмы космасу мяне не хвалявалі зусім. Яны здаваліся нежывымі, як фотаздымкі.

Паўлоўскі застаўся для мяне там — у семдзесят сёмым, у паўразбураным дамку. У прыціснутым начным небам цёмным квартальчыку Верхняга горада.

Я маляваў Менск, як Парыж.

## Дзённы сеанс. «Змена»

1974 год. Пачатак красавіка.

Ёсць у Менску месцы, якія я ненавіджу. Люта ненавіджу, як па мне, то лепш бы іх не было… Але яны ёсць.

І цяпер кінатэатар «Змена»падаецца месцам далёкім, як не ў Менску.

Не памятаю, які там круцілі фільм, але, відаць, вельмі цікавы, што мы з Глобусам, вырашылі паглядзець. Доўга калаціліся ў трамваі нумар тры. Даехалі. Гаварылі пра сваё: пра мастацтва і карціны, пра настаўнікаў і аднакурсніц, пра алейны жывапіс і будучыню. Перад гэтым пабылі на Камароўцы, памалявалі вясковых цётак у клятчастых хустках і мужыкоў у ватоўках… Падзівіліся на агромністыя гарбузы, на свінячыя галовы з заплюшчанымі вачамі і крыўдліва падціснутымі пашчамі, на рэбры свінячыя ружова-бэзавыя… Паелі пончыкаў з павідлам па пяць капеек… Хацелі патрапіць у вучэльню, у сваю майстэрню, але злосная вахцёрка дзверы не адчыніла — нядзеля.

Які ж там ішоў фільм? Як і тады, так і цяпер, праз трыццаць пяць гадоў, мне гэта не дае спакою. Бывае, што адной дэталі і не хапае, каб успамін выглядаў пераканаўча. Менск быў шэры, расплывісты, як малюнак тушшу на абгортачнай вогкай паперы. Ну, ведаеце, калі туш расплываецца і лінія губляе дакладнасць. Пакамечаным, як тая абгортачная папера, выглядаў красавіцкі Менск. І мы з Глобусам былі абгорнутыя той паперай. Перайшлі рэйкі, павярнулі за рог, прайшлі побач з тэлефоннымі будкамі. Шкло павыбіванае, а самі тэлефонныя апараты на дзве капейкі выглядалі калекамі, знявечанымі і непатрэбнымі. Касы кінатэатра зачыненыя — сеанс адмянілі…

Кіно не прадбачылася. Мы пахадзілі побач, падзівіліся і вырашылі паспрабаваць вярнуцца ў вучэльню, каб памаляваць у цёплай майстэрні цукрова-снежныя гіпсы. Можа, нарэшце, хоць там пашанцуе?

Але кіно нас чакала.

Сапраўднае, рэальнае, жывое, а не на чыстай прасціне экрана. Кіно мусіла адбыцца тут. На шэрай мокрай вуліцы, на бруднай пакамечанай абгортачнай паперы, на шурпатым асфальце. Спачатку з’явіліся два падшыванцы гадоў па трынаццаць — дробныя і мітуслівыя. Яны папрасілі капеек. Мы не далі. Пераглянуліся з Глобусам, плячыма перасмыкнулі, хацелі да прыпын-

ку рушыць. Тут падышлі трое юнакоў нашых гадоў. Мясцовыя і нахабныя, з цыгарэтамі. Па іх разуменні — мы пакрыўдзілі меншых сяброў. Да прыпынку — метраў сто. Але для гэтага трэба павярнуць за рог. Не, мы не спалохаліся. Удвух можна супраць трох. Лёгка. Меншыя падшыванцы некуды зніклі. Слова за слова, і бойка пачалася…

Глобус выхапіў нож.

Яго сцізорык ляжаў у кішэні. Лоўкі — нагойстраны як брытва. У мокра-хрыпатым гомане і крыках — нашых-іхніх, нож бліснуў кароткім лязом суха і колка. Мясцовыя адхінуліся, адскочылі, спалохаліся, бо не чакалі такога сцэнарыя… Помню вочы іхнія і твары, якія згубілі афарбоўку, імгненна спалатнелі…

Нож — гэта не жарт. Гэта моцны жэст. Глобус хутка сакануў паветра. «Нож…» — здзіўлена прашаптаў адзін з мясцовых і азірнуўся. З-за рога дома выбегла трое меншых і пара дарослых дваццацігадовых хлопцаў. У аднаго на шыі матляўся шалік колеру варанай морквы.

Глобус адступіў на крок, хутка склаў нож, закінуў у кішэнь. Тут і пачалася сапраўдная бойка... Тупая і бяздарная. З крыкам, лаянкай… Вулічная.

Мяне павалілі першым. Пачалі «мясіць». Калі я здолеў вырвацца і падхапіцца на ногі, то Глобус ляжаў, а яго білі. Я ўчапіўся ў шалік, колеру варанай морквы, і пачаў адцягваць хлопца. Ён захроп, заторгаўся, але Глобуса біць кінуў. Мяне павалілі на спіну і зноў пачалі біць нагамі.

«Нож!» — у гэтага нож… Апошняе, што я пачуў…

Глобус размазваў па твары яркую кроў. Мы цягнуліся да прыпынку… І тут зноў з’явіліся падшыванцы. Мы пабеглі. Уваліліся ў трамвай. Брудныя і ў крыві. Глобус закрываў твар рукамі, а кроў выцякала між пальцаў…

На другі дзень, у інтэрнаце архітэктурна-будаўнічага тэхнікума, дзе я тады жыў, мне зробіцца млосна. Знаёмы студэнт-в’етнамец абмажа мае жоўта-бэзавыя бакі смярдзючай маззю з металічнай пушачкі. Я буду моршчыцца ад болю і дзівіцца на фотакартачкі ў пакоі в’етнамцаў. Ён, мой лекар, стаіць з аўтаматам пад дрэвам. На галаве саламяны капялюш…

Мае сінякі праз тыдзень сыдуць, а рэбры перастануць балець.

Глобусу застанецца зламаны нос…

У маёй сумцы ляжаў скальпель. У кішэні балоневай курткі Глобуса — ножык з блакітнымі тронкамі. Усё магло скласціся інакш. Зусім кепска.

Гнюснае месца — кінатэатр «Змена». Ненавіджу… Здаецца, там жылі Сяргей Шупа і Альгерд Бахарэвіч.

P. S. А кіно называлася — «Франсіска Гоя, ці Цяжкі шлях пазнання».

## Нафталінавыя цукеркі

У той вечар ішоў снег. Нават, не ішоў, а валіў.

Вішня ў бэзавым змроку, залаты ліхтар…

Дрэўца так абляпіў снег, што яно выдае несапраўдным — казачным, падобным да дэкарацыі лялечнага мультфільма. Вішня і ліхтар за акном, а я за сталом. Падпёр галаву кулаком і гляджу ў бэзавы змрок. Вось, нарэшце, адна з галінак не вытрымлівае цяжару і выпростваецца, скідае снег. А потым ізноў, на вачах, пачынае павольна згінацца.

Гаспадыня, у якой мы здымаем маленькі пакойчык, такі вузкі, што дваім цяжка разысціся, трындзіць і трындзіць. Яна напілася нашай дармавой кавы, сыпала духмяны карычневы парашок — не шкадавала, а цяпер пакутуе. Сэрца калоціцца, твар — чырвонымі плямамі, на лбе — кропелькі поту. Ёй не падабаецца снег, зіма, доўгі вечар, кватарант Жэнька, які яшчэ не вярнуўся

з інстытута. Калі б не было мяне ці Генуся, то кепскімі былі б мы, а не Жэнька. Кепскі заўсёды той — каго зараз няма.

— Ну, хто мне скажа, дзе пархатага носіць? — гучна так прамаўляе гаспадыня і папраўляе пад бокам вялізную падушку.

Яна сядзіць на высокім ложку, абкладзеная падушкамі, і глядзіць, сочыць за кожным нашым рухам.

— Прыйдзе, — адказвае Генусь і працягвае крэмзаць алоўкам па старонцы альбома.

— Відаць, па дзеўках бегае… Прыцягне паскуднік яшчэ брыдоту якую. Заразы рознай хапае на свеце. Мала іх немцы душылі.

— Заняткі ў яго да дзевяці, пакуль збярэцца, даедзе, якія дзеўкі. — Пярэчыць Генусь, якога задзяўбло слухаць старую.

— Снег прымушу зграбаць, як толькі прывалачэцца… А ў пятніцу выпраўлю ў лазню, каб свае пархі памыў.

Я не ведаю, што такое пархі, але не перапытваю — сабе даражэй. Спытай толькі, дык потым гадзіну гаварыць давядзецца.

Сяджу за сталом і гляджу ў бэзавы вечар. Ні чытаць, ні маляваць не хочацца — баляць вочы. Хочацца спаць, але пакуль не прыйдзе трэці кватарант, гаспадыня заснуць не дасць, праверана.

Апранаюся і выходжу, каб прынесці вядро вугалю з дрывотні. Дзверы адсоўваюць снег, праразаюць на ганку паўкола. Мне падабаецца гэты дворык, засыпаны снегам. Падабаецца цішыня. Прыватны дом знаходзіцца амаль у цэнтры горада, а адчуванне такое, што горад далёка-далёка, вакол засыпаныя, пахаваныя пад снегам аднапавярховыя дамы…

Жэнька, нарэшце, прыйшоў. Моўчкі выслухоўвае праклёны на сябе і на тое племя, да якога належыць, круціць пальцам каля скроні, каб гаспадыня не бачыла, паціскае плячыма, грэбліва крывіць рот, вячэрае цёплым малаком з батонам, і кладзецца побач з грубкай.

Мы з Генусем спім на вузкім тапчане. Ён такі вузкі, што спаць удвух можна толькі бокам, а калі паварочвацца, то разам. У нас дамоўленасць — пад коўдрай пра дзевак не гаварыць. Забароненая тэма.

Каб не гаспадыня, якой за семдзесят, я б заснуў адразу. Яна выспіцца ўдзень, калі нас няма, а потым і сама не спіць, і нам не дае, прымушае слухаць байкі пра маладосць і мінулае. Ці пра хваробы разважаць возьмецца. Якая лепш, ад якой добра памерці, а ад якой адны пакуты і смерць паганая, нялюдская, і няхай ад такіх іншыя загінаюцца. У семнаццаць гадоў слухаць пра такое невыносна і нецікава, але ж даводзіцца.

— А чыстыя якія тыя немцы былі… І паголеныя, і пастрыжаныя, і духмяныя… Не тое, што наш Жэнька. Чуеш, што кажу? З мылам мыліся, а не так, як ты — бруд адно па скуры размазваеш…

Снег працягвае падаць. Па шпалерах ляцяць цені, слізгацяць, як лісце.

— Жэнька, ці чуеш мяне?

— Ага.

— Мала вас немцы душылі, кажу… Каб не я, ой, што б тады і было, — брыдка-саладжавым голасам цягне словы гаспадыня… — Жах!

— Ну, і што б тады было? — злосна з кухні перапытвае Жэнька.

— Я адна, мусіць, дзесяткі з два жыдкоў ад вернай смерці ўратавала…

Гаспадыня чакае або пытанняў, або пярэчанняў, а іх няма.

Кватарант прыкідваецца, што заснуў.

— Магла б і болей, а ты мне хлеба прынесці не хочаш?.. Эх, няўдзячны ты, Жэнька… Мяне немцы на брычцы вазілі і на легкавіку каталася, лётала па Менску, як тая фраў. Шакаладам частавалі, чуеш? Я ў тое вашае гета лекі насіла.

І хлеб, і сала… У мяне там сяброўка была. Галя Коган — чарнявенькая такая, маленькая. Застрэлілі яе, відаць, фашысты. Не верыш, заўтра картачку знайду, пакажу табе Галю. Яны ў самым канцы завулка жылі, у цагляным доме.

— Калі яна засне? — шэпча ў плячо Генусь.

— Заўтра раніцай, каб снег прыбралі. Пакуль не прыбярэш, Жэнька, на працу не пойдзеш. А калі не жадаеш — ідзі шукай кватэру, Але дзе ж ты, пархаты, такую танную знойдзеш? Амаль задарма жывеш у цяпле…

— Добра, добра… Я спаць хачу… Я сплю…

— Спі, а хто табе не дае.

Падае снег. Усё ў галаве пачынае блытацца, перамешвацца.

Вішня, немцы на легкавіку, сабакі, зноў немцы, ваеннапалонныя, карціны, няскончаныя малюнкі, фотаздымкі, снег, за мной бягуць немцы і страляюць, брэшуць сабакі, я падаю і спаўзаю з высокага адхону ў траву, прыкідваюся забітым, здзіраю больку пад сэрцам, кашу вокам на плямку крыві, якая расплываецца на кашулі, і здзіўляюся, што крыві так мала, могуць не паверыць, могуць здагадацца, што я жывы, палохаюся… Вой! Памажыце ж, памажыце! Вой, паміраю, Жэнька, дзе ты? Вады, вады!

Не адразу разумею, хто просіць ратунку, хто крычыць, каму дапамагаць, я ж мушу ляжаць нерухома. Упэўнены, што крыкі — у маім сне, бо там — вайнушка…

А крычыць наша старая гаспадыня. Крычыць і стогне, кліча нас на дапамогу. Падхопліваемся, грукаем у сцяну, за якой жывуць нявестка гаспадыні і яе ўнукі. У іх ёсць тэлефон. Я апранаюся і выходжу сустракаць «хуткую». Ідзе снег. Нават не ідзе, а валіць. Стаю ў двары, на снезе толькі мае сляды. Прыходзіць унук гаспадыні, просіць цыгарэту. Чакаем разам, палім і маўчым.

Машына з чырвоным крыжам прыязджае праз паўгадзіны. Немалады доктар, халат паверх паліто, вітаецца з нашай гаспадыняй — ён ведае ўсе яе хваробы. Мерае ціск, а потым спрактыкавана робіць укол.

Жэнька прыбірае снег, выцірае на падлозе калюгі, возіць па масніцах анучай. Гаспадыня сядзіць на сваім высокім ложку, прыціскае да грудзей падушку.

— Ці ж гэта дактары? Вось у немцаў былі дактары. Жэнька, і тут, і там прыбяры, толькі бруду нанеслі. Жэнька, і судно маё далёка пад ложак не запіхвай. Спіце, што сядзець, не памру я сёння.

Раніцой на заняткі ў мастацкую вучэльню я не пайшоў. Вольна спаў гадзін да дзесяці на вузкім тапчане, а потым выйшаў у двор і пачаў маляваць снег… Гаспадыня пазірала на мяне з акна, потым выкараскалася на чыста падмецены ганак, доўга стаяла і, як мне падалося, усміхалася.

— А мой сын таксама мастаком быў… Эх, шкада — няма яго… Змерз? Ідзі ў дом, я вады нагрэла, кавы пап'ём, а то захварэеш, хто лячыць будзе. Я толькі аборты рабіць добра ўмею.

Ногі мокрыя. Рукі замерзлі. Эцюд атрымаўся.

— А майго сына як і цябе звалі… — кажа гаспадыня і размешвае ў вялікім кубку распушчальную каву.

На стале, побач з маім кубкам — дзве цукеркі. Разгортваю фольгу, кусаю ссівелы цвёрды шакалад. У роце прысмак нафталіна.

І вішню я намаляваў…

І чорны плот, і брамку сінюю,

І цішыню…

Гаспадыня аблізала лыжачку і паклала на цырату.

Жэньку наша гаспадыня здолее прапісаць у сваім доме. Калі праз пяць гадоў дом знясуць — ён атрымае кватэру на вуліцы Куйбышава, непадалёк ад Камароўкі, лічы — ў цэнтры.

## Ядзя ела яблык

Мастак і мадэль — вечная песня. Ёй тысячы гадоў.

Я пазнаў Ядзю імгненна. Глянуў і пазнаў. Хоць яна і апранутая, і хустка на галаве стракатая, але пазнаў. Маляваць — не фатаграфаваць. Жанчына стаяла скульптурна: абапіралася на левую нагу, правая крыху адстаўлена ўбок, корпус і галава павернутыя. Звычайная пастава для натуршчыцы.

Мяне яшчэ і на свеце не было, а Ядзя сядзела, ляжала, стаяла на шэрым дыктавым подыуме, на тле markdown рознакаляровых драпіровак. З гіпсавай амфарай, з жаўтлявым чэрапам быка, побач з букетамі штучных кветак… Яе вялікае аголенае цела свяцілася і зіхцела.

І была яна маўклівая і засяроджаная…

Не ведаю, а ці ёсць сярод мастакоў, скульптараў, графікаў і манументалістаў, якія вучыліся ў апошнія гадоў пяцьдзесят, хоць адзін, які не маляваў Ядзю. Мусіць — няма… І мне пашчасціла маляваць яе і пісаць разоў пяць. І мае настаўнікі інстытуцкія, калі былі студэнтамі, таксама малявалі, пісалі, ляпілі з гліны і з пластыліну гэтую жанчыну. У 1955-м яна прыйшла ў інстытут, трохі падзарабіць. Думала часова, а засталася на ўсё жыццё. Зрабілася прафесійнай натуршчыцай. Не была яна прыгажуняй у сённяшнім разуменні. Звычайная жанчына.

Я маляваў Ядзю ў вучэльні, потым некалькі разоў, але падоўгу, у інстытуце.

…Цэлюліт, варыкоз, валасы рэдкія, сівыя, спіна крышку сагнулася, твар у зморшчынках, блакітныя жылкі праглядаюць праз белую незагарэлую скуру, але я гэтаму мала надаваў увагі. Дэфармаванае часам і жыццём, цела робіцца выразным, яго лягчэй маляваць...

Гадоў восем таму…

Так, у новым тысячагоддзі сустрэў яе на аўтобусным прыпынку, на вуліцы Сурганава, побач з акадэміяй, побач з Домам друку, побач з уваходам у інтэрнат... Не магу прызвычаіцца да назвы — акадэмія. Ну, не акадэмія яна для мяне… Запарыце мяне алоўкамі — не акадэмія, а калі і так, то пухавіцкая, як яе абзываў мастак Малішэўскі.

Ядзя ела жоўты яблык. Няспешна, з асалодай, але і асцярожна. Стаяла на прыпынку, як скульптура. Вакол былі людзі. Яны ўсе рухаліся, а Ядзя стаяла.

Ядзя магла паглядзець на малюнак, ці палатно, напісанае студэнтам любога курса, і беспамылкова, як загадчык кафедры, вынесці вердыкт. «Табе паставяць тройку, а табе чацвёрку… А гэты малюнак у фонд забяруць. А табе стыпендыі не дадуць, чуеш?» — спакойна разважала голая натуршчыца. На прыёмных іспытах яна казала маладым мастакам — хто і што атрымае. Па яе позірку можна было здагадацца — стане абітурыент студэнтам, ці не. Натуршчыца ніколі не памылялася. Пра карціны не выказвалася, бо ў кампазіцыі не разумела. Яна была надзейная і спакойная. Не спазнялася, магла затрымацца, калі вельмі прасілі.

Нехта мне сказаў, што яна адмовілася пазіраваць апранутай. Пакрыўдзілася і сышла з акадэміі, а пайсці пазіраваць у вучэльню, ці мастацкую школу, гонар не дазваляў.

Яна ела яблык і глядзела на мяне. У твар. Так, як на скончаны малюнак. Тым жа абазнаным позіркам шэрых вачэй. Магчыма, яна маё імя спрабавала згадаць, прозвішча… Яна глядзела так, як тады — у 1980 годдзе мінулага стагоддзя.

Я мог спытаць пра адзнаку… Мог, але… Навошта…

Доўгі зялёны аўтобус павёз старую жанчыну, якая ведала маё мінулае і маю будучыню…

Мастак і мадэль — вечная песня. Ёй тысячы гадоў.

***2009***

**Мікола МІКУЛІЧ**

# «КРЫЛАТА ЦЕНІ МІТУСЯЦЦА...»

## Паэзія Хведара Ілляшэвіча заходнебеларускага перыяду

Значнае месца ў заходнебеларускай літаратуры 20—30-х гадоў мінулага стагоддзя належыць творчасці Хведара Ілляшэвіча (1910—1948). Паэт сцвярджаў высокія духоўна-гуманістычныя асновы жыцця, яго неадольнасць і неперавызданую сілу, ідэю паяднанасці і роднасці самой генетычна-кодавай сутнасці навакольнага свету, прыроднага асяроддзя і чалавечай душы. Зборнікі Х. Ілляшэвіча «Веснапесні» (1929), «Зорным шляхам» (1932) і «Захварбаваныя вершы» (1936) сведчаць пра тое, што яго мастацкая свядомасць вызначалася звернутасцю да міфалагічных, духоўна-метафізічных асаблівасцей народных вераванняў і ўяўленняў, якія прадугледжвалі адзінства і цэласнасць складаных жыццёвых працэсаў, характэрную светацэнтрычнасць, сувязь усяго з усім, узаемаабумоўленасць і ўзаемазалежнасць, ідэальную раўнавагу шматлікіх з'яў і прадметаў. Паэт ухіляўся ад прамога адлюстравання рэчаіснасці, асэнсавання грамадска-сацыяльных праблем і супярэчнасцей, аддаючы перавагу іх душэўна-псіхалагічнаму абжыванню, раскрыццю ўнутранага свету лірычнага героя, засяроджанага на спасціжэнні існага, прасвятленні абсалютнага сэнсу. Тут мы не можам пагадзіцца з рэцэнзентам зборніка «Захварбаваныя вершы» Я. В-ічам, які ў часопісе «Калоссе» адзначаў, што «спакойны, зраўнаважаны верш Ільляшэвіча вельмі рэдка прамаўляе да нашай пачуцьцёвасьці» [1, с. 59]. З'явы і працэсы навакольнага асяроддзя паўставалі ў свядомасці паэта, галоўным чынам, як пэўныя душэўна-пачуццёвыя дзеянні, эмацыянальна-псіхалагічныя малюнкі. У вершы «Я не знаю...» ён падкрэсліваў наступнае: «Быццам жрэц словаў ціхіх, пакорных, // Я закляцьце раблю над імі, // Каб у вершы — Словаў узоры // Зьзялі пацеркамі дарагімі» [2, с. 13]. Гэта былі не проста мастацкія прыёмы язычніцкага адухаўлення, міфалагізацыі і містыфікацыі рэчаіснасці — Х. Ілляшэвіч жыў тым, што адчуваў, у што верыў. Ён меркаваў, быццам у прыродзе і свеце ўсё мае «агульную аснову арганічнага быцця» (У. Салаўёў), надзелена душою, падуладна высокай магічнай сіле, знаходзіцца ў працэсе няспыннага пераўтварэння і абнаўлення:

> Тысячай сонцаў у шыбах разьліўся заход.
> На радыё — дроце...
> вароны спраўляюць вячэрню...
> Сьвежасьць навейвае вулачны мрок —
> Места вячэрняе.
> Ў іскрах, што ліжуць блакіт языкамі ракет,
> Ў моры людзёў, неўгамонным ніколі...
> Чую я нейкі сусьветны прывет —
> Вечнае Волі... [3, с. 13].

Духоўны светапогляд Х. Ілляшэвіча ў многім характарызаваўся асаблівасцямі ідэальнага пачатку, аб чым пераканаўча сведчаць вершы «Часамі ў душы маёй дзіўнай мэлёдыяй...», «Вечар лашчыцца, быццам даль...», «Сонца грэзне ў чырвоны кісель...», «Ноч прыйшла туманная...», «Казка», «Музыка» і інш. Чытаючы іх, мы бачым, што таямнічая і загадкавая душа свету рэалізавала сябе і ў тым, як «Мігае лямпа. Ноч маўчыць... // Бязьлісты, голы сад шуміць...» («Штрых»), і ў тым,

як «Каля рэчкі... агнямі сінімі // Забаўляецца вечар — змрок...» («Навакол муры — простыя лініі...»), і ў тым, як «Ў каласы месяц-серп задзылінкаў — // І вячорны вызваньвае псальм // Пацямнеўшы мурожнік — клінкер...» («Казка»). «Ў жоўтым лісьці гарыць белы вечар, напудраны заравам раньня, — казаў паэт у вершы «Асенняя паэма». — А ўначы на драты начаваць разьлятаюцца зоркі ў тумане» [4, с. 12]. Жыццё ў яго мастацкай сістэме раскрывалася ў якасці бясконцай зменлівай плыні ўзаемазвязаных з'яў і фактаў і адначасова як пэўная адносна замкнёная сфера, якая прадугледжвае іх паўтаральнасць, цыклічнасць, рытмічную перыядычнасць функцыянавання. Будзённыя працэсы і рэчы навакольнага асяроддзя набывалі ў Х. Ілляшэвіча незвычайнае, ірэальнае, чарадзейна-казачнае выяўленне, адухоўлены змест. У той жа час мройліва-зыбкія, містычныя карціны і вобразы, наяўнасць якіх абумоўлівалася палётам фантазіі аўтара, інтуітыўна-пачуццёвым успрыняццем свету, атрымлівалі ў яго прадметна-рэчыўнае напаўненне, рэалістычную афарбоўку. Дастаткова часта вобразна-метафарычны малюнак разгортваецца такім чынам, што ў ім цяжка распазнаць, дзе заканчваецца адно і пачынаецца другое:

Дрэвы шапочуць у боскай драмоце,
Зоркі гараць, зачапіўшысь ў галінах,
Пар лёгкаўздымны кадзіць на балоце,
Таюць ў начы ціхасьпеўныя гімны...
Гэта малітвы к прастору — Сусьвету
Ў сьветла-пяшчотным зямлі прабуджэньні...
Быццам крылатыя казкі-прыветы,
Быццам цудоўныя сьпевы-тамленьні...
Слухай... Маўчы... [3, с. 60].

Паводле некаторых міфаў, у зусім далёкім мінулым «неба і зямля былі бацькам і маці ўсяго, што існуе на свеце... у самыя старажытныя часы яны былі злучаны і толькі пазней былі разлучаны» [5, с. 156]. Іх звязваюць дзень і ноч, сонца і змрок, святло і цені, дождж і вецер. У вершы Х. Ілляшэвіча «Дрэвы шапочуць у боскай драмоце...» зямное і нябеснае, рэальнае і міфалагічнае, фізічнае і духоўнае знаходзяцца ў стане ўзаемаапладнення, абмену энергетыкай, жыццёвымі сіламі. У ім адно развіваецца і аб'ядноўваецца з другім, прадугледжвае наяўнасць трэцяга, а ў выніку субліміруецца ў новую якасць — раствараецца ў абсалютным. У той жа час уся універсальная сутнасць навакольнага свету выяўляе сябе ў канкрэтным, індывідуальным, чым забяспечваецца дыялектычнае адзінства і раўнавага паміж прыватным, асобным і агульным, касмічным.

Духоўна-мастацкае мысленне Х. Ілляшэвіча вызначалася суб'ектыўна-ідэалізаваным характарам раскрыцця жыццёвых працэсаў, умоўнасцю і нечаканасцю фігуральных супастаўленняў і асацыяцый, няпэўнасцю і таямнічасцю вобразна-метафарычнага выяўлення. Паэт сведчыў сваю набліжанасць да ідэйна-эстэтычных традыцый М. Багдановіча, у многім арыентаваўся на творчы вопыт рускага імажынізму, нездарма яго пяру належаць крытычныя нарысы «Максім Багдановіч як пясняр места» і «Ясенін у беларускай паэзіі». Шмат якія вершы Х. Ілляшэвіча звярталі на сябе ўвагу сімвалісцкай неадназначнасцю і мройлівасцю зместу — неакрэсленым і няўстойлівым сюжэтна-падзейным радам, няўлоўным і крохкім душэўна-псіхалагічным светам лірычнага героя. «Зноў я нечага жадаю, // Зноў я нечага томлюсь... — чытаем у адным з іх. — Мо' з вішнёвым цьветабаем // Цалаваць маці — зямлю?..» («У бярэзніку — зялёнцы...»).

Мы не знойдзем у Х. Ілляшэвіча падрабязных, насычаных, закончаных апісанняў і характарыстык, якім уласціва выразнасць зместавых контураў і абрысаў, кантрастнасць ліній. Паэт меў схільнасць да натхнёнага пачуццёвага сузірання і душэўнай узрушанасці, тонкіх, зменлівых уражанняў, сведчыў акварэльную лёгкасць мазкоў і фарбаў, часам своеасаблівую фрагментарнасць і адасобленасць

успрыняцця з'яў і прадметаў. Яго мастацкая свядомасць была прасякнута настраёва-прачулым лірызмам, выразным музычным пачаткам і раскрывалася ў характэрным імпрэсіяністычным малюнку — жывым, рухомым, нават дынамічным і ў той жа час умоўным, экзатычным, казачным:

Гмахі плывуць у блакітныя
змрокі,
Быццам у прыстань на ноч караблі —
Рушылі цені вячорныя ў скокі,
Зоркі да дахаў бліжэй падплылі.
Быццам трывогу ад сэрца аднялі,
Подыхам сьвежасьці думкі ўзьнялісь —
Час:
калі ў вулках блакітныя далі
Й змрокі дрыжачыя клічуць кудысь.
Хутка пальлюцца ў счарнеўшыя высі
Тысячы крыкаў і вогненных зьмей...
Вечар!
Кароткі — пяшчотны —
Туліся да зачарованых нашых вачэй... [4, с. 7].

«Вобраз горада ў Х. Ілляшэвіча ў пэўнай меры імпрэсіяністычны, —абгрунтавана заўважаў А. Ліс. — Людскі натоўп, дамы, электрычнае святло, рэкламы — тыя рэаліі, якія ператвараюцца ў словах паэта ў візію неабыдзеннага свету. Горад для яго набывае трансцэндэнтальнае прыцягванне» [6, с. 46].

У вершы «Гмахі плывуць у блакітныя змрокі...» выразна акрэсліваюцца два адносна самастойныя і ў той жа час цесна звязаныя паміж сабою суб'екты — рэальнасць і адчуванне паэта. Першы з іх, рэальнасць, паўстае ў вобліку вечара, якога лірычны герой запрашае туліцца «да зачарованых нашых вачэй...», і яго характэрных аксесуараў. Другі, адчуванне, разгортваецца ў досыць шматзначную, сімвалічную карціну, дзе ўсё існуе ў сваім іманентным перапляценні і ўзаемаабумоўленасці. Надзеленыя душой і свядомасцю, абодва гэтыя суб'екты функцыянуюць у цесных узаемадачыненнях і рэалізуюць сваю зместавую сутнасць адзін праз другога.

Падобнымі асаблівасцямі звяртае на сябе ўвагу і верш «Сонца гразне ў чырвоны кісель...», які заключае ў сабе тры досыць розныя сюжэтна-тэматычныя лініі. Першую арганізуе імпрэсіяністычнае апісанне ранняга вечара, заходу сонца, другая фігуруе ў якасці таямнічага спеву ў полі: «Нехта ў полі далёка пяе...» Што датычыць трэцяй лініі, дык яна непасрэдна звязана з вобразам лірычнага героя верша: «Воз мой песьні таей падпявае...» Своеасабліва сутыкаючыся і адштурхоўваючыся адна ад другой, дадзеныя лініі ўтвараюць досыць цэласны сюжэтна-кампазіцыйны комплекс, цікавы і своеадметны, імажыніcцкі па сваім характары, малюнак:

Сонца гразьне ў чырвоны кісель...
Каласьсяна залацяцца гоні.
На узьлесьсях пасела імглістая бель,
Быццам стада белагрывых коняў...
З-за вазёр, з сінядымнага краю,
Прыляцела вячэрная бая.
Нехта ў полі далёка пяе,
Воз мой песьні таей падпявае... [3, с. 32].

Х. Ілляшэвіч ствараў у многім ірэальныя, прывідныя, ілюзорныя малюнкі і карціны, у аснове якіх палягалі няпэўныя, хісткія, імпрэсіяністычныя

адчуванні і ўяўленні: «Вечарам мглiста дымяцца вуліцы — //Нехта разьліў у тумане жоўць... // У вочы чаромхай электрыкі жмурыцца // Места гулкае — фасфарачны воўк» («Дымнае места»), «Ў небе зоркі–папяроскі // Сыплюць попел — шэры вечар... // Агні места — быццам сьлёзкі, // Быццам блеск дрыжачых сьвечак. // Цені — птушкі па-над брукам — // Нібы вораны, ці каўкі...» («Ў небе зоркі — папяроскі...»), «Калышуцца дамы — катафалкі — у тумане йдуць павольным крокам людзі — зданьні... // Навісла неба чорнай харугвай — // На слупох гараць хаўтурныя паходні — сьвечы — а вецер паніхідзіць у вуглах...» («Яшчэ аб восені»). Творчасць паэта была звернута ва ўнутранае жыццё беларуса, яна сведчыла судакрананне з самым патаемным і загадкавым у душэўна-псіхалагічным свеце асобы, з мройлівасцю і летуценнасцю яе перажыванняў, мар і памкненняў:

Часамі ў душы маёй дзіўнай мэлёдыяй
Пышныя краскі цьвітуць...
Гэта час, калі ціхія-сумныя,
Свой адвечны праходзячы пуць,
Зоры ў прасторную муць,
Таюць... плывуць...
Гэта час, калі журбою хворы я,
Калі сэрца так соладка тае
І, хапаючы згукі сусьветныя,
Чалавецтва усё абыймае...
І, як вечара фарбы ў маі,
Тае... тае... [7, с. 36].

Творчасць Х. Ілляшэвіча з’яўлялася ўвасабленнем тонкай мастацкай чуйнасці і відушчасці, умення раскрыць высокую красу, паэзію навакольнай рэчаіснасці. Яна вызначалася пачуццём сцішанага лагоднага сузірання, ідылічнага любавання і захаплення зменамі і зрухамі ў прыродным асяроддзі. Як правіла, перад чытачом паўставалі жывапісныя, пластычныя, поўныя празрыстасці і чысціні малюнкі, якія сведчылі раскаванасць і нязмушанасць вобразна-метафарычнага ўяўлення аўтара. «Абразы ягоныя нязвычайна фрагмэнтарычныя й згушчаныя, — заўважаў ужо згаданы намі Я. В-іч, — але, дзякуючы вялікай мэтафорычнасьці стылю, зьяўляюцца выразнымі, плястычнымі, якія ярка зарысоўваюцца ў нашым выабражэньні і выклікаюць адпаведны настрой» [1, с. 59]. Напрыклад, паэт умеў прыкмеціць, як «Сьпіць чарот і дрэмлюць лозы // У пялёнках мокрай ймглы», як «Між іх вецер нецьвярозы // Ціха сее свае сны». «Пасьмяецца, пашапоча, // Укіне казкі цуднай чар, — казаў ён у вершы «Месячная ноч», — І гайда гуляць па ночы // На прывольле, на абшар!..» [7, с. 17]. У яго не проста гучыць «Песьня звонкая» жаўранка, а «Сіню даль яна калыша, // Будзіць поле, сенажаць...», «Сокі гукаў і таноў» яе «Краска кожная ўбірае» («Песня жаўранка») і інш.

Зліваючыся з прыроднымі з’явамі, Х. Ілляшэвіч раскрываў іх унутраную сутнасць, ідэалізавана-суб’ектыўны змест, гарманічную ўраўнаважанасць і суразмернасць частак і элементаў цэлага. Паэт маляваў прыроду як чарадзейнае царства таямнічых сіл, незвычайных падзей і здарэнняў, міфалагічных працэсаў, містычных змен і пераўтварэнняў, як тую сферу, дзе святло пануе над цемрай, дабро над ліхам, дзе перамагаюць і дамінуюць жыццё і краса. У вершы «Бор» ён сведчыў сваю далучанасць да таго, чаго па сутнасці няма ў рэальнасці. Прыродна-біялагічнае, тое, што ідзе ад геаграфічнага ландшафту, флоры і фауны Беларусі, пераплятаецца ў ім з касмічным, біясферным, спалучаецца з міфалагічна-казачным, душэўна-псіхалагічным, тым, што абумоўлена і прадыктавана духоўна-інтуітыўнымі асаблівасцямі чалавечай душы, светам яе мар і фантазій.

Крылата цені мітусяцца,
Шумяць маркоцячыя хвоі...
Праз вецьце зоркі мігацяцца
На крыльлях казкі залатое...
Далёкі шум брыдзе з туманаў,
У гушчы жальбою галосіць...
Як чараўнік, рукой вятранай
Чапае струны стромкіх сосен...
Далей, далей імкнецца, ймчыцца
(Яшчэ зьвініць, яшчэ гамоніць),
Разьвее плескам сон крыніцы,
Шапне калосьсям штось на гонях...
Тканінай мглістаю крыляцца
Маркотных хвояў цені-роі...
Праз вецьце зоркі мігацяцца
На крыльлях казкі залатое [7, с. 57].

Як вядома, бор належыць да важных складовых элементаў беларускай этнапрасторы. Аднак перад намі зусім не тыповая для нацыянальнай літаратуры ліра-грамадзянская паэтызацыя асаблівасцей лясной прыроды, адвечнага гоману кучматых дрэў, перашэпту лістоты і г. д. Твор прасякнуты летуценнай мройлівасцю, містэрнасцю адчуванняў, адухоўлена-язычніцкім характарам светабачання аўтара. Яго вобразна-метафарычны малюнак дыхае таямніча-загадкавай першароднасцю і красою, струменіць акварэльнай лёгкасцю і нязмушанасцю фарбаў і адценняў, штрыхоў і ліній, так бы мовіць, чарадзейна-казачнай ілюзорнасцю і скіраваны да вечнай красы і гармоніі. Гэта своеасаблівая пейзажная сюіта, жывапісны эцюд, які спалучае ў сабе пластыку суб'ектыўнага адлюстравання рэчаіснасці, эскізную акварэльнасць імпрэсіяністычнай выявы і тонкую, ледзь улоўную музычную інструментоўку, гукамеладычнасць.

У аснове духоўна-мастацкіх пошукаў Х. Ілляшэвіча давераснёўскага перыяду палягала ідэя выяўлення ўнутранай сутнасці, таямнічага характару беларускай душы. Яго творчасць вызначалася спакоем і раўнавагаю ў разгортванні думкі і пачуцця, элегічнай псіхаэмацыянальнай настраёвасцю, канструкцыйнасцю і ўскладненасцю вобразна-метафарычнага зместу, на што звяртаў увагу ў сваім вядомым артыкуле «Літаратурны маладняк і крытыка» Максім Танк [8, с.79]. Паэт сведчыў рост духоўна-маральнай самасвядомасці беларускага народа, развіццё і паглыбленне яго мастацкага мыслення і перажыванняў, сцвярджаў паўнату і натуральнасць адчування жыцця.

Далейшыя духоўна-мастацкія пошукі Х. Ілляшэвіча будуць разгортвацца ў складаныя ваенныя і пасляваенныя гады.

**Спіс літаратуры:**


1. Калосьсе. — 1937. — № 1.
2. Калосьсе. — 1935. — № 1.
3. Ільляшэвіч, Х. Зорным шляхам. — Вільня, 1932.
4. Ільляшэвіч, Х. Захварбаваныя вершы. — Вільня, 1936.
5. Тайлор, Э. Б. Первобытная культура. — М., 1989.
6. Ліс, А. Паэзія Хведара Ілляшэвіча // Культура беларускага замежжа: 2.— Мн., 1993.
7. Ільляшэвіч, Х. Веснапесьні. — Вільня, 1929.
8. Танк М., Літаратурны маладняк і крытыка // Беларускі летапіс. — 1938. — № 4—5.


Артыкул паступіў у рэдакцыю 4 красавіка 2010 г.

**Рэзюме**

Мікола Мікуліч
«Крылата цені мітусяцца…»
Паэзія Хведара Ілляшэвіча заходнебеларускага перыяду

У артыкуле разглядаюцца асаблівасці творчага метаду паэта Хведара Ілляшэвіча, які займае значнае месца ў беларускай літаратуры 20—30-х гадоў. Аўтар адзначае імпрэсіяністычны малюнак, выразную настраёвасць і філасафічнасць паэзіі Х. Ілляшэвіча.



**The Summary**

Michalaj Mikulich
«Wingly flying shadows…»

«Hvedar Illyashevich's poetry in the period when West Belarus was under influence of Poland».

The creative metods of Hvedar Illyashevich is examined in this article. He was a very important person in the Belarussian literature of 20—30 of the XX century.

Author notices the bright expression of words, impressionistic picturesque of his poetry in the aggregate with it's different moods in lines of this one, the deep way of the philosophical thinking of the poet.

**Леанід ЗЕМЛЯКОЎ,**
***доктар палітычных навук, прафесар***

**Мікалай ШЧОКІН,**
***кандыдат філасофскіх навук, дацэнт***

# РЭЛІГІЯ І АДУКАЦЫЯ Ў РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ

У апошні час у рэлігійным жыцці Рэспублікі Беларусь адбыліся значныя падзеі. Грамадскасць уважліва сачыла за ўз'яднаннем дзвюх праваслаўных цэркваў, святкаваннем 1020-годдзя Хрышчэння Русі, выбраннем новага Кіраўніка Рускай Праваслаўнай Царквы, восьмым (25.09.09—28.09.09 гг.) апостальскім спадарожжам Патрыярха Маскоўскага і ўсея Русі Кірыла па беларускай зямлі. Узрастанне цікавасці да рэлігіі ў многім тлумачыцца духоўным адраджэннем краіны, змяненнем рэлігійнай свядомасці насельніцтва. Царква перастала ўспрымацца як рудыментарная з'ява і пераўтварылася ў важнейшы сацыяльны інстытут. Рэлігія ў цэлым і асобныя царкоўныя інстытуты сталі важным фактарам грамадска-палітычнага жыцця краіны. У пацвярджэнне гэтай думкі дастаткова назваць сустрэчы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі з Кіраўніком Рускай Праваслаўнай Царквы, якія адбыліся ў Маскве (10.04.09 г.), у Мінску (25.09.09 г.), і сустрэчу з Папам Рымскім Бенядзіктам XVI у Ватыкане (27.04.09 г.).

Прыкметна палепшыліся адносіны дзяржавы з рэлігійнымі арганізацыямі, у першую чаргу з Беларускай Праваслаўнай Царквой (БПЦ) і Рымска-каталіцкай Царквой (РКЦ).

У Рэспубліцы Беларусь адносіны дзяржавы і рэлігійных арганізацый будуюцца на аснове прынцыпаў свабоды сумлення, неўмяшальніцтва дзяржаўных органаў у дзейнасць рэлігійных арганізацый і ў той жа час на аснове прызнання дзяржавай значнага ўкладу БПЦ і РКЦ у станаўленне беларускай дзяржаўнасці, развіццё нацыянальнай культуры і ў зацвярджэнне духоўна-маральных каштоўнасцей у грамадстве. Гэтыя ідэі складаюць аснову свецкай дзяржавы і маюць асаблівае значэнне для Рэспублікі Беларусь, краіны шматнацыянальнай і поліканфесійнай.

У свецкай дзяржаве (светапоглядна нейтральнай, роўнааддаленай, безацэначнай, гэта значыць, дзяржаве, якая не аддае перавагі ніякаму светапогляду) свабода сумлення і іншыя фундаментальныя правы і свабоды чалавека не пазбаўлены маральнага вымярэння. Яны цесна звязаны з гонарам і годнасцю асобы, якія з'яўляюцца крытэрыем духоўных, маральных і сацыяльных якасцей чалавека.

У цяперашні час з'явіліся новыя элементы свабоды сумлення, у прыватнасці, такія: права на альтэрнатыўную грамадскую службу, права на рэлігійную бяспеку. Акрамя таго, адбываецца пераасэнсаванне канстытуцыйнага права на рэлігійную адукацыю, з'яўляюцца дадатковыя магчымасці для яго рэалізацыі. Такім чынам, можна размаўляць пра пашырэнне зместу паняцця «свабода сумлення» ва ўмовах фарміравання свецкай дзяржавы.

*Свецкая дзяржава* — гэта такі спосаб арганізацыі публічнай (палітычнай) улады, пры якім дзяржава і рэлігійныя арганізацыі адасоблены і ў той жа час узаемадзейнічаюць адна з адной, адсутнічае дзяржаўная або афіцыйная рэлігія, што забяспечвае роўнасць рэлігійных арганізацый перад законам, свабоду сумлення і раўнапраўе грамадзян незалежна ад адносін да рэлігіі ў мэтах дасягнення балансу інтарэсаў асобы, дзяржавы і рэлігійных утварэнняў у розных сферах жыцця грамадства.

У той жа час свецкая дзяржава ў сучаснай Беларусі толькі робіць першыя крокі. Рэспубліка Беларусь не мае такога вопыту, як, напрыклад, Францыя, Англія, ЗША, Германія і іншыя краіны, якія ўзялі курс на свецкасць з пачатку XVIII стагоддзя. Фарміраванне свецкай дзяржавы ў Рэспубліцы Беларусь адбываецца ва ўмовах пастаяннага пашырэння канфесійнай прасторы, пошуку навуковага абгрунтавання асноў ідэалогіі беларускай дзяржавы, неабходнасці выбудоўвання граматнай дзяржаўна-канфесійнай і міжканфесійнай палітыкі, у працэсе чаго на практыцы ўзнікае шэраг складанасцей.

Важнейшай састаўляючай свецкасці сучаснай беларускай дзяржавы з'яўляецца *свецкасць яе органаў*, і перш за ўсё органаў *дзяржаўнай улады*. Яна прадугледжвае асаблівасці арганізацыі і дзейнасці дзяржаўных органаў, замацаванне палітыка-прававых асноў іх узаемадзеяння з рэлігійнымі арганізацыямі і прыхільнікамі розных светапоглядаў.

Істотнымі рысамі свецкасці дзяржаўных органаў як палітыка-прававой катэгорыі з'яўляюцца: 1) свецкасць фарміравання органаў дзяржаўнай улады; 2) свецкасць іх функцыянавання; 3) свецкасць палітыка-прававога статусу асоб, надзеленых уладнымі паўнамоцтвамі; 4) свецкасць этыкі службовых асоб; 5) свецкасць дзяржаўнай сімволікі.

Жыццёвай праблемай з'яўляецца гарантаванне рэлігійнай бяспекі грамадзян Рэспублікі Беларусь у кантэксце свецкасці. З'явіўся вялікі выбар светапоглядных сістэм, рэлігійных рухаў. Дзейнасць некаторых з іх наносіць урон дзяржаве і грамадству, мае негатыўныя вынікі для насельніцтва. Пераканаўчым доказам таму з'яўляецца факт добраахвотнага зняволення групы людзей, сярод якіх былі і грамадзяне Рэспублікі Беларусь, у падзямеллі яра, размешчанага каля сяла Нікольскае Бекаўскага раёна Пензенскай вобласці. Чаканне канца свету працягвалася 175 дзён і прывяло да смерці 2 пустэльнікаў.

Больш значнай становіцца прысутнасць рэлігійнага кампанента ў дзейнасці органаў дзяржаўнай улады, праваахоўных і армейскіх падраздзяленняў, установаў адукацыі і аховы здароўя, што стварае пагрозу клерыкалізацыі дзяржаўных і сацыяльных інстытутаў.

Рэлігія ў апошнія два дзесяцігоддзі стала адным з найбольш істотных фактараў сучаснага беларускага сацыяльнага быцця, у сувязі з чым асаблівую значнасць набывае форма яе ўплыву на станаўленне і развіццё розных сфер грамадскага жыцця, сярод якіх усё большую ўвагу прыцягвае да сябе дзяржаўная адукацыя. У гэтай сферы найбольшы грамадскі рэзананс выклікалі праблемы, звязаныя са спробамі ўкаранення шэрагу новых дысцыплін, якія змяшчаюць веды аб рэлігіі, у дзяржаўныя школы.

З аднаго боку, рэлігія непарыўна звязана з грамадствам і культурай, адукацыяй і выхаваннем. У масавай свядомасці, СМІ, некаторых рэлігійных і навуковых публікацыях гэтым адносінам часта надаецца вырашальнае значэнне, што з'яўляецца падставай для ўкаранення ў школы традыцыйных у мінулым і новых форм рэлігійнай адукацыі.

Безумоўна, веды аб рэлігіі з'яўляюцца неад'емным кампанентам адукаванасці сучаснага чалавека, агульнай і прафесійнай культуры спецыяліста. Але выкладанне гэтых ведаў можа ажыццяўляцца ў розных формах — свецкай, рэлігійнай, антырэлігійнай (атэістычнай). Найбольш актуальным з'яўляецца гэта пытанне для ўстаноў дзяржаўнай сістэмы адукацыі, у якіх могуць мець месца тэндэнцыі падмены свецкай адукацыі рэлігійнай, а рэлігіязнаўчых ведаў — тэалагічнымі.

Пранікненне рэлігіі ў сістэму адукацыі, якая да нядаўняга часу была максімальна секулярызаванай, выклікала і абвастрыла праблему «адукацыя і рэлігія», якая ўжо не першы год выклікае ў беларускім грамадстве вельмі гарачыя і не заўсёды канструктыўныя спрэчкі. Вырашэнне дадзенай праблемы знаходзіцца не столькі ў выхаваўчай сферы, колькі ў сацыяльным, палітычным, прававым і іншых аспектах.

Развіццё свецкай і рэлігійнай адукацыі істотна апярэджвала прыняцце кіраўніцкіх рашэнняў да азначанай галіны сацыяльнай рэальнасці, што аказвала ўплыў на сістэму адукацыі, тым самым прыводзячы да калізій на існуючым палітыка-прававым полі. Марудны канфлікт інтэрпрэтацый, які адбываецца ў дадзенай сферы, абумоўлены гістарычна.

Доўгі працэс секулярызацыі навукі сфарміраваў велізарную перавагу «безрэлігійнай» свецкай культуры над рэлігійнымі традыцыямі, у выніку чаго нават сама цікавасць да рэлігіі і патрэба ў ёй склаліся пад уплывам сацыякультурных працэсаў. У цяперашні час назіраецца адваротная з'ява, і адукацыя як структураўтваральны элемент дзяржаўна-канфесійных адносін выступае асноўным каналам, які вызначае працэс і вынікі асваення рэлігійнай сістэмы каштоўнасцей свецкай свядомасцю цяпер і ў перспектыве.

Спосабы асваення рэлігійных каштоўнасцей, якія сфарміраваліся ў адукацыйнай практыцы, зводзяцца альбо да ліберальна-секулярнай мадэлі, арыентаванай на захаванне «чысціні» свецкай культуры пры пастуляраванні светапоглядна нейтральнага акадэмічнага рэлігіязнаўства, альбо да мадэлі, якая культывуе рэлігійныя сэнсы і каштоўнасці. Такая палярызацыя на практыцы прыводзіць да таго, што пераважвае альбо адзін, альбо другі пункт погляду. Сёння неабходна іншая пастаноўка пытання, якая прадугледжвае ўстараненне канфрантацыі.

Практыка вывучэння рэлігіі ва ўстановах адукацыі Рэспублікі Беларусь выглядае па-рознаму. Перш за ўсё такія катэгорыі, як «гуманнасць», «духоўнасць» і г. д. сталі падмяняцца рэлігійнымі маральнымі каштоўнасцямі, ствараючы ўяўленне, што гуманнасць і духоўнасць могуць мець толькі рэлігійны змест.

Зварот да духоўнасці паставіў вучоных і выкладчыкаў-практыкаў перад неабходнасцю вырашыць шэраг важных праблем. Адна з іх — на якіх традыцыях яе выхоўваць? Духоўнасць — складанае паняцце, якое выкарыстоўваецца, перш за ўсё, у рэлігіі, рэлігійнай і ідэалістычна арыентаванай філасофіі, дзе яна звязваецца з дзеяннем самастойнай духоўнай субстанцыі, якой належыць функцыя тварэння і вызначэння лёсаў свету і чалавека. У іншых філасофскіх традыцыях яно не так вызначана і не знайшло свайго месца як у сферы паняццяў, якія характарызуюць сферу ідэальнай свядомасці, розуму, нацыянальнасці, так і ў сферы сацыякультурнага быцця чалавека. Разам з тым у апошнія гады гэта паняцце стала шырока выкарыстоўвацца ў канцэпцыях «духоўнага адраджэння Беларусі», у даследаваннях працэсаў «духоўнай вытворчасці», «духоўнай культуры і яе відаў» і г. д. Але яго азначэнне па-ранейшаму застаецца дыскусійным.

Паняцце «духоўнасць», на наш погляд, можна выкарыстоўваць пры характарыстыцы ўнутранага, суб'ектыўнага свету чалавека як «духоўнага свету асобы». Але пры гэтым узнікаюць пытанні, што ў гэты свет уваходзіць, па якіх крытэрыях вызначаць яго наяўнасць, а тым больш развіццё? Ці вычэрпваюць розум, рацыянальнасць, культура мыслення, узровень і якасць ведаў змест паняцця духоўнасці, а адукацыя — шлях яго духоўнасці? Аднабаковы рацыяналізм аказваецца відавочна недастатковым для вызначэння духоўнай культуры асобы. Але калі духоўнасць немагчыма звесці да рацыянальнага асваення свету чалавекам, то тым больш немагчыма вызначыць гэту сферу як культуру перажыванняў і пачуццёва-валявога асваення свету чалавекам, хаця і па-за гэтым духоўнасць як якасць чалавека і як характарыстыка яго культуры таксама не існуе.

Духоўнасць можа быць свецкай і рэлігійнай. Гэта дзве розныя, хаця і ўзаемазвязаныя лініі духоўнага развіцця чалавека. Было б няправільным атаясамляць духоўнасць толькі з рэлігійнасцю. У такім выпадку можна звузіць і збядніць само паняцце духоўнасці, заўсёды звязанае з гуманістычнымі ідэямі, цэнтрам якіх былі адносіны чалавека не толькі да сябе, але і да іншых людзей, грамадства і г. д.

Арыентацыя сістэмы адукацыі на агульначалавечыя каштоўнасці выклікае праблемы, звязаныя з іерархіяй (асобасныя, сацыяльныя, дзяржаўныя).

Перш за ўсё трэба адзначыць дваістасць разумення самой «свецкасці», якая ўнутры рэлігійнай суполкі (царквы, канфесіі, «грамадскай большасці») можа трактавацца як «аблюдскасць» арыентацыі на асвету аднаверцаў, у той час як у поліканфесійным, плюралістычным грамадстве свецкае разумеецца як агульнаграмадзянскае, дзе ўжо «рэлігійная» адукацыя можа трактавацца як радавызначанае з «гуманітарным», «прыродазнаўчым», «філасофскім» відамі адукацыі.

Зыходным прыярытэтам, на нашу думку, павінна стаць фарміраванне свабоднай і адказнай асобы, здольнай канструктыўна працаваць у праблемных сітуацыях, якая спалучае прафесійную кампетэнтнасць з грамадзянскай адказнасцю, валодае належным светапоглядным кругаглядам і маральнай свядомасцю. Таму грамадзянскае выхаванне павінна пакідаць навучэнцу магчымасць рабіць уласны выбар, захоўваць незалежнасць і разам з тым павінна выхоўваць павагу да каштоўнасцей, без якіх немагчыма існаванне дэмакратычнай дзяржавы.

Існуючыя праблемы і супярэчнасці выклікана, з аднаго боку, недасканаласцю заканадаўства. У заканадаўстве, і асабліва ў правапрымяняльнай практыцы, маюць месца істотныя недахопы і супярэчнасці. Іх пераадоленне магчыма праз змяненне адносін дзяржавы, органаў кіравання адукацыяй, а таксама школьнікаў, студэнтаў і выкладчыкаў да ведаў аб рэлігіі, да навучання, якое не зводзіцца да засваення і прыняцця ісцін таго ці іншага веравучэння або светапогляду, а носіць характар агульнакультурнага пазнавальнага працэсу.

З другога боку, існаванне праблем і супярэчнасцей выклікана актывізацыяй адукацыйнай дзейнасці рэлігійных арганізацый. У выніку ўстановы адукацыі Рэспублікі Беларусь аказаліся ўцягнутымі ў працэс пераацэнкі каштоўнасцей у дачыненні да рэлігіі.

Асноўнай калізіяй беларускай прававой палітыкі ў сферы адукацыі з'яўляецца адсутнасць нарматыўных механізмаў рэалізацыі свабоды веравызнання ў адукацыйным праве, з аднаго боку, і замацаванне гэтага права ў палітыка-прававым полі — з другога.

*Істотным недахопам прававой палітыкі ў сферы адукацыі* трэба прызнаць канцэптуальную нераспрацаванасць яе тэрміналагічнага раду, які выкарыстоўваецца ў актах featureнага ўзроўню і робіць нявызначаным палітыка-прававы парадак у дадзенай сферы адносін. Прынцып свецкасці адукацыі з'яўляецца адной з гарантый рэалізацыі чалавекам свабоды веравызнання, таму што толькі ва ўмовах свецкай адукацыі чалавеку прадастаўляецца свабода выбару светапогляду і ліквідуецца пагроза дыскрымінацыі на рэлігійных падставах.

У выпадку парушэння патрабаванняў свецкасці ўзнікаюць перашкоды для рэалізацыі свабоды сумлення. Свабода сумлення і веравызнання гарантуецца кожнаму Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь. «Кожны мае права самастойна вызначаць свае адносіны да рэлігіі, аднаасобна або сумесна з іншымі вызнаваць любую рэлігію або не вызнаваць ніякай, выказваць і распаўсюджваць перакананні, звязаныя з адносінамі да рэлігіі, удзельнічаць у выкананні рэлігійных культаў, рытуалаў, абрадаў, не забароненых законам» (арт. 31).

Нацыянальныя прававыя нормы ў сферы свабоды сумлення грунтуюцца на агульнапрызнаных прынцыпах і нормах міжнароднага права, якія ўтрымліваюцца, у першую чаргу, у дакументах, прынятых ААН.

Міжнароднае права разглядае рэлігійную адукацыю як асноўны элемент права на свабоду сумлення. Структурнымі элементамі катэгорыі свабоды сумлення з'яўляюцца: права вызнаваць любую рэлігію; права выконваць рэлігійныя абрады; права мяняць рэлігію; права не прытрымлівацца ніякай рэлігіі; права прапаганды рэлігіі; права весці атэістычную прапаганду; права на дабрачынную дзейнасць; права на рэлігійную адукацыю; культурна-асветніцкая рэлігійная дзейнасць; роўнасць усіх грамадзян перад законам незалежна ад іх адносін да рэлігіі.

Састаўной часткай права на свабоду сумлення з'яўляецца права на атрыманне рэлігійнай адукацыі. Міжнародныя акты ўстанаўліваюць як права грамадзян

на рэлігійную адукацыю, так і права бацькоў на выбар адукацыі і выхавання дзяцей у адпаведнасці са сваімі перакананнямі.

Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека 1948 г. устанаўлівае, што «бацькі маюць права прыярытэту ў выбары адукацыі для сваіх малалетніх дзяцей». (Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека (прынята і абвешчана рэзалюцыяй 217А (III) Генеральнай Асамблеі 10.12.1948 г.). Ч.3 арт.26).

Міжнародны пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах 1966 г. абвяшчае, што «дзяржавы, якія ўдзельнічаюць у гэтым Пакце, абавязваюцца паважаць свабоду бацькоў і ў адпаведных выпадках законных апекуноў забяспечваць рэлігійнае і маральнае выхаванне сваіх дзяцей у адпаведнасці са сваімі ўласнымі перакананнямі» (Міжнародны пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах ад 16.12.1966 г. Ч.3 арт. 18).

Міжнародны пакт аб эканамічных, сацыяльных і культурных правах 1966 года замацоўвае, што «дзяржавы, якія ўдзельнічаюць у гэтым Пакце, абавязваюцца паважаць свабоду бацькоў і ў адпаведных выпадках законных апекуноў выбіраць для сваіх дзяцей не толькі заснаваныя дзяржаўнымі ўладамі школы, але і іншыя школы, якія адпавядаюць таму мінімуму патрабаванняў для адукацыі, які можа быць устаноўлены або зацверджаны дзяржавай, і забяспечваць рэлігійнае і маральнае выхаванне сваіх дзяцей у адпаведнасці са сваімі ўласнымі перакананнямі» (Міжнародны пакт аб эканамічных, сацыяльных і культурных правах ад 16.12.1966 г. Ч. 3 арт. 13).

У Дэкларацыі ААН аб ліквідацыі ўсіх форм нецярпімасці і дыскрымінацыі на аснове рэлігіі або перакананняў 1981 года развіваюцца палажэнні, замацаваныя ў дакументах ААН агульнага значэння, якія прыведзены вышэй, а таксама выкарыстоўваецца паняцце «інтарэсаў дзіцяці», якія з’яўляюцца кіруючым прынцыпам. «Калі дзіця не знаходзіцца на ўтрыманні сваіх бацькоў або законных апекуноў, то бяруцца належным чынам пад увагу воля або любыя праяўленні волі, якія выказваюцца ім у пытаннях рэлігіі або перакананняў, прычым кіруючым прынцыпам з’яўляюцца інтарэсы дзіцяці» (Дэкларацыя аб ліквідацыі ўсіх форм нецярпімасці і дыскрымінацыі на аснове рэлігіі або перакананняў (прынята і абвешчана рэзалюцыяй 36/55А Генеральнай Асамблеі 13.11.1981 года).

Дэкларацыя змяшчае паняцце дыскрымінацыі на аснове рэлігіі або перакананняў з боку любой дзяржавы, установы, групы асоб або некаторых асоб. Пад дыскрымінацыяй падразумяваецца любое адрозненне, абмежаванне або перавага, заснаваныя на рэлігіі або перакананнях, якія маюць сваёй мэтай або вынікам знішчэнне або прыніжэнне прызнання, карыстання або ажыццяўлення на аснове роўнасці правоў чалавека і асноўных свабод.

Артыкул 4 Дэкларацыі абавязвае дзяржавы прымаць эфектыўныя меры для папярэджання і ліквідацыі дыскрымінацыі на аснове рэлігіі або перакананняў у прызнанні, ажыццяўленні і рэалізацыі правоў чалавека і асноўных свабод ва ўсіх галінах эканамічнага, палітычнага, сацыяльнага і культурнага жыцця. Усе дзяржавы прыкладаюць намаганні па прыняцці або адмене заканадаўства, калі гэта неабходна, для забароны любой падобнай дыскрымінацыі, а таксама для прыняцця ўсіх адпаведных мер па барацьбе супраць нецярпімасці на аснове рэлігіі або іншых перакананняў у гэтай галіне (Дэкларацыя аб ліквідацыі ўсіх форм нецярпімасці і дыскрымінацыі на аснове рэлігіі або перакананняў (прынята і абвешчана рэзалюцыяй 36/55А Генеральнай Асамблеі 13.11.1981 г.). Арт. 2,3,4).

Выніковы дакумент Венскай сустрэчы 1989 г. прадстаўнікоў дзяржаў-удзельніц нарады па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе ў ліку гарантый забеспячэння свабоды асобы ўказвае на павагу дзяржавамі-ўдзельніцамі права кожнага даваць і атрымліваць рэлігійную адукацыю па сваім выбары, індывідуальна або сумесна з іншымі.

На аналагічных прававых нормах грунтуецца Канвенцыя аб барацьбе з дыскрымінацыяй у галіне адукацыі, прынятая Арганізацыяй Аб’яднаных Нацый у 1960 годзе.

На наш погляд, асноўнымі прынцыпамі рэгулявання правоў і свабод у сферы рэлігійнай адукацыі міжнароднага заканадаўства з’яўляюцца неагульнаабавязковасць і добраахвотнасць рэлігійнай адукацыі. Так, у арт. 5 Канвенцыі па барацьбе з дыскрымінацыяй у галіне адукацыі адзначана, што «нікому паасобку і ніводнай групе асоб, узятай у цэлым, не трэба навязваць рэлігійнае навучанне і выхаванне, несумяшчальнае з іх перакананнямі».

Інстытут правоў і свабод чалавека змяшчае нормы, якія ўстанаўліваюць, што ў сферы адукацыі дзяржава павінна ствараць усю сукупнасць інстытуцыянальных умоў для рэалізацыі грамадзянамі права на адукацыю. Пры гэтым умяшальніцтва дзяржавы ў адукацыйны працэс павінна вызначацца інтарэсамі асобы, грамадства і дзяржавы, што, відавочна, таксама прадыктавана рэалізацыяй правоў і свабод чалавека, таму што права на адукацыю належыць да сукупнасці асноўных правоў.

У адпаведнасці з прынятымі міжнароднымі падыходамі права на адукацыю разумеецца як свабода адукацыі і з’яўляецца натуральным, неадчужальным правам, належыць кожнаму ад нараджэння. Не існуе ніякіх падстаў, дзякуючы якім гэта права можа быць перададзена іншай асобе, групе асоб, грамадству, дзяржаве.

Міжнароднае заканадаўства, якое рэгулюе рэлігійныя адукацыйныя адносіны, фарміруе міжнародна-прававы парадак рэалізацыі права на рэлігійную адукацыю. Нормы, што ўстанаўліваюць міжнародныя нарматыўна-прававыя дакументы, уяўляюць сабой палітыка-прававую аснову рэлігійнай адукацыі, а дзяржавы, якія падпісалі дадзеныя дакументы, інтэгруюць іх як частку сваёй прававой сістэмы.

Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь у артыкулах 8, 21 і 61 устанавіла: наша краіна прызнае прыярытэт агульнапрызнаных прынцыпаў міжнароднага права і забяспечвае адпаведнасць ім заканадаўства, што адкрывае магчымасць прамога дзеяння гэтых нормаў міжнароднага права, іх прымянення органамі ўлады, уключаючы суды. Судам пры ажыццяўленні правасуддзя трэба зыходзіць з таго, што агульнапрызнаныя прынцыпы і нормы міжнароднага права, замацаваныя ў міжнародных пактах, канвенцыях і іншых дакументах (у прыватнасці, ва Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, Міжнародным пакце аб грамадзянскіх і палітычных правах, Міжнародным пакце аб эканамічных, сацыяльных і культурных правах), і міжнародныя дагаворы Рэспублікі Беларусь з’яўляюцца ў адпаведнасці з ч. 1 арт. 8 і ч. 3 арт. 21 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь састаўной часткай яе прававой сістэмы.

Згодна з арт. 137 Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь валодае прамым дзеяннем на тэрыторыі краіны. Яна ўтрымлівае як нормы, непасрэдна звязаныя са свабодай сумлення і становішчам рэлігійных арганізацый, так і нормы больш агульнага характару, якія ў наяўным выглядзе ўключаюць як прыватны выпадак права на свабоду сумлення (свабода думкі і слова, права на аб’яднанне, права на адукацыю), а таксама нормы, якія вызначаюць парадак і падставы абмежавання асноўных правоў і свабод чалавека.

Рэлігійная адукацыя ёсць інстытут адукацыйнага права, які рэгулюе канстытуцыйныя патрабаванні аб свабодзе сумлення і свабодзе адукацыі, уключае ў сябе нарматыўна-прававую сукупнасць, якая рэгулюе права на набыццё ведаў аб рэлігіі, выкладанне рэлігіі. Рэлігійная адукацыя падзяляецца на канфесійную і рэлігіязнаўчую.

Канфесійную і рэлігіязнаўчую адукацыю можна вызначыць як дзейнасць па трансляцыі спецыфічных відаў каштоўнасцей, ведаў, ладу жыцця і светаадчування, якая ажыццяўляецца прафесійна падрыхтаванымі людзьмі ў дачыненні да навучэнцаў. Паміж імі ёсць падабенства, але метадалагічна дакладным падыходам у вывучэнні рэлігіі застаецца ўсё ж такі прызнанне таго факта, што рэлігія абапіраецца на веру ў звышнатуральнае, а рэлігіязнаўства як галіна гуманітарнай навукі гэта звышнатуральнае вывучае даступнымі ёй метадамі і сродкамі. Адсюль і асноўнае адрозненне: для канфесійнай адукацыі веды выконваюць дапаможную ролю, а рэлігіязнаўства робіць рэлігію прадметам навуковага даследавання разам з іншымі сферамі грамадскага жыцця.

Пад канфесійнай адукацыяй трэба разумець дзейнасць па трансляцыі рэлігійных дактрын, вопыту, пачуццяў, спосабаў культавай практыкі, якая ажыццяўляецца канфесійна падрыхтаванымі асобамі (свяшчэннікамі, рэлігійнымі педагогамі і г. д.), а таксама сістэму падрыхтоўкі педагагічных кадраў для саміх устаноў канфесійнай адукацыі. Усё гэта не можа ўваходзіць у задачу свецкіх устаноў адукацыі, нягледзячы на пэўнае падабенства ў змесце ведаў аб рэлігіі. Акрамя таго, ёсць наяўнасць неадпаведнасці паміж знешнімі нормамі, якія рэгулююць канфесійную адукацыю, і ўнутраным зместам, які вызначае сувязь паміж канфесійнай адукацыяй і рэлігіязнаўчай, рэлігійнай і свецкай адукацыяй, а знешнія формы нарматыўнай рэгуляцыі не зусім адпавядаюць сучасным рэаліям і будуць у далейшым мяняцца ў працэсе развіцця дзяржаўна-канфесійных адносін.

Тэрмін «рэлігійная адукацыя» ўвайшоў у міжнародны лексікон як найбольш шырокае паняцце, якое ахоплівае розныя віды адукацыйнай дзейнасці, звязаныя з вывучэннем рэлігіі, выхаваннем рэлігійных пачуццяў і развіццём рэлігійнай свядомасці.

Тэрмін «рэлігійная адукацыя» ў шырокім сэнсе разумеецца як «форма далучэння да ведаў аб рэлігіі», што дазваляе адрозніваць яго ад «біялагічнай» або «філасофскай» адукацыі па змесце. Гэты змест мае ў сучаснай культуры дзве спецыялізаваныя і супрацьпастаўляемыя формы адукацыі: «канфесійная», якая далучае да жыцця ў пэўнай «сапраўды праўдзівай традыцыі», і «рэлігіязнаўчая», якая далучае да ведаў аб любой рэлігіі, ні адна з якіх не лічыцца «адзіна сапраўднай». У гэтай сувязі тэрмін «рэлігійная адукацыя», які часта атаясамліваецца толькі з «канфесійнай», што бярэцца ў супрацьпастаўленні з «рэлігіязнаўчай» свецкай, патрабуе спецыяльнага вызначэння. У колькасць паняццяў, якія патрабуюць заканадаўчых дэфініцый, уваходзяць катэгорыі свецкай і рэлігійнай адукацыі.

Свецкая адукацыя ёсць палітыка-прававая катэгорыя, якая адлюстроўвае аксіялагічную нейтральнасць сістэмы адукацыі да рэлігійнага светапогляду, выключае навучанне, навязванне якой-небудзь рэлігіі або нерэлігійных ідэалогій, правядзенне богаслужэнняў, рэлігійных абрадаў або цырымоній, не накіраваных на падрыхтоўку служыцеляў культу.

Палітыка-прававыя асновы свецкасці адукацыі зводзяцца да пяці нарматыўных патрабаванняў. У тым ліку:

— недапушчальнасць устанаўлення якога-небудзь светапогляду, у тым ліку рэлігійнага, у якасці абавязковага ў дзяржаўных установах адукацыі;

— недапушчальнасць умяшальніцтва рэлігійных і грамадскіх аб’яднанняў у кіраванне дзяржаўнымі ўстановамі адукацыі, якое прадугледжвае перадачу рэлігійным і грамадскім аб’яднанням паўнамоцтваў і функцый адміністрацый дзяржаўных устаноў адукацыі;

— забеспячэнне правоў навучэнцаў і выкладчыкаў на свабоду веравызнання і слова, так як і недапушчальнасці прымусу пры навучанні рэлігіі;

— недапушчальнасць правядзення ў дзяржаўных установах адукацыі рэлігійных абрадаў;

— недапушчальнасць накіраванасці адукацыі ў дзяржаўных установах адукацыі на прафесійную рэлігійную падрыхтоўку служыцеляў рэлігійнага культу.

Канфесійная адукацыя нярэдка з’яўляецца аднабаковай з адзінай дапушчальнай сёння формай выхаваўчага, духоўна-ўтваральнага ўздзеяння грамадства на асобу падрастаючага пакалення, супрацьпастаўленага адукацыі як перадачы ведаў, навуковай інфармацыі аб прадмеце. Патрабуецца пераасэнсаванне формаў і мэтаў сучаснай (канфесійнай і рэлігіязнаўчай) адукацыі грамадскай думкай, напрацаваных практык яе ўкаранення ў нацыянальную сістэму адукацыі, спроб знайсці тэарэтычна глыбокую аснову для фарміравання новых дзяржаўна-канфесійных адносін у сферы адукацыі, пераасэнсавання мэтаў, метадаў і перспектыў рэлігійнай адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь.

Пытанне аб фінансаванні канфесійнай адукацыі выклікае найбольш вострыя і супярэчлівыя спрэчкі, аднак адназначны адказ на яго знаходзіцца ў канстытуцыйна-прававым полі. Зыходзячы з прынцыпаў свабоды веравызнання, свецкасці дзяржавы, роўнасці рэлігійных арганізацый і іншых узаемазвязаных прынцыпаў, якія складаюць аснову ладу, дзяржава не павінна фінансаваць дзейнасць рэлігійных арганізацый, у тым ліку канфесійную адукацыю ў дзяржаўных установах адукацыі. Указаныя вышэй негатыўныя тэндэнцыі клерыкалізацыі дзяржаўнай адукацыі вядуць да таго, што іншадумцы-падаткаплацельшчыкі вымушаны аплачваць канфесійную адукацыю.

Ва ўмовах станаўлення канфесійнай адукацыі павялічваецца значнасць далейшага развіцця рэлігіязнаўчай адукацыі як фактару фарміравання светапогляднай, рэлігійнай, нацыянальнай цярпімасці.

Пад рэлігіязнаўчай адукацыяй у свецкай школе трэба разумець выкладанне ведаў аб рэлігіі ў яе навукова-культуралагічным плане. Такая адукацыя ўвасабляе ў сабе шырокі комплекс дысцыплін, якія разглядаюць рэлігію ў гістарычным, філасофскім, паліталагічным, сацыялагічным і культуралагічным аспектах.

У адрозненне ад канфесійнай адукацыі, накіраванай на ўкараненне рэлігійнай веры ў свядомасць навучэнцаў, канфесійнае самавызначэнне і навучанне дагматам і абрадам пэўнай канфесіі, рэлігіязнаўчая адукацыя спрыяе атрыманню навучэнцамі навуковых ведаў аб рэлігіі як сацыяльнай і культурнай з'яве, яе месцы ў духоўным жыцці грамадства, у гісторыі беларускага народа. Мэтай рэлігіязнаўчай адукацыі з'яўляецца фарміраванне ўсебакова развітой асобы, якая валодае высокім культурным патэнцыялам і шырокім кругаглядам. У рамках рэлігіязнаўчай адукацыі адбываецца далучэнне да рэлігійнай культуры (культуры рэлігій і рэлігійных арганізацый) як часткі нацыянальнай і сусветнай культурнай спадчыны.

Спецыфіка канфесійнай і рэлігіязнаўчай адукацыі праяўляецца ў:

— змесце ведаў, якія трансліруюцца;

— выніку адукацыйнай дзейнасці, якая выяўляецца ва ўзнаўленні асаблівага тыпу асобы, здольнай ажыццявіць асэнсаваны выбар светапогляднай устаноўкі;

— якасных характарыстыках канфесійнай і рэлігіязнаўчай адукацыі (кансерватыўнасці, стабільнасці, нізкім узроўні дынамікі і інавацыйнасці, наяўнасці ірацыянальнага кампанента);

— характарыстыцы суадносін элементаў навучання і выхавання ў навучальным працэсе.

Акрамя таго, канфесійная і рэлігіязнаўчая адукацыя адрозніваюцца па шэрагу параметраў: мэтах, суб'ектах адказнасці, суб'ектах выканання. Разам з тым дакладнае захаванне прынцыпу свецкага характару зместу адукацыі ў свецкіх установах адукацыі і канфесійнай адукацыі ў канфесійных навучальных установах не азначае немагчымасць супрацоўніцтва паміж рознымі сістэмамі адукацыі, міжканфесійнага дыялогу і ўзаемнага абагачэння педагагічным вопытам. Падобнае супрацоўніцтва (у распрацоўцы курсаў праграм, падручнікаў і навучальных дапаможнікаў па гісторыі рэлігій, рэлігіязнаўстве і г. д.) не ўступае ў супярэчнасць з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, дзеючым заканадаўствам пры ўмове свайго роду «светапогляднага нейтралітэту» і аб'ектыўнага падыходу да выкладання рэлігіязнаўства. Гэта супрацоўніцтва можа спрыяць паглыбленню ведаў аб розных канфесіях у выкладчыкаў і навучэнцаў свецкай школы і адначасова — большай цярпімасці ў асяроддзі выкладчыкаў духоўнага чыну ў канфесійных навучальных установах.

Кожны грамадзянін Рэспублікі Беларусь мае права на атрыманне адпаведнай канфесійнай і рэлігіязнаўчай адукацыі на добраахвотнай аснове. Дадзенае права замацавана як шэрагам міжнародных нарматыўных актаў, прызнаных Рэспублікай Беларусь, так і Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь.

Згодна з арт. 49 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь права на адукацыю з'яўляецца элементам сістэмы правоў і свабод чалавека, яно непасрэдна выяўляецца ў рэальнай адукацыйна-прававой практыцы ў выглядзе канкрэтнага суб'ектыў-

нага права як мера дазволенасці (магчымасці) дзеяння ўдзельнікаў адукацыйных адносін па задавальненні імі ў рамках дзеючага заканадаўства сваіх адукацыйных патрэбнасцей, забеспячэнні і абароне адпаведных законных інтарэсаў.

Права на адукацыю мае неабходнасць у інстытуцыянальнай структуры, якая адпавядае нацыянальным інтарэсам. Па сутнасці справы, палітычнае і прававое поле, якое фарміруецца і рэгулюе сферу адукацыі, вызначаецца больш шырокім інстытуцыянальным кантэкстам, што забяспечвае рэалізацыю правоў і свабод чалавека, таму паўната рэалізацыі дзяржавай права на адукацыю звязана з канцэптуальным зместам нацыянальных інтарэсаў у сферы адукацыі, мэтамі і задачамі дзяржаўнай сацыяльнай і, адпаведна, адукацыйнай палітыкі.

Закон Рэспублікі Беларусь «Аб свабодзе сумлення і рэлігійных арганізацыях» сцвярджае, што ў адпаведнасці з прынцыпам аддзялення рэлігійных арганізацый ад дзяржавы яна забяспечвае свецкі характар адукацыі ў дзяржаўных установах адукацыі, таксама не ўскладае на рэлігійныя арганізацыі якіх-небудзь дзяржаўных функцый, не ўмешваецца ў дзейнасць рэлігійных арганізацый, калі гэта не супярэчыць заканадаўству Рэспублікі Беларусь.

Навучанне рэлігіі з'яўляецца неабходным элементам правадзольнасці рэлігійных арганізацый. Так, у арт. 13 Закона «Аб свабодзе сумлення і рэлігійных арганізацыях» навучанне рэлігіі і рэлігійнае выхаванне паслядоўнікаў рэлігійных арганізацый разглядаюцца ў якасці прыкметы рэлігійнай арганізацыі разам з такімі прыкметамі, як веравызнанне, правядзенне богаслужэнняў, іншых рэлігійных абрадаў і цырымоній. Разам з тым права на атрыманне рэлігійнай адукацыі не рэгламентавана ў беларускім заканадаўстве. Арт. 1 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь» дэкларуе свецкі характар дзяржаўнай палітыкі ў сферы адукацыі, прыярытэт агульначалавечых каштоўнасцей, правоў чалавека. Аднак змест гэтых прынцыпаў не канкрэтызуецца. Узнікае парадаксальная сітуацыя: літара закона заклікае выконваць тое, што не вызначана. Гэта выклікае шматлікія спрэчкі і дыскусіі аб выкладанні ў свецкіх навучальных установах канфесійна арыентаваных прадметаў.

У Рэспубліцы Беларусь ёсць заканадаўчая база, якая забяспечвае рэалізацыю права на адукацыю, што адпавядае міжнародным стандартам, узятым на сябе Беларуссю міжнародным абавязацельствам у дадзенай сферы. Разам з тым трэба адзначыць, што некаторыя аспекты беларускай адукацыйнай палітыкі патрабуюць далейшага ўдасканальвання. У сучасных умовах як у Рэспубліцы Беларусь, так і ў іншых краінах значную ролю выконвае канфесійны фактар адукацыйнай палітыкі, які ўключае ў сябе сукупнасць палітычных і прававых умоў рэалізацыі свабоды сумлення ў сферы адукацыі. У дадзеным кантэксце відавочна непаслядоўнасць рэалізацыі прынцыпу свабоды адукацыі ў беларускім заканадаўстве, што прыводзіць да істотных палітыка-прававых калізій, якія маюць вялікае палітычнае значэнне.

Адмоўны ўплыў маюць тыя абставіны, што Закон Рэспублікі Беларусь «Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь» хаця і замацоўвае роўны доступ да адукацыі, але не гарантуе роўнага абыходжання ў навучальным працэсе. Акрамя таго няма прававой дакладнасці выкладання рэлігіі ў дзяржаўных установах адукацыі. Закон Рэспублікі Беларусь «Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь» не змяшчае норм аб рэлігійнай адукацыі. Закон Рэспублікі Беларусь «Аб свабодзе сумлення і рэлігійных арганізацыях» толькі фармальна дае магчымасць для атрымання рэлігійнай адукацыі, але ў ім няма ўпамінання аб тым, што атрыманне рэлігійнай адукацыі ў сям'і або ўстанове адукацыі з'яўляецца спосабам рэалізацыі права на свабоду сумлення.

Да ліку супярэчнасцей заканадаўства, што забяспечвае права на рэлігійную адукацыю, датычыцца прававы статус рэлігійных устаноў адукацыі, дыпломы якіх не прызнаюцца дзяржавай. Для прызнання дзяржавай дыпломаў гэтых устаноў неабходна іх дзяржаўная акрэдытацыя, што супярэчыць прынцыпу свецкасці адукацыі, замацаванаму Законам Рэспублікі Беларусь «Аб адукацыі ў Рэспубліцы

Беларусь». Тым самым можна канстатаваць супярэчнасць заканадаўства аб адукацыі ў частцы роўнасці правоў устаноў адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь.

Відавочна, нераспрацаванасць гэтага прававога механізму сведчыць аб непаслядоўнасці адукацыйнай палітыкі ў сферы забеспячэння права на адукацыю і свабоду сумлення, што істотна абмяжоўвае свабоду грамадзян атрымаць (або даць сваім дзецям) адукацыю ў адпаведнасці са сваімі рэлігійнымі і маральнымі перакананнямі.

Асноўнай калізіяй рэалізацыі права на рэлігійную адукацыю з'яўляецца адсутнасць механізмаў яго забеспячэння ў кантэксце маючага інстытуцыянальнае значэнне прынцыпу свецкасці адукацыі.

Недастаткова паслядоўная прававая палітыка ў галіне адукацыі прыводзіць да неадназначных трактовак месца і ролі рэлігійных арганізацый у свецкай школе. Дзейнасць рэлігійных арганізацый у свецкай школе (напрыклад, выкладанне «Асноў праваслаўнай культуры», распрацоўка і ўкараненне дзяржаўнага стандарту па тэалогіі) выклікалі дыскусію ў навуковым і адукацыйным асяроддзі, у шырокай грамадскасці. Шэраг даследчыкаў, вучоных і педагогаў-практыкаў разглядаюць выкладанне дадзенага курсу як прамое парушэнне прынцыпу свецкасці ў характары зместу адукацыі. Іншыя вучоныя мяркуюць, што выкладанне рэлігійных прадметаў на факультатыўнай аснове, або нават уключаных у сетку гадзін, не парушае канстытуцыйных правоў грамадзян Рэспублікі Беларусь і не супярэчыць дзеючаму заканадаўству.

На нашу думку, у адукацыйным сектары неабходна захоўваць прынцып свецкасці. Пры гэтым неабходна ўлічваць, што такія курсы, як «Асновы праваслаўнай культуры», па сваім змесце з'яўляюцца светапогляднымі, таму павінны адпавядаць бінарнаму закону дыдактыкі, у стасунках з якім у сістэме адукацыі павінны быць прадстаўлены двойчы: як уласны навучальны прадмет і як інтэграцыя яго зместу ва ўсе адукацыйныя прадметы, у тым ліку ў пазанавучальную выхаваўчую работу з дзецьмі, сямейнае выхаванне, маладзёжную культуру. Як уласны навучальны прадмет ён не можа быць уключаны ў сетку гадзін з прычыны яго светапогляднай устаноўкі, але інтэграцыя яго зместу ў адукацыйныя прадметы цалкам дапушчальная.

Менавіта таму ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь установы адукацыі нашай краіны ў пытаннях выхаваўчай дзейнасці на падставе пісьмовых заяў законных прадстаўнікоў дзяцей (саміх паўналетніх навучэнцаў) у пазанавучальны час могуць узаемадзейнічаць з зарэгістраванымі рэлігійнымі арганізацыямі з улікам іх уплыву на фарміраванне духоўных, культурных і дзяржаўных традыцый беларускага народа. Парадак, умовы, змест і формы такога ўзаемадзеяння вызначаюцца Урадам Рэспублікі Беларусь па ўзгадненні з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

Праблема свабоды сумлення ў сферы адукацыі з'яўляецца даволі складанай і супярэчлівай і, мабыць, не зводзіцца да дуалістычнага метаду яе вырашэння. Процістаянне дзвюх сістэм адукацыі (свецкай і рэлігійнай) з'яўляецца, па сутнасці, процістаяннем дзвюх сістэм каштоўнасцей. Яно абумоўлена цэлым шэрагам фактараў, у тым ліку і недахопамі сістэмы адукацыі, зместам яе навучальнай і пазанавучальнай работы. У выніку рэформ школа аказалася не падрыхтаванай да вырашэння зноў узніклых праблем. А школа ж (як вышэйшая, так і адукацыйная) з'яўляецца механізмам рэалізацыі палітыкі дзяржавы ў сферы ідэалогіі беларускай дзяржавы.

Трэба звярнуць увагу на тое, што праблема часта вырашалася на канферэнцыях, нарадах, «круглых сталах», Свята-Міхайлаўскіх чытаннях і г. д. з прыцягненнем грамадскай думкі людзей, часта далёкіх ад дадзенай праблематыкі і не заўсёды кампетэнтных у тых пытаннях, якія выносіліся на абмеркаванне. Пры гэтым мы выступаем не супраць грамадскага абмеркавання дадзенай важнай дзяржаўнай праблемы, а супраць дылетантызму ў навуцы, у прыватнасці,

педагагічнай. Можна ўлічыць вопыт і погляды дылетантаў, але нельга ігнараваць погляды прафесіяналаў, а вырашэнне праблемы больш мэтазгодна ўскладаць не на грамадскія структуры, а на Нацыянальную акадэмію навук Беларусі, РІВШ БДУ і іншыя даследчыя цэнтры.

Аналізуючы вопыт педагогаў у ажыццяўленні рэлігійнай адукацыі ва ўстановах адукацыі Рэспублікі Беларусь, можна канстатаваць, што сістэму прыярытэтаў і арыенціраў, неабходную не толькі для вырашэння, але і самой пастаноўкі пытання «адукацыя і рэлігія», выпрацавала само беларускае грамадства метадам спробаў і памылак.

Тым не менш, трэба адзначыць, што праблема рэалізацыі свабоды сумлення ў адукацыі — прадмет агульнага клопату дзяржавы і ўсяго грамадства, усеагульнага інтарэсу і ўсеагульнай адказнасці.

На сённяшні дзень дзяржава ў асобе яе выканаўчых органаў фактычна самаўхілілася ад вырашэння праблемы, спасылаючыся на прынцып свецкасці ў характары адукацыі і аргументуючы гэта толькі тым, што яна павінна быць нейтральнай у адносінах да розных канфесій. Яе ўмяшальніцтва ў адукацыйную сферу часта абмяжоўваецца добрымі пажаданнямі ў адрас педагогаў, якія выкладаюць веды аб рэлігіі, хаця больш актуальнай была б дэталёвая прапрацоўка норм, прынцыпаў і характару рэлігійнай адукацыі. Тым больш што сёння практычна ўсе дзяржавы маюць нарматыўныя дакументы, якія тлумачаць і дапаўняюць канстытуцыйныя нормы, дэталізуюць прынцыпы і характар рэлігійнай адукацыі. Пры гэтым практычна ўсе сучасныя дзяржавы, фарміруючы або ўдасканальваючы свае сістэмы адукацыі, суадносяць іх з асноўнымі міжнароднымі дакументамі, якія датычацца прынцыпаў адносін дзяржавы і рэлігійных арганізацый.

Палітыка-прававы статус прадмета рэлігіі ў сістэме адукацыі розных дзяржаў адлюстроўвае гістарычна-культурныя і рэлігійныя асаблівасці кожнай асобна ўзятай краіны. Так, у шарагу краін прадмет рэлігіі з'яўляецца такім жа, як і іншыя навучальныя прадметы. У некаторых краінах выкладанне гэтага прадмета арганізуюць і ажыццяўляюць нагляд — у супрацоўніцтве з дзяржаўнымі ўладамі ў галіне адукацыі і заўсёды ў рамках работы сістэмы адукацыі — таксама і рэлігійныя арганізацыі. Аднак у дадзеным выпадку ўлічваецца неабходная ўмова: каб рэлігійныя суполкі мелі значную колькасць веруючых у соцыуме дадзенай мясцовасці (там, дзе дзяржава з'яўляецца федэратыўнай, як, напрыклад, у ФРГ) або на ўсёй тэрыторыі краіны (як гэта адбываецца ў Аўстрыі і Бельгіі). У гэтых выпадках у навучэнцаў заўсёды ёсць магчымасць свабоднага выбару, аднак абавязкова пры згодзе з боку бацькоў: яны могуць альбо наведваць, альбо не наведваць заняткі па рэлігіі.

Вывучэнне еўрапейскага вопыту таксама паказвае, што адсутнічае уніфікаваная мадэль, адзіны падыход у галіне прававога рэгулявання і практычнай рэалізацыі рэлігійнай адукацыі ў свецкай школе. Нацыянальная свядомасць кожнай краіны па-свойму распараджаецца сваім гістарычным набыткам і па-свойму фарміруе адносіны да духоўнай спадчыны, культурнай пераемнасці, у тым ліку ў сферы нацыянальнай адукацыі. Разам з тым ёсць і падобныя рысы: добраахвотнасць выбару, магчымасць выбару вывучэння рэлігійнай культуры сваёй канфесіі або курсу нерэлігійнай этыкі, патрабаванне ўзгаднення зместу рэлігійнай адукацыі і з прадстаўнікамі адпаведнай канфесіі.

Шэраг момантаў з вопыту дадзеных краін могуць быць прымяняльнымі ў беларускай сістэме адукацыі. Зразумела, трэба ўважліва выбіраць тое, што падыходзіць айчыннай школе, улічваючы не толькі традыцыі выкладання савецкага перыяду, якія склаліся, або звяртаючыся да дарэвалюцыйнага вопыту, але і сучаснае сацыяльнае становішча, новыя прыярытэты ў адукацыі, асаблівасці нацыянальнага беларускага менталітэту, беручы пад увагу лепшае з вопыту іншых краін, дзе традыцыі рэлігійнай адукацыі не перапыняліся.

За рэдкім выключэннем у многіх замежных краінах назіраецца ўзаемадзеянне рэлігійнай і свецкай адукацыі. Гэтыя сістэмы не ўступаюць у супярэчнасць адна

з адной пры ўмове дэталёвай прапрацоўкі ў дзеючым заканадаўстве прынцыпаў і характару адукацыі, уліку ў заканадаўстве нацыянальных асаблівасцей і сталых традыцый. Прамое запазычанне замежнага вопыту ў мэтах яго выкарыстання ва ўмовах Рэспублікі Беларусь без уліку спецыфікі нашай краіны, яе традыцый, гісторыі не ўяўляецца магчымым. Аднак поліканфесійнасць Беларусі не з'яўляецца нечым выключным. Дадзены гістарычны факт не азначае, што існуюць непераадольныя перашкоды на шляху ўзаемадзеяння розных сістэм адукацыі, і не дае падставы для іх спалучэння ў адну сістэму. Няма падстаў і для іх супрацьпастаўлення адна адной.

На наш погляд, перспектывы фарміравання палітыка-прававога інстытута рэлігійнай адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь звязаны з распрацоўкай комплекснага нарматыўна-прававога акта, які ўстараняе калізіі і прабелы палітыка-прававога рэгулявання, уніфікуе заканадаўства, якое рэгулюе дадзеную сферу грамадскіх адносін. У ліку асноўных задач гэтага заканадаўчага акта павінны разглядацца прававая інстытуцыяналізацыя рэлігійнай адукацыі ў нацыянальнай сістэме адукацыі, акрэдытацыйныя правы канфесійных устаноў адукацыі выдаваць дыпломы дзяржаўнага ўзору.

Адпаведна дадзены акт павінен прадугледзець наступную сістэму палітыка-прававых мер:

— раскрыць прынцып свецкасці адукацыі і вызначыць гарантыі свецкасці адукацыі;

— даць заканадаўчае вызначэнне рэлігійнай адукацыі;

— уключыць у змест права на свабоду веравызнання права на рэлігійную адукацыю;

— адлюстраваць асноўныя палітыка-прававыя асаблівасці рэлігійнай адукацыі, якія заключаюцца ў тым, што яна не можа быць агульнаабавязковай і павінна ажыццяўляцца на добраахвотнай аснове;

— урэгуляваць прававы статус устаноў адукацыі рэлігійных арганізацый;

— замацаваць прававы парадак узаемадзеяння нацыянальнай сістэмы адукацыі з рэлігійнымі арганізацыямі, які можа грунтавацца на прынцыпах сузаснавальніцтва ўстаноў адукацыі, у тым ліку ўстаноў адукацыі і рэлігійных арганізацый, сумеснай распрацоўкі і рэалізацыі адукацыйных праграм па вывучэнні рэлігійнай культуры, падрыхтоўкі і павышэння кваліфікацыі педагагічных кадраў. Дадзеныя меры дазволяць зарыентаваць беларускую адукацыйную палітыку на абарону нацыянальных інтарэсаў і інтарэсаў асобы, дзяржавы і грамадства.

**Літаратура:**

1. Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь ад 13 сакавіка 1994 г. (са змян. і дап., прынятымі на рэспубліканскіх рэферэндумах 24 лістапада 1996 г. і 17 кастрычніка 2004 г.). — Мн.: Амалфея, 2005. — 48 с.

2. Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб свабодзе веравызнанняў і рэлігійных арганізацыях»: Закон Рэспублікі Беларусь ад 31 кастрычніка 2002 г. // Нац. рэестр прававых актаў. — 2002. — № 1232/886.

3. Аб адукацыі: Закон Рэспублікі Беларусь ад 29 кастрычніка 1991 г.: у рэд. Закона ад 4 жніўня 2004 г. № 311-3 // Нац. рэестр прававых актаў. — 2004. — № 1232/1060.

*Прысвячаецца 65-годдзю Вялікай Перамогі*

**Людміла ТАРАСАВА**

# МАЛЕНЬКАЯ ДЗЯЎЧЫНКА Ў ВЯЛІКАЙ ВАЙНЕ

Пра вайну напісана многа. Я дадам яшчэ...

Калектыўная памяць гаворыць пра гераічную эпапею, там абавязкова баі, танкі, гарматы, самалёты... Нашыя ўяўленні пра вайну — дарослыя. Дзеці адчувалі і пераносілі вайну інакш. Іх перажыванні і пакуты для мяне блізкія і зразумелыя.

Гэтая міні-аповесць заснавана на фактах асабістай біяграфіі. Яна пра ваеннае дзяцінства. Падзеі адбываюцца ў акупіраваным немцамі старажытным беларускім горадзе Слуцку. Гады 1941—1945.

* * *

Да вайны мы жылі ў Гомелі.

Тата і мама — маладыя, адукаваныя, паспяховыя. Мабыць, «паспяховыя» — занадта сучаснае слова. Замяню яго на «шчаслівыя».

Я нарадзілася ўвесну 1937 года. Аб гомельскім жыцці да вайны амаль нічога не памятаю. А цяпер ужо і няма ў каго спытаць.

Вайна.

Тату на вайну не ўзялі. Меў белы білет. У яго быў хворы, як тады казалі медыкі, страўнік і хворыя лёгкія. Няўдалая эвакуацыя!

Для мяне вайна пачалася бамбёжкамі. Велізарныя равучыя самалёты над горадам, а пад імі на зямлі слупы жоўтага агню. Асабліва бамбілі па начах.

Ужо некалькі начэй, памятаецца, мы з мамай ішлі начаваць у поле. Немцы больш бамбілі жылыя кварталы, таму ў полі было больш бяспечна.

Памятаю сумятлівыя зборы. Памятаю стог сена. Людзей вакол не памятаю. А гэты стог не забыўся дагэтуль. Захутаная ў цёплую байкавую коўдру, я засынала ў мяккім духмяным сене.

У адну з начэй мама чамусьці не захацела ісці ў поле, і мы схаваліся бліжэй да хаты, у вялікім акопе. У акопе многа людзей, мы сядзелі на кукішках. Няёмка. Я не магла спаць і ліла горкія слёзы. Я выматала сябе і маму канчаткова, пакуль нарэшце стала віднець, ды мы папляліся дадому.

Раніцай убачылі, што на тым месцы, дзе быў наш стог, ззяла круглая варонка разварочанай апаленай зямлі.

Хтосьці або штосьці (вышэйшае ў нашым жыцці — Бог, Лёс) падаравалі нам выдатную магчымасць жыць далей...

* * *

Па шасэйных, грунтавых і іншых розных дарогах ішлі і ехалі бежанцы, пхаючы перад сабой тачкі, каляскі з рэчамі і дзецьмі. Гэтыя людзі не мелі ніякага ўяўлення, што адбываецца на фронце, ішлі туды, дзе ім здавалася лягчэй выжыць.

У гэтым патоку рухаліся на драбінах тата, мама і я. Ехалі мы да бабулі на татаву радзіму ў Слуцк.

Калі з аглушальным трэскам непадалёк прамчаліся нямецкія матацыклісты, наш конь рвануў так, што нас ледзь не выкінула. Тата спрабаваў злавіць лейцы, але не мог дацягнуцца. Конь падняўся на дыбы і рвануў убок, храпучы і пырскаючы слінаю. Устойлівыя доўгія драбіны ледзь не перакуліліся.

Стала страшна. Усё на свеце я аддала б за тое, каб мы вярнуліся дадому, каб не было гэтага шляху.

Выратаў становішча святар. У чорнай расе, з невялікім клункам за плячыма, ён сядзеў пад дрэвам ля самай дарогі ды ўсё бачыў. Не раздумваючы ані секунды, святар кінуўся, здавалася, пад самога каня. Схапіў дужай рукою лейцы і не адпускаў іх, пакуль конь не прыціх.

Я сядзела на возе, абхапіўшы рукамі калені, і плакала. Прыабняўшы мяне за плечы, святар працягнуў руку тату.

— Аляксей, — назваў сябе ды ўсміхнуўся.

«Які ж ён добры», — падумала я, гледзячы на яго прыемны твар і раскудлачаныя доўгія чорныя валасы.

— Што ж цяпер з намі будзе? — нявольна вырвалася ў мяне.

Святы айцец зрабіў жэст, які абазначаў, што ўсё ў руках Бога. Дарэчы, бацькі мае былі перакананыя атэісты. На запрашэнне таты далучыцца да нас, калі яму па дарозе, бацюшка адказаў:

— Мне ўсё роўна куды, абы з добрымі людзьмі.

* * *

Дайшлі-даехалі. Слуцк — горад невялікі. Дамы ў два-тры паверхі толькі на галоўнай вуліцы.

Вось і наша вуліца — доўгая, з драўлянымі насцiламі па вузкіх тратуарах. Пасярод — каменьчыкі, счэсаныя мільёнамі ног і колаў.

Наш дом... У гэты дом я часта прыходжу ў сне...

Увайшлі. На ложку ляжала сухенькая бабулька. Паднялася, сагнулася ледзь не да падлогі. Потым, уткнуўшыся тварам у татавы плечы, яна тоненька, па-дзіцячы заплакала:

— Які ж ты худы, — шаптала бабуля сухімі вуснамі.

Мой тата Тышкевіч Барыс Андрэевіч... Зусім яшчэ малады — яму няма і трыццаці — разумны, ганарлівы. Скончыў сельскагаспадарчы інстытут у Горках (пад Магілёвам). Рэдкія светлыя валасы, змрочная шэрая кашуля і цёмна-сінія галіфэ — такім ён застаўся ў маёй памяці.

Бабуля падышла да мяне, пацалавала і ўсміхнулася аднымі вуснамі. Бо вочы ўважліва разглядалі мяне. Мы ніколі з ёй не бачыліся раней. Я лёгка расшыфравала яе пагляд — ці падобная я на яе сына... Я на яго падобная.

У бабуліных вачах з'явіліся слёзы, яна моцна абняла мяне і трымала некалькі хвілін. Я таксама паплакала. Ад радасці, што нарэшце прыехалі.

Пасля я аглядзела пакой. Абстаўлены ў стылі «Пачатак дваццатага стагоддзя». Канапа, крэслы — бардовы велюр, шчодра ўпрыгожаны чорнымі драўлянымі вітушкамі. На камодзіку — фатаграфіі маладой бабулі. На фатаграфіях бабуля вельмі прыгожая: фарфоравы твар у арэоле русых валасоў, светлыя, хутчэй за ўсё шэрыя вочы, доўгая сукенка «плісіроўка». Фатаграфіі дабротныя, шчыльныя (Госпадзі, я цяпер трымаю іх у руках). Надпісы: «Слуцкь, Фатаграфія З. Юхнина». На зваротным боку: «Негатывы захоўваюцца» і бабулінай рукой «1916 г.» Здымкам амаль сто гадоў, а яны захаваліся.

Пасля ўсе сядзелі пры цьмянай газавай лямпе за абедзенным сталом. Нешта елі.

Скруціўшыся калачыкам на ложку побач, я спрабавала заснуць.

У доме, на вуліцы і ва ўсім горадзе — страшэнная цішыня. Толькі гадзіннік цікаў на сцяне, ды ў суседнім пакоі пахропваў бацюшка.

Асцярожны голас бабулі то змаўкаў, то гучаў зноў. Быццам яна ішла па балоце і ўглядалася, куды б паставіць нагу пры наступным кроку.

Расказвала:

— Турма забітая людзьмі. Арыштоўваюць па падазрэнні ў тым, што яны — камуністы, камсамольцы... Людзей гэтых амаль не кормяць, — набіраючы свежага паветра ў грудзі, працягнула. — Вылоўліваюць яўрэяў і вывозяць кудысьці... Кажуць, іх расстрэльваюць у яры за горадам…

Страшна. Страшна патушыць лямпу, разысціся і застацца адной у ложку...

Развіднела. Толькі калі стала чуваць, як суседка Ліда за сцяной (незадоўга да вайны бабуля прадала палову дома) забразгала вёдрамі, падняліся з-за стала. Скрозь сон чую бабулін голас, які, здаецца, разносіцца па ўсім доме:

— Толькі б не заявіліся...

І насурочыла…

* * *

Нас пабудзіў гучны стук у дзверы. Апрануўшы сукенку, бабуля пайшла адчыняць, прыгаворваючы: «Айн мамент!»

Пажылы нямецкі афіцэр у высокай фуражцы і няўклюдны салдат у пілотцы зайшлі ў кухню за бабуляй.

— Хто жыве ў доме? — з моцным акцэнтам запытаў афіцэр. Бабуля праігнаравала гэтае пытанне.

— Хто тут жыве? — паўтарыў афіцэр і нядобра на яе зірнуў.

Стоячы на дыбках, я падглядвала ў шчылінку дзвярэй. Нават не дыхала, каб лепш усё чуць.

Раптам адчыніліся дзверы з пакоя, і выйшаў цалкам экіпіраваны ўсімі святарскімі адзнакамі айцец Аляксей. Немцы адразу перавялі позірк на яго.

Нямая сцэна...

Я войкнула: такім нашага бацюшку — пры поўным парадзе — я яшчэ не бачыла.

Ён злёгку пакланіўся афіцэру, нібы вітаючы яго, і горда прайшоў міма. Афіцэр нешта сказаў салдату, і немцы сышлі.

Размоў пасля было... Бабуля так каменціравала гэтую сцэну: ва ўсіх на вачах бацюшка пайшоў «туды, куды і цар пешшу хадзіў».

Хуткім часам айцец Аляксей атрымаў прыход непадалёк ад Слуцка ў вёсцы Баслаўцы. Але не знік. У самыя цяжкія хвіліны, калі ўжо зусім не было чаго есці, не-не ды і з’яўляўся баслаўскі святар, як мы яго звалі, з саматканым палатняным мехам у руках. На стол клаліся кавалкі сала, масла, сыру... А гэты незвычайны баслаўскі хлеб: чорны, пасыпаны кменам! Вялікая круглая булка, вышынёй у чатыры-пяць пальцаў. Як пірог! Відаць, любілі прыхаджане свайго бацюшку.

* * *

Ніхто з мясцовых жыхароў не ўяўляў, якая ўлада існуе ў горадзе. Кожны толькі ведаў, што адбывалася ў яго доме і доме яго суседзяў па тым гвалце, які чынілі нямецкія салдаты і афіцэры. Людзі былі аддадзены на літасць немца-пераможца, як злачынцы ў яго вачах.

Тата быў уцягнуты ў розныя гаспадарчыя клопаты па доме і толькі на трэці дзень пасля прыезду, пад вечар, стаў збірацца да сябра дзяцінства Валодзі Яновіча — даведацца ў горадзе ён або не.

У мяне дрыжаў голас, калі я папрасіла:

— Калі ласка, вазьмі мяне з сабой.

Тата кінуў на мяне сур'ёзны пагляд, павагаўся секунду і пагадзіўся. Якім няшчасным выглядаў горад — без святла, без шуму, без людзей на вуліцах... Чорны грузавік выпаўз з-за павароту, адкінуўшы нас да плота аднаго з дамоў, дзе мы схаваліся ў густых кустах. Машына праехала далей і, узбіўшыся сваімі вялікімі коламі на нечы кветнік, спынілася. З машыны саскочылі немцы і з нязвыклай для нашага вуха шумнай, рэзкай гаворкай пачалі барабаніць у дзверы дома. Стала жудасна. Далей пайшлі дварамі.

Сям'я Яновічаў жыла ў невялікім драўляным доме ля самых могілак. Дзверы нам адкрыў Іван Міхайлавіч, бацька Валодзі.

— Як я рады цябе бачыць, як я рады вас бачыць! — прыгаворваў ён, абдымаючы тату і цалуючы мяне. — Не ведаю, дзе Валодзя. У першыя дні вайны прызваны ў Чырвоную Армію, можа, і ў жывых ужо няма.

Вольга Пятроўна радасна выкрыкнула, выбегла насустрач. Яна пасадзіла нас за стол і стала частаваць чаем.

— Я бяру кубак у рукі і думаю, што гэта любімы кубак Валодзі. Я пяку дранікі і думаю, як іх любіў сын...

Успаміналі цудоўныя вечары, як яны сядзелі за гэтым сталом. Я здзівілася, калі ўбачыла, што мой тата гуляе ў прэферанс. І яшчэ як!

— Немцы ўсюды трубяць, што яны ўжо ў Маскве. Гэта няпраўда, — сказаў Іван Міхайлавіч, панізіўшы голас. — Адзін мой знаёмы слухае па радыё Маскву...

Дзверы паціху адчыніліся і прасунулася чорная кудлатая галава.

— Мой былы вучань Абраша. Які матэматык! Такіх я больш не сустракаў, — сказаў Іван Міхайлавіч і ўздыхнуў. Валодзеў тата працаваў настаўнікам матэматыкі ў школе.

Абраша прывітаўся з маім татам, мелькам зірнуў на мяне.

— Бацькоў Абрашы схапілі фашысты, — працягваў Іван Міхайлавіч, калі дзверы за хлопцам зачыніліся. — Ён адразу прыйшоў да мяне. Вось так і хаваецца: уначы ў нас у хаце, а днём тут побач на могілках.

Жыць на могілках... Тут майго розуму не хапала. Гэта калі чалавек яшчэ жывы, а надзея памерла ўжо...

Выпраўляючы нас, Іван Міхайлавіч сказаў тату:

— Паведамлю, калі вырашым сабрацца. Гульню ў карты ніхто не адмяняў...

І тата стаў сяды-тады хадзіць да Яновічаў. На ўсю ноч. Вось такая шкодная звычка. Кожны раз лаянка: тата збіраецца да Яновічаў, мама лаецца, але не пасапраўднаму.

Так мы даведваліся, што робіцца на фронце. Бабуля кідала ўсе справы і бегла да суседзяў. У яе было хранічнае нетрыманне навін. Асабліва прыемных.

...Я памятаю дзень, калі тата сказаў мне пра смерць Абрашы. Абрашу немцы не злавілі. Аднойчы ён не прыйшоў нанач. Не прыйшоў і ў наступную ноч. Іван Міхайлавіч стаў шукаць і выявіў яго мёртвым на могілках. Ён памёр сам... ад страху. Маюць рацыю, мусіць, людзі, якія сцвярджаюць, што наймацнейшае пачуццё — гэта страх.

Сэрца стамілася баяцца...

* * *

Драўляная брамка — гэта маё акно ў свет. Прыхінуўшыся галавой да слупа, я праводзіла так шмат часу. За брамкай цягнулася наша вулачка, па якой туды-сюды хадзілі людзі.

Там я пазнаёмілася з Алёнай Максімільянаўнай. Узгадваю цудоўнае, нейкае «даваеннае» аблічча гэтай жанчыны. Пушыстыя цёмныя валасы, укладзеныя на

патыліцы, строгі шэры касцюм, туфлі на «венскім», як раней казалі, абцасе. Яна валодала абаяльнасцю сталічнай жыхаркі. За вочы тата стаў зваць яе АМ — па ініцыялах. Мы таксама.

Яна — выкладчык нямецкай мовы, муж — прафесар права. Абое працавалі ў Маскоўскім дзяржаўным універсітэце. Іх раман пачаўся дваццаць пяць гадоў таму, калі яна яшчэ была студэнткай універсітэта. Тады яны і злучылі свае лёсы. Вадзім Іванавіч, так звалі яе мужа, горача кахаў жонку з запалам дваццацігадовага юнака, хоць паміж імі была розніца ў дванаццаць гадоў. Ён ніколі не выходзіў з дому, не пацалаваўшы яе. Як любаваўся ён жонкай, бачылі ўсе. Сяброўкі зайздросцілі ёй.

На маскоўскім вакзале Вадзім Іванавіч праводзіў яе разам з Наташай, іх малодшай дачкой. Стоячы на пероне ля цягніка, які ехаў у Беларусь, размаўлялі пра нейкія дробязі, смяяліся, развітваючыся на «нейкі месяц». АМ ехала наведаць старэйшую дачку, якая год таму скончыла універсітэт і па накіраванні паехала працаваць у Слуцк.

Пасля вайна. Вярнуцца ў Маскву не атрымалася.

Працавала перакладчыцай у нямецкай камендатуры. Зразумела, не па асабістым жаданні. Адмовішся — заб'юць. У яе не было выбару.

* * *

Мама пайшла на базар абмяняць нешта з рэчаў. Туды цягнулі ўсё ў абмен на ежу. Тата ляжаў на канапе, тварам да сцяны. Ён не мог устаць, не мог разагнуцца. Боль у страўніку не адпускаў.

Бабуля праяўляла каля печы вялікую вынаходлівасць у гатаванні абеду пры наяўнасці аднаго зыходнага прадукта — бульбы. Мамы доўга не было.

Зайшла суседка. Расказала пра сённяшняю аблаву на базары. Немцы хапалі людзей для адпраўкі ў Германію. А мамы ўсё не было.

Хутка мы з бабуляй ужо беглі ў цэнтр горада. Наперадзе бабуля, а за ёю я. Бабуля адчувала сябе майстрам спорту па бегу.

Пляцоўка ля двухпавярховага крэмавага дома была акружаная нямецкімі салдатамі. Унутры — моладзь, у большасці дзяўчаты. Звонку — іх заплаканыя родныя. Немцы паводзіліся так, быццам былі на пікніку. Толькі аўтаматы не ўпісваліся ў гэтую карціну.

З будынка выйшаў невысокі афіцэр з чубам у стылі Адольфа Гітлера. Натоўп прыціх. Усе пагляды скіраваліся на яго.

— Вас чакае поспех на нямецкай зямлі, зямлі Вялікай Германіі, — пачуўся ўрачысты голас. — Вы гатовыя?

«Гатовыя да чаго? Да зямлі?», — прашаптаў нехта побач.

Я выхапіла позіркам з натоўпу постаць мамы. Яна збялела, заўважыўшы нас. Галава перавязаная нейкай цёмнай хусткай, хоць хустак яна ніколі не насіла. Відаць, не хацелася быць прывабнай. Калі б бабуля вельмі строга не загадала маўчаць, я б, мабыць, зараўла ад гора. Праз хвіліну, узяўшыся за рукі, мы ўжо беглі да АМ.

АМ дапамагла. Вечарам мама вярнулася дадому. Тата падняўся і кружыўся вакол яе. Бабуля згатавала свой кулінарны шэдэўр — бульбяную запяканку. Мы елі і радаваліся.

* * *

Бабуля несла ў руках чыгунок з баршчом, загорнуты ў ручнік, а я — свой туфель з адарванай падэшвай. Мы ішлі да Кандрата. Яго дом — насупраць

нашага, ледзь правей. Кандрат маленькі, лысы ды яшчэ і глуханямы. Але рукі ў яго — залатыя. Ён — шавец. Рамантаваць абутак да яго прыходзілі людзі са ўсяго горада і нават з вёсак.

Пхнуўшы дзверы, мы апынуліся ў цёмных сенцах. Абмінуўшы яшчэ адно цёмнае памяшканне, патрапілі ў вялікі пакой. У пакоі стаяла канапа з высокай спінкай і жалезны ложак, завалены старымі коўдрамі. Каля акна — вялікі драўляны куфар.

У цэнтры пакоя сядзеў Кандрат. Ён узрадаваўся вачыма і неяк дзіўна паглядаў на дзверы другога пакоя. Раптам гэтыя дзверы з грукатам адчыніліся, і адтуль выйшлі два нямецкія салдаты.

— Бомба? — з ухмылкай запытаў адзін з іх і ткнуў пальцам у чыгунок, які трымала бабуля.

— Не, не! — спрабавала растлумачыць бабуля, робячы адмоўны рух галавой. — Ён глуханямы. Мы прынеслі яму есці.

— Што? Што? — перапытваў немец, забаўляючыся сітуацыяй.

Я глядзела на здзіўлены Кандратаў твар, і мне хацелася пазнаць яго думкі. Пра што яны? Ці разумее ён наогул, што адбываецца вакол...

У гэты час другі немец, мармычучы пад нос песню, адкрыў куфар і грэбліва двума пальцамі калупаўся ў ім. Па пакоі разнёсся спецыфічны пах старога абутку. Не накалупаўшы нічога, ён пакінуў гэты занятак. Потым немцы выйшлі з хаты, цяжка стукаючы падкаванымі чаравікамі на тоўстай падэшве.

Мінула чуць больш як месяц. Быў халодны восеньскі дзень. Я сядзела на падаконніку і разглядала вуліцу. Бачу: адкрылася брамка насупраць, пачуліся галасы, і выйшлі тыя два немцы. А, можа, і не тыя. За імі — чалавек з павязкай «паліцая» вывеў мужчыну са звязанымі ззаду рукамі і паўраспранутага босага Кандрата. Іх павялі ў бок турмы. Бедны Кандрат! Ён цяжка валок ногі, яму было балюча і халодна ісці.

Страшная вестка разнеслася па вуліцы праз нейкі час: Кандрата немцы расстралялі за сувязь з партызанамі. У яго хаце была «явачная кватэра». Вось такі лёс. Лёс — катастрофа...

* * *

Часам да нашай суседкі Ліды наведваўся брат Кастусь. Ён прывозіў вясковыя прадукты на базар.

Выйшаўшы ў двор, я назірала, як Кастусь дзелавіта выгружаў нешта з калёс і расказваў пра жыццё: дажджоў няма, усё дрэнна расце, немцы і партызаны ўсё адбіраюць. Мыла няма, солі няма, лекаў няма. Жонка хварэе, дзеці — брудныя...

У Кастуся — дужыя рукі і палахлівы пагляд. Я ведала яго страшэнную тайну: каб не ісці на вайну, ён адсёк сам сабе сякерай пальцы на назе. Вось такі ўчынак... Бог яму суддзя...

«Працалюбівы», — казала аб ім бабуля. «Куркуль», — гаварыў тата.

Добра памятаю, як па двары бяжыць, пляскаючы абцасамі вялікіх ботаў, з двума слуцкімі бэрамі ў выцягнутай руцэ Кастусь. Адну жоўтую прыгажуню ён працягвае мне, а другую нясе тату, які корпаецца з рыдлёўкай у гародзе. Тата адмаўляецца. У нас, савецкіх, уласны гонар. З гэтай другой грушай Кастусь робіць прабежку міма мяне назад у дом.

Кастусёва сястра Ліда была немаладая, непрыгожая, незамужняя... Як ходзяць на работу, яна штодзённа хадзіла ў царкву. Старанна збіралася, апранала чорную глухую сукенку, закручвала валасы ў сумны вузел ды ішла. Толькі вочы ззялі. У царкве Ліда кожны раз падыходзіла да бацюшкі: звычка ў яе такая была — благаславенне браць. Брала і ззяла далей. Тутэйшыя старыя між сабой

шапталіся, што Ліда без памяці закаханая... у бацюшку. Можа, хлусілі? А чаму б і не? Слуцкі бацюшка быў сімпатычны мужчына.

Вось такая лірыка ўкрапілася ў маё сумнае апавяданне...

* * *

Спытай мяне, які гэта быў год, месяц ці дзень, я не змагу адказаць. Хутчэй за ўсё, гэта было ў самы разгар вайны. Холадна, печ паліць не было чым, няма на чым нават чаю сагрэць...

Бабуля сабрала нейкія рэчы ў кошык і з раніцы адправілася на базар, каб паспець ухапіць воз з дровамі. Вярнулася яна хутка. Без дроў. Напаўжывая, белая, як крэйда, з цяжкасцю выштурхнула з сябе словы:

— Божа, каб ніколі гэтага не бачыць, — сказала і заплакала, — на ўсіх слупах Пралетарскай (так называлася да вайны галоўная вуліца горада), на ліхтарах, разгойдваючыся на ветры, вісяць людзі...

Было да смерці страшна. Раніцай, днём, увечары і ноччу.

* * *

Праз некалькі хат ад нас жыла швачка Анюта з сынам Сцёпкам. Сцёпка быў найпершым хуліганам на нашай вуліцы. Анюта шыла лялькі і насіла іх на базар. Паркалёвыя і шаўковыя чучалы часам карысталіся попытам.

Сцёпку было гадоў трынаццаць. Або пятнаццаць. Ён быў вельмі рослым і заўсёды хацеў есці. Бабуля падкормлівала яго. Ёй ён нагадваў малодшага сына Ігара, майго дзядзьку, які ў чэрвені сорак першага скончыў у Ленінградзе інстытут сувязі і пайшоў на фронт. Аб ім нічога не было вядома. Бабуля вельмі гаравала. Не надаралася дня, каб яна не плакала і не маліла Бога, каб сын застаўся жывы.

Ад дрэннага харчавання (або арганізм мне дастаўся слабы) я часта і многа хварэла. Шкарлятына, коклюш, свінка — проста ішлі за мною след у след.

Сцёпка праведваў мяне і прыносіў садавіну, дакладней яблыкі. Краў Сцёпка не толькі яблыкі ў чужых садах. Краў ён і ў немцаў усё, што дрэнна ляжала: запальніцы, пячэнне, цыгарэты...

Вайна яму здавалася чымсьці накшталт гульні. Немец прыйшоў і сыдзе. А шчаслівым яму хацелася быць сёння, цяпер, у гэтую хвіліну.

Дурэў, весяліўся, расказваў усякія гісторыі: як маладыя фашысты павалілі яго на зямлю і білі ботамі за тое, што ён не пажадаў сказаць ім: «Хайль Гітлер!»; як напароўся на перастрэлку, і куля сарвала яму кепку; як дапамагаў камусьці расклейваць лістоўкі ды ледзь уцёк ад паліцая... Ніколі пасля не сустракала чалавека, які так спакойна мог выпрабоўваць лёс.

— Я не прыйду заўтра. — Сказаў ён мне неяк. — Можа, доўга не прыйду...

Махнуў рукой, рэзкім рухам насунуў на смяхотныя вочы кепку і, шкодліва азіраючыся навакол, знік.

Так і запомніўся ён мне з гэтымі смяхотнымі вачыма.

Сцёпка не з’явіўся ні заўтра, ні пазней... Шукалі ўсе: мама, АМ, сябры, суседзі. Не знайшлі.

* * *

Апошні дзень вайны ў горадзе я памятаю добра.

З раніцы прайшла чутка, што часці Чырвонай Арміі ноччу вызвалілі Бабруйск. Гэта недалёка.

Немцы неяк замітусіліся, забегалі. Зганялі людзей капаць акопы.

Мы заціхлі, прыслухоўваючыся да нямецкіх галасоў недзе паблізу. Мама выглянула ў акно: тоўсты немец ужо барабаніў у нашыя дзверы.

Гэта здарылася імгненна: мама кінулася ў каморку і па вузкай драўлянай лесвіцы ўзлезла на гарышча. Бабуля адчыніла. Немец адпіхнуў яе і ўвайшоў у дом. Хутка зазірнуўшы ва ўсе куты, ён ірвануў дзверы каморкі, ступіў на хісткую лесвіцу і стаў паднімацца. Калі мы з бабуляй не крычалі, то былі блізкія да гэтага. Нешта трэснула наверсе. Не дайшоўшы некалькі прыступак да канца, спужаўшыся, немец зрабіў некалькі чэргаў з аўтамата па гарышчы і стаў спускацца. Пасля выбег.

І вось — паказалася мама. Жывая — схавалася за комінам.

Ноччу, калі завязаўся бой у горадзе, мы спусціліся ў маленькі акоп на гародзе. Усюды грукатала, бухала, грымела...

…А ў доме нехта пабываў. Украў чаўнок з нямецкай швейнай машынкі «Зінгер». Няўжо якісьці немец? Ці нехта з нашых?

З прыходам яснага сонечнага дня ўсталявалася назвычайная цішыня.

І тут я ўбачыла іх. Ішлі трое з аўтаматамі. На плячах пагоны.

Божа, ды гэта ж нашыя! У горад увайшла Чырвоная Армія.

З усіх двароў людзі выходзілі на вуліцы. Крычалі, абдымаліся, цалаваліся. Заканчваўся чэрвень 1944-га.

* * *

Да скачэння вайны заставаўся амаль год.

Як толькі ўсталяваўся парадак у горадзе, тата адразу лёг у бальніцу. Дактары сказалі нам, што ён ужо не жылец. Аперацыю рабіць не ўзяліся, маўляў, хвароба запушчаная.

Але тата не здаўся. Паехаў у Маскву, сеў ці лёг на ганку Інстытута Скліфасоўскага і, абхапіўшы жывот дзвюма рукамі, пакутаваў. З ганка яго ўзялі адразу на аперацыйны стол. Выратавалі. Пасля гэтага тата пражыў больш за дваццаць гадоў і памёр зусім ад іншай хваробы.

Але я забегла далёка наперад.

Апошні год вайны…

Яшчэ ішлі кровапралітныя баі па ўсёй Заходняй Еўропе, яшчэ прыходзілі пахаронкі і ліліся людскія слёзы.

Дом інвалідаў (у народзе — багадзельня), што знаходзіўся недалёка ад нас, перапаўнялі скалечаныя людзі. Без рук, без ног, сляпыя...

Памятаю: то тут, то там сустракалася мне славутасць Слуцка — мясцовая вар’ятка. Гадоў трынаццаці—чатырнаццаці, худзенькая, у шэранькай паркалёвай сукенцы, з якой ужо вырасла. Яна ўцякала з Дома інвалідаў і, цягнучы па зямлі доўгі хвост папяровых бінтоў, гуляла сярод людзей. Ні з кім не размаўляла, толькі шчаслівa ўсміхалася, тоненькім галаском паўтарала тры словы: Ляля, тата, мама.

Бацькоў Лялі (так звалі дзяўчынку) забілі фашысты ў яе на вачах.

Дзяўчынка засталася жыць. Калі гэта можна назваць жыццём...

Перад вачыма — цэнтральная плошча, яркае сонца, духавы аркестр, бясконцы людскі натоўп і ваенныя на танках, машынах, калёсах… Любуюся...

Побач час ад часу ўсхліпвае бабуля. Разумею: душа баліць па Ігару. Такім застаўся ў маёй памяці Дзень Перамогі — гэта свята, якое заўсёды … са мной.

Невялікі постскрыптум. З тых часоў мінула шэсцьдзесят пяць гадоў, і вось што я хачу яшчэ дадаць напаследак:

Пра АМ. Прыйшлі нашы, і АМ адразу арыштавалі. Абаранілі людзі, якім яна дапамагала. Яе выпусцілі. Дачка, да якой яна прыехала перад вайной, загінула ў партызанах. Не дачакаўшыся канца вайны, муж АМ ажаніўся з яе сяброўкай. У Маскву АМ так ні разу і не з'ездзіла. Казала, што не можа паехаць, таму што кепска апранутая. Але тут, відавочна, было іншае, у чым яна сабе не прызнавалася.

Калі яна памерла, на пахаванне муж не прыехаў. Прыехала дачка Наташа. У раскошным каракулевым футры.

Чаму яны зусім адмовіліся ад яе? Яна так бедавала...

Пра хлопчыкаў. Валодзя Яновіч загінуў. У яго быў і фронт, і палон, і штрафбат...

Сцёпка знік назаўсёды. Казалі, што ён марыў перайсці праз лінію фронту да сваіх. Мусіць, не перайшоў...

У мяне ліліся слёзы, калі сёлета ў Інтэрнеце знайшла на сайце ЦАМО (Цэнтр. арм. М. абароны) «Спіс загінуўшых і без вестак зніклых на вайне», у якім быў і наш Ігар, мой дзядзька. Там ёсць скупыя дадзеныя пра яго. Вось такі след ад чалавека застаўся...

Усё часцей і часцей успамінаю іх, пакінутых на вайне. Мы вось дажылі да 65-й гадавіны Перамогі. Мы кахалі. Нас кахалі. Дзяцей выгадавалі. А яны засталіся ў палях, у акопах, у балотах, невядома дзе... Маладыя, прыгожыя.

Паклон і ўдзячнасць — Ім...

Пра Івана Міхайлавіча. Іван Міхайлавіч сяды-тады прыходзіў да нас. Не вельмі здаровы з выгляду, зусім сівы. Вымаў з унутранай кішэні пінжака чацвярцінку, садзіліся з татам у двары сярод зеляніны ды ўспаміналі былое.

Пра сябе. Сорак пяты год запомніўся мне яшчэ адной падзеяй: той восенню я пайшла ў першы клас. Скончыўшы школу (дарэчы, найстарэйшую ў Беларусі) з залатым медалём, я пакінула Слуцк.

У мяне двое дарослых дзяцей і двое сучасных унукаў. Я пішу, ажыўляючы сваю памяць, трохі для іх, а больш — для тых, пра каго тут расказала, з якіх сёння засталася адна я…

***г. Баранавічы, 2010 г.***

Анатоль СТАТКЕВІЧ-ЧАБАГАНАЎ

# ВЯРТАННЕ ДА ВЫТОКАЎ

***Старонкі з летапісу беларускай шляхты***

*Я плюс я — сям'я. Сям'я плюс сям'я — род. Род плюс род — народ. А народ плюс народ — усе мы, людзі на планеце Зямля.*

*Даўно запусціў гэту ісціну ў душу, як і тое, што ўсе мы, зямляне, — радня. Нам толькі трэба паверыць у гэта і займець жаданне спазнаць сябе, сваю сям'ю, род і народ, да якога мы належым.*

*З напісаннем аповесці «Я» — пра твой і мой радавод мне стала святлей жыць у зямным раі. Адчуў сябе душэўным багацеем, убачыў радаводнае дрэва, займеў новую адказнасць за яго росквіт.*

*Са шчымлівай радасцю сустракаю кожнага чалавека, які хоча зазірнуць у сваё мінулае, а значыць, у гісторыю свайго радаводу і сваёй Айчыны. Сярод такіх апантаных людзей — Анатоль Статкевіч-Чабаганаў, сучасны бізнесмен, — даследчык мінулага і калекцыянер. А я хачу дадаць, што ён натхніў душу пошукамі свайго радаводнага дрэва, займеў творчыя крылы і здзейсніў духоўны ўзлёт. З дапамогай айчынных і замежных архіваў, гістарычных крыніц узвёў на п'едэстал сучаснасці пяцісотгадовую беларускую шляхту. Ён, пачынаючы са сваёй сям'і, узняўся да ўсяго радаводу Сацкевічаў-Статкевічаў, праз родныя сувязі выйшаў на радаводы Карафаў-Корбутаў, Тычынаў, Ждановічаў-Гурыновічаў, Сыцькаў, Ліпскіх, Забелаў, Татураў, Некрашэвічаў, Глінскіх-Ліхадзіеўскіх, Рэўтаў... І напісаў ажно шэсць тамоў праўды пра мінулае. Кожны, хто прачытае пісьменніцкае, навуковае, краязнаўчае даследаванне Анатоля Статкевіча-Чабаганава, скажа, не зможа не прызнаць, што аўтар зрабіў тытанічную пошукавую працу, здзейсніў подзвіг.*

*Чытачам «Полымя» дадзена магчымасць пазнаёміцца з аўтарам і з некалькімі старонкамі яго даследавання. Запомніце гэта імя і не прапусціце захапляльны, багата ілюстраваны, напоўнены рэдкімі і цікавымі дакументамі шматтомнік Анатоля Статкевіча-Чабаганава пад агульнай назвай «Я — сын Ваш».*

***Уладзімір ЛІПСКІ,***
***галоўны рэдактар часопіса «Вясёлка»,***
***лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі.***

*Рака мая, радавод мой!*
*Вы не канулі ў лету!*
*Лёсу было неабходна, каб я стаў летапісцам — вашым.*
*І няма высакародней працы,*
*Бо я — часцінка ваша, ваш прыток.*
*Я — сын ваш.*

Пачну з таго, што бясспрэчнае, што вядомае, што яшчэ свежае ў памяці і чаму сам быў сведкам. Спачатку пра тых, хто натхніў мяне на пошук, хто прывёў да шматплыннай ракі радаводу.

Столькі гадоў прайшло, але той дзень не забываецца. Ён стаў для мяне знакавы і даў штуршок да пошуку, якім займаюся і да гэтага часу.

У дзяцінстве я жыў у бабулі ў вёсцы Засмужжа, на Любаншчыне. Да 1893 года маёнтак Засмужжа належаў князям Вітгенштэйнам, а ў 1893 перайшоў ва ўласнасць да майго прадзеда Івана Вікенцьевіча Сацкевіча — Статкевіча і да маіх бліжэйшых родзічаў — Карафа-Корбутаў, Рудзінскіх, Тычынаў. Але пра гэта я даведаўся значна пазней.

Дзяцінства было бесклапотным, як і ў многіх іншых дзяцей. Мама працавала ў райцэнтры, таму да дзесяці гадоў мяне выхоўвала бабуля Марыя Аляксандраўна з роду Карафа-Корбутаў.

Як цяпер памятаю: пачатак восені, 1952 год. На дварэ холадна, мокра, а ў нашай хаце светла і святочна: вярнуліся з арміі абодва мае дзядзькі — Віктар і Мікалай. У час вайны яны падлеткамі пайшлі ў партызаны. Пасля роўна па сем гадоў праслужылі ў Савецкай Арміі. Вярнуліся пасталелыя, узмужнелыя. Да вялікіх чыноў не даслужыліся, але кожны меў на пагонах лычкі.

Асабліва вылучаўся Віктар. Ён і росту вышэйшага, і з твару больш прыгожы — цёмнавалосы, смуглы. Магчыма, паўплывалі гены роду Карафа-Корбутаў. Нездарма на майго дзядзьку заглядаліся дзяўчаты. А ў Мікалая была іншая постаць, прыгожыя блакітныя вочы...

Пад вечар салдаты селі за стол вячэраць. Як і належыць, выпілі па чарцы. Пачаліся цікавыя размовы, гарачыя спрэчкі. Я ляжаў на печы (падлеткаў у нас не запрашалі за стол) і ўважліва слухаў, пра што размаўляюць дзядзькі. Шмат чаго з размовы не зразумеў, але некаторыя рэчы ўсвядоміў і запомніў на ўсё жыццё. Мяне хвалявала, што дзядзькі, будучы яшчэ малымі, пабывалі дзесьці ў далёкай ссылцы, была з імі і мая шасцігадовая на той час мама. Здарылася гэта ў 30-я гады XX ст. Мікалай і Віктар гаварылі, як было цяжка, колькі ім давялося перажыць. Не паспела адна бяда скончыцца — грымнула вайна. Яны шмат разоў і потым вярталіся да гэтай тэмы. Мінулае моцна трывожыла іх душы. Заводзілі размову пра калгас. Памятаю, загарачыўся дзядзька Віктар. Ён старэйшы па ўзросце, і яго меркаванне было важкае.

— Няхай хоць на вяроўцы цягнуць, а я ў калгас не пайду! — ужо не гаварыў, а крычаў ён. — Гэта была наша зямля, і мы павінны цяпер працаваць на ёй на ўладу, якая паставіла да сценкі маіх родзічаў? Ды я ніколі не стану там працаваць.

Ён так і не пайшоў у калгас, вучыўся ў тэхнікуме, а затым служыў старшынёй сельскага спажывецкага таварыства. Дзядзька Мікалай усё-такі стаў хлебаробам, працаваў шафёрам, трактарыстам.

А тая іх размова глыбока запала мне ў душу. Мае дзядзькі далі мне першы ў жыцці ўрок палітасветы, крытычнага погляду на рэчы і падзеі тых гадоў. Мне запомнілася і ўрэзалася ў памяць, што род наш быў калісьці знатны, меў свае землі, што сям’я перажыла жудасную трагедыю. І хаця гэта былі невялічкія звесткі, але яны ўзрушылі мяне.

Прайшлі гады. Я скончыў школу, стаў студэнтам аднаго з ленінградскіх інстытутаў. Пасля «хрушчоўскай адлігі» студэнцкая моладзь была сур’ёзна заклапочана новымі ганеннямі на культуру. У той час выйшла аповесць Аляксандра Ісаевіча Салжаніцына «Адзін дзень Івана Дзянісавіча», якая многім адкрыла вочы на нядаўняе мінулае. Для мяне гэта стала штуршком, своеасаблівым наказам дазнацца праўду. Але які ж быў доўгі шлях да яе! І сёння гэтая дарога вядзе мяне ў глыб стагоддзяў.

Будучы цікаўным, я часта распытваў сваю бабулю Марыю Аляксандраўну пра мінулае. І з адной гутаркі даведаўся, што яна вянчалася ў Забалаці, недалёка ад Засмужжа, царква ў якой стаяла на высокім прыгожым месцы. Побач — могілкі, дзе пахаваны бабуліны бацька і маці. Бабуля расказвала, што бацькоў забіла маланкаю, таму расла сіратою пры браце Георгію, якога дома звалі Ягорам, і сям'я якога пасля раскулачвання засталася ў Комі-Пярмяцкай акрузе.

Што да помнікаў на магілах родных, пра якія згадвала бабуля, то яны ў Забалаці ёсць, але пасля вайны мае родзічы іх не маглі знайсці. Бо царкву ў час жорсткіх ганенняў супраць веры разбурылі. Затым пранеслася ваеннае ліхалецце. Мясцовую школу спалілі фашысты, а пасля вайны, для пабудовы новай, жыхары пачалі збіраць камяні, што засталіся ад царквы. Разам з імі звезлі і некаторыя помнікі.

Гаварыла бабуля і пра помнікі дзядам у Кутнева, што пад Слуцкам.

І вось пасля столькіх гадоў, рупліва вывучаючы гісторыю свайго роду, я вырашыў заняцца таксама вывучэннем могільнікаў — своеасаблівым летапісам камянёў. Я пераканаўся ў гэтым, калі праводзіў даследаванні могілак сваіх родзічаў.

Выбраўшыся аднойчы ў Забалаць разам са сваімі братамі Віктарам і Іванам, сястрой Інай, пляменнікам Васілём і ўзяўшы з сабою ўсялякі інвентар ад лапатак да вёдраў з анучкамі, мы паехалі на мясцовыя могілкі. Мяне даўно хвалявала тая сямейная гісторыя пра забітых маланкаю сваякоў.

Стаяў цудоўны сонечны дзень. Мы паднялі шмат помнікаў, паправілі, адчысцілі іх. А надмагільных камянёў родзічаў ніяк не маглі знайсці. Увесь пагост перагледзелі ажно тры разы.

Працавалі ўвесь дзень. І калі ўжо сабраліся сыходзіць, мне чамусьці стала вельмі сумна. Я сказаў сваім:

— Пачакайце, я яшчэ прайду на той схіл, нешта мяне туды цягне.

А з галавы не выходзілі радкі Марыны Цвятаевай пра суніцы, якія растуць на могілках: «Я тоже жила, прохожий, прохожий, остановись!» І вось я іду і спыняюся якраз у тым месцы, дзе патрэбна было спыніцца. Бачу верх двух помнікаў, якія відаць з зямлі сантыметраў на пятнаццаць. Крычу брату:

— Давай тут будзем капаць!

Адкопваем першы. Бачым доўгае імя. Пачалі адчышчаць металічнымі шчоткамі: *Аляксандръ…*

— Усё! — кажу. — Будзе Платонаў.

Сапраўды: Аляксандр з *яцью*, Платонаў і *яць* (раней не пісалі Платонавіч), Корбут і *яць*. Памёр у 1904 годзе. Пачынаем адкопваць другі помнік. І бачым: Марыя Феафілаўна. Дата смерці 1900 год. Версія, што бацькоў забіла маланкаю не пацвердзілася. Магчыма, такое сталася толькі з Марыяй Феафілаўнай (у метрычнай кнізе — Марыя Неафітаўна).

Поспех гэты мяне акрыліў, пачаліся новыя пошукі. Аднак надмагільнага каменя Івана Вікенцьевіча Сацкевіча-Статкевіча так і не адшукалі. Магчыма, сапраўды помнік майму прадзеду забралі на будаўніцтва школы.

Праз некаторы час я вырашыў з'ездзіць на могільнік у вёсцы Кутнева, што на Случчыне, дзе жылі мае прапрадзеды. Паехалі з братам. Надвор'е было добрае, але раптам, калі мінавалі Валяр'яны, пайшоў нудны халодны дождж. Вырашылі не адступаць, хоць і лёгка апрануты. Прыехалі ў Кутнева, адшукалі могілкі, якія знаходзіліся ў вельмі занядбаным выглядзе. Абышлі ўсё, але помнікаў, пра якія расказвала бабуля, не знайшлі. Брат Віктар прапанаваў ад'язджаць, але я вырашыў яшчэ раз паглядзець. І нейкае пачуццё прывяло мяне да двух амаль нябачных помнікаў, якія раней мы не заўважылі.

Адчысціўшы помнікі ад зямлі, убачылі надпіс: Аляксандра Якава Корбут. Без прыстаўкі Карафа. Адкапалі другі помнік. Чытаем на ім: Платон Самуілаў Корбут. Што здзівіла, памерлі яны ў адзін і той жа год — 1884. Нечакана мільганула думка: магчыма, пра іх хадзіла сямейная легенда, і гэта яны загінулі ад маланкі? Але калі раскапалі далей, убачылі розныя даты смерці: 24 сакавіка і 7 красавіка.

Пасля, працуючы ў архівах, мне ўдалося знайсці царкоўныя кнігі, з якіх даведаўся, што родзічы памерлі ад лёгачных захворванняў.

У той дзень была яшчэ адна знаходка. Гляджу — за помнікам Платону Самуілавічу ляжыць вялікі камень. Перавярнулі, адчысцілі, чытаем: Самусь Корбут. Пахаваны ў 1860 годзе. Прадзед маёй бабулі Марыі Аляксандраўны.

Каб жа камяні маглі гаварыць! А яны могуць распавядаць пра многае. Патрэбна толькі паслухаць, пагаварыць з імі, як з жывымі...

## Сацкевічы-Статкевічы герба «Касцеша»

Мая мама Аляксандра Міхайлаўна паходзіць са старажытнага беларускага роду Сацкевічаў-Статкевічаў.

Назва герба «Касцеша», паводле легенды, звязана з гісторыяй пра рыцара. Гэты храбры воін, мужнасць якога адзначыў сам кароль Баляслаў І Храбры, прымаў удзел у бітве пад Сноўскам у 1072 годзе. Ён змагаўся ў глыбіні варожага стану, не зважаючы на зламаны меч, шматлікія крывавыя раны на целе, расшчэпленую на дзве часткі стралу, што засела ў плячы. Калі закончылася бітва, і войска пачало збіраць здабычу, тады і з'явіўся перад каралём Касцеша. Ён стомлена зняў змяты і парыжэлы ад варожай крыві баявы шлем і, паказваючы на сваё зраненае цела, сказаў: «Гэта і ёсць мая здабыча!»

На памяць пра такую адвагу кароль дазволіў храбраму рыцару змясціць на сваім гербе перакрыжаваныя стралу і меч. Вось і з'явіўся герб, на чырвоным фоне якога — выява раздвоенай стралы, скіраваная ўгору; у кляйнодзе — над прылбіцай — шляхецкая карона з трыма страусавымі пёрамі. Пазней гэты знак сталі называць стралой выратавання.

Трэба адзначыць, герб «Касцеша» быў вельмі папулярны і ў XIX стагоддзі. Яго насіла нават адна з яхтаў расійскіх імператараў.

Пацвярджае гэту папулярнасць і сучасная энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Вось што адзначаецца ў ёй:

«Статкевічы, Сцяцкевічы... Шляхецкі род у Вялікім княстве Літоўскім. Родапачынальнік Сцяцко Пятровіч, гаспадарчы дваранін, войт Магілёўскі і Слуцкі ў XV ст. Меў сына Ждана, які валодаў Любанічамі, Чаркасавам і Расоснаю, унукаў Хаму, Яўмена і Андрэя, ротмістра і двараніна Вялікага князя В. к. Л. Казіміра».

Як лічыў польскі даследчык Нясецкі, які жыў у XVIII ст., сын Андрэя Ждановіча — Іван Андрэевіч, падскарбі В. к. Л. жанаты на княжне Чацвярцінскай. Відаць, гэта памылка, бо мной устаноўлена, што яго жонкай была Марыя Сачкоўна, магчыма, з нашага роду Сацкевічаў. Гэта вынікае з пацвярджэння ад 1 студзеня 1588 года на сяло Рагозінскае ў Аршанскім павеце яе сыну Багдану Статкевічу каралём польскім Жыгімонтам Аўгустам («...то сельцо… матъце его Марьи Сачковне... записал... на вечность подтвердил»). Гэты маёнтак дастаўся Марыі ад першага мужа Івашкі Чаркаса, які ў сваю чаргу перайшоў яму ад Сцяпана Рагозы, які збег у Маскву.

Ад Багдана, сына Івана Статкевіча і Марыі Сачкоўны бярэ пачатак знакаміты род Статкевічаў-Заверскіх. Адзначым найбольш вядомых гістарычных асоб адгалінавання гэтага роду.

Багдан-Мікалай Статкевіч-Заверскі (1510—1586 гг.), дваранін гаспадарскі, ротмістр кіеўскі, падчашы В. к. Л., маршалак браслаўскі, маршалак надворны па прывілеі караля польскага Жыгімонта Аўгуста ад 19.06.1572 года.

Валодаў многімі маёнткамі, сярод якіх: сяло Рагозінскае, маёнтак Заверцы Браслаўскага павета, ад назвы якога бярэ пачатак геаграфічны прыдомак да прозвішча Заверскія. Жонка — княжна Горская.

Сын Багдана Іванавіча Вільгельм, падкаморы браслаўскі, валодаў вялікімі маёнткамі Дайнова ў Ашмянскім павеце, Любавічы і Сяменічы ў Мсціслаўскім

ваяводстве, Расона, Чаркасава і Вусце ў Аршанскім павеце, Прылукі ў Мінскім павеце, Масіры і Часніцы ў Новагародскім павеце.

Багдан, сын Вільгельма, дзяржавец паланіцкі, кашталян новагародскі актыўна выступаў за абарону праваслаўя. Разам з жонкай Аленай Багданаўнай Саламарэцкай (княгіняй) заснавалі Баркалабаўскі Узнясенскі жаночы манастыр, Буйніцкі Свята-Духаўскі манастыр, Куцеінскі Богаяўленскі манастыр, Куцеінскі Успенскі манастыр, фінансаваў дзейнасць Куцеінскай друкарні. Багдан валодаў таксама ў сярэдзіне XVII стагоддзя маёнткам Сёмкава і тут пабудаваў драўляны палац. Захавалася нават яго апісанне 1646 года. Гэта быў вялікі прамавугольны будынак, з размешчанай у цэнтры высокай двухпавярховай вежай пад шатровым дахам, якая служыла і абаронччым збудаваннем. У далейшым Багдан Статкевіч прадаў сваю сядзібу Сёмкава князю Сапегу. Але вернемся да нашай радаводнай галіны.

У XV ст. у Наваградскім павеце ў сваім маёнтку Сачкевічы на Ліпах жыў баярын Сачкевіч. У яго было два сыны — Мікіта, ад якога бярэ пачатак наш род, і Багдан — родапачынальнік Сацкевічаў-Ліпніцкіх. Мікіта меў сем сыноў, аднаго з якіх звалі Сцяцко. У Сцяцко былі дачка Ганна і чатыры сыны. Пачынаючы з аднаго з іх — Івана — наша галіна стала называцца Сацкевічы-Статкевічы. Відавочна, што ад імя яго бацькі Сцяцко бярэ пачатак прозвішча Статкевіч, а ад назвы вотчыннага маёнтка Сачкевічы на Ліпах далучыўся да прозвішча прыдомак Сацкевіч. Дарэчы, гэты маёнтак з паэтычнай назвай таксама перайшоў Івану ў спадчыну ад бацькі.

Здаецца, так і бачыш гэтыя высокія ліпы ў пару цвіцення, чуеш гул пчол і ўдыхаеш паветра, напоўненае непаўторным пахам мёду...

Як адзначана ў кантракце паміж Іванам Сацкевічам-Статкевічам і Мікалаем Радзівілам Чорным, нашы землі «ўпіраліся ў сцены палаца Нясвіжскага». А кантракт гэты з'явіўся таму, што землі межаваліся з землямі Радзівілаў. Суседзі вырашылі ўпарадкаваць свае «грунты». Перамовы вяліся доўга і складана. Яно і зразумела: нашы продкі заўсёды цяжка развітваліся з родавымі гнёздамі, якія былі такія дарагія душы і сэрцу. І давялося Радзівілу аддаць узамен два маёнткі, а ў прыдачу і вялікую суму грошай. Але давайце звернемся да кантракта-прывілея, да якога «*прывешана пячатка ўвесістая Вялікага княства Літоўскага і подпіс рукі найяснейшага караля Яго Міласці Жыгімонта Аўгуста*». Як відаць з дакумента, сам «...Жыгімонт Аўгуст Божаю міласцю кароль польскі, вялікі князь літоўскі, рускі, прускі, жамойцкі, мазавецкі, інфлянцкі» блаславіў здзелку і зацвердзіў яе ў кастрычніку 1562 года. А паведаміў каралю пра абмен маёнткамі асабіста «...ваявода Віленскі, маршалак земскі, канцлер наш Вялікага княства Літоўскага, староста Берасцейскі і Ковенскі, дзяржаўца Шавельскі, пан Мікалай Радзівіл, што Яго Міласць уладкаваў замену вячыстую з земянінам нашага ваяводства Новагародскага панам Янам Статкевічам-Сацкевічам, ад якога выменяў Яго Міласць да палаца свайго Нясвіжскага маёнтак яго і душное, усё, што ён меў на Сацкевічах-Ліпах побач з Нясвіжам, а Яго Міласці ў адмену даў і на вечныя часы саступіў сёлы свае Нясвіжскія Валожычы і Юраўшчызну ў Куковічах ва ўсім, яко ж тыя сёлы ў сабе маюць з людзьмі, і землямі, і дрэвам бортным, з сенажацямі, рэчкамі, і з ловамі звярынымі, і птушынымі, і рысінымі, і бабровымі гонамі... і яшчэ да таго прыдаў Яго Міласць сумаю пенязямі трыста восемдзесят коп грошай... і па жаданні нашым пячаткі свае да сяго нашага ліста прылажыць загадаў. *Пан Скумін Львовіч Тышкевіч, маршалак яго каралеўскай міласці, дзяржаўца чарнобыльскі; князь Іван Крошыцкі, дзяржаўца упіцкі; князь Багдан Цімафеевіч Пузына.*

Пісан у Вільні. Года ад нараджэння сына Божага 1562 месяца кастрычніка 9 дня».

З таго часу ўладальнікам маёнткаў Валожыцы і Куковічы стаў Іван Сацкевіч-Статкевіч. У далейшым гэтыя маёнткі былі падзелены паміж яго сынамі. Чытаем архіўны дакумент: «Я, Ян Іванавіч Статкевіч, зацвярджаю сім маім лістом каму пра гэта ведаць патрэбна... што каторыя маёнткі, пасля смерці бацькі нашага, нябожчыка пана Івана Статкевіча, гэта значыць Валожыцы і Куковічы ў павеце

Новагародскім, адпісаныя на нас чатырох братоў, засталіся, і мы, жадаючы раздзел вячысты паміж сабою застанавілі і раздзялілі есма тыя маёнткі на чатыры часткі адпаведна праву спадчыннага раздзелу». Дарэчы, чатырох згаданых братоў звалі Валянцін, Іван, Якаў, Аляксандр, і ад першага з іх ідзе далей мой род.

Хочацца зазначыць, што Статкевічы заўсёды падтрымлівалі адзін аднаго. Калі трэба, не шкадавалі грошай. Але калі здзяйснялася зло, то дзейнічалі строга па законе. Красамоўна сведчыць пра гэта справа, або як напісана «судовы вырак па скарзе земяніна Новагародскага павета пана Яна Сацкевіча-Статкевіча і яго брата Аляксандра на земяніна Савіча Заляцелага за забойства яго слугою Аляксеем Зарэцкім земяніна пана Івана Альшэўскага ў горадзе Слоніме». Актыкаваны дакумент 21 студзеня 1591 года.

Як відаць з гэтага дакумента, браты нашага Валянціна Іван і Аляксандр былі вельмі паважанымі людзьмі ў той час. І невыпадкова родзічы Івана Альшэўскага запрасілі іх у Слонім для ўдзелу ў судовай справе, каб усё вырашалася па законе і справядліва.

Гэта пацвярджае тастамент іх дваюраднага брата Юрыя Залівакі ад 5 мая 1602 г., па якім ён даручае Івану Сацкевічу-Статкевічу быць апекуном яго дзяцей і справядліва распарадзіцца маёмасцю пасля смерці. Пры ўдзеле Івана складзены інвентар маёнтка памерлага Юрыя Канстанцінавіча. На дзесяці лістах распісана ўсё, у тым ліку землі і іх межы. Асаблівую цікавасць, на мой погляд, уяўляе тая частка дакумента, дзе гаворыцца пра падворак Залівакі. Вось падрабязнае апісанне яго: «Двор з пабеленымі будынкамі, двор з варотамі ўязнымі, дом для пражывання з чатырма святліцамі, з іх дзве з каморамі, дзве без камор, з печамі і з камінамі, на вокнах завесы. Дом другі, дранкаю пакрыты, у ім святліца з каморай, пякарня з каморай, кухня пасярэдзіне з каморай і сталом. У броварні лазня з печамі простымі і паліцамі, рэчы для захоўвання піва. Тры свірны, адзін з двайным дном і засекамі для захавання жыта, ліпаўкі для засыпкі жыта і бочка для яго змешвання. І яшчэ два свірны для агульнага захоўвання. Направа святліца старая з печамі, з вокнамі і завесамі.

Піўніца з каменнай кладкай, у ёй — піўная бочка.

У двары ставок, каля стаўка сажалка і пабелены «палац», у ім пякарня, дзве клеткі для захоўвання, сырніца з двума гумнамі. Ёсць і аборы каля гумна, у якіх быдла рагатае: 14 кароў, 10 валоў старых з маладымі, 2 быкі; іншага пагалоўя — 26; 43 авечкі, 16 свіней, апрача таго — гусі, паўліны, індыкі, каплуны, осмы, куры. У другой аборы — кацёл піўны, кацёл гарэлачны, кацёл кухонны, бочкі гандлёвыя «меры сто менскай», тры бочкі пшаніцы, дзесяць бочак ячменю, ярыцы дзве бочкі, аўса дванаццаць бочак, гароху адна бочка, грэчкі чатыры…»

Пад інвентаром «подпись рукою власною с печатями пана Беняша Подбийпеты и пана Яна Стецькевичъ-Сачкевича. Писан в Исаевичах 22 августа 1611 года».

Мяркуйце самі, як выглядала падвор'е шляхты таго часу.

Але вернемся ў наш маёнтак, у родныя Валожыцы. Жыццё там ішло сваім парадкам. У Валянціна, пра якога мы ўжо згадвалі, нарадзіліся два сыны Севярын і Крыштаф (усяго было пяць сыноў). Крыштаф жанаты на Бербашоўне з роду Юхновічаў-Бербашэй. Яе продак князь Нагайскі Бер-Баша прыбыў у XIV ст. з Прычарнаморскіх стэпаў, прыняў хрысціянства пад іменем Юхна і стаў служыць Вялікаму князю Вітаўту. Менавіта брату Крыштафу ў будучым Севярын саступіў сваю частку маёнтка Валожыцы.

З закладной здзелкі ад 15 ліпеня 1654 года даведваемся, што сын Крыштафа Сацкевіча-Статкевіча Гаўрыіл і яго жонка Кацярына Галінская перадалі ў шасцігадовае карыстанне Яну Маневічу частку маёнтка Валожыцы з сялянамі і далі паруку пры гэтым за свайго сына Іаахіма (Яўхіма).

Сацкевічы-Статкевічы да XVIII ст. жылі ў асноўным каля Нясвіжа ў сваіх родавых маёнтках Валожыцы і Куковічы ў Юраўшчызне. Там яны прадаўжалі жыць да 30-х гг. XX ст.

Аднак прадстаўнікі адгалінавання нашага роду Яўхім Статкевіч і яго сын Сямён у першай палове XVIII ст. перабраліся ў бойкае купецкае мястэчка Пясечнае[1] (Капыльскае княства).

Пераехаўшы ў Пясечнае, Сямён Яўхімаў Статкевіч, як і раней, валодаў часткаю маёнтка Валожыцы каля Нясвіжа да канца XVIII ст. Пра гэта сведчаць купчыя крэпасці ад 17 жніўня 1725 года, паводле якіх ён набыў за 3500 польскіх злотых частку маёнтка Валожыцы, які называлі Дамброўкай, з сялянамі ў сваіх родзічаў Стэфана і Рыгора Сацкевічаў-Статкевічаў у маі 1794 года. Паводле гэтых дакументаў, Сямён Яўхімаў Статкевіч з паручыцельствам за сыноў сваіх Рыгора, Гераніма, Мацвея-Максіма і Якава прадаў частку маёнтка Дамброўка з сялянамі Казіміру Ахрымовічу.

Адгортваем інвентар Капыльскага княства Новагародскага ваяводства за 1734 год. У пераліку ўладальнікаў зямлі лічыцца Сімяон Статкевіч з мястэчка Пясечнае, які жыў па вуліцы Чырвонай, у доме нумар 41, меў зямельныя надзелы ў «Хіначове», «Моргах сенажатных у Ямішчах» і яшчэ два надзелы (8 і 29 валок). У тым жа мястэчку па вуліцы Грывецкай, у доме нумар 100 быў запісаны Кандрат Астрэйка. Яго дачка Параскевія стала жонкай Якава, сына Сімяона Стацкевіча. Вянчанне адбылося 16 мая 1798 года ў Пясечненскай[2] Пакроўскай царкве.

З інвентароў Капыльскага княства за 1669 і 1693 гг. вядома, што род Астрэйкаў пражываў у Пясечным з XVII ст. Так, па вуліцы Піліпаўскай значацца Рыгор і Сімяон Астрэйкі — прадзед і дзед нашай Параскевіі.

Пясечнае. Вытокі Нёмана. Родны бераг нашага роду Астрэйкаў. Ён быў родным і для беларускага паэта Анатоля Астрэйкі:

Быў рум калісьці ля ракі,
І ўдзень, і ўночы плытагоны
Сасны стрыжнёвай камлюкі
Ля берага вязалі ў згоны.

Сапраўды, толькі нешматлікіх гарадоў, а тым больш мястэчак, вядома дата іх узнікнення. Па просьбе князя Слуцкага Юрыя Алелькавіча 12 лютага 1568 года кароль Польскі і Вялікі князь літоўскі Жыгімонт Аўгуст II выдаў прывілей, па якім ён — князь Слуцкі — меў права засяляць урочышча Пясечнае над Нёманам як сваімі людзьмі, так і вольнымі. Юрый Алелькавіч лічыў, што гэта будзе прыбытковае гандлёвае і купецкае мястэчка перш за ўсё з-за яго ўдалага месцазнаходжання.

Так і здарылася. Дрымучыя лясы навокал (Песачанская[3] пушча) — гэта тавар, Нёман — натуральны гандлёвы шлях і прыстань для лесасплаву. А ў ваколіцах — урадлівыя землі і багатыя сенажаці.

Перш за ўсё пабудавалі прыстань. З'явіўся млын, для якога быў праведзены спецыяльны канал. Узніклі ганчарныя, кавальскія і іншыя майстэрні рамеснікаў. У нядзелю ладзіліся шумныя кірмашы.

Ну, а дзе карчма? Будзе і карчма. У 1593 годзе княгіня Сафія за 20 коп грошай у год дазволіла адкрыць карчму яўрэю Пейсаху Эльяшавічу.

І Пясечнае расквітнела. З'явіліся вуліцы — Слуцкая, Старыцкая, Чырвоная, Грывецкая... Жыхары плацілі падаткі як грашыма, так і натуральнымі прадуктамі — аўсом, птушкай і нават мохам з суседніх лясоў.

Жылі заможна. Войны сярэдзіны XVII ст. паміж Рэччу Паспалітай і Маскоўскай дзяржавай, нягледзячы на цяжкую разруху, ненадоўга прыпынялі

[1] Цяпер — Пясочнае.
[2] Цяпер — Пясочанская.
[3] Цяпер — Пясочанская.

актыўнае жыццё мястэчка. У пачатку XVIII ст. тут была пабудавана Пакроўская царква. Народ прыцягвала Пясечнае. Сярод маіх родзічаў з'явіліся людзі з рэдкімі для гэтага краю прозвішчамі — Бэндзі, Мікулы, Шаблюкі. Навакольныя землі былі ў цане. Узніклі шляхецкія фальваркі і засценкі — Рулёва, Астрэйкі, Броды, Шамаў.

Дарэчы, засценак Рулёва шляхціц Якаў Статкевіч атрымаў у арэнду ад Нясвіжскага кляштара бернардзінцаў. Гэта вынікае з завяральнага дакумента Елізаветы Цвіркаўны і Апалінарыі Гарбатоўскай — ігуменняў манастыра. У дакуменце сказана: «Дзейнічаючы ад імя свайго і ўсяго брацтва запэўніваем сім дакументам спадара Якава Статкевіча, што манастыр наш, які мае доўг перад ім па дзвюх аблігах, першай ад 1824 года на 420 рублёў срэбрам і другой ад 1830 года на 210 рублёў срэбрам, калі цяпер такой сумы ні поўнасцю, ні часткамі не можам заплаціць спадару Якаву Статкевічу, а таму толькі за адзін працэнт аддаём яму ў карыстанне засценак Рулёва, які належыць маёнтку Валешына на ўмовах арэнднага права».

Хацелася б адзначыць выдатную рысу Якава. Ён — глыбока веруючы чалавек. Якаў ішоў у царкву не толькі памаліцца, але і дапамагчы храму, калі была неабходнасць і патрэба ў падтрымцы. Пра гэта сведчаць некаторыя дакументы Мінскай духоўнай кансісторыі аб выдзяленні прадзедам грошай на рамонт царквы. Ёсць падзяка 1836 года ад архіепіскапа Мінскага і Гродзенскага Міканора за перабудаванне царквы ў Пясечным. Якаў ахвяраваў на гэтую справу 50 рублёў срэбрам.

Калі я пазнаёміўся з мінулым майго продка, мяне больш за ўсё здзівіла яго неўвядальная маладосць. У 1827 годзе, калі Якаву было ўжо за 50 гадоў, памерла яго жонка Параскева Кандратаўна Астрэйка. Мой родзіч не захацеў заставацца бабылём, ажаніўся другі раз з Ганнай Ільінічнай з Гарэлікаў, якая праз год нарадзіла яму сына. Назвалі яго Сільвестрам. Затым у сям'і з'явіліся яшчэ два сыны, прычым абодва 8 лістапада — у дзень святога архангела Міхаіла. І назвалі братоў Міхаіламі. Пасля іх называлі Міхаілам першым і Міхаілам другім.

Але і ад першай жонкі Параскевы ў Якава Сямёнавіча было два сыны — мой прапрадзед Вікенцій і яго брат Васіль. У архівах захавалася вялікая колькасць дакументаў, у якіх узгадваецца Вікенцій. Дакладна вядома з метрычнай кнігі Тэлядовіцкай царквы, што ён нарадзіўся 25 сакавіка 1816 года, але вось загадка, чаму яго бацькі некалькі гадоў жылі не ў засценку Рулёва, а ў Старой Гуце, дзе з'явіўся на свет Вікенцій. Хутчэй за ўсё гэта звязана з напалеонаўскай вайной. Сям'я перабралася на некаторы час хаця і недалёка, але затое ў больш ціхае месца, чым Пясечнае, дзе перакрыжоўваліся ўсе шляхі і дарогі. Вядомая і дата вянчання Вікенція з 18-гадовай шляхцянкай Марыяй Забэла, рымскага веравызнання. Адбылося вянчанне 15 кастрычніка 1839 года ў пясечнінскай Пакроўскай царкве. Дарэчы, маці Марыі Ганна — са старажытнага роду Татураў.

Калі не стала бацькі, сыны Якава Сямёнавіча купілі зямлю ў Малінава пад Глускам. Даведаўшыся, што памешчык Маліноўскі прадае там маёнтак, вырашылі разам са сваімі родзічамі Забэламі, Карафа-Корбутамі, Сыцько набыць яго. У выпісцы з кніг Бабруйскага павятовага суда ад 20 чэрвеня 1847 года купчай крэпасці памешчыка Рагачоўскага павета Магілёўскай губерні Т. А. Маліноўскага двараніну Івану Васільевічу Корбуту на зямлю ў абрубах Малінава і Ямянец сярод пакупнікоў значыцца Вікенцій Статкевіч.

Хачу адзначыць і такую важную дэталь. Яшчэ да пераезду з маёнтка Рулёва ў Малінава ў Вікенція Якаўлевіча і Марыі Андрэеўны нарадзіўся сын Іван. Хрысцілі яго 23 лістапада 1847 года ў той жа Пакроўскай царкве, але рос і выхоўваўся мой прадзед Іван пад Глускам. Там, у Малінава, ён сустрэў сваю будучую жонку Наталлю. Дзед яе Іван Карафа-Корбут, як ужо адзначалася, купіў гэтыя землі разам з Вікенціем Статкевічам.

## Мой дзед — Міхаіл Іванавіч Сацкевіч-Статкевіч

Часта гляджу на фотаздымак свайго дзеда Міхаіла Іванавіча Сацкевіча-Статкевіча, з якім лёс не дазволіў мне сустрэцца, і ўсё больш яскрава адчуваю несправядлівасць тых гадоў. Нішчылася хрысціянская вера, тысячагадовая культура, векавыя традыцыі грамадства, права на ўласнасць і волю думкі. Мільёны людзей аказаліся непажаданымі. І ўсё ў імя сусветнага шчасця. А ці можа яно быць для адных, калі пабудавана на горы і няшчасці іншых? Непажаданым стаў і мой дзед Міхаіл Сацкевіч-Статкевіч. Уся яго віна ў тым, што ён з «чужога» класа, з дваран…

У матэрыялах гістарычнага архіва захавалася прашэнне дваранiна Бабруйскага павета Івана Вікенцьевіча Сацкевіча-Статкевіча да Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу, пададзенае 26 лютага 1896 года. У ім гаворыцца: «Гонар маю прасіць прылічыць да дваранскага роду сына майго Міхаіла Іванавіча і справу аб сім прадставіць у Сенат на зацвярджэнне». Просьба гэтая Сенатам была задаволеная.

Клопат бацькі пра свайго нашчадка зразумелы: сын быў адзін. Да гэтага часу нараджаліся толькі дзяўчынкі. (У сям'і іх было ажно восем.) А ў справу аб дваранскім паходжанні запісвалі асоб толькі мужчынскага полу. Патрэбен быў прадаўжальнік роду.

Нараджэнне хлопчыка ў сям'і стала надзвычай радаснай падзеяй. Паступова сын рос, сталеў. Бацька разумеў, што ў Малінава спадчынніку будзе цесна: мала зямлі, развярнуцца няма дзе. Даведаўшыся, што на Любаншчыне прадаецца маёнтак Засмужжа, Іван Вікенцьевіч вырашыў яго купіць. Уладальнікам маёнтка быў князь Вітгенштэйн. Прадстаўнікі яго роду праявілі сябе ў Айчыннай вайне 1812 года. За ваенныя заслугі імператар Расіі Аляксандр І падараваў ім вялікія надзелы зямлі.

У Засмужжы ў Вітгенштэйнаў было больш за 4 тысячы дзесяцін. А гэта каля чатырох тысяч гектараў ворыўнай зямлі, лугоў і лесу. Вітгенштэйн прасіў 30 тысяч рублёў срэбрам. Па тых часах гэта вялікія грошы. Іван Вікенцьевіч такой сумы не меў. І тады ён папрасіў дапамогі ў блізкіх родзічаў — Карафа-Корбутаў, Рудзінскіх, Тычын. Але перамовы пра набыццё зямлі ішлі вельмі цяжка, амаль два гады. За гэты час маёнтак ад князя Вітгенштэйна перайшоў да яго сваячкі княгіні Марыі Львоўны Гагенлое. Сярод пакупнікоў таксама не ўсё ладзілася. Не ў кожнага было дастаткова грошай. Таму адначасова ішлі перамовы з Віленскім зямельным банкам пра крэдыт. Акрамя таго, не аднойчы здаралася, што нехта адмаўляўся ад здзелкі. Прычыны розныя: то не падабаўся сенакос, то месца нізкае — жыта магло вымакнуць, то трэба карчаваць векавыя дубы. Таму адбываўся чарговы перамер зямлі. Па новым коле, у які раз. Запрашаліся землямеры. Зноў усе пакупнікі ў прызначаны час збіраліся ў маёнтку Засмужжа, бо любыя змены ў папярэдняй дамоўленасці пра межы маглі выклікаць канфлікт.

Калі, здавалася, усе пытанні былі нарэшце вырашаны, зноў знайшоўся адзін з пакупнікоў, які ў апошні момант адмовіўся ад свайго надзелу. Паўстала пытанне: або пачынаць новы перамер, або гэты ўчастак прапанаваць сялянам, якія хацелі яго набыць. А гэта азначала жыць па-суседску з людзьмі іншага саслоўя і, магчыма, парадніцца з імі. Як расказвала мне цётка Зоя, дадзеныя абставіны выклікалі не меншыя спрэчкі, чым падзел зямлі. Тады пакупнікі вырашылі далучыць да гэтай справы шляхту, не зацверджаную ў дваранстве, і тых сялян, што лічыліся моцнымі гаспадарамі. Так да дваран, якія выкуплялі маёнтак Засмужжа, — Сацкевічаў-Статкевічаў, Карафа-Корбутаў, Тычынаў, Рудзінскіх, Кунцэвічаў і Бараноўскіх — далучыліся Шуневічы, Міхневічы, Зубовічы, Марціновічы, Ляпкі і Басякі.

Хутка Іван Вікенцьевіч разам са сваёй сям'ёй і сынам Міхаілам перабраліся на новае месца, што пацвярджаецца ў дакументах Мінскага натарыяльнага архіва: «набыўшы праз пакупку маёнтак Засмужжа па купчай крэпасці, заключанай у Мінскага натарыуса Галіневіча 25 верасня 1893 года».

Патрэбна адзначыць, што сын Івана Вікенцьевіча Міхаіл адразу стаў лідэрам сярод сваякоў-саўладальнікаў маёнтка Засмужжа, якія выбралі яго старастам. Вылучаўся Статкевіч сваёй разважлівасцю, гаспадарчай хваткай. Да яго ішлі па дапамогу і параду. Ён стаў пастаянным удзельнікам многіх нарад па зямельных пытаннях. Быў у сваім павеце паважаным чалавекам. І калі прыязджала губернскае начальства, то абавязкова бывала ў яго ў гасцях. Рос у яго і вядомы на ўсю ваколіцу сад, ды вымерз марознай зімой у час Фінскай вайны.

Грымнуў 1917 год. Да ўлады прыйшлі новыя людзі, чужыя і па натуры, і па духу Міхаілу Іванавічу. Ён не ўспрымаў іх, і яны адчувалі гэта. У Статкевіча і яго родзічаў абрэзалі землі, пакінуўшы толькі невялікі надзел. З яго здзекаваліся, пазбавілі выбарчых правоў. Міхаіл Іванавіч стаў замкнёны, з'явілася апатыя да жыцця. Ён пачаў ездзіць да сяброў па няшчасці, былой шляхты, і да раніцы гуляў у карты. Бывала, прагульваў коней, а на другі дзень вяртаўся на іх дадому. Гаварыў: карта лягла. Жонка хоць і дакарала, але разумела яго, бо неяк трэба было супакоіць душу. «Гульцы», відаць, увесь час шапталіся: што рабіць, як выжыць, бо пагрозы ўсё ўзмацняліся. Прапаганда супраць класавых ворагаў вялася пастаянна. Вось і раілася былое панства. Можа таму і прыпісвалі Міхаіла Іванавіча да нейкай міфічнай «Банды Булата».

У кастрычніку 1929 г. у Міхаіла і Марыі Статкевічаў нарадзілася трэцяе дзіця, надзіва спакойны, усмешлівы, блакітнавокі хлопчык Мікалай. Бацька не мог наглядзецца на яго. Знік сум, з'явілася мэта ў жыцці. Але бяда пастукалася ў дзверы ў той жа год. Калі Міхаіла Іванавіча арыштавалі, ён сказаў жонцы:

— Беражы дзяцей, я хутка вярнуся.

Хоць Статкевіч і не верыў новай уладзе, але думаў, што злітуюцца, бо нікога не забіваў, не рабаваў, не выяваў супраць бальшавікоў. За што яго судзіць? Але ў Бабруйскім выпраўдоме, куды даставілі яго разам з дваюрадным братам Васілём Пятровічам Карафа-Корбутам, на былых дваран глядзелі інакш. Абвінавачванні былі стандартныя: супрацiўляліся стварэнню калгасаў, агітавалі супраць улады бальшавікоў, члены антысавецкай банды... У анкеце допыту, дзе Міхаіл Іванавіч у графе пра былое саслоўе пазначыў «селянін», яго прымусілі ўласнаручна выправіць — «з дваран».

Зараз цяжка сказаць, катавалі яго ці не, але па тых звестках, якія засталіся, зразумела: віну сваю ён не прызнаў. Ды і ў чым прызнавацца? Аднак рашэнне тройкі АДПУ было адназначнае — вышэйшая мера пакарання. Расстралялі іх разам з дваюрадным братам раніцай 6 красавіка 1930 г. ва ўстанове са здзеклівай назвай «Выпраўдом». Па сутнасці, без суда і следства.

Матэрыялаў па гэтай справе мала. Таму што ў 1952 г., калі прайшло 22 гады, быў загад па Камітэце дзяржаўнай бяспекі аб чыстцы ўсіх спраў, якія кампраметавалі органы. Узнікла разуменне: рэпрэсіі былі неабгрунтаваныя і ў будучым хтосьці можа панесці адказнасць за масавыя расстрэлы і здзекі. Пэўна, вырашылі схаваць канцы ў ваду, і частку матэрыялаў таго часу знішчылі.

Так зрабілі і са справаю Міхаіла Статкевіча. Пакінулі толькі некалькі нязначных старонак пратакола допыту, дзе ёсць агульныя звесткі. Але і да гэтых дакументаў маіх родзічаў дапусцілі не адразу. На першы запыт схлусілі: матэрыялаў няма. Мы не супакоіліся, зноў пачалі стукаць у дзверы да ўладаў, пакуль яны не здаліся і не дапусцілі ў сховы...

Лёс Міхаіла Іванавіча трагічны, але вобраз яго светлы. Усё жыццё гэтага чалавека — праца на зямлі, служэнне грамадству — прыклад для цяперашняга пакалення Статкевічаў. Мне здаецца, дзед насуперак жыццёвым абставінам ніколі не пакідаў родныя мясціны, бацькоўскі дом і заўсёды жыў і будзе жыць у сэрцах нашчадкаў.

Міхась МУШЫНСКІ

# КАЛІ ЗАГАВАРЫЛІ МАЎКЛІВЫЯ СВЕДКІ ЧАСУ

Нядаўна беларускія аматары айчыннага прыгожага пісьменства, даследчыкі гісторыі літаратурна-навуковага, грамадска-культурнага жыцця атрымалі каштоўны падарунак — кнігу «Время и бремя архивов и имен», аўтарамі якой з'яўляюцца добра вядомыя ў нашай краіне і па-за яе межамі асобы — пісьменніца Людміла Рублеўская і гісторык Віталь Скалабан.

Кніга выклікала шырокі грамадскі рэзананс, павышаную цікавасць у чытацкім асяроддзі, што тлумачыцца перш за ўсё навізной, багаццем змешчанага там матэрыялу і вельмі ўдалай формай яго падачы. Форма выкладу спалучае ў сабе навуковую дакладнасць і выразныя прыкметы мастацкай літаратуры — вострую інтрыгу, эмацыйную напружанасць, кульмінацыю, а часта нечаканую развязку, пераважна драматычную. А галоўнае, як і ў мастацкім творы, за кожнай гісторыяй, пакладзенай у аснову пэўнага нарыса, стаіць лёс канкрэтнай асобы як прадстаўніка пэўнай сацыяльнай групы, пэўнай прафесійнай супольнасці — пісьменніцкай, навуковай, грамадска-культурнай.

Многія фрагменты гэтай драмы ўжо друкаваліся на старонках газеты «Советская Белоруссия». Але сабраныя пад адной вокладкай, яны набылі ўнутранае адзінства і ўспрымаюцца зараз як пэўная цэласнасць, а таму робяць моцнае ўражанне. Адпаведна ўзрасла і іх навукова-пазнавальная каштоўнасць, бо выяўленыя архіўныя дакументы, якія доўгі час заставаліся невядомымі, або нават мелі грыф сакрэтнасці, у сённяшніх сацыяльна-культурных абставінах успрымаюцца як адзін з найболей пераканальных аргументаў у працэсе перагляду, у пераасэнсаванні многіх і многіх ранейшых уяўленняў, ацэнак, якія аказаліся далёкімі ад гістарычнай праўды, уяўленняў пра падзеі літаратурнага, грамадскага жыцця, пра матывы ўчынкаў таго ці іншага пісьменніка, вучонага. А перагляд ранейшых застарэлых схем, спрошчаных, вульгарна-дагматычных трактовак тых ці іншых літаратурна-мастацкіх з'яў, канкрэтных твораў павінен ісці болей інтэнсіўна, мэтанакіравана і ў больш дзейсным супрацоўніцтве архіўных, музейных працаўнікоў і гісторыкаў літаратуры дзеля ўсталявання сапраўднай аб'ектыўнасці.

Перакананы: па сутнасці кожны з семнаццаці нарысаў і эсэ, змешчаных у кнізе, заслугоўвае асобнага разгляду, грунтоўнай прафесійнай размовы. І гэта — не перабольшванне, не пафасная стылёвая фігура, запазычаная з арсенала кампліментарнай крытыкі. Сказанае грунтуецца на аналізе матэрыялу, які ўпершыню ўведзены ў шырокае навуковае карыстанне і на супастаўленні яго з тымі ацэнкамі, характарыстыкамі, высновамі, якія трывала замацаваліся ў існуючых гісторыка-літаратурных працах. Менавіта вось такі шлях, такі супастаўляльна-параўнальны падыход і дасць магчымасць па-сапраўднаму ацаніць навуковае значэнне таго, што зроблена аўтарамі. А зроблена багата і кваліфікавана, прафесійна, што якраз і з'уляецца гарантыяй поспеху кнігі і сярод навукоўцаў, і тых, хто ўвогуле цікавіцца айчыннай гісторыяй.

Апярэджваючы канкрэтную размову, адзначым прыдуманую кампазіцыю кнігі, матэрыял у якой размешчаны па пэўных праблемна-тэматычных групах і з

захаваннем храналогіі падзей. Аўтарскі расповед лагічна распачынаецца нарысам «Меліярацыя духу», бо ён, нарыс, глыбінёй, важкасцю закранутых тут пытанняў, маштабнасцю галоўных дзейных асоб задае кнізе агульны тон, вызначае яе змястоўны ўзровень, яе суаднесенасць з нашым часам. З пададзенага ў нарысе матэрыялу, у прыватнасці, бачна, як партыйныя кіраўнікі, не ўлічваючы эстэтычную прыроду, спецыфіку літаратуры, настойліва вучылі беларускіх пісьменнікаў ствараць ідэйна дасканалыя, «правільныя», «вытрыманыя» п’есы і раманы. І ў сваёй настойлівасці нярэдка даходзілі да абсурду. Так, абурэнне партыйных функцыянераў выклікала рэпліка героя п’есы Кандрата Крапівы «Партызаны», рэпліка-запытанне: ці праўда, што Ленін выступае абаронцам працоўных? Дзеянне ў творы Крапівы адбываецца ў гады грамадзянскай вайны, таму герой, дзед Бадыль, меў права на такое пытанне. П’еса, аднак, была забаронена. Але, як сведчаць дакументы, праз пэўны час пакрыўджаны аўтар усвядоміў уласную «ідэалагічную памылку», раскрытыкаваў сябе і нават стаў прыходзіць да партыйных кіраўнікоў за парадай. Ну, а як жа ў такім выпадку трэба разумець творчае самавыяўленне мастака?

Архіўныя дакументы наглядна раскрываюць маштаб дзейнасці цэнзурнага ведамства. Сярод недазволеных да друку твораў, калі меркаваць па галоўлітаўскай справаздачы за 1944—1945 гады і першы квартал 1946 года, — раманы, апавяданні, п’есы, вершы К. Чорнага, У. Краўчанкі, Я. Шарахоўскага, У. Няфёда, Я. Брыля, М. Засіма, К. Цітова, А. Астрэйкі. З якой стараннасцю вышукваліся ідэйныя хібы, дапушчаныя «палітычна няспелымі» празаікамі, паэтамі, сведчаць наступныя звесткі, прыведзеныя ў той жа справаздачы: у рукапісах твораў, прапанаваных да друку, за два з лішнім гады было зроблена 1051 тэкставае выкрэсліванне, 19 разоў «изымались» ужо аддрукаваныя тыражы выданняў, з бібліятэк «изъято 19 988 вредных книг и брошюр» (с. 13). Думаецца, што ўсе тыя «выкрэсліванні» ў творах пералічаных вышэй пісьменнікаў павінны быць выяўлены, уважліва прааналізаваны тэкстолагамі з адпаведнымі практычнымі рэкамендацыямі. Вось у гэтым і заключаецца рэальная каштоўнасць архіўных дакументаў, змешчаных у кнізе.

Стасункі партыйнага кіраўніцтва з творчай інтэлігенцыяй у розныя перыяды вызначаліся сваёй адметнасцю. Згаданую акалічнасць аўтары кнігі нязменна ўлічвалі, пазбягаючы ніверліроўкі, суб’ектыўнага падыходу, аднабаковага асвятлення. У гэтым плане выклікаюць цікавасць звароты пісьменнікаў да афіцыйных асоб, пра што распавядаецца ў змястоўным нарысе «Я к Вам пишу — чего же боле?»... Чытаючы звароты, бачыш, што кожны з адрасантаў паўставаў у новым святле, раскрываўся з нечаканага боку. Ды і многія лісты, як і ўчынкі, паводзіны пісьменнікаў, часта былі нечаканымі. І насамрэч, хто мог сабе ўявіць, што першы сакратар ЦК ЛКСМБ, намеснік наркама асветы, рэдактар часопісаў Платон Галавач адважыцца ў 1931 годзе накіраваць у гарадскую кантрольную камісію КП(б)Б заяву аб выхадзе з шэрагаў бальшавіцкай партыі! Свой крок аўтар ліста матываваў станам пакутлівай «раздвоенасці паміж літаратурнай работай і грамадскай работай», якую ён павінен выконваць як сумленны партыец і якая моцна перашкаджае яго пісьменніцкаму, творчаму развіццю. Галавач быў шчыры ў прызнанні таго, што ён валодае малым літаратурным багажом і яму трэба шмат вучыцца.

Зусім відавочна, што за зваротам маладога празаіка паўстае драма сумленнай асобы: Галавач на ўласным вопыце адчуў маральны цяжар неабходнасці арганічна спалучаць жорсткія партыйныя патрабаванні, класавы падыход і свабоду творчага самавыяўлення. Да гонару пісьменніка, ён прадбачыў магчымасць далейшага ўзмацнення партыйнага дыктату, а гэта павінна было адмоўна адбіцца на мастацкім узроўні, гуманістычным гучанні твораў, на іх адпаведнасці жыццёвай праўдзе.

Можна сабе ўявіць, слушна падкрэслена аўтрамі нарыса, які «спалох на загонах», якую паніку ўнёс ліст Галавача ў партыйнае кіраўніцтва рэспублікі. «Ніхто не хацеў браць на сябе адказнасць» (с. 19) і нейкім чынам развязваць скла-

даны вузел, вырашаць праблему. Крамольную заяву пачалі перасылаць з адной інстанцыі ў другую. Паказальна, што да кампаніі выкрыцця ганебнага аблічча «дэзерціра», адступніка падключылі надзейных крытыкаў-артадоксаў. «Ёсць звесткі, што ў рэшце рэшт жахлівую заяву перадалі самому Сталіну» (с. 19). І як можна было спрагназаваць, пісьменнік асудзіў свой ганебны, шкодны ўчынак. У партыі П. Галавач застаўся. Напісаныя ім творы — «Носьбіты нянавісці» і «Яны не пройдуць!» — на жаль, не сталі мастацкім здабыткам. А ў сумны дзень 29 кастрычніка 1937 года Галавач быў расстраляны разам з іншымі бязвіннымі ахвярамі таталітарнага рэжыму.

На жаль, мужны крок Галавача не мог атрымаць належнага асвятлення ў даследаваннях, прысвечаных творчасці пісьменніка, як і яго самаасуджэнне. А без гэтай драматычнай старонкі немагчыма разабрацца ў прычынах творчых страт, якія мелі месца ў згаданых аповесцях 30-х гадоў.

А вось ліст М. Гарэцкага ад 20 ліпеня 1927 года зусім не падобны да звароту П. Галавача. Аўтар «Руні», «Дзвюх душ» просіць «паважаных таварышаў» з вышэйшай партыйнай інстанцыі, а менавіта з ЦК КП(б)Б, каб яны ніколі не верылі на слова З. Жылуновічу-Гартнаму, «калі б ён стаў мяне абвінавачваць у чым-небудзь»: у такім выпадку трэба «праверыць факты або спытацца ў каго-небудзь з другіх таварышоў…» (с. 15). Чым жа выклікана такая незвычайная просьба «даведзенага да крайнасці» пісьменніка? Прычынаю стаўся «сістэматычны пераслед» М. Гарэцкага з боку Жылуновіча за тое, што М. Гарэцкі як літаратурны крытык і гісторык літаратуры ўслед за М. Багдановічам «недаацаніў» Гартнага-паэта. У свой час Багдановіч «лічыў… Цішку Гартнага бяздарнасцю… «Я не лічу т. Жылуновіча бяздарнасцю, але ў значнай меры падзяляю погляд на яго з боку М. Багдановіча» (с. 15). Вось гэтую крыўду пралетарскі паэт насіў у сэрцы і адмаўляўся друкаваць творы «крыўдзіцеляў» у выдавецтве, якое ён узначальваў.

Імкнучыся застацца на пазіцыі аб'ектыўнага асвятлення сітуацыі, а значыць, і асобы пісьменніка, аўтары нарыса прыводзяць тут і ліст Ц. Гартнага ў Бюро ЦК КП(б)Б з просьбай аб вызваленні яго з пасады загадчыка Белдзяржвыдавецтва, бо аб'ектыўныя цяжкасці матэрыяльнага характару дыктавалі неабходнасць замены кіраўніка выдавецтва. Як бачым, Ц. Гартны хоць і выкарыстоўваў «адміністрацыйны рэсурс» і дапускаў «хамскія па сваёй псіхалогіі ўчынкі» (с. 17), але за пасаду не трымаўся.

Выклікае цікавасць і яшчэ адзін факт, прыведзены аўтарамі: калі пачалася партыйная чыстка і перад Гартным узнікла пагроза аказацца сярод «вычышчаных», М. Гарэцкі ўзняўся над асабістай крыўдай і абараняў свайго «крыўдзіцеля».

Вось такія архіўныя матэрыялы ўносяць новыя штрыхі ў гісторыю пісьменніцкіх стасункаў, гісторыю літаратурна-творчага жыцця 20—30-х гадоў.

Як справядліва адзначана аўтарамі, асаблівую каштоўнасць маюць матэрыялы з грыфам «Не подлежит разглашению». І яны ў кнізе публікуюцца ўпершыню. Адзін з такіх дакументаў — ліст К. Чорнага ад 2 верасня 1939 года да сакратара ЦК КП(б)Б П. К. Панамарэнкі і да народнага камісара ўнутраных спраў БССР Л. Ф. Цанавы. Тут пісьменнік паведамляе, што яго паказанні, дадзеныя ў час арышту супраць М. Хведаровіча, былі зроблены пад прымусам, і зараз Чорны ад іх катэгарычна адмаўляецца. З горыччу распавядае аўтар славутых раманаў пра тыя здзекі, якія давялося яму вынесці за час знаходжання ў турэмнай камеры. І гэты матэрыял таксама павінен быць улічаны даследчыкамі не толькі творчасці Чорнага, але і ўсёй літаратуры 30-х гадоў.

Пра формы і метады мэтанакіраванага кантролю над вальнадумнымі творцамі распавядаецца ў нарысе пад вельмі каларытнай назвай «В пьяном виде можно поцеловать классового врага…». А такія недаравальныя ўчынкі, як шчырая размова з носьбітам чужых поглядаў на шляхі сацыялістычнага будаўніцтва, найчасцей дапускаліся прадстаўнікамі творчай інтэлегенцыі ў нефармальнай абстаноўцы. Святочны настрой, які панаваў на юбілейных мерапрыемствах, якраз

і садзейнічаў таму, што ўдзельнікі застолля, на добрым падпітку, дазвалялі сабе выказванні, мабыць, не заўсёды сумяшчальныя з тагачаснымі ідэалагічнымі ўстаноўкамі і партыйнымі ўказаннямі. Вось чаму ў паслябанкетную справаздачу прысутнага там інфарматара трапляла багата звестак. Якога яны былі зместу, бачна з апісання наступстваў банкету ў гонар 15-годдзя творчай дзейнасці «вядомага беларускага песняра і палітычнага дзеяча Змітрука Жылуновіча» (с. 26). Юбіляру паводле прапановы калегіі Наркамасветы меркавалася прысвоіць званне народнага паэта Беларусі. З апраўдальнымі тлумачэннямі прычын свайго ўдзелу ў мерапрыемстве, не ўзгодненым з партыйнымі органамі (!), давялося выступаць многім пісьменнікам і грамадскім дзеячам…

Да гонару аўтараў кнігі трэба сказаць, што нават блізкія паводле свайго зместу нарысы не паўтараюць адзін другога: кожны з іх высвечвае новую, адметную грань, закранае новы аспект літаратурна-грамадскага жыцця ў той ці іншы перыяд. У гэтым пераконваюць сюжэты «Фарфоравы слонік для Надзеі», «Калянавуковая спрэчка», «Дошка з чорнага хода», прысвечаныя трагічнаму лёсу выдатных вучоных-гуманітарыяў — М. В. Доўнар-Запольскага, Я. Ф. Карскага, І. І. Замоціна, якія ўнеслі вялізарны ўклад у развіццё беларускай гуманітарнай навукі, беларускай культуры. Кожны з уключаных у кнігу нарысаў — гэта, без перабольшання, канспектыўны накід, лаканічна выкладзеная канва сацыяльна-псіхалагічнага рамана. Тут ёсць усё, што патрабуе жанравая форма мастацкага твора: востры канфлікт, падзеі гістарычнага маштабу, шырокі грамадскі фон, драма канкрэтнага чалавека, светапоглядная пазіцыя якога не ўкладвалася ў рамкі тагачасных ідэалагічных патрабаванняў. Ёсць і спроба аўтараў разгадаць таямніцу чалавечай душы, разабрацца ў псіхалагічных матывах супярэчлівых паводзін, невысакародных учынкаў таго ці іншага пісьменніка, вучонага, асабліва ва ўмовах праследу, арышту, ва ўмовах лагернага існавання. У якасці прыкладу спашлёмся на біяграфію М. В. Доўнар-Запольскага, «усё жыццё якому здраджвалі. Любімыя вучні, калегі, зямля, дзеля якой ён апантана працаваў, спрабуючы ўзнавіць яе гісторыю, стварыць нацыянальны міф, прыгожы і трагічны. Але мала каму і былі так аддадзены, мала каго так любілі, як гэтага чалавека» (с. 35). Пакутліва ўспрыняў прафесар паклёп, узведзены на яго былым вучнем Е. Д. Сташэўскім, якому ён дапамог атрымаць пасаду, абараніць дысертацыю. Каб адвесці ад сябе віну за кражу дакументаў, Сташэўскі яшчэ і абвінавацiў настаўніка ў супрацоўніцтве з царскай паліцыяй. А ішоў тады 1917 год, і вучонаму пагражаў расстрэл. Неўзабаве Доўнар-Запольскага апраўдалі, але глыбокая рана засталася ў сэрцы да канца жыцця. Ды і з Кіева давялося з’ехаць.

Шмат радасных хвілін перажыў вучоны, атрымаўшы запрашэнне працаваць у Беларускім універсітэце. Але хутка зразумеў, што яго навуковыя ідэі не ўкладваюцца ў ідэалагічныя ўстаноўкі новай улады. Паводле ж канцэпцыі прафесара, ВКЛ — гэта беларуская дзяржава, а беларусы — «асобны народ са сваёй гісторыяй і менталітэтам» (с. 39). Спасылаючыся на дакументальныя звесткі, аўтары нарыса абгрунтоўваюць пераезд Доўнар-Запольскага з сям’ёй у Маскву неафіцыйнай «кампаніяй», скіраванай на тое, каб «выжыць славутага вучонага з Беларусі» (с. 40).

Адбылося гэта ў 1926 годзе. Але і ў Маскве Доўнар-Запольскага чакалі новыя выпрабаванні: арыштаваны ў 1930 годзе яшчэ адзін яго вучань А. Аглоблін, у мэтах уласнага паратунку публічна выкрывае дзейнасць прафесара-нацыяналіста і заганы яго навуковай метадалогіі, нібыта не сумяшчальнай з рэвалюцыйна-марксісцка-ленінскім вучэннем. «Пасля знаёмства з артыкулам Аглобліна Доўнар-Запольскі памірае» (с. 41).

І яшчэ адзін выдатны вучоны, аўтар «сусветна вядомых прац па этнаграфіі, фальклору, лінгвістыцы» (с. 44) Я. Ф. Карскі на ўласным вопыце адчуў, як ставіцца рэвалюцыйная ўлада да «осколков царского режима», нягледзячы на іх вялікія навуковыя заслугі і гатоўнасць сумленна працаваць у новых умовах. Але дастаткова было вучонаму ў 1926 годзе наведаць шэраг заходнееўрапейскіх краін, каб

у яго справаздачы па выніках навуковай камандзіроўкі нястомныя змагары за ідэалагічную чысціню ўхітрыліся знайсці антысавецкія погляды, станоўчую ацэнку рэжыму Пілсудскага, асабліва ў дачыненні да ўсходніх беларусаў, а таксама крытыку савецкай улады ў працэсе правядзення беларусізацыі. Завяршаецца нарыс пра «шавініста, чарнасоценца, транжыра дзяржаўных сродкаў» (с. 44) сумнай правідчай высновай: «І калі б у 1931 годзе Карскі, якому было ўжо 70 гадоў, не памёр, а пражыў бы яшчэ гадоў шэсць, можна здагадвацца з вялікай доляй верагоднасці, якім быў бы яго далейшы лёс» (с. 48).

А што згаданае сцвярджэнне і насамрэч аказалася правідчым, пераконвае трагічны лёс І. І. Замоціна, прафесара Варшаўскага, затым Данскога і, нарэшце, Беларускага універсітэта. Выдатны даследчык рускай літаратуры і твораў беларускіх пісьменнікаў, заснавальнік беларускай тэксталагічнай школы быў арыштаваны ў 1934 годзе. У час жорсткіх допытаў прафесар вымушаны быў пайсці на самаагавор і даць паказанне аб сваёй прыналежнасці да неіснуючай «Расійскай нацыянальнай партыі». Замоціна вызваляюць з-пад следства, але арыштоўваюць яго калег, у ліку якіх аказаўся і прафесар А. Вазнясенскі. Апошні сцвярджаў, што ён стаў ахвярай агавору з боку Замоціна, але пазней, ужо ў 1956 годзе, прызнаўся, што пад прымусам сам паўтарыў аналагічны ўчынак у дачыненні да Івана Іванавіча.

Чарговы, на гэты раз «канчатковы», арышт Замоціна адбыўся ў 1938 годзе. «Асобая нарада» НКУС асудзіла «ўдзельніка контррэвалюцыйнай нацыяналістычна-шпіёнскай арганізацыі, якая існавала ў Акадэміі навук», на восем гадоў зняволення ў лагерных умовах. Хадайніцтвы жонкі вучонага і народнага паэта Я. Коласа аб пераглядзе справы і вызваленні невінаватага чалавека не мелі станоўчага выніку. Афіцыйна лічыцца, што І. Замоцін памёр 25 мая 1942 года ў лагернай бальніцы ад сардэчнага прыступу, але сапраўдныя абставіны смерці невядомыя, як не знойдзена і магіла вучонага.

Колькі, аднак, горкай іроніі і абсурду ўтрымліваюць фармулёўкі абвінавачванняў, паводле якіх акадэмік І. І. Замоцін быў вялікадзяржаўным шавіністам, «манархістам, які праводзіў імперыялістычную палітыку царскага ўрада» і адначасна — «праваднiком буржуазных нацдэмаўскіх трацкісцка-раппаўскіх установак у літаратуразнаўстве». А звыш таго яшчэ і «польскім шпіёнам».

Абмежаваныя памеры артыкула, на жаль, не даюць магчымасці нават у такой вось сціслай форме данесці да чытача глыбокую змястоўнасць кнігі, навізну ўключаных у яе архіўных матэрыялаў і складанасць умоў і абставін, у якіх жыла і працавала беларуская навуковая, творчая, мастацкая інтэлегенцыя ў 30—50-я гады. Вельмі ж пакручастым, непрадказальным быў лёс многіх яе прадстаўнікоў. Справядлівасць сказанага яскрава пацверджана старонкамі жыццёвай і творчай біяграфіі Андрэя Александровіча (1906—1963), галоўнай дзейнай асобы нарыса «Бура і пена». Імя бясспрэчна таленавітага і вельмі папулярнага ў 20—30-я гады Александровіча сёння рэдка калі згадваецца. Нават 100-годдзе з дня яго народзінаў прайшло незаўважаным. Што ж, час унёс свае карэктывы, расставіў акцэнты ў сістэме эстэтычнай вартасці напісанага і надрукаванага. Можа, крышку інакш ацэньваліся б вершаваныя творы паэта, калі б іх аўтар ішоў па шляху паглыблення гуманістычнага пафасу, умацоўваючы ідэю абароны чалавека. Але вось у 1928 годзе ў часопісе «Полымя» з'явіліся пачатковыя раздзелы яго паэмы «Цені на сонцы», у якой выкрываюцца беларускія буржуазныя нацдэмы, учарашнія спецы, прыстасаванцы, замаскіраваныя ворагі, контррэвалюцыянеры. Натуральна, што рыфмаваны заклік да ўзмацнення рэпрэсій супраць старой інтэлігенцыі, да пошуку схаваных шкоднікаў спарадзіў пратэст з боку літаратурнай грамадскасці. Аўтара называлі шантажыстам, хуліганам, нават бандытам. «Нацыяналісты, — заяўляў Александровіч, — з драпежніцкай злосцю накінуліся на мяне, пісалі пратэсты, патрабавалі «изъять» нумар часопіса з паэмай» (с. 60). Але па ініцыятыве пісьменнікаў-аднадумцаў Александровіча паэма ў заверша-

ным выглядзе з'явілася ў друку і потым шмат разоў перавыдавалася. І нават была ўключана ў школьныя падручнікі.

Узнікае пытанне: у якой ступені усведамляў паэт маштаб той небяспекі, якая чакала многіх сумленных людзей і якую актыўна набліжаў яго твор, а фактычна вершаваны данос? Напэўна, не заўсёды ўсведамлялі «нястрымныя рупліўцы» тое, што яны рабілі. «Сёння мы спрабуем зразумець, — слушна гавораць Л. Рублеўская і В. Скалабан, — хто меў рацыю, хто вінаваты, хто ахвяра… У змрочныя часы разлічыць іх часам і няпроста» (с. 65). І сапраўды, кім быў А. Александровіч, калі 25 сакавіка 1937 года на партыйным сходзе пісьменнікаў заяўляў: «Жылуновіч — Цішка Гартны — закончаны, закляты вораг беларускага народа». А на сходзе, што адбыўся літаральна праз два месяцы, Аркадзь Куляшоў гаварыў пра двурушніцтва і антыпартыйную дзейнасць… Александровіча, які, аказваецца, «да апошняга часу патураў дзейнасці нацдэмаў» (с. 65). Вось і разбярыся тут, хто кім быў — «хто кат, даносчык, хто ахвяра»! Як вынікае з аўтарскіх тлумачэнняў у кнізе, паводзіны пісьменнікаў, іх паспешлівыя абвінавачванні адзін другога ў варожай, антысавецкай дзейнасці, іншых смяротных грахах тлумачыліся атмасферай татальнага страху, дэзарыентаванасцю.

Згубнае ўздзеянне падобнай атмасферы давялося адчуць на сабе і славутым песнярам — Якубу Коласу і Янку Купалу. Пра народных паэтаў, як вядома, напісана багата кніг — даследчых прац, успамінаў. У навуковым ужытку ёсць «Летапісы» іх жыцця і творчасці, зборнікі дакументальных матэрыялаў. Тым не менш, Л. Рублеўская і В. Скалабан, да іх гонару, зрабілі свой важкі ўнёсак у беларускую коласа- і купаланіяну. «Чым больш мы ведаем падрабязнасцей пра сапраўднага паэта, — зазначаюць аўтары, — тым болей жывым і значным паўстае ён у нашых вачах. Нават калі «заботы суетного света» камусьці здаюцца ценем, які ганьбіць класіка» (с. 78). Не, не было ў справах, учынках, турботах нашых вялікіх песняроў таго, што б прыніжала, ганьбіла іх. І ў доказ няслушнасці меркаванняў скептыкаў разглядаецца мала вывучаны аспект пісьменніцкай біяграфіі Я. Коласа — пясняр і «яго святы», юбілейныя ўрачыстасці, якія праводзіліся пад строгім кантролем афіцыйных органаў.

Фармат мерапрыемства, узровень святкавання юбілею вызначаўся, аказваецца, канкрэтнай грамадска-палітычнай сітуацыяй у рэспубліцы і ступенню адпаведнасці палітычнай пазіцыі Коласа ідэалагічным устаноўкам часу. А пазіцыю гэту фармулявала афіцыйная крытыка, ад якой цяжка было чакаць аб'ектыўнага падыходу. Якраз найчасцей ідэйна-мастацкі ўзровень твораў Коласа, іх грамадская каштоўнасць, выхаваўчае значэнне ацэньваліся, зыходзячы з вульгарна-дагматычных, прымітыўных уяўленняў. Напрыклад, калі настаў час ушанаваць пісьменніка з 20-годдзем яго творчай дзейнасці, узніклі сур'ёзныя перашкоды: Канстанціну Міхайлавічу прыгадалі «лістападаўшчыну» — дзейнасць антысавецкай арганізацыі на Случчыне пад кіраўніцтвам Юркі Лістапада, хоць Колас не меў да гэтых падзей непасрэднага дачынення, калі не лічыць таго, што ў 1923 годзе ён чытаў у Слуцку лекцыі на настаўніцкіх курсах. Але ў адпаведных органаў з'явілася спакуса аб'явіць паэта «духоўным настаўнікам» гэтай арганізацыі. Каб Канстанцін Міхайлавіч даў патрэбныя следству паказанні, яго выклікалі на допыт у ГПУ, на кватэры быў праведзены вобыск. Аперацыя па запалохванні Коласа належных вынікаў не прынесла, аднак яна мела свае наступствы: на закрытым пасяджэнні Бюро ЦК КП(б)Б ад 15 кастрычніка было вырашана: па-першае, юбілей правесці як літаратурную падзею, не надаючы яму грамадска-палітычнага характару; па-другое, аб'явіць Коласа народным паэтам, а ў публічных выступленнях прадпісвалася ставіць акцэнт на тым, што Колас прызнае дыктатуру пралетарыяту; па-трэцяе, на яго былі ўскладзены «пэўныя палітычныя абавязацельствы». Інакш кажучы, прадугледжвалася, што пісьменнік павінен вярнуць дадзены яму крэдыт палітычнага даверу, «адпрацаваць» партыйную паслугу.

Затое 30-годдзе дзейнасці Я. Коласа вылілася ў «масава-палітычнае мерапрыемства партыі і ўрада» з прыцягненнем шырокіх мас рабочых, калгаснікаў,

студэнтаў, вучняў і «ўсёй грамадскасці БССР» (с. 73). Быў зняты дакументальны фільм, запісваліся радыёперадачы, ствараліся пісьменніцкія брыгады лектараў і выязджалі ў раёны. Колас у падарунак атрымаў легкавую машыну, было вынесена рашэнне аб будаўніцтве дачы.

Пра тое, што «заботы суетного света» былі не чужыя і Янку Купалу, сведчыць нарыс «Курган и «Шевроле». Тут прыведзены тэкст уласнаручнага звароту паэта ад 25 верасня 1921 года ў Саўнаркам з просьбаю не падсяляць без дазволу СНК нікога на тую плошчу, якую ён займаў у памяшканні па Захар'еўскай вуліцы, № 135, кв. 1. Яшчэ адзін дакумент датуецца 4 мая 1921 года і ўзнаўляе побытавыя ўмовы жыцця «супрацоўніка Акадэмічнага Цэнтра Івана Луцэвіча»: у ім выкладзена просьба не адмовіць прасіцелю ў выдачы дзвюх соцень цэглы і двух вазоў гліны ў мэтах рамонту печы ў яго доме. Натуральна, што і ў паэтавай кватэры печ заўсёды павінна быць спраўнай, а руплівы гаспадар абавязаны пра гэта паклапаціцца яшчэ задоўга да наступлення зімовых халадоў. Усцешна, што гаспадарчае ведамства аператыўна адгукнулася на просьбу Купалы.

На жаль, у іншага ведамства — цэнзурнага — падобнага ўзаемапаразумення з паэтам не было: гэта бачна з пастановы Галоўліта сярэдзіны 20-х гадоў, па рэкамендацыі якога аўтар «Жалейкі» мусіў уносіць сэнсавыя змены ў тэкст свайго зборніка. Так, напрыклад, у вершы «Песня а песнях» неабходна змяніць выраз «божы дар», а ў вершы «Над сваёй Айчызнай» «рэдакцыі або выдавецтву даць сваё тлумачэнне, што свет не створаны богам» (с. 81).

Бачна, што барацьба з рэлігійным светапоглядам у сярэдзіне 20-х гадоў узмацнялася, махавік антырэлігійнай прапаганды набіраў абароты. І, натуральна, што менавіта творы класіка нацыянальнай літаратуры ў першую чаргу аказваліся аб'ектам пільнай цэнзарскай увагі і рашучай крытыкі.

Роля Уладзіславы Францаўны ў высакароднай справе захавання несмяротнай спадчыны Янкі Купалы — тэма не новая. Але сюжэт, прысвечаны лёсу Купалавых рукапісаў, дапаўняе, узбагачае ўжо вядомае. З прыведзенага бачна, што працэс пошукаў і вяртання ў Беларусь каштоўных матэрыялаў быў даволі складаным. На гэтым шляху ўзнікалі нечаканыя цяжкасці, перашкоды, праявы бюракратычнай валакіты. «Так — калі бюракратыя і памрэ разам з апошняй паперкай, дык, напэўна, тут жа ўваскрэсне на аснове новых тэхналогій дакументаносьбітаў» (с. 91). Гэтае дасціпнае выказванне перасцерагае нас ад наіўных уяўленняў, нібыта ўсе цяжкасці падобных пошукаў ужо ў мінулым. Слушная перасцярога адначасова ўспрымаецца і як заклік не спыняць пошукі новых звестак пра вялікага сына беларускага народа, бо нават самы, здавалася б, дробны факт з яго біяграфіі мае вялікую навуковую каштоўнасць.

Ёсць у кнізе матэрыялы, якія, на першы погляд, не вызначаюцца асаблівай навізной, а ў чымсьці нават падобныя да ранейшых нарысаў. Але калі мы пры больш уважлівым падыходзе выявім схаваную сувязь паміж зместам гэтых матэрыялаў і часам іх з'яўлення, дык пераканаемся ў паспешлівасці сваіх першапачатковых меркаванняў і ацэнак. У пацвярджэнне сказанага прывядзём падрыхтаваную ў 1940 годзе невядомым аўтарам для афіцыйных інстанцый справаздачу пад красамоўнай назвай «Аб ценявых баках нашай літаратуры», дзе негатыўна ацэньваецца дзейнасць пісьменнікаў, ацалелых пасля 1937—1938 гадоў, у тым ліку — Я. Купалы, З. Бядулі, К. Чорнага, Р. Мурашкі, М. Ільінскага, А. Астрэйкі. Адных — Купалу, Бядулю — аўтар справаздачы крытыкуе за творчую пасіўнасць, за адарванасць ад падзей рэальнага жыцця. Другім ён прад'яўляе сур'ёзныя прэтэнзіі, абвінавачваючы іх у скажэнні савецкай рэчаіснасці. Так, у рамане Р. Мурашкі «Салаўі святога Палікара» крытык знайшоў змрочную абмалёўку калгаснай явы. «Бездапаможныя ў мастацкіх адносінах» творы М. Ільінскага, аказваецца, прасякнуты мяшчанскай ідэалогіяй: там «фігуруюць жулікі, прайдзісветы або прапахлыя нафталінам мяшчане. Ва ўсёй яго (М. Ільінскага. — **М.М.**) пісаніне не знайшлося ні каплі сапраўднай цеплыні на адрас сацыялістычнай рэчаіснасці і нашых цудоўных людзей» (с. 97).

Прыведзеныя ў кнізе матэрыялы «справаздачы», іх стыль, манеру выкладу павінны зацікавіць даследчыкаў паводле многіх прычын. Мяркуйце самі. Пасля татальнай «зачысткі» літаратурна-творчай прасторы, здавалася, наступіла адносная зацішша, пэўная стабілізацыя грамадска-культурнага жыцця. Менавіта такі погляд на літаратурны працэс пачатку 40-х гадоў трывала замацаваўся ў айчынных даследчых працах. У сапраўднасці ж гэты погляд не пацвярджаецца фактамі. Наадварот, з пададзеных вышэй матэрыялаў бачна, што спакваля рыхтаваўся новы наступ на тых, хто праз шчаслівы збег акалічнасцей не трапіў пад махавік рэпрэсіўнай машыны. Здзіўляе і тое, што новым выкрывальнікам учарашнія горкія ўрокі не пайшлі на карысць: яны па-ранейшаму карысталіся прыёмамі аглабельнай крытыкі. Разбірацца ў сапраўдных прычынах «недахопаў», якія мелі месца, напрыклад, у рамане Мурашкі, ці ў творах іншых пісьменнікаў, вульгарызатары не збіраліся. Ім дастаткова было зафіксаваць недахопы («змрочна адлюстроўваецца калгаснае жыццё», с. 97).

Не абмінуць увагай даследчыкі і выяўлены ў фондах Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь рукапіс артыкула выкладчыка Рагачоўскага педагагічнага (настаўніцкага) інстытута Я. І. Міхалапава пад назвай «Пашляк і фальсіфікатар». У артыкуле ідзе гаворка пра дзейнасць сумна вядомага крытыка-вульгарызатара Л. Бэндэ. Ён атэстуецца тут як «авербахаўскі дзяншчык», «знаглелы трацкіст», аўтар бяздарнай пісаніны. Ёсць у Міхалапава і артыкул пра А. Кучара. Паўстае пытанне: ці правінцыйны крытык быў недастаткова дасведчаны ў тагачаснай іерархіі, калі аб'ектам рашучага выкрыцця абраў такіх уплывовых персон, якімі з'яўляліся ў 30-я гады Бэндэ і Кучар? А можа ў той час грамадскі аўтарытэт згаданых «аглабельшчыкаў» быў падарваны ўжо? І толькі хуткая змена сітуацыі, звязаная з пачаткам вайны, дапамагла абодвум героям зноў аказацца ў ліку запатрабаваных, незаменных? У кожным разе матэрыял пра выступленні Я. Міхалапава ўносяць новыя штрыхі ў малюнак літаратурна-творчага жыцця пачатку 40-х гадоў і патрабуюць далейшых пошукаў і вывучэння.

Нарысы, звязаныя з імёнамі П. Броўкі, М. Танка, І. Мележа, яшчэ больш пашырылі чытацкую аўдыторыю кнігі, паколькі творчасць гэтых мастакоў слова асацыіруецца з не такім ужо і далёкім перыядам развіцця беларускай літаратуры. І тут чытач знойдзе багата новых звестак пра згаданых пісьменнікаў, пра іх узаемаадносіны з літаратурным асяроддзем, з прадстаўнікамі ўлады. А на кожным этапе грамадска-палітычнага жыцця гэтыя стасункі, як ужо вышэй адзначалася, мелі свае адрозненні. Адпаведна і амплітуда творчага, службовага ўзлёту пісьменніка і страта ім ранейшай вышыні набывала даволі нечаканую канфігурацыю. Адным пасля цяжкіх выпрабаванняў і ўдараў лёсу ўдавалася дасягнуць ранейшага ўзроўню, другім шанцавала менш. Нарыс «Паэт і бронза» зусім правамерна мае падзагаловак — «Невядомы Броўка». Сапраўды, прыведзеныя аўтарамі дакументальныя звесткі паказваюць, што пра ўладальніка шматлікіх ганаровых званняў, гучных тытулаў мы яшчэ мала ведаем, каб аб'ектыўна ацаніць яго месца і ролю ў справе развіцця беларускай нацыянальнай культуры. Так, у 30-я гады П. Броўка — «сын паліцэйскага», «прыдворны паэт Янкі Купалы», адзін з ініцыятараў і падпісантаў "класава-варожага «Ліста 15-і»". У 40—60-я гады Броўка — народны паэт, буйны грамадскі дзеяч. Але на з'ездзе СПБ 1966 года пры галасаванні ў члены праўлення паэт атрымаў аж 86 «чорных шароў», якія сведчылі пра крытычнае стаўленне да яго дзейнасці як кіраўніка з боку пісьменніцкай арганізацыі. А між тым за гады, калі Пётр Усцінавіч узначальваў пісьменніцкі саюз, ён многае зрабіў для ўшанавання памяці класікаў, удзельнічаў у арганізацыі музеяў, ва ўмацаванні сувязей з іншымі літаратурамі свету. Асабліва вялікая заслуга П. Броўкі ў стварэнні Беларускай энцыклапедыі. Вось як ацэньваюць гэты бок яго дзейнасці аўтары кнігі: «Выданне 12-томнай энцыклапедыі было завершана ў 1975 годзе, да 70-годдзя Петруся Броўкі. Гэта быў лепшы падарунак яму… І, напэўна, лепшы помнік. Болей значны, чым тамы, напоўненыя афіцыёзнымі вершамі пра Леніна і партыю,

з асобнымі па-мастацку добрымі лірычнымі вершамі, якія застануцца ў хрэстаматыях. Бо, як аргументаваў сам Броўка, паводле вызначэння ЮНЕСКА, менавіта наяўнасць энцыклапедыі дае магчымасць нацыі лічыцца нацыяй» (с. 123).

Даследчыкі творчасці М. Танка з цікавасцю прачытаюць фрагменты захаванага супрацоўнікамі Нацыянальнага архіва Беларусі сцэнарыя мастацкага фільма «Бура над Нараччу», у аснову якога пакладзена паэма «Нарач» (1937). Аўтары нарыса пагаджаюцца з меркаваннем, што сёння гэты сцэнарый можа быць успрыняты як наіўны, устарэлы. Аднак пасля знаходкі «творчая спадчына класіка стала больш поўнай» (с. 127). Істотна ўдакладнена і гісторыя напісання верша «З тваім імем у сэрцы. Таварышу Сталіну». Аказалася, што Максім Танк — не адзінаасобны аўтар такога «глабальнага паэтычна-ідэалагічнага опуса» (с. 128). У напісанні твора прымалі ўдзел яшчэ Н. Арсеньева, М. Машара і М. Клімковіч, які, відаць, ажыццяўляў ідэалагічнае кіраўніцтва.

Грамадска-псіхалагічная атмасфера часу ў сярэдзіне 50-х гадоў выразна данесена нарысам «Парыж — горад трушчобаў. Падарожжа Івана Мележа з наступствамі». Прыхільнікі таленту выдатнага раманіста пераканаюцца ў тым, што падарожжа вакол Еўропы многае дало назіральнаму мастаку як творчай асобе, узбагаціла яго ўяўленні аб жыцці ў буржуазных краінах. А па вяртанні старшаму турыстычнай групы давялося трымаць справаздачу перад партыйнымі органамі — дакладваць пра парушэнні дысцыпліны, пра тых турыстаў, хто сваімі паводзінамі — свядома ці ненаўмысна — «ганьбіў званне савецкага чалавека». Чытаючы радкі справаздачы, разумееш пакутлівы душэўны стан сумленнага пісьменніка, які разрываўся паміж жаданнем сказаць праўду пра асабіста ўбачанае, перажытае і неабходнасцю выкласці на паперы тое, што патрабавала афіцыйная ўлада.

«З гісторыі кінахронікі часоў сацрэалізму» — гэта падзагаловак артыкула пад кідкай назвай «Крыштальныя бакалы рэжысёра Вейняровіча». Дадзены сюжэт, безумоўна, пашырае тэматычныя абсягі кнігі, у той жа час істотна паглыбляючы яе стрыжнёвую, галоўную ідэю. І тут чытач атрымлівае яшчэ адну магчымасць пераканацца ў тым, што і дзеячам кіно, як і паэтам, празаікам, таксама даводзілася «балансаваць на грані дазволенай і недазволенай праўды… І не заўсёды ўдавалася гэтую грань не пераступіць» (с. 139). Калі ж пераступалі, вынікі былі несуцяшальныя. Пра адну з такіх драматычных гісторый і распавядае нарыс. У сакрэтным дакладзе міністра кінематаграфіі М. Ф. Садковіча, адрасаваным сакратару ЦК КП(б) Беларусі Ц. С. Гарбунову, адзначалася, што аператар кінастудыі «Беларусьфільм» І. Вейняровіч у час здымак дапускаў грубыя, фальшывыя інсцэніроўкі, выдаючы іх за рэальнае адлюстраванне. Даклад быў накіраваны 17 студзеня 1951 года, а неўзабаве з’яўляецца праект пастановы ЦК КП(б)Б «Аб фактах фальсіфікацыі і скажэнняў у кіначасопісах студыі «Беларусьфільм» з прапановай звольніць з сістэмы Міністэрства кінематаграфіі БССР аператара І. Вейняровіча, рэжысёраў І. Шульмана і В. Стральцова. Сама ж пастанова ад 1 лютага, падпісаная першым сакратаром ЦК КП(б) Беларусі М. Патолічавым, аказалася яшчэ больш жорсткай у параўнанні з пачатковым праектам: тут прадпісвалася Вейняровіча і Стральцова ад работы адхіліць і прыцягнуць іх да судовай адказнасці «за правакацыйныя дзеянні», а таксама разгледзець пытанне адносна партыйнасці Вейняровіча. Членаў здымачнай групы абвінавачвалі, з аднаго боку, у падфарбоўцы рэчаіснасці, а з другога — у ачарненні калгаснага жыцця. І, такім чынам, рэжысёры і аператар выявілі палітычную неадукаванасць, сваёй дзейнасцю яны дыскрэдытавалі ролю савецкага кіно як важнейшага сродку выхавання працоўных мас.

А між тым аператар Вейняровіч — вопытны работнік, у час вайны ён здымаў і на лініі фронту, і ў партызанскім атрадзе. Лаўрэат Сталінскай прэміі 1943 года. Пасля звальнення са студыі, Вейняровічу давялося займацца справай, далёкай ад яго прафесіі. Тым не менш падзеі 5 сакавіка 1953 года ўнеслі свае карэктывы ў лёс вядомага аператара, які вярнуўся на «Беларусьфільм» і паспяхова там працаваў працяглы час.

Драматычны твор Людмілы Рублеўскай і Віталя Скалабана «Людвіка і Фабіян» па праву ўключаны ў кнігу, бо гэта — п'еса-дакумент, пабудаваная, як і іншыя нарысы, на новых архіўных матэрыялах, на каштоўных дакументах. Да гэтых дакументаў яшчэ не раз будуць звяртацца ўдзячныя даследчыкі грамадскай гісторыі, гісторыі літаратуры, навукова-крытычнай думкі, мастацтва, культуры. Таксама і тыя спецыялісты, хто вывучае жыццёвы і творчы шлях беларускіх майстроў слова, якім прысвечаны асобныя нарысы.

Увогуле трэба сказаць, што кніга багатая на аўтарскія разважанні пра літаратуру, пра спецыфіку вобразнага адлюстравання, псіхалогію творчасці, пра адметнасць светаўспрымання творчых асоб… Багата і супастаўленняў пісьменніцкіх лёсаў у розных краінах, у розных гістарычных абставінах. Асабістая пазіцыя Л. Рублеўскай і В. Скалабана, іх эстэтычны густ, маральна-этычныя крытэрыі ацэнкі дзейных асоб выяўлены тут яскрава і паслядоўна. У гэтым пераканаецца кожны, хто знойдзе час разгарнуць старонкі гэтай незвычайнай, цікавай і вельмі патрэбнай сучаснаму чытачу кнігі, выхад якой з'яўляецца значнай падзеяй літаратурна-грамадскага жыцця Беларусі.

Нельга абмінуць увагай і мастацкае афармленне кнігі, паспяхова ажыццёўленае таленавітай мастачкай Аленай Жданоўскай. Багацце, разнастайнасць ілюстрацый прыемна ўражвае. Тут — унікальныя фотаздымкі, рэдкія партрэты, сяброўскія шаржы, аўтографы вершаў, зваротаў, дакладных, фотакопіі рознага роду даведак, пратаколаў, пасведчанняў, фрагментаў стэнаграм і г. д. Я налічыў на старонках выдання звыш 120 адзінак ілюстрацыйнага матэрыялу, які арганічна звязаны са зместам нарысаў, ажыўляе яго, дапамагае чытацкаму ўспрыманню. За ўсім гэтым, вядома, стаіць вялізарная пошукавая праца работнікаў Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь і іншых дзяржаўных устаноў — музеяў, бібліятэк, сховішчаў, а таксама асабістых калекцый, пералічаных у прадмове «Да чытача».

Тое, што кніга «Время и бремя архивов и имён» выйшла ў серыі «Беларусь учора і сёння», а серыя заснавана ў 2009 годзе, і што выпуск выдання ажыццёўлены па заказе і пры фінансавай падтрымцы Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, дазваляе спадзявацца на аператыўны працяг, на хуткае папаўненне каштоўнай серыі.

Алесь КАЎРУС

# «І ПУРПУРОВЫХ ВЕТРАЗЕЙ УЗВІВЫ...»

***Нарматыўнасць і функцыянальна-стылістычная мэтазгоднасць слова***

Працытаваны Дубоўкаў радок (паводле яго названа паэма) даўно запаў у памяць. Не столькі зместам, колькі прыгожым, як я ўспрымаю, гучаннем. Вядома, тлумачыць мастацкі вобраз вельмі цяжка. Герой паэмы Лірык так разумее гэты паэтычны выраз: «І пурпуровых ветразей узвівы — // то дух тужлівы ўкрыжаваны мой, // тужлівы дух і жальба…»

І хоць яшчэ пры першым чытанні твора (больш як чатыры дзесяцігоддзі таму) было заўважана адхіленне ад сучаснага граматычнага правіла — канчатак *-ей* у назоўніку *ветразь* замест *-яў* (*ветразяў*), захопленасць радком не меншае: эстэтычная вартасць засланяе моўную хібу.

Словаформа *ветразей* — вынік уздзеяння колькіх чыннікаў. Падчас, калі пісаўся вершаваны твор (1929), назоўнік *ветразь*, напэўна, не належаў да актыўнай лексікі беларускай мовы. Тады не былі замацаваныя ў літаратурнай мове формы яго словазмянення, хоць узоры скланення падобных назоўнікаў падаваліся ў «Граматыцы беларускае мовы. Марфалогія» (1927) Язэпа Лёсіка.

У працэсе складання паэмы (пры выбары і спалучэнні слоў) побач з іншымі мастацкімі задачамі вырашалася і такая — дасягнуць мілагучнасці мовы. Увогуле гэтай праблеме У. Дубоўка надаваў шмат увагі ў практычным і тэарэтычным плане (лічаць, што ён прапанаваў да ўжытку беларускі тэрмін «мілагучнасць»). Пэўна ж, паэт мог напісаць: *І пурпуровых **ветразяў** узвівы…* Але радок у такім варыянце (прачытаем яго ўчуткі) быў бы менш дасканалы — узнікла б цяжкавымоўнае спалучэнне гукаў на стыку слоў.

Сёння для назоўнікаў мужчынскага роду з мяккай асновай граматыкі кадыфікуюць канчатак роднага склону множнага ліку *-яў*: *ансамбляў*, *боляў*, *стыляў*. У адпаведнасці з нормай ужываецца і назоўнік *ветразь*, як, напрыклад, у назве кнігі Л. Філімонавай «Пад шолах ветразяў» (1981) паводле аднайменнага апавядання.

На жаль, у спісе крыніц адной салíднай лінгвістычнай працы, выпушчанай выдавецтвам «Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі» (1993), згаданая кніга пададзена: «Пад шолах ветразей». Мажліва, гэта недагляд рэдактара ці карэктара, якія, не дапускаючы канчатка *-яў* для назоўнікаў жаночага роду трэцяга скланення (*асаблівасцяў*, *славутасцяў*), механічна прылучылі да іх і назоўнік мужчынскага роду другога скланення *ветразь*.

Такія хібы трапляюцца і ў мове СМІ: *Помнікі ды абеліскі салдатам і партызанам, танкі і самалёты **вызваліцелей**, якія ўсталяваны ў гарадах і вёсках, — гэта таксама знак нашай Памяці (*Культура. 9—15.05.2009). Канчатак *-ей* у падобных назоўніках у сучасных тэкстах трэба кваліфікаваць як граматычную памылку — у адрозненне ад словаформаў тыпу *ветразей*, ужытых на пачатку мінулага стагоддзя і не падлеглых выпраўленню, асабліва ў мастацкіх творах.

У беларускай літаратурнай мове многія назоўнікі жаночага роду на *-а*/*-я*/, аснова якіх канчаецца адным зычным гукам, могуць ужывацца ў родным склоне множнага ліку з канчаткам нулявым або *-аў*/*-яў*/: *раса* — *рос*, *росаў*, *адліга* — *адліг*, *адлігаў*, *гліна* — *глін*, *глінаў*. У вершы выбар варыянта склонавай формы абумоўліваецца рытмічнай арганізацыяй радка, будовай страфы.

Паэзія — гэта адвечная цяга
**Вяршынь** да нябёс,
А **траваў** і дрэваў —
Да сонца.
*(М. Танк)*

У адным выпадку паэту спатрэбілася скараціць радок (з дапамогай нулявога канчатка), у другім — падоўжыць (з дапамогай канчатка *-аў*/.

Пры іншай пабудове страфы магчлівая мена варыянтных канчаткаў назоўнікаў жаночага, а таксама ніякага роду: *вяршыняў да нябёс*; *траў і дрэў* і пад. Падкрэслім. Варыянтнасць канчаткаў гэтых назоўнікаў не адбіваецца на змесце-сэнсе сказа.

Аднак ёсць некаторыя назоўнікі жаночага роду, пры выбары канчатка якіх на першы план выступае семантычны фактар. Вось два ўжыванні назоўніка *страла*: ***Стрэл** у яго адрас было выпушчана дастаткова* (Звязда. 23.01.1992). *Дзве дзесяткі для **стрэлаў** Амура* (тамсама, 14.02.2004).

Як бачым, у другім сказе форма *стрэлаў* неадназначная, можа ўспрымацца як форма роднага склону назоўніка мужчынскага роду *стрэл*. Лепш было б ужыць назоўнік *страла* з нулявым канчаткам (*стрэл*).

Тут трэба зазначыць, што ў перыядычным друку апошнім часам увогуле шырока ўжываюцца падобныя назоўнікі з канчаткам *-аў*/*-яў*/: *шэраг праблемаў*, *службовых асобаў*, *адносна цэнаў* (Звязда. 16.09.2009). Мабыць, гэтая тэндэнцыя-хваля захапіла і назоўнік *страла*.

Не дапускае замены канчатак назоўніка ў загалоўку нататкі «Да новых прэм'ер!» Пры ўжыванні словаформы *прэм'ераў* узнікла б двухсэнсавасць (аманімічнасць).

Сэнсавы чыннік трэба ўлічваць таксама пры ўжыванні назоўнікаў мужчынскага роду з нулявым канчаткам. Загаловак допісу «Месца генацыду **цыган** увекавечыць…» (Народная воля. 20.01.2009) успрымаецца неадназначна. Паводле зместу нататкі тут павінна быць форма множнага ліку *цыганоў*.

Выбар канчатка назоўнікаў, найперш у пісьмова-літаратурнай мове, дыктуецца і патрабаваннем выяўнасці, чысціні гучання слоў і іх спалучэнняў. Памяркуем, ці дарэчы нулявы канчатак у назоўніку *секунда*: *Нехта з маладых хлопцаў пачаў лічыць, колькі **секунд доўжыцца** гэты першы пацалунак…* (з рукапісу В. Купрэенкі).

На стыку вылучаных назоўнікаў — збег зычных *ндд* (звонкіх), але ён больш мілагучны (хоць і не лёгкавымоўны), чым той, які мог узнікнуць, калі б назоўнік *секунда* быў ужыты з канчаткам *-аў*: *…колькі секун**даў доў**жыцца гэты першы пацалунак.* Прачытаем сказ з рамана В. Адамчыка «Голас крыві брата твайго»: *Імполь зажмурыўся, каб прывыкнуць да цемнаты, і ўчуў у ёй востры, як па камені, цюк жалеза, шоргат цяжкіх **крыг** і рыпуча-тугія, як па мокрым жвіры, крокі.* Дзеянне адбываецца на станцыйным складзе: ад глыбы скамянелай солі рабочыя адбіваюць кавалкі («крыгі») і цягнуць іх на пагрузку. Гукавы малюнак вельмі дакладны. Але для прамаўлення (чытання ўголас) болей прыдатная была б форма роднага склону назоўніка *крыга* з канчаткам *-аў*: *…шоргат цяжкіх* (магчлівы націск на галосным *і*) ***крыгаў** і рыпуча-тугія крокі.*

Значныя цяжкасці сустракаюцца пры ўжыванні назоўнікаў мужчынскага роду. Калі наконт адушаўлёных назоўнікаў існуе поўная яснасць (у родным склоне адзіночнага ліку яны маюць толькі канчатак *-а*/*-я*/: *вала*, *каня*), то пры ўжыванні назоўнікаў неадушаўлёных непазбежна паўстае праблема выбару: канчатак *-а* ці *-у*. У граматыках і слоўніках вызначаныя разрады назоўнікаў, якія ўжываюцца з тым або другім канчаткам. Праўда, бывае няпроста аднесці канкрэтны назоўнік да «сваёй» групы. Напрыклад, узнікае пытанне, чаму для запазычаных назоўнікаў, якія абазначаюць час, слоўнікамі даюцца розныя канчаткі: *перыяду*, *тэрміну*, *сезона*.

На жаль, назіраюцца адхіленні ад самых элементарных, зразумелых правілаў, у прыватнасці такога: «З канчаткам (*-у*/*-ю)* ужываюцца рэчыўныя назоўнікі: *металу*, *чыгуну*, *свінцу…*»

Некаторыя аўтары лічаць, што ў словазлучэннях з суб'ектна-азначальнымі адносінамі залежны кампанент — назоўнік, які абазначае метал, павінен ужывацца з канчаткам *-а* ў родным склоне адзіночнага ліку. Так, В. Ярац назваў свой верш «Палёт **свінца**» (ЛіМ. 21.03. 2008). Калі ісці за такой логікай, то трэба казаць і пісаць: *звон чыгуна, бляск метала, скрогат цынка*. Але ж зусім відавочна, што ў падобных залежных назоўніках — нарматыўны канчатак *-у*.

Мне ўжо даводзілася пісаць пра такую памылку ў вершы Т. Мельчанкі «Паляўнічы», а менавіта ў словазлучэнні *меткасць свінца*. Прапаноўваўся і шлях, як пазбегнуць моўнай хібы (Полымя. 1998. № 5).

І вось праз добрае дзесяцігоддзе паэт-філолаг В. Ярац (зямляк Т. Мельчанкі) паўтарае памылковае словаўжыванне, быццам замацоўвае ў літаратурнай мове новую «норму».

Такую «навуку» ад старэйшых пераймаюць маладыя аўтары.

Гэта ўсё ты —
фаўна-флора,
на манер беларускага **фальклора**
песні твае…

*(Я. Дашына. — ЛіМ. 21.03.2008)*

Тут трэба прытрымлівацца граматычнага правіла: *фаўна-флора — фальклору*. Зрушэнне рыфмы нязначнае, затое забяспечваецца правільнасць мовы. Увогуле ў вершах згаданае адхіленне ад літаратурнай нормы назіраецца нярэдка. Напрыклад, рыфма ў вершы вядомага паэта: *радасць* — (сок) *вінаграда*. Рыфма досыць прыблізная. То і правільная словаформа *вінаграду* яе не разбурыла б. А вось эстэтычнае ўздзеянне радка і ўсяе страфы пабольшала б. Гэта павінны мець на ўвазе як аўтары, так і рэдактары, карэктары.

Спынімся яшчэ на адной групе назоўнікаў мужчынскага роду — тых, што абазначаюць з'явы прыроды: *вецер*, *дождж*, *гром* і інш. Паводле граматык і слоўнікаў, такія назоўнікі ў родным склоне адзіночнага ліку характарызуюцца канчаткам *-у*: *энергія ветру*, *шум дажджу*, *грукат грому*. Аднак у мастацкай літаратуры, творах фальклору ёсць кантэксты, у якіх гэтыя назоўнікі ўжыты з канчаткам *-а*. Такія выпадкі ў граматыках для школ і ВНУ не разглядаюцца.

Калі назоўнік тыпу *гром*, *мароз* ужываецца як прозвішча або мянушка, то гэта адбіваецца на яго словазмяненні — на канчатку, на корані, на месцы націску. Напрыклад: 1) **Н**. мароз, маразы, **Р.** марозу, маразоў, **Д.** марозу, маразам і г. д. 2) **Н.** Мароз, Марозы, **Р.** Мароза, Марозаў, **Д.** Марозу, Марозам і г. д. А вось падобны назоўнік у сказе: *Як сталася, што пасля смерці **Ветра** яго кнігазбор, якім карысталіся многія быценьцы, быў пушчаны амаль на вецер?* (ЛіМ. 14.11.2003).

Болей складана растлумачыць, чаму агульныя назоўнікі *вецер*, *гром* і іншыя насуперак правілу часам ужываюцца з канчаткам роднага склону *-а*.

*У **дажджа** заледзянелі пальцы*, // *І ён стукае ў акно // Адагрэць іх у цёплай хаце* (Я. Крупенька). *Выпаў грук **у грома** з рук* (назва кнігі Р. Барадуліна). ***Ветра** і сонца брат* (загаловак нататкі. — Звязда. 18. 06. 1989). *У **небасхіла** зацякла спіна* (Р. Барадулін).

З'явы прыроды пры мастацкім паказе, дзякуючы «надзяленню» іх асобнымі рысамі жывых істот (рука, пальцы, спіна), набываюць падабенства з апошнімі. Таму і назоўнікі, што абазначаюць гэтыя з'явы, прадметы — ужо нібы адушаўлёныя і ў выніку здольныя прымаць канчатак *-а*.

Гэтую агульную падставу нетыповага ўжывання канчатка *-а* могуць дапоўніць некаторыя моманты.

Магчыма, форма *ў дажджа* выклікана і патрэбаю пазбегнуць двухсэнсавасці. Чытаючы першы радок у варыянце *У дажджу заледзянелі пальцы*, можна на імгненне (да чытання двух наступных радкоў) падумаць, што пальцы чалавека заледзянелі *ў дажджу* (месны склон), у дажджавой вадзе.

Сказ, які складаецца з кароткіх слоў — *Выпаў грук у грома з рук* — насычаны гукам [у]. Калі б яшчэ і назоўнік *гром* атрымаў канчатак -у, узнікла б суцэльнае [ў-у-у-у-у-у].

Слова *небасхіл* належыць да ліку назоўнікаў, напрыклад, *гарызонт*, *далягляд*, у якіх канчатак роднага склону няўстойлівы — лёгка замяняецца *-у* на *-а* (і наадварот). У свядомасці моўцаў і пісьмоўцаў гэта паўстае нават не як памылка, а як варыянт канчатка.

У літаратурнай мове, паўторымся, назоўнікі *гром*, *дождж*, *вецер* маюць у родным склоне канчатак *у*: *гул грому, завыванне ветру*, *стук дажджу*.

І ўсё ж канчатак *-у*, нягледзячы на тое, што ён нарматыўны, кадыфікаваны, у назоўніках — залежных кампанентах згаданых індывідуальных словазлучэнняў — успрымаецца нязвыкла. Як можна было заўважыць, гэтыя словазлучэнні рэдкія, аказіянальныя, і ў іх словаформа прымкнёнага назоўніка выраўноўваецца на пашыраныя, агульнаўжывальныя формы: *брат ветра* — як *брат Пятра*, *спіна ў небасхіла* — як *спіна ў вярблюда, у грома з рук* — як у *агранома з рук*.

Падагульнім. Улічваючы, што словазлучэнні тыпу *ў грома з рук* узніклі як кантэкстава змушаныя ў аўтарытэтных літаратурных крыніцах, можна разглядаць іх як дапушчальныя ў мастацкай мове, але перавагу варта аддаваць склонавай форме з канчаткам *-у,* які рэгламентуецца граматыкамі і слоўнікамі сучаснай беларускай літаратурнай мовы.

І ў наступным выпадку (выражэнне аб'ектных адносін) назоўнік *вецер* трэба ўжыць з канчаткам *-у* (а не *-а*, як у вершы): *Запытайся і ў ветра*, // *І ў аблокаў спытай*, // *Дзе ёсць край больш прыветны*, // *Чым палескі мой край!* (М. Кобец. — ЛіМ. 4. 12. 2009). Параўнаем фразеалагізм: *Шукай ветру ў полі.*

Спынімся яшчэ на некаторых назоўнікавых словазлучэннях, у якіх формай роднага склону выказваецца значэнне прыналежнасці.

Некалі трапіў на ўвагу пачатковы сказ з безназоўнага верша.

Бакеншчыка домік.
Флюгер. Мачты.
Бераг — мацярык каля вады.
Пакуль сэрца будзе чуць і бачыць,
ногі самі прывядуць сюды.

*(В. Ярац. — ЛіМ. 20. 08. 1993)*

Сказ *Бакеншчыка домік* адклаўся ў памяці як адхіленне ад літаратурнай нормы. Вядома, што значэнне прыналежнасці ў беларускай мове перадаецца прыметнікам і родным склонам назоўніка. Тады (згадаем прыведзеную страфу) хацелася чытаць так: *Бакеншчыкаў домік*. На гэта схіляў інверсійны парадак слоў як вынік вершаскладання: доўгае слова *бакеншчык* не клалася пасля слова *домік* у радок абранага (вымушанага) вершаванага памеру.

Нядаўна, калі знайшоў картку з цытаванымі радкамі, роздум над гэтым цікавым прыкладам атрымаў працяг.

У словазлучэнні *бакеншчыкаў домік* яскрава выражана атрыбутыўнае значэнне паводле прыналежнасці прадмета яго ўладальніку. У выразе ж *бакеншчыка домік* выказваецца прыкмета прадмета паводле прызначэння — 'дом для знаходжання і працы бакеншчыка'. Гэта пацвярджаюць і названыя прылады працы (флюгер, мачты). Параўнаем: «Рыбакова хата» Якуба Коласа (маецца на ўвазе хата канкрэтнага чалавека, рыбака), з аднаго боку, і «Дом рыбака», «Дом паляўнічага» (месца адпачынку рыбака, паляўнічага), — з другога. Значыць, пры выбары паэтам варыянта *Бакеншчыка домік* ролю адыграў крытэрый сэнсу.

Інверсійнае размяшчэнне залежнага назоўніка сустракаецца рэдка ў параўнанні з прамым парадкам кампанентаў: *домік бакеншчыка.* Яно абумоўлена галоўным чынам патрэбамі вершаскладання. Звычайнай, «празаічнай» мовай мы

не кажам: *брыгадзіра дом, Івана дом,* а *дом брыгадзіра, дом Івана* (радзей), *брыгадзіраў дом, Іванаў дом* (часцей).

Разгледзім прыклады з вершаў Максіма Танка.

Вандроўны бог мяне
Ў **Шагала дом** прывёў,
У свет яго блакітных
Летуценняў, сноў.
*(«Марк Шагал»)*

Прыйшлі майстры ў былы **Шэкспіра дом**,
Каб адрамантаваць вуглы старыя…
*(«Трэска з дома Шэкспіра»)*

Выдзеленыя словы размешчаны і спалучаны адметна, як на сённяшняе ўспрыманне — нават нязвыкла, асабліва ў першым сказе. Прыназоўнік *у* ад назоўніка аддзяляе не традыцыйнае дапасаванае азначэнне (скажам, *у* ***знакаміты*** *дом прывёў*), а выражанае родным склонам назоўніка: у ***Шагала*** *дом прывёў*. А таму дзеянне, выражанае дзеясловам *прывёў*, накіроўваючыся на аб’ект (*дом*), часткова закранае і назоўнік *Шагал*.

У другім вершы пазіцыя і сувязь вылучаных слоў больш арыентуе на іх граматычна-сэнсавую перспектыву — дапасаванае азначэнне *былы* сігналізуе, што далей, адразу ці пасля, будзе ісці назоўнік: *Прыйшлі майстры ў былы Шэкспіра дом*.

Абодва вершы напісаны ў канцы 1970-х. Але яшчэ нашмат раней, у 1952 годзе, інверсійны родны прыналежнасці ўжыты ў вершы Максіма Танка «Антон Нябаба».

А ўслед за ёю [смерцю] доўга чуўся
**Нябабы** пераможны **смех**.

Гэта асаблівасць стылю паэта, якая, аднак, не выходзіць за межы агульнамоўнай практыкі.

У цэлым жа ў беларускай літаратурнай мове, апрача роднага прыналежнага, шырока выкарыстоўваюцца прыналежныя прыметнікі, утвораныя ад назоўнікаў — уласных імёнаў. Згадаем хоць бы самыя ходкія словазлучэнні-назвы: *Купалаў дом*, *Коласаў музей*, *Брылёвы мініяцюры*, *Шэкспіравы санеты*, *Танкавы верлібры*, *Клышкаў* «*Буквар*».

Вось чаму вока адразу спыняецца на пададзеных вышэй прыкладах, вось чаму хочацца ўбачыць і прачытаць: *Вандроўны бог мяне* // ***Ў Шагалаў*** *дом прывёў* (бо звычайна перад паяснёным назоўнікам стаіць дапасаванае азначэнне, выражанае прыметнікам). Але ж аўтарская воля і права (на жаль і на шчасце) непарушныя!

Граматычныя варыянты накшталт разгледжаных можна аднесці з вялікай ступенню верагоднасці на рахунак саміх аўтараў. Аднак у літаратурных тэкстах сустракаецца нямала сапраўдных моўных парушэнняў, выкліканых умяшаннем рэдактараў і карэктараў, а таксама недапрацоўкамі тэкстолагаў.

Гартаючы і чытаючы 4-тамовы «Збор твораў» Максіма Танка, не раз звяртаў увагу на радок у паэме «Люцыян Таполя» (т. 2, 1966): ***З кожным цалям*** *усё гладзейшы камень.* І, вядома ж, узбягала на памяць, што ў агульнамоўным ужытку назоўнік *цаля* — жаночага роду.

Цяпер, калі выходзіць «Збор твораў у 13 тамах», захацелася паглядзець, як пададзена гэтае слова. Выявілася: таксама, як у вышэй працытаваным радку. Зноў — разважанні… Але не надоўга, бо здагадаўся звярнуцца да «Каментару»: выданне ж навуковае. Паводле каментарыяў, у першапублікацыі (Беларусь. 1946. № 9) радок мае рэдакцыю: ***З кожнай цаляй*** *усё гладчэйшы камень.* Так і ў «Выбраных творах» (1952). Але амаль адначасова, пачынаючы ад зборніка «Каб ведалі» (1946), паўстае варыянт *З кожным* ***цалям****…* І гэты, другі варыянт паўтараецца ва ўсіх наступных выданнях.

На падставе гэтых варыянтаў, непасрэдна паводле 6-тамовага выдання (т. 2, 1978) публікатары пакінулі ў 13-тамовым выданні словазлучэнне *З кожным* ***цалям****…*

Шкада, зрабілі яны гэта неабгрунтавана. Цяжка сказаць, чаму побач з нарматыўнай літаратурнай формай *з кожнай цаляй* у творы паэта з'явілася *з кожным цалям*. Не выключана ўмяшанне рэдактара і карэктара (мажлівы ўплыў сіноніма — назоўніка мужчынскага роду *дзюйм*). Але ўяўляецца больш рэальным, што праўку (*цаляй — цалям*) зрабіў сам аўтар, пакінуўшы праз недагляд літару *я* ў канчатку (замест патрэбнай *е*). Як вядома, Максім Танк добра ведаў польскую мову, карыстаўся ёю ў стасунках з польскімі калегамі, пры знаёмстве з польскай літаратурай. Таму пазнейшы паланізм *цаль* (назоўнік мужчынскага роду) мог неўпрыкмет замяніць у вершы даўні паланізм, які ў беларускай мове набыў форму жаночага роду *цаля*.

У тэкстолагаў былі дзве магчымасці пазбегнуць адхілення ад граматычнай нормы: 1) пакінуць першадрукаваны аўтарскі варыянт *цаляй*; 2) падаць назоўнік *цаль* у літаратурнай форме: *З кожным цалем*. Параўнаем: *баль — балем*, *пароль — паролем*, *шаль — шалем*.

А вось таксама варыянт канчатка творнага склону назоўніка, толькі не мужчынскага, а жаночага роду.

Я не першы на зямлі,
Не апошні ў цугу тым.
Сёння прашчуры прайшлі
Полем ранішнім маім.
Заўтра з імі рушу ў даль
Часаў **шыраю** зямной.

*(М. Мятліцкі. З кнігі «На беразе маім». — ЛіМ. 11.11.2005)*

Ужытае паэтам слова *шыраю* расцягнулася, падоўжылася, нібы тым самым «распрасторваючы» месца дзеяння, якое мае ажыццявіць лірычны герой — «рушыць у даль часаў».

Апрача мастацкай мэтазгоднасці гэтай формы, трэба адзначыць, што яна, хоць і не фіксуецца слоўнікамі і граматыкамі (там даецца *шыр'ю*), цалкам заканамерная і не ўспрымаецца як парушэнне нормы. І вось чаму. У беларускай мове ёсць аналагічныя назоўнікі жаночага роду трэцяга скланення, якія дапускаюць у творным склоне варыянтныя канчаткі: 1) *-у* (*ноччу*, *Пціччу*), 2) *-ай/-аю*, *-ой/-ою/*: *расставацца з* ***ночай*** (Я. Купала), *Вялікоднаю* ***ночай*** (Н. Мацяш), *перапраўляліся* ***начою***, *ноч за* ***ночай*** (М. Гарэцкі), *за* ***Пцічою*** (С. Грахоўскі). А назоўнік *моц* пададзены ў «Граматычным слоўніку назоўніка» (2008) толькі з канчаткам *-ай/-аю/*: *моцай*, *моцаю*. Згадалася і сваё рыфмаванне: *І стала нам найбольшай школай // Над* ***Свіслачаю*** *кніжня-гмах*.

Тут высноўваецца важная для працы з тэкстам, увогуле з мовай думка. Усведамленне таго, што мове ўласцівая варыянтнасць, веданне варыянтаў слова, формаў, сінтаксічных канструкцый засцерагае рэдактара і карэктара ад памылак. Сустрэўшы адметны варыянт, ён не паспяшаецца, добра не ўчытаўшыся, выпраўляць яго на болей вядомы і зразумелы яму — і тым самым пазбегне памылкі. Так павінна быць.

На практыцы ж нярэдка бывае інакш. Рэдактар, карэктар, замест таго каб належным чынам унікнуць у тэкст, зразумець яго зместава-праблемную сутнасць і моўную індывідуальна-аўтарскую адметнасць, прапануюць аўтару (ці робяць самі) паасобныя выпраўленні слоў, формаў, вырываючы іх з кантэксту: *пацверджанне — пацвярджэнне*, *мною — мной*, *дасканаліць — удасканальваць*, *скарыстоўваць — выкарыстоўваць*, *скончыць — закончыць*, *канчаючы — заканчваючы*, *фармаваць — фарміраваць*, *бліжай — бліжэй*, *наагул — наогул* ды інш.

Што да сінтаксісу, то, напрыклад, патрабуюць, каб сказ абавязкова быў двухсастаўны: *Заўважым наступнае* (у аўтара: *Заўважым*); каб выказальнае слова стаяла

ў творным склоне: *Гэтая форма пакідаецца аўтарам нявыпраўленая* (карэктар замяняе: *нявыпраўленай*). Але ж трэба ведаць, што творны склон не заўсёды падыходзіць (як, дарэчы, і назоўны): *У паветры было ціха*; *расліны* ***стаялі заварожанымі*** (Ц. Гартны. Сокі цаліны). — ***Будзь знаёмым***, *Лазар*, *з маім земляком*: *Рыгор Нязвычны* (тамсама). ***Здзіўленым*** *глядзеў Рыгору ў вочы Камар* (тамсама).

Спадзяюся, чытач без цяжкасці заменіць вылучаныя формы слоў (вядома ж, не ў творы Ц. Гартнага) у адпаведнасці з сучаснымі граматычнымі нормамі і зместам сказаў.

Для ілюстрацыі механічнай, бяздумнай замены граматычнага варыянта прывядзем страфу з верша Язэпа Пушчы «Лісты да сабакі» паводле дзвюх публікацый.

1. Язэп Пушча. Збор твораў у двух тамах. Т. 1, 1993. Верш надрукаваны паводле першапублікацыі («Узвышша». 1927, № 5).

І толькі я адзін, паэт бяздомны,
Над ім [лістом] **схілюся й** акраплю слязамі.
Тады **заброснеюць** душы затоны,
Калі ў **грудзёх** мой дух зусім мне займе.

2. Роднае слова. 2002. № 4.

І толькі я адзін паэт бяздомны
Над ім [лістом] **схіляюся і** акраплю слязьмі.
Тады **забросняюць** душы затоны,
Калі ў **грудзях** мой дух зусім мне займе.

Бадай, самае дзіўнае: як можна было не заўважыць рыфмы і, замяніўшы форму слова (*слязамі* — *слязьмі*), ліквідаваць яе?! А ці не парушаюць аўтарскую рэдакцыю іншыя выпраўленні-зыначанні (яны вылучаны). Можа, у часопісе верш друкаваўся з якога прамежкавага выдання? Але ж у той час ужо быў у бібліятэках «Збор твораў у двух тамах» Я. Пушчы. І, бясспрэчна, да яго трэба было звярнуцца.

Карыстальнікі вуснай і пісьмовай мовы маюць справу не толькі з традыцыйнай, усталяванай лексікай, але і з новымі, якія, бадай, штодня нараджаюцца, словамі. Вельмі важна (пажадана), каб у наватворы была празрыстая марфемная структура, каб не хавалася яго дэрывацыйная і сэнсавая сувязь з утваральнай базай.

Убачыў у «Звяздзе» (17. 10. 2009) рубрыку «Звяздарыначка». Так названа віктарына, прысвечаная гісторыі і культуры. З першага позірку стала ясна, што гэтае слова суадносіцца з назваю старэйшай беларускай газеты: надта ж празрысты, зрокава ўспрымальны корань *звязд-*, а паслякаранёвая частка ўтрымлівае намёк на *віктарыну*, *віктарыначку*. Наватвор прамовіўся з націскам на суфіксальным галосным *ы*.

Не скажу, што слова ад першага спаткання вельмі спадабалася (як гэта бывае з некаторымі наватворамі). Але яшчэ прачытаў раз, другі — і слова накіравалася ў мой лексікон. Праўда, калі паўзіраўся ў «Звяздарыначку», паўстала пытанне: ці адпавядае напісанне гэтага слова правілу перадачы якання? Можа, лепш *звездарыначка*?

Аднак ёсць аргументы на карысць ужытай у газеце формы слова. Як назва перыядычнага выдання слова «Звязда» запазычанае, яно не «разгалінавалася», мае два-тры вытворы: *звяздовец*, *звяздоўскі*… Нязменны, застылы корань *звязд-* (з галосным *я*) успрымаецца і засвойваецца як норма і ў новым назоўніку *звяздарыначка*.

Роднасных слоў з коранем *звезд-* (у якіх галоснаму *я* адпавядаў бы галосны *е*) у беларускай мове не знаходзім, калі не згадаць ужо даўняга ўжывання (на мяжы літаратурнай і дыялектнай мовы): *Колькі ў небе* ***звёзд***, // *Цяжка палічыць*… Але гэтае адхіленне ад лексічных нормаў адразу «выштурхоўваецца», выпраўляецца ў наступным куплеце песні: «*Гэта ты*, *мая* ***зорка*** *ясная*…», і яго можна ігнараваць як паўнаважкі аргумент дзеля доказу наяўнасці ў літаратурнай мове кораня *звезд-*.

Але, дапусцім, мы напісалі (дый вымавілі) *звездарыначка*. Прыкметна губляецца словаўтваральная і семантычная сувязь гэтага аказіяналізма з яго ўтваральнай базай «*Звязда*».

Трэба ўзяць пад увагу і тое, што, як адзіная ў сваім родзе, уласная назва мае пэўнае права на індывідуальнае лінгвістычнае афармленне, аблічча, што назіраецца найчасцей у рэкламе.

Вядома, калі б мажлівы быў варыянт слова з націскам на другім складзе тыпу звязда́рынка, то праблема правапісу адпала б. Але такая форма без пазнакі націску наўрад ці рэалізуецца ў мове: суфікс *-ынк-* звычайна прымае на сябе націск: *хмурынка*, *дажджынка*. А ў такім разе ў слове *звяздарынка* пачуецца пабочнае гучанне: […рынка ].

Мы разгледзелі цікавы выпадак, калі функцыянальна-стылістычная мэтазгоднасць моўнай адзінкі ўступае ў супярэчнасць з яе арфаграфічнай нарматыўнасцю.

Беручы пад увагу, што аказіяналізм «Звяздарыначка» ўзнік на старонках «Звязды» і, як ад зоркі, падсвечваецца коранем-асяродкам *звязд-* , а таксама тое, што ён ужываецца толькі ў гэтым выданні, можна лічыць ягоную форму правамернай і дапушчальнай.

Колькі гадоў таму пайшло ў літаратурны ўжытак паняцце «прымеркаваны да пэўнай даты». З'явіліся і адпаведныя словы. Здаецца, першым было *дацкі* — пераклад рускага *датский*.

Калі зрокава ўспрымаць графічны вобраз запісанага па-руску прыметніка *датский*, то яго суадноснасць з назоўнікам *дата* (побач з *Дания*) заўважаецца. А вось у беларускім напісанні і вымове прыметнік *дацкі* мне чамусьці (мо праз традыцыйнасць ужывання) бліжэй да няблізкай Даніі, чым да не так і рэдкіх у нашым жыцці датаў, якія адзначаюцца. І напэўна не мне аднаму. Пра гэта сведчаць заўвагі да прыметніка *дацкі* пры яго ўжыванні.

*Здаўна недалюбліваю юбілеі ды ўсялякія «дацкія»* (*ад слова «дата»*) *мерапрыемствы* (Дзеяслоў. 2003. № 1). *Рэцэнзуючы адзін з «дацкіх»* (*у сэнсе пастаўленых да важнай каляндарнай даты*) *спектакляў купалаўцаў, «ЛіМ» выказаўся аб ім як аб няўдачы тэатра* (У. Мехаў).

Такім чынам, моўная практыка мае патрэбу ў больш дакладным, недвухзначным прыметніку. І пошук яго ідзе.

*...На гэтым, знешне толькі паспяховым, жыццёвым і творчым шляху [Р. Гамзатава] былі ... і спады, няўдачы, часам — праходныя, «датныя» творы* (В. Рагойша. — ЛіМ. 14.11.2003).

Сустрэўся ў друку і прыметнік *датаўскі*. Параўнаўшы словы *дацкі*, *датны*, *датаўскі*, лёгка заўважыць перавагі двух апошніх: выразна праступае семантыка ўтваральнай асновы *(дат-а*) і больш зразумелае ўсё слова *(датаўскі*, *датны*).

Існуюць іншыя цяжкасці ўжывання прыметнікаў, у прыватнасці тое, што ў некаторых з іх вымаўленне разыходзіцца з напісаннем. Так, у адпаведнасці з арфаэпічнымі нормамі беларускай літаратурнай мовы (паводле Ф. Янкоўскага) вымаўляем: [латыскі], [парыскі], [праскі], а пішам: *латышскі*, *парыжскі*, *пражскі*. Натуральна, гэтая фанетычная заканамернасць павінна пашырацца і на прыметнікі *сожскі*, *волжскі*. Але пад уплывам арфаграфіі яна не заўсёды рэалізуецца. «Слоўнік беларускай мовы» (1987) пад рэдакцыяй М. Бірылы прадпісвае вымаўляць прыведзеныя словы набліжана да напісання: [прашскі], [волшскі], а не чаканае [праскі], [волскі]. Здзейсніцца асіміляцыі спалучэння зычных *жс* у прыметніку *сожскі* перашкаджае істотная змена лексічнага значэння слова [соскі].

Захаваць утваральную аснову *Сож* і тым самым дасягнуць выразнай будовы прыметніка дазволіла б выкарыстанне іншых суфіксаў, у прыватнасці *-аўск-*, *-эўск-* (патэнцыйна — *Сожаўскі*). Выяўлены асобныя роднасныя словы, якімі абгрунтоўваецца мажлівасць такога вытвора — з непрыхаваным коранем *сож-/-саж-/*: *Мой Гомель — ты казка* ***надсожаўскіх*** *сноў* (Т. Мельчанка). *...Далёкі Дролікаў сваяк з Крамянкі, з* ***засажэўскай*** *вёскі, дазволіў ім абкасіць у расцяробах канавы* (У. Рубанаў).

Што да прыметніка *волжскі*, то яго варыянт быў выяўлены ўжо даўно, на самым пачатку 1960-х. У той час на Мядзельшчыне попыт мела таннае віно, звалі яго ў Брусах (чуў ад мамы) *валжанскае*. На сіненькай этыкетцы было напісана, вядома ж, па-руску: *Волжское*.

З першага разу слова звярнула на сябе ўвагу свежасцю, чысцінёй гучання, суладнасцю фанетычнай абалонкі і марфалагічнай будовы. Слова *валжанскае* разлеглася вольна ўдоўж і ўшыркі, не раўнуючы бы тая славутая рака. Яно зручнае, лёгкае на вымаўленне. Няма тут скрадвання ці праглынання, калі казаць уголас, збегу зычных *жск*.

Праз гады, дзесяцігоддзі не забываўся гэты прыклад. Не аднойчы важыўся расказаць у друку пра гэтую знаходку, ды не надаралася нагода (лігвістычны кантэкст).

І вось праз чатыры дзесяцігоддзі слова *валжанскі* зноў выйшла на сустрэчу — ужо зрабіўшы крок па дарозе ў літаратурную мову. Заўважыў яго ў паэме Юркі Голуба «Заснежаны сшытак».

Ля **валжанскіх** ракіт  
І не думаў нібыта:  
Мова дужай ракі  
Вырве потым з нябыту.  
*(Полымя. 2002. № 3—4)*

Такім чынам, хада слова праз гады (1960—2000-я) і адлегласць (Мядзельскі раён — Зэльвенскі раён) сведчыць пра яго існаванне ў беларускай мове. Прыметнік *валжанскі* ёсць у польскай мове, але гэта не перашкода, каб разглядаць яго як лексічную адзінку беларускай мовы. Асабліва, калі не забывацца на аксіёму: блізкасць і роднаснасць славянскіх моў.

Яшчэ пра некаторыя варыянты прыметнікаў. Перакладны «Руска-беларускі слоўнік» (1982) да прыметніка *нарвский* падае адпаведнік *нарвскі*. У апошнім слове, як бачым, парушана фанетычная асаблівасць беларускай мовы: зычны гук [в] апынуўся не ў тыповай для яго пазіцыі — паміж зычнымі. А тым часам у беларускай літаратурнай мове ёсць варыянты запазычанага прыметніка *нарвскі*, у якіх дзякуючы выкарыстанню іншых суфіксаў гэтая хіба пазбегнута: *нарвенскі*, *нарваўскі* (ужыты ў БелСЭ, у газетах «Наша слова», «ЛіМ», у часопісе «Беларуская мова і літаратура ў школе»), *нараўскі* («Нараўская застава» — у рамане Ц. Гартнага «Сокі цаліны»). Найбольш падстаў пашырыцца і замацавацца маюць прыметнікі *нарвенскі* (параўнаем: *Зэльва — зэльвенскі*, *Дальва — дальвенскі*), *нарваўскі*.

Цяжкасць вымаўлення спалучэнняў зычных на стыку кораня і суфікса — адна з прычын, якімі выклікаецца варыянтнасць прыметнікаў.

На занятках са студэнтамі-філолагамі даводзілася мець справу з назоўнікам *Супрасль* і прыметнікам *Супрасльскі* (*Супрасльскі летапіс*). Апошні цяжка вымаўляецца і перадаецца на пісьме. А тут як Бог паслаў. У артыкуле гісторыка А. Трусава «Супрасль» (Наша слова. 11. 02. 1998) некалькі разоў ужыты прыметнік *супраслеўскі*: *Супраслеўскі кляштар*, *Супраслеўскі храм*, *Супраслеўская царква*. Успомнілася, што яшчэ раней гэтае слова было заўважана ў газеце «Ніва» (Беласток).

Варыянт *супраслеўскі* лягчэйшы на вымаўленне, адпавядае беларускаму словаўтварэнню. Ён мае перспектыву замацавацца ў беларускай літаратурнай мове. Дарэчы, гэты прыметнік у выразе *Супраслеўскі летапіс* паслядоўна ўжываецца ў навучальным дапаможніку «Старaславянская мова» (2005) М. Круталевіча і аўтара гэтых радкоў.

З прыкладаў вынікае: трэба размяжоўваць звычайныя памылкі і адхіленні ад літаратурнай нормы як вынік пошуку больш дасканалага ў структурных адносінах слова ці яго формы.

Апошнім часам паралельна з прыметнікам *уруцкі* (ад назоўніка *Уручча*) пачаў ужывацца варыянт *уручанскі*. Параўнаем: *ва Уруцкім музеі — ва Уручан-*

*скім музеі.* Зрэдку сустракаецца памылковая форма: *Алесь Міхайлавіч зарэгістраваны кандыдатам у дэпутаты па **Уручскай** выбарчай акрузе ў Мінску* (Народная воля. 5. 04. 2008).

Такім чынам, беларуская мова, функцыянуючы і развіваючыся, папаўняе і абнаўляе свае лексіка-граматычныя рэсурсы. Зразумела, не абыходзіцца без страт, без памылак пры ўтварэнні слова. Так, у газеце «Літаратура і мастацтва» (16. 04. 1999) паведамлялася пра «*юнацкаўскі* зборнік беларускіх народных легенд і паданняў». Маецца на ўвазе зборнік, выпушчаны выдавецтвам «Юнацтва». Хоць і не надта прыгожа, затое правільна было б: *юнацтваўскі зборнік.*

Не заўсёды без заган утвараюцца прыметнікі ад прозвішчаў: *Твораў моцных, у якіх закладзены багацці **броўкінскага** таленту*, *у зборніку нямала* (М. Гамолка).

Аказіяналізм *броўкінскі*, напэўна, узнік па аналогіі з ненарматыўным прыметнікам *крапівінскі* (ад *Крапіва*), які можа ўспрымацца як утвораны ад прозвішча Крапівін. Звернем увагу на тое, што ў прыметніку *крапівінскі* націск — на корані, як і ў рускім назоўніку *крапива.* У прыметніку *крапівоўскі* захоўваецца месца націску беларускага назоўніка *крапіва́.*

Менш верагодна бачыць пры ўтварэнні прыметніка *броўкінскі* (ад *Броўка*) уплыў рускага прыметніка *глинкинский* (ад прозвішча Глинка).

Падкрэслім. Правільныя формы прыметнікаў: *броўкаўская паэзія*, *Броўкавы паэмы*, *крапівоўская сатыра*, *Крапівовы камедыі.*

Варта смялей ужываць пры патрэбе варыянты прыметнікаў, у тым ліку аказіянальныя, у мастацкіх тэкстах, якія паводле сваёй прыроды вымагаюць індывідуалізацыі мовы. У вершы Веры Буланды «Салаўі» напаткаўся прыметнік *мсціжскі.*

Сведкі нашых забаў, сакрэтаў
І любові, адной на дваіх,
Не стамляйцеся помніць гэта,
Мае **мсціжскія** салаўі.

*(Роднае слова. 1994. № 10)*

Прыметнік *мсціжскі* — нарматыўны, уваходзіць у склад афіцыйнай назвы Мсціжскага сельсавета Барысаўскага раёна. У вершы ён цяжка- і глухавымоўны. Не было б памылкі, а радок пазванчэў бы, калі б напісалася:

Мае **мсціжаўскія** салаўі.

Параўнаем: *сожскі карагод — сожаўскі карагод.*

Часам моўныя хібы апраўдваюць цяжкасцю або немагчымасцю рэалізаваць нарматыўныя формы слова ў вузкіх рамках вершаванага радка, страфы. Аднак насамрэч непераадольных цяжкасцей няма. Калі адны словы, формы, сінтаксічныя канструкцыі беларускай мовы не «лезуць» у радок, не дазваляюць дакладна і правільна выказаць думку, сэнсавае і эмацыянальнае адценне, то іншыя моўныя сродкі, наадварот, даюць магчымасць зрабіць гэта паспяхова.

Згадваецца моўна-літаратурная практыка Якуба Коласа. У паэме «Новая зямля» нярэдка сустракаюцца дзеясловы з постфіксам *-сь* тыпу *пахілілась.* Гэты твор ён пачаў складаць у 1911 годзе. Відаць, паэт у той час не разглядаў такія формы як нелітаратурныя — мажліва, пад уплывам рускай мовы, якая панавала ў афіцыйных сферах культуры і на якой ён атрымліваў адукацыю. Апрача таго, і ў тэкстах іншых беларускіх пісьменнікаў выкарыстоўваліся аналагічныя дзеяслоўныя формы: ***Скрылась** кветамі ў полі магіла* (М. Багдановіч). …*Люблю край родны мой*, // *Дзе з першым шчасцем я **спазналась*** // *І з гора першаю слязой* (К. Буйло). ***Любімось**, мае суседзі*, // *Кіньма сваркі*, *звадкі* (Я. Купала).

Але ўжо ў паэме «Сымон-музыка» такіх формаў амаль не сустракаем. А ў паэме «Рыбакова хата», напісанай у 1940-я гады, дзеясловаў на *-сь* зусім няма. Значыць, паэту хапала нарматыўных сродкаў беларускай мовы, каб абыходзіцца без неўласцівых ёй словаформаў.

Сказанае адносіцца і да іншых часцін мовы. Напрыклад, калі б аўтары ўсвядомілі, што некаторыя формы ступеняў параўнання прыметнікаў не характэрныя для беларускай мовы і іх трэба пазбягаць, то гэтая задача не была б невырашальнаю. На нашу думку, у гэтым пытанні больш цвёрдую пазіцыю павінны займаць мовазнаўцы — разглядаць падобныя ўжыванні прыметнікаў у вершаванай мове як парушэнне граматычных правілаў.

Вось пачатак верша: ***Больш*** *журбы ў свеце няма ж*, // *Чым зажураны кірмаш*… Няправільнае ўжыванне формы вышэйшай ступені параўнання прыметніка (якая супадае з прыслоўем) перашкаджае зразумець сэнс радкоў. Напэўна, аўтар хацеў сказаць: ***Большае*** *журбы няма ж*, // *Чым зажураны кірмаш*.

І… слухаем куплет сучаснай песні.

Звон, грымі, звон, грымі,
Звон, грымі званчэй!
**Не знайсці у цэлым свеце**
**Тых званоў грамчэй**.

Мажлівыя (лёгкія) варыянты выпраўлення вылучаных радкоў:

1. Не знайсці званоў у свеце,
Каб гулі грамчэй.
2. І няма званоў на свеце,
Каб гулі грамчэй.

Ведаючы нормы ўжывання прыметнікаў, можна іх не парушыць — мова дае на гэта і лексічныя, і граматычныя сродкі.

Гэтак мы, чытачы, найболей выкладчыкі, мусім падпраўляць пісьменнікаў, каб не дапускаць пашырэння памылак, папярэджваючы пра іх навучэнцаў. Вядома, самі аўтары маглі б справіцца з гэтым больш паспяхова.

На завяршэнне кароткай гаворкі пра ўжыванне прыметнікаў адзначым рэдкі выпадак утварэння найвышэйшай ступені параўнання займенніка.

Мінулым летам кінулася ў вочы рэклама: «Беларускае — самае маё!» На першы погляд, сказ нязвыклай будовы — займеннік *самы* паводле граматыкі не спалучаецца з прыналежным займеннікам. Як узнікла пададзеная фраза? Цягам апошніх гадоў на вуліцах Мінска вывешваецца рэклама: «Купляйце беларускае!» Прыметнікам *беларускае* рэкламадаўцы інфармуюць патэнцыйных пакупнікоў не толькі пра месца вырабу тавараў, але нібыта абяцаюць высокую іх якасць. Спадзеючыся, што такія тавары захочуць набываць многія мінчане і госці сталіцы.

Беларускае (так павінна быць!) — самае сучаснае, самае прыгожае, самае трывалае і пад., а таму самае прыдатнае, самае патрэбнае мне, якраз тое, чаго я шукаю, ці, кажучы абагульнена, лаканічна — самае маё!

«Беларускае — самае маё!» — нібы адгукаецца на заклік «Купляйце беларускае!» пакупнік, набыўшы тавар і пераканаўшыся ў яго вартасці. Гэта, так сказаць, пазамоўныя, «жыццёвыя» падставы спараджэння моўнай адзінкі.

Моваю граматыкі спалучэнне *самае маё* тлумачыцца так. Займеннік *маё*, убіраючы лексічнае значэнне якасных прыметнікаў *сучаснае*, *прыгожае*, *трывалае* і падобных і як бы сам становячыся прыметнікам, набывае здольнасць утвараць форму найвышэйшай ступені параўнання.

Ідзе ўперад жыццё, не адстае, развіваецца і мова. Нехта знайшоў выдатную формулу. Няхай даўжэй вісіць і працуе на рэкламных шчытах у Мінску гэтая дасціпная і эфектная абвестка-запрашэнне!

Уяўляе цікавасць факт утварэння назоўніка з прыстаўкаю *най-* ад прыметніка *найзлaслівы* і назоўніка *злаславец* у выніку іх кантамінацыі.

Вы, **найзласліўцы**-крытыканы,
Сягоння ўзнялі шум-трызвон…
*(Звязда. 6. 12. 1977)*

Назоўнік *найзласлівец*, як і прыметнік *найзласлівы*, абазначае, што нехта мае адмоўнай якасці (злосці) у найвышэйшай меры, ступені. Дзякуючы арыгінальнасці формы, ён выступае ў сатырычным вершы яскравым сродкам характарыстыкі. Мэтазгоднасць ужывання яго не падлягае сумненню.

У рамках акрэсленай праблемы — нарматыўнасць і функцыянальна-стылістычная мэтазгоднасць слова — разгледзім некаторыя формы дзеяслова.

Згадайма радкі з класічнага верша М. Багдановіча «Слуцкія ткачыхі».

> …І думкі мкнуцца мімаволі
> Туды, дзе расцвіла вясна;
> Дзе **блішча** збожжа ў яснай далі,
> Сінеюць міла васількі,
> Халодным срэбрам ззяюць хвалі
> Між гор **ліючайся** ракі…

На ўвагу чытача (слухача) трапляюць словы *блішча*, *ліючайся*. З прычыны іх адзінкавасці, непаўтаральнасці яны ўспрымаюцца як адметныя, яскравыя індывідуальна-аўтарскія формы, і на іх можна пашырыць статус аўтарскіх наватвораў, г. зн. прызнаць іх недатыкальнасць, непадлегласць выпраўленню.

Паводле сучасных нормаў беларускай літаратурнай мовы, форма дзеяслова *ліючайся* ацэньваецца негатыўна, не дапускаецца ў агульны ўжытак. А як гэты дзеепрыметнік кваліфікаваць у паэтычным творы, напісаным амаль сто гадоў таму (1912)? Перш за ўсё трэба браць пад увагу, што мова твораў М. Багдановіча з вядомых прычын зазнала прыкметны ўплыў з боку рускай мовы, у прыватнасці што да выкарыстання зваротных дзеепрыметнікаў. Апошнія ўвогуле нярэдка сустракаліся ў творах беларускай літаратуры 1910-х гадоў (В. Ластоўскі, Я. Лёсік). Такім чынам, твор М. Багдановіча адлюстроўвае пэўны этап у функцыянаванні і развіцці беларускай мовы.

Пры чытанні, слуханні верша на першы план выступае мастацкі эфект, які дасягаецца ў тым ліку і выкарыстаннем няўклюднага (калі на яго глядзець па-за кантэкстам) дзеепрыметніка. У рытмічна арганізаваным радку гэтае слова разлеглася і загучала так, што мы нібы чуем (і нават бачым), як пераліваюцца, ззяючы, хвалі імклівай ракі: *лі-ю-чай-ся*. Гэтая форма дзеяслова як разавае ўжыванне ў сукупнасці з іншымі моўнымі элементамі індывідуальна-аўтарскага тэксту выконвае эстэтычную функцыю.

Успрыманае як арганічная частка мастацкага тэксту выдатнага паэта, слова *ліючайся*, аднак, не можа быць аргументам, каб выкарыстоўваць падобныя формы ў мове агульнага ўжытку. Спашлемся на побытавыя сітуацыі. Узрушаная гаспадыня кажа сантэхніку: «Прарвала кран, ніяк не спыню вады!» Інфармацыя дакладная і нешматслоўная, як і належыць быць у экстрэмальных выпадках. Тут няма патрэбы ўжываць азначэнне: «… не спыню **ліючайся** вады». Яшчэ прыклад. У аўтобусе рэклама-аб'ява (гучальная і друкаваная) нагадвае пасажырам: «Не набліжайцеся да транспартнага сродку, які рухаецца, да яго спынення». Мова, звернутая да масавага слухача (чытача), пазбягае ўскладненых, строга кніжных формаў слоў і іх спалучэнняў тыпу *рухаючагася транспартнага сродку*.

Цікава, што ў другой аўтарскай рэдакцыі «Слуцкіх ткачых» М. Багдановіч у ліку іншых паправак радкі *Халодным срэбрам ззяюць хвалі // Між гор ліючайся ракі*, якія больш характэрныя для апісання паўднёвых краін, замяніў кароткім сказам *Зіяюць срэбрам ручайкі* (адпаў і дзеепрыметнік *ліючайся*). І тым самым наблізіў узнёсла-рамантычны пейзаж да рэальнага беларускага (на Беларусі ўласна гор няма). Але ж мусім прызнаць, што першапачатковы малюнак прыроды болей паэтычны, мастацкі.

Каб разгляд месца і ролі ненарматыўных дзеепрыметнікаў быў паўнейшы, варта прааналізаваць іх ужыванне ў мастацкіх тэкстах пазнейшага часу.

У сувязі з гэтым згадаем артыкул Яўгена Міклашэўскага (Роднае слова. 2002. № 4), у якім аналізуюцца пераклады верша А. Пушкіна на беларускую мову, зробленыя пяццю паэтамі. Засяродзім увагу на першай страфе верша А. Пушкіна і яе перакладзе Максімам Лужаніным.

| | |
|---|---|
| Я помню чудное мгновенье:<br>Передо мной явилась ты,<br>Как мимолётное виденье,<br>Как гений чистой красоты. | Я помню дзіўнае імгненне:<br>Перада мной паўстала ты,<br>Як **пралятаючае** сненне,<br>Як геній чыстай пекнаты. |

У поле зроку трапляе дзеепрыметнік *пралятаючае*, рускага адпаведніка якога (дзеепрыметніка) няма ў арыгінале верша. Ніхто з астатніх чатырох перакладчыкаў да падобнага дзеепрыметніка не звярнуўся.

На нашу думку, дзеепрыметнік *пралятаючае* ўжыты болей з «тэхнічных» прычын: прыметнік *мімалётны* вядомы і беларускай мове, яго можна было пакінуць, але ён не падышоў сваёй даўжынёю (правільней — кароткасцю). Заставалася б гэтае слова і тады, калі б можна было знайсці даўжэйшы назоўнік — кшталтам *прысненне*: *…Як мімалётнае прысненне…* Істотнае ў гэтых варыянтах — захаванне музыкі пушкінскага радка.

Ну, але звернемся да каментару Я. Міклашэўскага. Найперш ён выказвае сумненне, ці кожны ўспрыме выраз *перада мной паўстала ты*. Адразу напомнім, што дзеяслоў *паўстаць* у такім значэнні прыкметна актывізаваўся ў беларускай мове — і цяжкасці яго разумення ў сучаснага чытача не ўзнікне. А вось адносна чытачоў канца 1940-х (калі з'явіўся пераклад) гэтага сцвярджаць мы не можам.

Не трэба выпускаць з-пад увагі, што і ў арыгінале пушкінскага тэксту ёсць пэўныя лексіка-семантычныя элементы, якія могуць быць неадэкватна ўспрынятыя ў наш час. У прыватнасці, гэта датычыць слоў *явилась, виденье*.

Я. Міклашэўскі піша: слова *виденье* «не мае дакладнага эквіваленту на беларускай мове. Перакладчык перадае яго сінонімам дыялектнага паходжання *сненне* з дзеепрыметнікам *пралятаючае* (мимолётное), гукапіс якога слаба стасуецца з гукапісам мяккага, пяшчотнага слова «сненне».

Што да стылістычнай афарбоўкі назоўніка *сненне*… Гэта слова рэдкага выкарыстання, не «засвечанае» сваёй схільнасцю да гутарковых кантэкстаў, што пацвярджае і прыклад з твора Якуба Коласа, пададзены ў «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» (т. 4, 1980): *Няўжо то праўда, а не* ***сненне****, І мара йдзе ў ажыццяўленне.* Хутчэй назоўнік *сон* больш ужывальны ў побытавых сітуацыях. Апрача таго, паводле марфемнай структуры назоўнік *сненне* блізкі да стылістычна нейтральных і кніжных слоў на *-нне*: *імкненне*, *захапленне*, *натхненне*, *абуджэнне* і пад.

Як на маё вуха, гукапіс слова *пралятаючае* дастаткова стасуецца з гукапісам слова *сненне*. Абодва яны «мяккія, пяшчотныя» (насычаныя галоснымі і санорнымі зычнымі), а галоўнае — не губляюць мілагучнасці радка-арыгінала.

Аўтар артыкула мяркуе: «50—60 гадоў таму дзеепрыметнікі не выглядалі такімі штучнымі словаўтварэннямі ў нашай мове, але сёння яны ўспрымаюцца як хібы…» Выходзіць, Я. Міклашэўскі ацэньвае дзеепрыметнік *пралятаючае* галоўным чынам з пункту гледжання агульнага непрымання падобных формаў дзеяслова ў беларускай мове на сучасным этапе, а не паводле яго ролі ў канкрэтнай паэтычнай страфе і ўсім вершы.

Напраўду дзеепрыметнік *пралятаючае* мае заганы не толькі ў плане выражэння, але і ў плане зместу. Гэтая форма дзеяслова (паводле традыцыйнага погляду на дзеепрыметнік) выказвае значэнне 'якое пралятае'. Параўнаем: *пралятаючая птушка*. Прыметнік *мимолётное* абазначае 'хуткае, шпаркае, кароткаіснае' (пра «виденье»), і, як мы ўжо казалі, сам па сабе ён мог бы заставацца ў беларускім тэксце.

Такім чынам, ужыванне дзеепрыметнікаў у творах, напісаных у далёкія дзесяцігоддзі, мы аналізуем, беручы пад увагу і стан беларускай літаратурнай мовы ў той час, і мастацкую задачу, якую вырашаў аўтар.

Зусім інакш мы ставімся да неўласцівых беларускай мове формаў дезяслова ў творах сучасных пісьменнікаў — яны кваліфікуюцца як парушэнне літаратурных нормаў.

Вядомая паэтка напісала: *З болю сусвет не ўмірае. // Чаму быць — тое вып'ем да дна. // На мірыяды* ***распаўшыхся*** *пар // лішняя долька адна.*

Словазлучэнне *распаўшыхся пар* не выказвае нейкіх адметных, індывідуальна-аўтарскіх семантычна-мастацкіх адценняў. Тут выказана агульнамоўнае значэнне 'пары, якія распаліся'. І яно павінна перадавацца нарматыўнымі сродкамі беларускай мовы: *распалыя пары*, *распадзеныя пары*, *разыдзеныя пары* ці яшчэ як. Унікненне такіх моўных заган — гэта клопат і аўтара, і рэдактара.

Звернем увагу на асобныя формы дзеяслова (дзеепрыметнікі, дзеепрыслоўі), якія могуць успрымацца як непажаданыя праз асаблівасці іх марфемнай будовы і гукавога напаўнення.

У адным дапаможніку па стылістыцы ўжываецца тэрміналагічнае спалучэнне *ўздзейнічаючая функцыя* (пераклад рускага *воздействующая функция*). Тут хіба плана выражэння: форма дзеяслова цяжка вымаўляецца і далёка не мілагучная. Намі былі прапанаваныя эквіваленты: *функцыя ўздзеяння, уздзейная функцыя, уздзейлівая функцыя* (Роднае слова. 2005. № 3).

Дзеепрыслоўі, у адрозненне ад дзеепрыметнікаў на *-учы/-ючы/*, *-ачы/-ячы/*, *-шы*, *-ўшы*, у беларускай мове ўжываюцца шырока. Аднак сярод іх трапляюцца няўдалыя формы: *№ працаваў карэспандэнтам, адначасова* ***завочнічаючы*** *на філалагічным факультэце БДУ.* У гэтым выпадку ўжываць дзеепрыслоўе немэтазгодна з прычыны яго немілагучнасці. Лепш: *вучыўся завочна*, *вучыўся на завочным аддзяленні*. Дарэчы, у свой час Якуб Колас не прымаў суфікса *-ніча-* ў беларускай мове.

Вызначаныя лінгвістамі заканамернасці ўтварэння і ўжывання слоў (іх форма, змяненне, спалучальнасць і г. д.) не ахопліваюць усіх шматстайных выпадкаў, кантэкстаў, у якіх даводзіцца выступаць жывому слову. Моўная практыка «шырэйшая» за самыя поўныя граматыкі, слоўнікі.

Звернемся да творчасці Янкі Купалы. Вось пачатак хрэстаматыйнага верша.

І лягла ж цішына
У бары за гарой,
Каб дравінка адна
Хоць кіўнула сабой.

(«Зімой у лесе»)

Усё ясна, зразумела, хіба што часткова за выключэннем слова *дравінка* ('дрэва, дрэўца'). Але звернем увагу на апошні радок.

У страфе рыфма (*гарой* — …) запатрабавала сугучнага слова (*сабой*). Якія падставы да яго ўжывання?

Чалавек можа кіўнуць галавой, пальцам, нагой… І сам увесь кіўнуцца (даўней: *кіўнуць ся*, г. зн. кіўнуць сябе). Аналагічна: дравінка кіўнула верхавінкай, голлем. А кажучы абагульнена — усёй сваёю «істотай», сабой. Словазлучэнне *кіўнуць сабой* у граматыках не падаецца, але мы не маем сказаць, што яно няправільнае, памылковае. Больш за тое, *кіўнула сабой* параўнальна з дзеясловам *кіўнулася* выразнейшае, выказвае большую актыўнасць дзеяння.

Такіх адносін да сябе патрабуюць, вядома ж, усе словы. Не спяшаймася адразу адхіляць некаторыя з іх, калі яны выпадаюць з рамак «правілаў», а спрабуйма зразумець, чаму яны з'явіліся на старонках кніг і ў мове СМІ.

Не сакрэт, што сярод часткі пісьменнікаў, журналістаў мае месца скептычнае стаўленне да набыткаў лінгвістычнай навукі, да тых парад з абсягу культуры мовы і стылістыкі, якія на аснове даследавання моўнай практыкі даюць аўтарытэтныя вучоныя. Так, даследчыкі беларускай фразеалогіі Фёдар Янкоўскі, Іван Лепешаў абгрунтавана выводзяць за межы беларускай літаратурнай мовы фразему-кальку

*раніца мудрэйшая за вечар*. А журналістка М. Прохар, якая рыхтуе і вядзе радыёперадачы «Моўныя парады» на канале «Культура», без усякіх агаворак залічвае гэты штучны фразеалагізм да натуральных, нармальных моўных сродкаў, з дапамогай якіх беларусы гавораць пра раніцу.

Дыпламаваны філолаг і паэтка А. Багамолава (спадзяюся, працы названых лінгвістаў яна ведае) на аснове нібыфразеалагізма *раніца мудрэйшая за вечар* нават будуе верш, сканструяваўшы, падагнаўшы пад яго папярэднія радкі.

*Як навучыцца // Будаваць, // Ствараць, // Тварыць // І не параніцца*?//… *Магчыма, падкажа раніца*. ***Яна мудрэйшая за вечар***… (Полымя. 2009. № 9).

Зусім відавочна, што паэтка не парушыла б нормаў фраземаўжывання, калі б успомніла натуральны беларускі эквівалент. Апрача таго, быў бы і мастацкі выйгрыш: незацяганы фразеалагізм загучаў бы свежа, даўжэй запыніў на сабе ўвагу: …*Магчыма, падкажа раніца. //* ***Пераначуем — болей пачуем***.

Далей за ўсіх пайшла ў сваёй замалёўцы Т. Барысік: доўга не думаючы падхапіла, можа, з гутаркі сваіх гераіняў, запазычаны фразеалагізм: *Ліда Мурзіха і Валя зь дзясятай кватэры — сяброўкі-пляткаркі* ***не разьлей вада*** (Наша Ніва. 19.06.2008).

Дзіўна прымірыліся ў дзеяслове *разьлей* «тарашкевіца» і руская граматыка!

Заўважаючы шматлікія адхіленні ў мастацкай, пераважна вершаванай мове (часта такія, якіх лёгка пазбегнуць) у розны час сваёй рэдактарскай, навуковай і выкладчыцкай працы, я прыходзіў да фармулявання парадаксальнага вываду-тэзіса: «Верш — разбуральнік мовы». Але гэты невясёлы настрой хутка мінаў, бо перад вачыма і ў думках паўставала паэзія Янкі Купалы, Якуба Коласа, Рыгора Барадуліна, Алеся Разанава… Моватворчасць гэтых ды іншых сейбітаў вечнага засцерагае, ахоўвае беларускі культурны палетак ад пустазелля, ад запусцення. І яшчэ, кажучы словамі Янкі Брыля, ёсць радасць сустрэчы проста з добрым вершам ці празаічным творам.

У маіх паперах захаваўся запіс-абразок з натуры.

12 верасня 1999 года. Нядзельная раніца. У кухні ўкруціў рэпрадуктар: чытаюць вершы. Нягучна, без штучнага пафасу, без надрыву. Свежыя, арыгінальныя радкі, з «невыдумных» беларускіх агульнавядомых слоў, але без зацяганых паэтызмаў, збітых рыфмаў. Вуха не ўлоўлівае моўных хібаў, парушэння літаратурных нормаў, якіх багата выдаецца «паэтычным цэхам» і якія шмат хто спрабуе апраўдаць мэтай — часта недасяглай — індывідуалізацыі мастацкага выказвання (прамаўлення). Таму часам і не даслухваеш такое прамаўленне, чытанне да канца.

А тут у кожным кароткім вершы — па-свойму выказаныя, але і мне зразумелыя ці, прынамсі, неабыякавыя майму ўспрыманню думкі, пачуцці — з жыцця, ад жыцця, пра жыццё. Не выключаю радыё, хочацца слухаць далей. Хто ж аўтар вершаў? Прыкінуў у памяці колькі добрых паэтаў. Не, мусіць, не яны — стыль не іх.

Перадача скончваецца. А за гэтым — голас дыктара: «Новыя вершы Мар'яна Дуксы чытаў артыст Аляксандр Кучарэнка». І стала неяк лагодна, спакойна. Перадача пацвердзіла не раз прыемна падуманае пра гэтага паэта і… майго земляка, з якім, на жаль, я асабіста не знаёмы.

Васіль ГУРСКІ

# ЧЭХ — БЕЛАРУСКІ ПАРТЫЗАН

Іосіф Слацік (Шлатык) нарадзіўся ў 1914 годзе ў вёсцы Трудман, раён Тробесвіні, вобласць Чэске-Будзеёвіцы, Чэхаславакія. Ён служыў у арміі, калі фашысты акупіравалі яго радзіму. Гітлераўцы абяззброілі чэшскіх салдат і прымусілі працаваць на Германію. У грудзях Іосіфа кіпела нянавісць да чужынцаў. Аднойчы ён не стрымаўся і рыдлёўкай аглушыў гітлераўца, той асунуўся на зямлю. Слаціка засудзілі на шэсць месяцаў. Пасля — зноў непасільная работа, насмешкі, здзекі. Калі фашысты напалі на Савецкі Саюз, чэх Слацік трапіў у будаўнічы батальён і рамантаваў чыгунку, будаваў масты ў Беларусі, каля Смаленска, Арла. Летам 1943 года яго часць была пераведзена ў Баранавічы для аховы чыгункі ад партызан і рамонту яе пасля ўзрываў партызанскіх мін.

З радасцю сустракаў Слацік кожны выбух на чыгунцы і думаў, як перайсці ў партызаны. Дапамагла яму дзяўчына Марыя, якая працавала ў іхняй часці на кухні. Прозвішча яе Слацік не ведаў. Яна прыглядалася да Іосіфа і здагадалася, што ён ненавідзеў фашыстаў. Некалькі разоў Марыя сустракалася з чэхам. Іосіф нарэшце даверыўся ёй. Разам думалі пра ўцёкі з няволі. Брат Марыі — партызан брыгады імя Варашылава — трымаў сувязь з сястрой. Дзяўчына перадала ў атрад, што чэх хоча перайсці ў партызаны. Дамовіліся аб сустрэчы на хутары каля Баранавіч.

Іосіф рыхтаваўся да ўцёкаў: прызапашваў патроны, гранаты, купіў нават дзве бутэлькі першаку і чакаў калі пазаве яго Марыя. У канцы кастрычніка 1943 года дзяўчына паведаміла, што скора пойдуць на сустрэчу з партызанамі. Слацік штодзённа аглядаў ахову свайго лагера. З трывогай заўважыў, што навокал баракаў стаялі ноччу пасты, што выйсці з размяшчэння часці непрыкметна нельга.

І вось Марыя сказала, што трэба ісці, што іх будуць чакаць. Сцямнела, заснуў лагер. Іосіф засунуў у кішэні дзве бутэлькі самагонкі і пайшоў да паставога.

— Чаго прыйшоў, Юзік? — запытаў той.

— Гарэлкі дастаў, а выпіць няма з кім. Спяць ужо ўсе, — сказаў Слацік і з хваляваннем думаў ці згодзіцца паставы з ім выпіць цяпер. Той запытаў, ці з сабой гарэлка. Захацелася, бачыце, пагрэцца. Іосіф дастаў бутэльку і даў поўную шклянку моцнай сівухі паставому. Сабе наліў менш ды выліў неўзаметку. Закусілі хлебам з салам. І апаражнілі пляшку. Іосіф дастаў другую.

— Схавай, — блытаным языком гаварыў паставы. — Раніцай вып’ем. Іосіф пастукаў паставога па плячы, вярнуўся ў барак, забраў свой рэчавы мяшок, схапіў дзве вінтоўкі і заспяшаўся на дамоўленае месца. Там чакала Марыя. Ціха падышлі да паставога. Той прыхіліўся да камля дрэва і соладка спаў, засунуўшы вінтоўку паміж выцягнутых ног. Іосіф і Марыя прашмыгнулі каля яго, шпаркімі крокамі накіраваліся ў поле. І тут пачуў Слацік, што справа ляснуў глухі стрэл.

— Кладзіся! — шапнуў Іосіф і схапіў Марыю за руку. Толькі паспелі ўпасці, як недалёка ўспыхнула ракета. Дзяўчына са страху заплюшчыла вочы, прыціснулася да зямлі, чакала выстралаў. Але было ціха навокал, салдаты на суседніх пастах нічога падазронага не заўважылі.

Калі патухла ракета, Слацік усхапіўся, пацягнуў за сабой дзяўчыну. Дзве цёмныя постаці імкліва аддаляліся ад горада. Яны то заміралі, калі ў небе ўспыхвалі

ракеты, то зноў усхопліваліся і хутка адбягаліся ад гарнізона, накіроўваліся да недалёкага хутара.

— Стой! Хто ідзе? — пачуўся ціхі голас.

— Госці з Баранавіч, — адказала дзяўчына. — Двое.

— А нас трое.

— Гэта быў дамоўлены пароль. З-за куста выйшаў партызан, абняў дзяўчыну, пацалаваў.

— Пойдзеш з намі, сястрыца, ці назад?

— З вамі, — радавалася дзяўчына. — Назад нельга, бо я часта гутарыла з ім. Адразу арыштуюць.

— І я так думаю, — згадзіўся брат. — Няма чаго рызыкаваць дарэмна.

— У мяне пісталет ёсць. І гранаты, — паведаміў Слацік. Падышлі яшчэ два партызаны, павіталіся, забралі ў чэха адну вінтоўку.

— Дай пісталет Марыі, — сказаў камандзір групы. — Гранатамі падзяліся з намі. А вінтоўку пакінь сабе. Абараняцца будзеш, калі фашыстаў сустрэнем. Упяцярых абараняцца будзем.

Ды адбівацца не прыйшлося, хлопцы вярнуліся ў лагер без прыгод. Завялі яны чэха ў штаб атрада, распыталі пра ўсё, забралі зброю, а яго на кухню завялі.

— Памагай повару і папраўляйся на партызанскіх харчах, — сказаў камандзір атрада Іван Сафончык.

Слацік зразумеў, што не давяралі яму пакуль што. Але не пакрыўдзіўся на партызан: асцярожнасць ва ўсякай справе патрэбна.

Партызаны доўга прыглядаліся да чэха, вучылі гаварыць па-руску і па-беларуску. Іх бянтэжыла тое, чаму чэх перайшоў у партызаны адзін, без сяброў. А Іосіф быў вельмі асцярожны, нікому не давяраў сваіх сакрэтаў бо ў часці ўжо некалькі разоў арыштоўвалі тых, хто збіраўся ўцякаць.

Прайшло некалькі месяцаў. Слаціка ўзялі на заданне. Група з трох чалавек днём паехала ў вёску Свінку на загатоўку прадуктаў. Сабралі хлопцы на першай вуліцы крыху хлеба і павярнулі на другую. Насустрач … немцы едуць на падводзе. Таксама трое. І яны збіралі прадукты. Праўда, на іхнім возе харчоў было значна больш: у мяшку варушыліся куры, побач ляжаў заколаты кінжалам падсвінак. Іосіф Слацік быў усё яшчэ ў нямецкай форме. Ён запытаў, што рабіць.

— У вёсцы нельга іх чапаць: хаты спаляць, людзей расстраляюць. Не ведаем таксама, ці адны яны, ці ззаду яшчэ едуць. Паедзем насустрач, а там відаць будзе. Калі запыняць нас, будзем страляць, — сказаў Аляксей Пармон і сарваў чырвоную стужку з шапкі.

— Дай мне аўтамат, камандзір, — папрасіў Слацік у Пармона. — Прыкінуся гітлераўцам. А вы схавайце вінтоўкі пад сена, быццам сяляне едуць на возе.

Збліжаюцца падводы. Пармон засунуў пісталет у кішэню і трымае напагатове. Трэці партызан сціснуў гранату. Чэх паклаў нямецкі аўтамат перад сабой, уважліва пазірае на гітлераўцаў, гатовы ў любы міг пусціць зброю ў ход. Немцы глядзяць на чэха, але сядзяць спакойна, штосьці гавораць між сабой. Відаць, што абрадаваліся, як убачылі «сваіх».

Вазы зблізіліся і мірна раз'ехаліся. Так хацелася Пармону схапіць свой аўтамат і паслаць чаргу ў гітлераўцаў, але пашкадаваў сялян вёскі. Немцы ж не здагадаліся нават, што іхняе жыццё вісела на валаску.

Партызаны за вёскай павярнулі ў лес. З неўразуменнем думалі яны, чаму сяляне не папярэдзілі іх, што раніцай прыехалі гітлераўцы. Праз некалькі дзён даведаўся Пармон, што сяляне прынялі партызан за фашыстаў, бо збянтэжыла нямецкая форма чэха, яго шапялявае вымаўленне. Пасля гэтага выпадку Іосіф, выязджаючы ці выходзячы з лагера, скідаў нямецкае адзенне, каб часам па дарозе партызаны не прынялі яго за гітлераўца.

У канцы красавіка 1944 года Іосіфа Слаціка вызвалі ў штаб атрада. Камісар Якаў Курушын запытаў, ці хоча чэх стаць партызанам.

— Я ж партызан даўно, — здзіўлена сказаў Слацік. Камісар усміхнуўся і растлумачыў:

— Сапраўдным партызанам станеш тады, як прымеш партызанскую прысягу. Хочаш ваяваць супраць фашыстаў?

— Хачу, — цвёрда сказаў чэх. — Пасылайце на баявое заданне — выканаю.

— Скора пойдзеш, скора, — сказаў камісар і загадкава ўсміхнуўся.

Праз некалькі дзён, Першага мая, у лесе выстраіўся атрад імя Катоўскага. Маладыя партызаны прымалі партызанскую прысягу. Сярод беларускіх юнакоў стаяў невысокі сярэдніх год чэх. Твар яго ззяў шчасцем, дрыжачыя губы паўтаралі: «Партызан! Помні: ад тваіх баявых дзеянняў у тыле фашыстаў залежыць хутчэйшы разгром ворага. Ты — народны мсцівец, твой баявы кліч — смерць нямецкім акупантам!»

Да Слаціка падышоў камандзір атрада Іван Сафончык, павіншаваў яго, паціснуў руку і сказаў задаволена:

— Цяпер ты — беларускі партызан! Смела змагайся з фашыстамі. Разаб'ём іх у Беларусі, пасля вызвалім і тваю Чэхаславакію. Ведаеш, што савецкі партызан не здаецца фашыстам у палон?

— Ведаю! — адказаў Іосіф.

— Трымай тады свой пісталет. Не крыўдуй, што толькі тры патроны засталіся. Астатнія нашы разведчыкі гітлераўцам «пазычылі». Цвёрда помні: два патроны для фашыстаў, апошні — для сябе.

— Так точна! Апошні — для сябе! — урачыста сказаў Слацік і ўсміхнуўся.

З гэтага часу партызаны бралі чэха на баявыя заданні. І на шашу Мінск — Слуцк хадзіў ён міны ставіць, і рэйкі ўзрываў на чыгунцы, і штурмаваў чыгуначную станцыю Дзягцяныя, гарнізон якой быў разгромлены поўнасцю. У тым баі адважны беларускі партызан чэх Іосіф Слацік знішчыў двух акупантаў — так набліжаў ён дзень вызвалення сваёй Чэхаславакіі.

Сустракаўся я з чэхам на партызанскіх сцежках і думаў тады, што больш ніколі яго не ўбачу. Ажно памыліўся. Пасля вызвалення Беларусі Іосіф Іосіфавіч Слацік застаўся на Уздзеншчыне, пусціў тут глыбокія карані: ажаніўся, пабудаваў хату ў вёсцы Боркі, выгадаваў дзесяць дзяцей. З глыбокім жалем даведаўся ён пасля вайны, што фашысты расстралялі яго бацьку, замучылі сястру.

На грудзях былога беларускага партызана ў святы зіхаціць ордэн Айчыннай вайны II ступені і многія медалі, якімі ўзнагароджаны мужны чэх за смеласць і адвагу, за доблесную працу. Фатаграфія яго вісіць у краязнаўчым музеі.

**Анатоль МЯСНІКОЎ**

# НЕЗАПАТРАБАВАНЫ БАЦЬКАЎШЧЫНАЙ БЕЛАРУС

## I

У знакамітым Міцкевічавым «Пане Тадэвушы» на гэтых момантах мала хто з чытачоў засяроджвае ўвагу. А размова ідзе пра «Расказ Войскага…» з чацвёртай кнігі пад назвай «Хады дыпламатычныя і паляўнічыя». Фрагмент у творы адносна вялікі, але, несумненна, ёсць падстава прывесці яго: чытач пераканаецца — гэта цікава…

…А ўсё пайшло з-за прозвішчаў. Бывала
Калі адна групоўка вербавала
На сейміках прыхільнікаў Давейкі,
То часта, не дачуўшы, да Дамейкі
Схіляўся нехта, падаваў свой голас,
Альбо наадварот: другі раз-пораз
Перамагаў. А дзе-нібудзь на балі
Здаралася і так: агалашалі
Заздраўны тост, ну, скажам, за Давейку.
А ў зале шум — і большасць за Дамейку
І вып'е, і віватам павітае,
Бо хто ж там праўду ў гвалце дапытае!

А далей ідзе такі аповед:

У Вільні нейк якісьці шляхціц п'яны
З Дамейкам фехтаваў і двойчы раны
Залізваў, бо Дамейка быў са шпагай,
Як чорт з трызубцам, — гэтакі спрытняга!
Дадому едучы, пры пераправе
Цераз Віллю той шляхціц справіў
Зноў крык: «Дык вось ён дзе!
Скажыце людзі,
Вунь той вусаты пан Дамейка будзе?»
«Ды то ж Давейка», — хтось сказаў сярдзіта.
«Дамейка? Ну, цяпер мы будзем квіты!» —
І ў бой са шпагай. Той ледзь не загінуў:
Ссек шляхціц вус амаль напалавіну.
А на аблаве шчэ было не тое:
Стаялі ўдвух уплеч на пастоі
І па мядзведзіцы адзіным залпам
Бабахнулі. Глядзяць, а тая малпа
Кульнулася пад пень і дух спусціла —
Забіта! А скажы, чыя забіла
Двухстволка з іх, стральцоў: ці то Давейка
Ці той, двайнік па прозвішчы — Дамейка, —
Там вызначыўся?.. Мне пазней казалі,
Што ў тушы сем гранкуль сядзела ў сале.
Вось і знайдзі — чые? Драбкоў асколкі
Маглі ў яе ўляпіць і з аднастволкі…

*(Пераклад з польскай Язэпа Семяжона.)*

Больш пра Давейку ні літаратуразнаўства, ні гісторыя практычна нічога і не ведае. А вось Дамейка… У «Пане Тадэвушы» ён выведзены як герой пад уласным прозвішчам. Гэта сябар вялікага паэта Адама Міцкевіча, не менш вялікі беларус Ігнат Іпалітавіч Дамейка.

…Яны пазнаёміліся, а неўзабаве і моцна пасябравалі ў дваццатыя гады далёкага ўжо XIX стагоддзя — падчас вучобы ў Віленскім універсітэце. Адам Міцкевіч вывучаў у ім гуманітарныя навукі, а Ігнат Дамейка — фізіка-матэматычныя. Сышліся два маладыя чалавекі ў поглядах на жыццё, у падыходах да тагачаснай рэчаіснасці. А яшчэ іхнім светлым душам і сэрцам было аб чым пагаварыць, параіцца…

## II

Напрыканцы ліпеня 1802 года ў заможнай шляхецкай сям'і Антона Іпаліта Дамейкі, які паходзіў са старажытнага беларускага роду, нарадзіўся сын. У гонар аднаго з дзядзькаў яго назвалі Ігнатам. Антон Іпаліт быў старшынёй земскага суда, а значыць, на Навагрудчыне карыстаўся павагай і аўтарытэтам.

Ды нядоўга давялося бацьку цешыцца малым: у 1809-м Антон Іпаліт памёр. Ігната, яго сясцёр Антаніну і Марыю і братоў Адама і Казіміра ўзялі пад апеку бацькавы браты Ігнат і Юзаф. Акрамя роднага маёнтка Мядзвядка на Навагрудчыне шмат часу праводзіў малы ў маёнтках Жыбуртоўшчына і Заполле ў цяперашніх Дзятлаўскім і Лідскім раёнах. Прычым бавіў той час не за пустапарожнімі забавамі і марнаваннем дзён, а за спасціжэннем таямніц польскай культуры, чытаннем кніжак ды вывучэннем моў. І не выпадкова падчас паступлення ў павятовую школу айцоў-піяраў у Шчучыне дзесяцігадовы Ігнат дасканала ведаў не толькі беларускую і польскую мовы, а нават і французскую.

У 1816-м Ігнат Дамейка паступае на фізіка-матэматычны факультэт Віленскага універсітэта.

Сяброўскае, студэнцкае асяроддзе было такое, што можна толькі пазайздросціць. Блізкімі сябрукамі Ігната ледзь ці не з першых месяцаў вучобы ва універсітэце сталі спачатку Адам Міцкевіч, а потым — Ян Чачот і Томаш Зан. Яны ўжо тады вызначаліся і творчай, і грамадска-палітычнай актыўнасцю, гуртавалі і прыцягвалі да сябе іншых — вольналюбівых, свядомых, праведных маладых барацьбітоў. Адаму Міцкевічу — будучаму аўтару бессмяротных «Дзядоў» і «Пана Тадэвуша» — юны зямляк-беларус спадабаўся сваёй шчырасцю, разважлівасцю, імкненнем да ўсяго дакапацца самому… Нядоўга прыглядваўся ды вывучаў Міцкевіч свайго новага сябра, і неўзабаве прапанаваў яму наведваць сходкі тайнага таварыства філаматаў — гэта значыць аматараў навукі. Больш таго, і канспіратыўнае імя (а якая ж падпольная дзейнасць без яго?!) Ігнату Дамейку прыдумаў менавіта ён, Адам Міцкевіч — Жэгота. І гэтага рэальнага героя геніяльны Міцкевіч не праміне потым увекавечыць у сваёй непаўторнай творчай спадчыне: пад імем Жэготы Дамейка ўвасоблены ў згаданых вышэй «Дзядах».

Віленскі універсітэт Адам Міцкевіч закончыць у 1819-м, а Ігнат Дамейка — трыма гадамі пазней. З усёй сваёй актыўнасцю і настойлівасцю ён паспее ўключыцца ў дзейнасць створанага ў 1822-м яшчэ аднаго падпольнага таварыства — філарэтаў, гэта значыць аматараў дабрадзейнасці.

## III

Толькі ў сярэдзіне 1823 года царскім сатрапам удалося-такі натрапіць на заканспіраваныя сляды філаматаў і філарэтаў. Шматлікія арышты былі праведзены па многіх гарадах самадзяржаўнай Расіі. Больш як сто маладых людзей апынуліся за турэмнымі кратамі. У лістападзе таго ж 1823-га вязнямі старога базыльянскага кляштара становяцца і Адам Міцкевіч, і Ігнат Дамейка.

Уплывовыя дзядзькі Ігнат і Юзаф змірыцца са зняволеннем пляменніка, вядома ж, ніяк не маглі. І яны, дзякуй богу, дамагліся свайго. Калі большасць нядаўніх сяброў і спадзвіжнікаў Дамейкі-малодшага будуць неўзабаве — на працягу першых месяцаў 1824 года — сасланы на бестэрміновы час у самыя аддаленыя раёны Расіі, дык 22-гадоваму Ігнату будзе вынесены прысуд на пажыццёвае пасяленне на малой радзіме пад пільным наглядам паліцыі ды яшчэ з забаронай займаць дзяржаўныя пасады і практыкавацца ў палітычнай дзейнасці.

Шэсць гадоў жыцця, няхай сабе і ў блізкіх, з маленства знаёмых мясцінах, доўжыліся марудна, пакідалі ў сэрцы і на душы сум, скруху і шкадаванне аб змарнаваным часе — такім дарагім і незваротным! Сэрца прагла барацьбы, характар і веды клікалі на свядомую і верную службу Бацькаўшчыне, спакутаванаму і зняважанаму народу, а ён змушаны быў сядзець тут, у родавай глухамані, адгароджанай ад цывілізаванага свету. Каб хоць неяк бавіць час, злагоджваць нуду і адзіноту, Ігнат чытаў тагачасную літаратуру — і найперш навуковую, на нямецкай і французскай мовах, перапісваўся з сябрамі па няшчасці, якія таміліся ў такой жа, толькі расійскай глухамані. Больш таго, праз паўгода-год па наваколлі Лідчыны і Дзятлаўшчыны ўжо ішла пагалоска пра Дамейку — як пра сапраўднага майстра… жывёлагадоўлі. У сваёй не надта каб вялікай па памерах гаспадарцы ён пачаў разводзіць пародзістых чорна-белых кароў, коней — ды не якіх-небудзь, а самай чыстай арабскай пароды…

А яшчэ для сялянскіх дзяцей, у якіх зусім не было магчымасці хоць дзе-небудзь вучыцца, набыць хоць бы якія першапачатковыя веды, Дамейка наладзіў штосьці накшталт школкі. Вывучалі малалеткі азбуку, вучыліся лічыць і пісаць…

З сябрамі-суседзямі ездзіў Ігнат і на паляванне, аблавы. Ці не гэта паўплывала на апісанне пэўных эпізодаў у славутым творы Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш»?!

Шмат падарожнічаў — зазвычай пешшу — па наваколлі. Любіў бываць у дзядзькоў і сясцёр, дзякаваў за выратаванне ад ссылкі. І як ахоплівала сэрца туга, што ніяк не мог, не меў афіцыйнага дазволу наведваць маці ў маёнтку Сачыўкі, магілку бацькі ў Міры, бо гэта быў ужо іншы, Навагрудскі павет, а права на выезды магла даць толькі паліцыя…

Напрыканцы 1829-га прыйшла доўгачаканая вестка: паліцэйскі нагляд зняты! У роздуме-выбары далейшага жыццёвага шляху Ігнат на пэўны час застаецца яшчэ на Бацькаўшчыне. А менш чым праз год і ў гэты глухі куток даходзяць звесткі пра пачатак паўстання ў Польшчы, якое неўзабаве перакінецца і на ягоную родную Беларусь.

## IV

Роздум-выбар над наступным жыццём авалодвае маладым чалавекам паўней і глыбей. Не-не, ваганням ці сумненням месца няма: ён павінен быць не ў шарэнгах царскай пяхоты ці конніцы, а на тым, процілеглым баку — сярод патрыётаў-паўстанцаў. Ад царскага самадзяржаўя ён ужо напакутаваўся, нацярпеўся, дык няўжо няма іншага жыцця, іншага шляху?!.

У лясах Беларусі і Літвы пачынаюць фарміравацца шматлікія партызанскія атрады і групы. Дамейка ведае аб гэтым дакладна, бо некаторыя з іх звяртаюцца да яго непасрэдна па дапамогу: то коньмі, то правіянтам… А тут яшчэ ён даведваецца, што ў наваколлі з'явіліся паўстанцкія атрады генерала Дэзыдэры Адама Хлапоўскага.

Воінаў Хлапоўскага ён напаткаў у раёне Слоніма. І не адзін: разам з Дамейкам армію генерала папоўнілі дзесяткі, а мо і сотні добраахвотнікаў з навакольных вёсак, якім расійскі царызм таксама быў ненавісны. Цяжка меркаваць, ці была ў Ігната асабістая сустрэча з мяцежным генералам, аднак тое, што Дэзыдэры Адам ведаў пра Дамейку, — факт.

Чэрвеньскім днём 1831-га ў складзе аднаго з атрадаў генерала Хлапоўскага Ігнат уступае ў Ліду. Яшчэ некалькі месяцаў назад наўрад ці мог ён меркаваць, што

прыйдзе сюды ледзь ці не вызваліцелем. Колькі тут сяброў і знаёмых, і нават родных людзей! Горад па сутнасці здаўся без бою: камендант лідскага гарнізона Юльян Міхалоўскі быў перакананы, што ідзе вызваленне з-пад прыгнёту… Пераканаў у тым і сваіх падначаленых: тыя склалі зброю (праўда, неўзабаве многія з іх забралі яе і пайшлі за Хлапоўскім), чым, несумненна, прывіталі мэты і намеры паўстанцаў.

З чэрвеня таго ж 1831-га Дамейка вярнуўся ў Заполле. Быў строгім, стрыманым, сур'ёзным і нават суровым… Са слугамі і блізкімі людзьмі вырашыў гаспадарчыя справы… Не пакрыўдзіў нікога, з кожным пагаварыў, параіўся. Нібы адчуваў, што сюды, на малую, але такую дарагую і незаменную Бацькаўшчыну, ён вернецца так няскора!

На гарышчы маёнтка, а што-кольвечы і ў склепах, ён схаваў ці проста ўпарадкаваў сваю багатую, хоць і вельмі ўжо спецыфічную па тэматыцы, бібліятэку і сякія-такія дарагія сэрцу рэліквіі ды падарункі. Надвячоркам запрасіў у святліцу слуг:

— Будзем развітвацца, — як заўсёды проста і душэўна сказаў ім Ігнат. — Я не ведаю, чым і як аддзячыць вам за вернасць і дапамогу мне… Вы ахвяравалі сваімі лёсамі, жыццямі — дзеля мяне. Меў бы я грошы — я аддзячыў бы вам, іх жа ў мяне — і вы гэта ведаеце — няма… Думаю, вы здагадваецеся, куды іду я зараз. Не крыўдуйце — прашу яшчэ раз! Цяпер жа вы — вольныя…

Колькі іх, верных слуг, было ў Дамейкі ў Заполлі, сказаць цяжка. Вядома ж, няшмат. Несумненна: усе яны былі адданымі і да канца сумленнымі, аднак найбольш праведнымі аказаліся двое — Лукаш і Рыгор.

— Мы будзем з табой да канца, гаспадар, — сказалі яны, застаўшыся з Ігнатам сам-насам. — Што табе, тое й нам…

Па шчацэ Дамейкі — чаго ніхто ніколі не бачыў — пакацілася няпрошаная сляза.

— Добра, хлопцы! — толькі і сказаў ён. — Мы пойдзем разам, на вайну…

І яны пайшлі: Ігнат, Лукаш і Рыгор.

Праз два дні вайскоўцы Хлапоўскага «здымаюцца» з Ліды і бяруць накірунак на Вільню. У шэрагі змагароў уліваюцца ўсё новыя і новыя добраахвотнікі. З іх фарміруюцца падраздзяленні, нават цэлыя пяхотныя палкі. У адным з іх Дамейку прызначаюць ад'ютантам камандзіра, распараджэннем генерала Хлапоўскага яму прысвойваюць афіцэрскае званне.

…Адчайна, часам проста фанатычна змагаліся ўдзельнікі паўстання 1830—1831 гадоў. Але сілы былі няроўныя, ды і гатоўнасць — непараўнальная. Паўстанне не падтрымалі прыгонныя сяляне — пераважная большасць насельніцтва Польшчы, Беларусі і Літвы, і яно, натуральна ж, было задушана.

У адзін з восеньскіх дзён 1831-га Ігнат яшчэ раз пагаварыў па душах са сваімі слугамі. Растлумачыў ім: той, хто пакаецца, паводле царскага ўказа, пакараны не будзе… Узважыўшы ўсе «за» і «супраць», разам яны і вырашылі: Рыгор вяртаецца дадому, а Лукаш застаецца з гаспадаром…

## V

Пад Вільняй, а потым — і пад Шаўляем паўстанцы пацярпелі адчувальныя паражэнні, пры гэтым панеслі вялікія людскія страты. Яшчэ праз некалькі дзён яны перайшлі граніцу Прусіі і вымушаны былі скласці зброю. Адбылося так званае інтэрніраванне…

Паўгода правёў Дамейка ў палоне. Не дбаючы пра сябе, найперш паклапаціўся пра Лукаша: дабіўся і дазволіў яму падпісаць прашэнне аб амністыі і паспрыяў вяртанню на малую радзіму. А сам…

Пруcкія ўлады важдацца з палоннымі не хацелі. Ужо ў студзені 1832-га яны пачалі выдаваць небаракам пашпарты і… адпускаць іх ледзь ці не на ўсе чатыры бакі. Літаральна праз два дні Ігнат накіроўваецца ў Дрэздэн, дзе — о, шчасце! — сустракаецца з Адамам Міцкевічам.

Цяжка меркаваць, пра што гаварылі тады, падчас дрэздэнскай сустрэчы, Міцкевіч і Дамейка. Вядома ж, згадвалі і студэнцкія будні, і наступныя жыццёвыя шляхі-дарогі. Часу, аднак, на развагі ды абмен думкамі не было: трэба было вызначацца… Былі два варыянты: альбо прашэнне аб амністыі, альбо — будзь ласкавы! — пакідай Дрэздэн.

Адам Міцкевіч падаў ідэю першым:

— Едзьма!

«Куды», «чаго» — Дамейка не пераўдакладняў. І некалькі старэйшы па ўзросце, і больш мудры Міцкевіч ведаў: куды і чаго…

У сярэдзіне ліпеня 1832 года Адам Міцкевіч і Ігнат Дамейка пакідаюць Нямеччыну, крыху падарожнічаюць па наваколлі і ў першы дзень жніўня з'яўляюцца ў самім Парыжы. Горад гарадоў, самы што ні ёсць цывілізаваны цэнтр Еўропы… Тады тут сабраліся вельмі многія эмігранты — ворагі царызму і расійскага дыктату — як з Польшчы, Літвы, так і з Беларусі. Дамейка ведаў многіх з іх у твар. Але ж каб жыць, дзейнічаць, змагацца — перш за ўсё за сваю годнасць, прызнанне і прызначэнне — патрэбны былі сродкі: грошы — і немалыя…

Дзядзька Ігнат іх даваў: хоць і не без меры, але ж дастаткова. Яму, багатаму на жыццёвы вопыт і практычныя справы чалавеку, удавалася адчуваць патрэбы пляменніка. Ён раіць Ігнату звярнуцца да ўрада з просьбай аб амністыі, але той — разважлівы і мудры, а разам з тым — горды і непакорлівы — адмаўляецца. Бо разумее лепш, чым дзядзька: краты і толькі краты чакалі яго на Бацькаўшчыне.

Дык што ж заставалася рабіць? Куды падацца? Як жыць увогуле?..

## VI

У французскай сталіцы, якая ўжо тады грымела сваімі навуковымі і педагагічнымі поспехамі на кантыненце, Ігнат Дамейка час дарэмна не марнаваў. Ужо сталы чалавек, ён нарэшце вызначыўся ў практычным жыцці… У Сарбонскім універсітэце, Каледжы дэ Франс, тамтэйшым батанічным садзе — адным з лепшых і багацейшых у Еўропе, ён паглыбляе свае веды па фізіцы і хіміі, матэматыцы і батаніцы, геалогіі і мінералогіі — якраз тых навуках, да якіх меў не толькі схільнасці і прыязнасць, але і вялікую цікавасць і захапленне. Але мала і гэтага яму, Ігнату Іпалітавічу: у жніўні 1834-га ён паступае ў Горную школу ў Парыжы, і менш чым праз тры гады атрымлівае на рукі дыплом інжынера горнай справы.

Прыкласці веды, талент і сілы ў французскай сталіцы яму не выпала. І не таму што не ставала ведаў: проста Парыж быў запоўнены «іншымі» кадрамі і меў іншыя запатрабаванні. Стаўшы на шлях геолага і мінералога, Дамейка хацеў не тое што самастойнай працы, а большага — рамантыкі пошуку, адкрыццяў, нечаканасцей… Да таго часу зрабіў ён тры карты — гідраграфічную, геалагічную і ландшафтна-гаспадарчую — прыроды Польшчы, знайшоў жалезную руду ў самім Эльзасе…

Пра яго ўжо ведалі і чулі, за ім пільна назіралі: што ж гэта за асоба, што за фанат? Напрыканцы 1837-га нейкія зусім невядомыя людзі прапанавалі Дамейку пасаду прафесара хіміі і мінералогіі ў Горнай школе ажно… ў Чылі, на Амерыканскім кантыненце.

Яшчэ там, у Парыжы, Ігнат Іпалітавіч спачатку грунтоўна знаёміцца, а потым і падпісвае рабочы кантракт. Умова нумар адзін: на працягу шасці гадоў стварыць хімічную лабараторыю і падрыхтаваць спецыялістаў па хіміі ў чылійскім горадзе Какімба. Нарэшце наш зямляк атрымлівае доступ да справы, пра якую не тое што марыў, а якой жыў. Шукальнік свайго месца ў жыцці, можа, у пэўнай меры і летуценнік, аднак жа таленавіты, Богам надзелены адкрывальнік тайнаў матухны-Зямлі, Дамейка нарэшце займеў магчымасць праверыць сябе на практыцы.

У студзені 1838 года разам з паўнамоцным прадстаўніком таямнічай, зусім невядомай краіны Чылі, гаспадаром радовішчаў Карлам Ламберта Ігнат Дамейка выправіўся ў падарожжа на другі канец свету — у Амерыку.

На шэсць гадоў. Усяго толькі на шэсць! Толькі наўрад ці меркаваў і сам вучоны і даследчык, і ягоныя сябры, блізкія і родзічы, што там, у невядомасці, знойдзе ён сваё прызванне, аддасць усе свае сілы, талент, веды з аднаго боку — незнаёмай краіне, а з другога — патрэбнай не толькі ёй, а і ўсяму чалавецтву Справе. І не проста знойдзе — будзе рабіць гэту Справу ўласнымі рукамі, розумам і душой на працягу ажно сарака шасці гадоў!

## VII

У трыццатыя гады XIX стагоддзя маладая чылійская дзяржава, змардаваная працяглымі войнамі і ўзброенымі канфліктамі з індзейцамі і са знешнімі агрэсарамі, змагла «знайсці» магчымасць выявіць, устанавіць кантакты, запрасіць да сябе спецыялістаў не тое што з суседніх ці з кантынентальных краін, а з далёкага замежжа для плённай працы ў галіне мінералогіі — пошуку ўласных радовішчаў карысных выкапняў. Першым сярод тых, хто не толькі адгукнуўся на настойлівую просьбу кіраўніцтва Чылійскай Рэспублікі, але і неадкладна пагадзіўся выехаць, што называецца, на месца, быў ён — Ігнат Іпалітавіч Дамейка.

Тры месяцы спатрэбіліся Ігнату, каб спаўна авалодаць іспанскай мовай. Гэта акалічнасць плюс 30 кантэйнераў абсталявання і кніг, прывезеных ім з сабою, неўзабаве і пачалі «працаваць» на чылійскі дабрабыт. Пад хімічную лабараторыю і сховішча для мінералагічнай калекцыі адразу ж пабудавалі спецыяльнае памяшканне… Пайшоў, што называецца, навучальны працэс, археалагічныя экспедыцыі, раскопкі, практычнае замацаванне набытых ведаў. Калі ж 24 студзеня 1840 года Дамейка і ягоныя новыя вучні прадэманстравалі шматлікім наведвальнікам глыбокія і дасканалыя веды адносна прыроды руд і мінералаў, ягоны аўтарытэт узняўся — без перабольшання — на новую вышыню.

Няма, на вялікі жаль, сведчанняў — дзённікаў ці хоць бы якіх-небудзь дакументаў аб тым, як жыў і працаваў наш зямляк. Бясспрэчна вядома адно — ці не самае галоўнае: там, у Чылі, ён быў Аўтарытэтам з вялікай літары. Яму стварылі проста унікальную магчымасць быць там, дзе толькі пажадае: на шахтах і рудніках, плавільных заводах і ў сакрэтных лабараторыях… Былі і іншыя, звышсакрэтныя аб’екты: наш чалавек працаваў на карысць (дзякуй богу!) зусім не варожай нам дзяржавы. Так што давер і павага да Ігната Дамейкі на Амерыканскім кантыненце былі поўныя і абсалютна непадазроныя.

Ну а тое, што зрабіў ён падчас правядзення шматлікіх геалагічных экспедыцый у Чылі, можна (і трэба!) назваць адным словам — фантастыка. Няпроста, зусім немагчыма вызначыць, якія з ягоных адкрыццяў для гэтай краіны больш важныя: залежы невядомага да таго часу навуцы альгамату серабра, што атрымаў назву «аркерыт», ці радовішчы серабра ў Чаньяркільё; медныя радовішчы ў Дэ ла Кампанья на поўнач і поўдзень ад Кап’япа ці радовішчы золата ў Каўкенас; а можа, выяўленне сапраўднага сховішча чылійскай салетры, якая стала потым славутай ва ўсім свеце… Згаданы вышэй аркерыт Ігнат Іпалітавіч прапанаваў злучыць з некаторымі іншымі элементамі, у выніку чаго быў адкрыты новы мінерал, якому па прапанове аўстрыйскага геолага Хайдзінгера далі неўзабаве імя «дамейкіт»…

## VIII

Напрыканцы 1846 года Дамейка атрымлівае дазвол на звальненне са службы: усё без выключэння, абумоўленае ў кантракце, і нават многае звыш таго, было зроблена і выканана. Але ўлады Чылі выдатна разумелі, каго яны губляюць… Ігнату Іпалітавічу прапаноўваюць узначаліць кафедру мінералогіі і фізікі універсітэта ў Сант’яга, просяць паспрыяць правядзенню рэфармавання ўсёй сістэмы адукацыі ў краіне. Наш зямляк згаджаецца. Неўзабаве ён ужо член вучонага Савета універсітэта, а ў 1848-м парламент паводле прапановы ўрада надае яму чылійскае грамадзянства. Калі ж Дамейка пазнаёміўся і назаўсёды звязаў свой лёс з 15-гадовай чылійскай прыгажуняй Энрыкет Сатамаёр Гузман, стала віда-

вочна, што з гэтай экзатычнай краінай ён родніцца назаўсёды. Неўзабаве ў іх адзін за другім пайшлі дзеці: дачка Ганна, сыны Генрых, Гернан, Казімір.

І ўлады, і сам чылійскі народ ні на момант не забывалі пра вынікі і патрэбнасць спраў і набыткаў Ігната на іхнюю карысць і славу. У 1868-м яго выбіраюць рэктарам універсітэта ў Сант'яга. Ажно тры тэрміны — да 1884 года — будзе ён шчыра і праведна несці гэты крыж. Побач з вялікімі па аб'ёме адміністрацыйнымі нагрузкамі і клопатамі Ігнат Іпалітавіч па-ранейшаму застаецца верным фізіцы і мінералогіі: спрыяе выяўленню новых радовішчаў, сам, хаця і радзей, ненадоўга, выязджае на месцы па ўсёй краіне, непасрэдна вырашаючы пытанні і праблемы…

Толькі ў 82-гадовым узросце атрымаў ён нарэшце доўгачаканы спакой. Хаця і адносны… Засумаваў, вядома ж, па радзіме, па родных навагрудскіх прасторах. І… пачаў збірацца ў дарогу.

Найперш Дамейка разабраўся са сваёй багатай навуковай і практычнай спадчынай. Упарадкаваў бібліяграфію кніг, дапаможнікаў, брашур, артыкулаў: разам іх набралася каля 400 адзінак і назваў. Адно трохтомнае даследаванне «Мінералогія, альбо Апісанне асноўных мінералаў Чылі, Балівіі, Перу і Аргенцінскіх правінцый» чаго было вартае! Непаўторныя і па колькасці, і па вартасці мінералагічную і геалагічную калекцыі ахвяраваў, вядома ж, стаўшаму родным універсітэту ў сталіцы Чылі.

…Першымі прыпынкамі Ігната Іпалітавіча пасля прыезду на еўрапейскі кантынент сталі Бардо і Парыж, потым — Кракаў і Варшава… У кожным з гэтых гарадоў яго віталі сотні людзей: шчыра, па заслугах. Шэрагу універсітэтаў Еўропы ён падарыў калекцыі мінералаў, у некаторых, як, напрыклад, у Кракаўскім, сам атрымаў ганаровыя званні, доктарскія ступені і мантыі.

А ў пачатку жніўня 1884-га цягнік са славутым беларусам прыбыў на станцыю Гарадзея. Залацістыя палеткі жыта і пшаніцы, зялёныя лугі і сенажаці, родная рачулка Уша і лес да глыбіні душы кранулі Дамейку. «На ўсё гэта глядзеў і Міцкевіч, калі пісаў «Пана Тадэвуша», — адзначыць ён у сваім дзённіку. — Амаль плачучы выйшлі мы з павозкі…»

Некалькі месяцаў ён пажыў у Жыбуртоўшчыне ў дачкі Ганны, якая яшчэ задоўга да таго пераехала з Чылі ў Беларусь на пастаяннае месца жыхарства. З'ездзіў у Вільню і Навагрудак, пазней — у Італію і зноў у Францыю, нават на Блізкі Усход. Падарожніку і летуценніку па характары, Ігнату Іпалітавічу ўсюды карцела пабываць, пабачыць усё на свае вочы…

У сярэдзіне 1888 года Дамейка ўсё ж надумаў зноў наведаць Чылі. Трэба было паклапаціцца аб будучыні дзяцей, якія адны засталіся на радзіме маці: Энрыкет памерла праз 22 гады пасля вяселля. Паплыў морам: дарога была няблізкай і стамляльнай. Старэчы арганізм, на жаль, не вытрымаў: ужо ў дарозе Ігнат Іпалітавіч цяжка захварэў. Два месяцы пражыў яшчэ ў Сант'яга, і 13 студзеня 1889-га памёр…

Дзень пахавання вялікага «Дон Ігнасіо» ў Чылі афіцыйна аб'явілі жалобным. Каля ягонай труны выступіў тагачасны прэзідэнт краіны, які і абвясціў беларуса Ігната Іпалітавіча Дамейку нацыянальным героем Чылійскай Рэспублікі.

* * *

Ягоныя справы і здзяйсненні не засталіся забытымі — найперш на Амерыканскім кантыненце. Імем нашага земляка названы партовы горад Пуэрта-Дамейка, горны ланцуг Кардыльеры Дамейкі ў Андах, горная вяршыня Пэрро Дамейка, вуліцы ў гарадах Сант'яга, Вальдзівіі, Ла-Сарэна, радовішча салетры ў пустыні Атакама, адкрыты ім мінерал (дамейкіт) і нават фіялка (віёла дамейкіяна)… У доме, у якім ён жыў, працуе музей, там жа, у Сант'яга, пастаўлены помнік «Грандэ Эдукатору» (Вялікаму Асветніку)… У самым пачатку XX стагоддзя паводле распараджэння чылійскага ўрада ўбачылі свет ягоныя працы ў пяці тамах, а рашэннем ЮНЕСКА з нагоды двухсотгадовага юбілею слыннага беларуса быў аб'яўлены Годам Ігната Дамейкі 2002 год.

# БЕЛАРУСКІЯ ПІСЬМЕННІКІ ІВАНУ ШАМЯКІНУ

***Эпісталярная спадчына любога пісьменніка заўсёды заставалася па-за ўвагай чытачоў і даследчыкаў творчасці таго ці іншага мастака слова. А між тым лісты з'яўляюцца цікавым і каштоўным матэрыялам для вывучэння біяграфіі пісьменніка, псіхалогіі яго творчасці, крыніцай звестак пра ўзнікненне творчых задум і працэс падрыхтоўкі таго ці іншага твора да друку. Перапіска дае магчымасць узнавіць канкрэтныя падзеі літаратурнага і грамадскага жыцця, творчую атмасферу, у якой жыў і працаваў пэўны мастак слова. Акрамя гэтага, эпісталярый багаты на звесткі пра творчыя інтарэсы пісьменніка, кола яго сувязей і ўзаемаадносін, сямейны побыт, грамадскую дзейнасць і г. д. Эпісталярый ніколі не друкуецца пры жыцці пісьменніка, не становіцца набыткам шырокіх колаў чытачоў. Як правіла, перапіска абнародваецца пасля смерці мастака слова, але не заўсёды бывае надрукаванай поўнасцю. Бо застаюцца яшчэ жывымі тыя, з кім даводзілася сустракацца, сябраваць, перапісвацца. Увазе чытачоў часопіса «Полымя» прапануюцца лісты ад беларускіх пісьменнікаў Івану Пятровічу Шамякіну. Не ўсе яны аднолькавыя па насычанасці фактычным матэрыялам, але дапамагаюць уявіць тое асяроддзе, у якім жылі беларускія пісьменнікі, з кім сябравалі, падтрымлівалі творчыя і грамадскія адносіны. Лісты, якія прапануюцца чытачу, захоўваюцца ў прыватным архіве нашчадкаў Івана Шамякіна.***

## 1

## М. Лынькоў — І. Шамякіну

Тав. Шамякін!

Толькі што прачытаў В<ашы>/апавяданні «Бярозавы сок» і «Жыццё». Што я магу сказаць аб іх? Былі б гэта добрыя рэчы, калі б не адзнака вялікага душэўнага надрыву, якая цяжкім каменем вісіць над кожным радком і, зразумела, робіць на чытача зусім іншы ўплыў, чымся б гэта хацелася. Аднак, скажам асобна аб кожным апавяданні.

«Бярозавы сок» напісаны «вне времени и пространства». Мы не адчуваем у ім подыху часу. Пад апавяданнем можна паставіць любую дату з любога стагоддзя. Што гэта за чалавек, з якой ён арміі, з кім ён ваяваў і калі ваяваў — аб гэтым мы не ведаем. Вы бярэце абстрагіраванае ад абставін, ад часу асобнае перажыванне чалавека і на гэтым будуеце апавяданне. Дарэчы, што гэта за армія, у якой байцу перад боем даюць толькі тры патроны?

Цяпер аб другім апавяданні «Жыццё». Я вот прачытаў апавяданне і стаўлю сабе запытанне: за што ж агітуе аўтар, як ён уплывае на чытача, як ён мабілізуе свайго чытача як патрыёта сваёй радзімы. На працягу добрых дзесяткаў старонак аўтар падрабязна апісвае — нядрэнна апісвае — асноўнае пачуццё чалавека:

страшна быць калекай… Ці можна аб гэтым пісаць? Канешне, можна, як можна пісаць аб любым пытанні, аб любой праблеме. Але тут паўстае пытанне: як пісаць? Любы матэрыял аўтар павінен так падаваць, каб ён служыў сцвярджэнню нашай рэчаіснасці, нашай справы, сцвярджэнню вялікай і непаўторнай радасці жыцця. Вы ж робіце акцэнты не там, дзе трэба. У выніку атрымліваюцца ўпадніцкія творы, якія размагнічваюць чытача, якія ў паасобных, у лепшых, так сказаць, выпадках, хочуць давесці чытачу, што ўсё на свеце «суета сует и всяческая суета». Мы не можам браць якую-небудзь з'яву, факт, перажыванне ізаліравана ад рэчаіснасці, ад часу, ад абставін — гэта адносна «Бярозавага соку». Пісьменнік павінен умець адбіраць матэрыял, павінен умець пісаць праўду, быць аб'ектыўным — гэта адносна «Жыцця». Ці праўда тое, аб чым Вы пішаце ў «Жыцці». Кожны з нас скажа, што, канешне, праўда, такія факты былі, здараліся, яны непазбежны. Але ж пісьменнік кожную з'яву падвяргае мастацкаму абагульненню, ператварае яе ў тыповую з'яву. Ці можам жа мы назваць тыповымі для нашага грамадства тыя ўпадніцкія настроі, тыя ноткі беспрасветнага песімізма, якімі прасякнута ваша «Жыццё»? Канешне, не. І хаця ў Вас на апошніх старонках робіцца спроба супроцьставіць упадніцтву, песімізму ноткі радасці, імкнення да жыцця, якія з'явіліся ў героя ў выніку новых сустрэч — усё гэта, аднак, не выратоўвае становішча, твор застаецца змрочным, упадніцкім.

Тут да мейсца сказаць некалькі слоў аб нашым аб'ектывізме. Не ўсякі аб'ектывізм з'яўляецца нашым, бальшавіцкім аб'ектывізмам. Савецкі пісьменнік павінен умець адбіраць матэрыял, павінен умець браць для сваіх твораў такія тэмы, якія і карысны для нашага грамадства, якія цікавы і актуальны для нашага грамадства, якія адпавядаюць задачам камуністычнага выхавання грамадства, якія патрэбны для яго ў першую чаргу. Нашаму пісьменніку павінна быць арганічна ўласціва нават адмоўны матэрыял скарыстоўваць для сцверджання нашай рэчаіснасці, нашага жыцця, нашых задач.

Я вот некалі чытаў В<аша>/апавяданне «Парастак». І я задаваў сабе пытанне: ці патрэбны нашаму чытачу скрупулёзна выпісаныя перажыванні ворагаў, усе адценні, усе нюансы іх настрояў, іх псіхічных перажыванняў. Гэта нам непатрэбна. Відаць, што мы, пісьменнікі, лепш зрабілі б, каб з такой жа дакладнасцю выпісалі ўнутраны духоўны мір нашых станоўчых герояў. А мы корпаемся ў душы нашых ворагаў, а нашых людзей паказваем часам сухімі схемамі.

Навошта нам гэта?

Вось асноўныя мае заўвагі па В<ашых>/апавяданнях. Вывады. Аўтару трэба ўважліва перагледзець свае ідэйна-творчыя пазіцыі. Пісаць Вы можаце, слова ў вас добра адшліфавана. Ёсць у Вас здольнасць назірання, ёсць веданне чалавечай псіхікі і ўменне перадаць тонкія адценні гэтай псіхікі. «Бярозавы сок» з фармальнага боку добра выпісаная навела. Але мы ніколі не павінны дапускаць разрыва формы і зместу, тым болей не дапускаць прымата формы над зместам. І галоўнае: мы павінны быць бальшавіцкі аб'ектыўнымі пры паказе нашага жыцця, пісаць аб тым, што будзе карысным і актуальным для нашага савецкага народа.

Чакаю В<ашага> /адказу на гэты ліст, новых твораў. Шчыра жадаю Вам добрых поспехаў у літаратуры.

З таварыскім прывітаннем — Міхась Лынькоў

14/X—1940 г.

*У 1940 годзе Іван Шамякін даслаў у часопіс «Полымя рэвалюцыі» два апавяданні: «Бярозавы сок» і «Жыццё». Апавяданні не былі надрукаваны, але маладому пачынаючаму пісьменніку прыйшоў адказ ад Міхася Лынькова. Гэты ліст славутага пісьменніка Іван Шамякін захоўваў усё жыццё. Зараз ён знаходзіцца ў прыватным архіве нашчадкаў Івана Шамякіна. Гісторыя атрымання Іванам*

*Шамякіным ліста ад Міхася Лынькова пададзена ў артыкуле Алесі Шамякінай «Калі рукапісы згараюць...», апублікаваным у газеце «Літаратура і мастацтва» 17 красавіка 2009 года .*

## 2

## Ул. Караткевіч — І. Шамякіну

21 красавіка 58

Дарагі Іван Пятровіч!

Вітаю Вас і ўсіх дамачадцаў са святам, жадаю правесці яго добра і весела, у кампаніі людзей, якіх любіце і якія любяць Вас.

Ну і каб на будучае таксама ўсё было добра і былі творчыя і іншыя поспехі.

Хачу ў вас спытаць: ці вырашалася на пленуме пытанне адносна вышэйшых літаратурных курсаў? І калі вырашалася, то які рэзультат?

Вельмі хацелася б трапіць туды: зусім няма магчымасці працаваць са школаю.

Зараз рыхтую да 1 мая тры газеты (літаратурную, школьную і свайго класа), рыхтую вечар Астроўскага, выступленне на канферэнцыі па трылогіі Коласа. Словам, зусім няма часу пісаць. За гэты час апрацаваў толькі паэму, з якой прыязжаў тады ў Мінск. Заўтра дашлю яе Вялюгіну. Паглядзім, што будзе з яе.

Хочацца сядзець у бібліятэках, хадзіць па музеях, капацца ў архівах і не думаць, ці ўплываў Дзікенс на Талстога, ці наадварот, Талстой на Галсуорсі. Абрыдла!

І яшчэ вось што. Вы збіраліся, здаецца, пад'ехаць да мяне з кампаніяй таварышоў.

Калі так, то зараз самы час (пад свята, скажам). Столькі рыбы бяруць накідкамі. Пад'едзем да сваякоў у Рагачоў, а там маторны човен і сеці. Будзе рыба і пад рыбу, хоць я зараз, пасля таго прачухана, і не вельмі рашучы на такія справы.

Ну, вось і ўсё. Бывайце.

Ул. Караткевіч

*Ліст напісаны, калі Ул. Караткевіч працаваў настаўнікам у Оршы. Пытанне пра вышэйшыя літаратурныя курсы для пісьменніка вырашылася станоўча: ён скончыў іх у 1960 годзе.*

## 3

## І. Мележ — І. Шамякіну

Дарагі Іван!

Ты дарэмна думаеш, што мяне вельмі ўсхвалявала тое, што няма — заўвагі — у рашэнні аб прэміях. Дзіўна, можа, але я чакаў гэтага. Як, дарэчы, не чакаў нічога вартага з усяго гэтага прадстаўлення.

Ні на хвіліну не строіў я ілюзій у адносінах прэміі. Не строю і цяпер. З двух варыянтаў — або Ганчар, або Гранін — я знаю, мяне чакаць мог толькі Гранінскі, — нават калі дойдзе да спіска. Таму — адпаведная рэакцыя.

Канешне, Камітэт зрабіў не па-джэнтльменску, але што — калі на тое — з гэтага джэнтльменства?

Ведаеш, з якім пачуццём я прачытаў рашэнне ў газетах. Якая ж яна бедная, наша літарат.<турная> гаспадарка! От што было — галоўным. І варта было дзеля гэтага рабіць гэты трохмесячны карнавал, з фанфарамі і барабанамі? І заклікаць — рабіць яшчэ большы на наступны год? І грымець пра поспехі — цяпер нам — не столькі работнікаў, які прадстаўляюць такі народ, столькі народаў! І ведаю, што гэта думалі многія!

І асабліва, калі бачыш пераможцам якога-небудзь Дронава, з якім могуць поруч смела стаць дзесятак не горшых і не лепшых другіх! Нейкая адвольнасць выбара — от што ўражвае найбольш!

Таму я цвяроза гляджу: нашто псаваць сабе жыццё, здароўе пустымі ілюзіямі. І трымаюся гэтага — «стаю і стаяць буду»! Жадаю табе ўдачы! Яшчэ думаю, наколькі больш разумна рабілася з прэміяй раней — з Дзяржаўнымі. Цяпер гэтыя — больш падрываюць пашану да нашага брата, чым памагаюць. От, што — важнае. І сумнае, на жаль.

Адмяніць бы лепш іх наогул. І карысці больш было б для літаратуры, і — эканомія грошай! Як гэта ніхто не дасць такую талковую прапазіцыю!

Я працую мала. То хварэў некалькі разоў, а цяпер зноў — недасыпанне. У 5-6 гадз.<ін> ужо на нагах трэба быць. І ноччу сон неглыбокі — сон не сон, дрымота нейкая. Так што зрабіў мала, хоць тое-сёе — зрабіў. І даволі новае, і важнае.

Пагода тут цудоўная цяпер. Ні хмурынкі. Цяплынь. Але мы ўжо ўспамінаем дачу, бярозкі, сосны нашы.

Выедзем чысла 20 (мая). Так што — да сустрэчы! Прывітанне Машы, Алесі — усім!

З маем Вас!

Іван

*Ліст без даты, датуецца канцом красавіка 1964 года па змесце ліста: «Выедзем чысла 20 (мая). ~ З маем Вас!» і па паштовым штэмпелі на канверце.*

**4**

## Янка Скрыган — І. Шамякіну

11.3.76

Дарагі Іване!

Каторая пара як спрабую звязацца з табою, але, пры адсутнасці тэлефона дома ў мяне, гэта вельмі цяжкая штука. Зранку, па службовым, не хочацца званіць, бо зранку пісьменнікі звычайна працуюць і іх адрываць проста грэшна. А ўвечары трэба бегаць шукаць спраўнага аўтамата, а гэта не заўсёды лёгка.

Ну але ўступ такі і непатрэбен. Проста я пад вялікім уражаннем ад «Гандляркі і паэта». Цудоўна, удумліва, псіхалагічна, эканомліва і паэтычна напісаная рэч. І сацыяльна, і псіхалагічна даказаная. І вельмі свежая і праўдзівая па тоне: гандлярка і паэт. Лепш кажучы, самы просты народ, гераізм самога народа. А колькі танюткіх нюансаў, каб Вольцы прыйсці да такога пераканання — да барацьбы, да гневу.

Здзівіў трохі канец: як бы абарваны, як бы заскоры. Але пасля і ў гэтым я з табою згодзен і па крайняй меры гэтым Вольчын вобраз пакрывае і апраўдвае ўсё: ён астаецца ў памяці вельмі выразна, яе ўчынак — высіцца як помнік.

Жонка можа з тыдзень хадзіла з вобразам Волькі: не-не, кажа, дый успомніцца.

Што да мяне, дык я лічу гэтую аповесць адной з лепшых у цябе. Можа самаю лепшаю. Самаю яркаю сярод літаратуры пра мінскае падполле.

А які тып камароўскай гандляркі — бальзакаўская магутнасць!

Вось жа пра гэта ўвесь час і хацеў табе сказаць. На маю думку, дык гэта — шэдэўр.

Ну і дзякую. Цісну руку.

Прывітанне твайму памочніку — М.<арыі> Філатаўне.

Ян Скрыган

*Ліст напісаны пад уражаннем ад аповесці «Гандлярка і паэт» Івана Шамякіна. Аповесць была прачытана Янкам Скрыганом адразу пасля апублікавання яе ў часопісе «Полымя», 1976, № 1, 2.*

## 5

## В. Быкаў — І. Шамякіну

Дарагі Іван Пятровіч!

Перш за ўсё хачу падзякаваць Вам за аслабаненне мяне ад салдатчыны вясной гэтага года, за добры водгук аб маёй аповесці, а таксама за выказаную Дзяржвыдату згоду надрукаваць яе ў «Раман-газеце». Аб чым мне нядаўна стала вядома. Калі аповесць такім чынам выйшла на ўсесаюзную арэну, я ўпершыню стаў усведамляць, як гэта шмат значыць.

Цяпер галоўнае, з чым я звяртаюся да Вас. На жаль, гэта ўсё тое ж, Іван Пятровіч. Здаецца, мы вясной склалі пісьмо не таму чалавеку, які мог бы вырашыць гэтае пытанне з кватэрай. Нядаўна ў горадзе здаваўся новы вялізны дом, збудаваны цалкам на сродкі гарадскога савета, але нам з Карпюком там месца не знайшлося. А гэта каля паўтары сотні кватэр. Цяпер заканчваецца будаўніцтва наступнага, але, мне здаецца, зноў будзе ранейшае, бо адносіны да нашага брата тут далёка не тыя, што хацелася б.

Таму я вельмі прасіў бы, каб Вы ахвяравалі крыху часу і склалі невялічкае пісьмо на гэты раз самому Міцкевічу, бо без яго тут ніхто ў маю карысць нічога не вырашыць. Мая суседка — сціплая суседка, яна ўжо згодна перабрацца хоць бы ў стары дом абы толькі ў сваю кватэру. Ды і мне ўжо надакучыла кожны дзень хадзіць па бібліятэках і шукаць дзе ціхі куток, каб што-колечы напісаць. Вельмі хочацца спадзявацца, што Міцкевіч яшчэ не вельмі заскаруз у свае высокае ўладзе і што-небудзь скамандуе. А ў даным выпадку галоўнае — гэта каманда.

Дык калі ласка зрабіце гэта, Іван Пятровіч.

З сардэчнай павагаю і ўдзячнасцю В. Быкаў

2 кастрычніка 1960
г. Гродна

## 6

## В. Быкаў — І. Шамякіну

Паважаны Іван Пятровіч!

Толькі што — хвіліну назад — скончыў чытаць Ваш «Мост», і, як гэта ў такіх выпадках бывае, перажываю «верхал» пачуццяў, падрабязна выразіць якія не хапае слоў. Але агульны сэнс іх — захапленне і ўдзячнасць — тое, што выклікае сустрэча з сапраўдным творам мастацтва, створаным Майстрам і Праўдай.

Вы — малайчына наогул, але ў гэтай аповесці асабліва заслугоўваце самай высокай пахвалы, бо Ваш «Мост» — увасабленне самае высокай, самай бязлітаснай праўды пра вельмі недалёкі час, пра які дагэтуль было напісана шмат хлусні і так мала ісціннага. Я чытаў з захапленнем, як шчырую споведзь, у якой верыш кожнаму слову, калі дарэшты раскрываецца добрая, сумленная, вельмі чалавечая душа аўтара, якому выпала ой як нялёгка ў жыцці. Яшчэ вясной будучы ў Мінску мне давялося чуць ад хлопцаў шмат добрых слоў аб гэтым творы, але, прызнацца, я не чакаў такога ад яго… і цяпер я вельмі рады, што Вы, таленавіты мастак слова і чалавек майго пакалення, так бязлітасна хораша ідзяце ў рэчышчы бес-

кампраміснае праўды. Вядома, шмат цудоўнага было і ў ранейшых Вашых творах (і ў «Сэрцы» («Сэрца на далоні». — **А. Ш.**) і ў «Трывожным шчасці», у якім мне асабліва падабаецца першая аповесць і «Агонь і снег»), але мне здаецца «Мост» у пэўным сэнсе вышыня, на якую Вы яшчэ не ўзнімаліся. Тут у Вас няма папярэднікаў (прынамсі ў бел.<арускай> л-ры), тут Вы — першаадкрывальнік, даследчык і такі прываблівы лірык адначасна. Я спадзяюся, што крытыка скажа сваё слова пра гэты твор, магчыма будуць спрэчкі, будуць нядобразычліўцы, але гэта тое, што навек застанецца ў Вашым актыве і ў скарбніцы беларускай літаратуры, бо гэтая аповесць — праўда аб жыцці народа. Адзіны эпізод, які выклікае пратэст, адносіцца да развязкі сцэны з арыштам героя (стар. 80), тут Вы сфальшывілі, гэта ўжо мадэрнізацыя гісторыі. Булатавы таго часу не баяліся такіх сакратароў райкомаў, яны самі іх выдатна саджалі і сакратары перад імі бялелі і не дыхалі, дзе ўжо так ім было ўмешвацца ў справы органаў. Але гэта толькі адна старонка, а іншыя — сама ісціна. І дай Вам Бог здароўя на гэткае і надалей. І дзякуй вялікае Вам за Ваш талент і за магчымасць пазнаць самае прыгожае — праўду.

З вялікай павагай Васіль Быкаў

Чытач

9/VIII — 65 г.

*У лісце Васіль Быкаў выступіў не як пісьменнік, а як чытач. Даецца станоўчая ацэнка аповесці «Мост», якая ўвайшла пятай часткай у пенталогію «Трывожнае шчасце».*

***Уступны артыкул, падрыхтоўка тэкстаў і каментарый Алесі Шамякінай.***

**Уладзімір ЛЯКІН**

# ГОРАД МАЙГО ДЗЯЦІНСТВА

Якім жа яркім і светлым быў той дзень — 1-га верасня 1960 года! З тае пары прайшло ўжо амаль паўстагоддзя, але ж я выразна памятаю, як раніцай уся сям'я выйшла проводзіць мяне, ужо другакласніка, на ганак нашай «фінскай» шыферна-драўлянай хаткі (чамусьці так яе называлі), што стаяла ў чарадзе з ёй аднолькавых, — у канцы вуліцы Бялова райцэнтра Калінкавічы.

Я выглядаю вельмі паважна: у новых, знарок купленых для школы штанах і чаравіках, у прыгожай футболцы, што змайстравала на швейнай машынцы з нечага «дарослага» матуля, і, галоўнае, — за плячыма ў мяне з падручнікамі не якісьці там няшчасны брызентавы партфельчык на аборках, а самая сапраўдная афіцэрская сумка-планшэт на скураным рамяні.

Напярэдадні, калі мы з маці былі на «новым» рынку, што знаходзіўся на Жыткавіцкім тракце, я і ўгледзеў гэтую сумку ў гандлёвым радзе, дзе прадавалі паношаныя рэчы, керагазы, прымусы і іншыя нехарчовыя тавары. Шапнуў маці, што сумка мне дужа спадабалася і вельмі хацеў бы мець яе для школы.

— Колькі, шаноўная, гэтая паношаная рэч у вас каштуе.

Гандлярка, дзябёлая цётка, апранутая «на расейскі манер», відавочна, з нашага ваеннага гарадка, агледзела нас з ног да галавы, хмыкнула:

— Сама ты, добрая жанчына, паношаная. А гэтая афіцэрская прылада была пры добрым лейтэнанце, мо і ў баях удзельнічала. А ты — «паношаная»…

— Дык колькі, кажы.

Маці была ўжо настроена рашуча, дабівалася адказу.

— Ну, для цябе дык я скіну, за палавіну кошту аддам…

І запатрабавала за сумку несусветную цану, што маці аж войкнула ад нечаканасці.

— Можа, твой сын афіцэрам стане, дык спатрэбіцца, — усміхалася цётка, няйначай, здзекавалася.

Маці моўчкі пацягнула мяне за руку далей ад гэтай цёткі, мусіць жа, у яе кашальку вецер гуляў.

Але ж я натапырыўся, ледзь не заплакаў ад крыўды, што маці не хоча мяне зразумець. Упрошваў я яе, канючыў, але маці была няўмольнай, толькі прамовіла:

— Можа, яшчэ ў іншых знойдзем такую ж, і танней…

Але мы абышлі ўсе астатнія гандлёвыя рады, прыглядаліся пільна да таго, што прапаноўвалі гандляркі, ды, на вялікі жаль, не траплялася таго, што мне хацелася.

— Ну, што з табой, сын, зробіш… — уздыхнула маці, пералічыўшы ў кашальку рублі. — Пайшлі, мо ўгаворым тую цётку трохі скінуць цану, у мяне не хапае…

Спачатку цётка не згаджалася, ні на капейку не скідвала. Але калі маці раскрыла перад ёй кашалёк і паказала ўсе свае грошы, тая злітавалася:

— Што з вамі зробіш, бярыце.

Узяўшы грошы, жанчына падала мне сумку, прамовіла:

— Ой, станеш ты чырвоным камандзірам, чуе мая душа!

Сумка была светла-карычневая, амаль новая, з рознымі аддзяленнямі і кішэнькамі, у адной з якіх я нават знайшоў напалову сцёртую гумку.

Душа мая спявала і радавалася, і я не чуў пад сабою ног. Мне так хацелася тут жа пахваліцца перад сваімі сябрамі дарагім набыткам.

Падумаць толькі, можа зусім нядаўна яе насіў які-небудзь бравы лейтэнант ці капітан, а мо і той самы палкоўнік з Зоркай Героя, што прыходзіў у нашу школу! Ды мала хто мог яе насіць! Галоўнае, што цяпер яе буду насіць я — як сапраўдны афіцэр!

Я ў гэты момант быў самым шчаслівым чалавекам на зямлі.

А цяпер, прыціскаючы да грудзей вялікі букет чырвоных вяргіняў, што зрэзала маці ў нашым палісадніку, я велічна крочу па вуліцы, не крочу, а маршырую — як салдат, як камандзір. На павароце азіраюся. Уся сям'я, стоячы на ганку, глядзіць мне ўслед: строгі пахмурны бацька, невысокая стройная маці з маленькім брацікам Алесікам на руках, і другі брат, пяцігадовы Віцька.

Бацька сёння нават затрымаўся з выхадам на працу, каб мяне правесці ў школу. Ён у сваім заўжды нязменным цёмна-шэрым кіцелі без пагонаў, якія насілі ў тыя гады амаль усе працаўнікі дзяржустаноў, былыя франтавікі. Ёсць у бацькі і цывільны касцюм, але ён яго апранае не часта, з якой-небудзь нагоды.

Заўсёды на Дзень Перамогі — 9 Мая — ён дастае з шафы куфэрачак са сваімі медалямі і дазваляе мне з Віцем прымацаваць іх на пінжак. Спачатку мы прышпільваем «За боевые заслуги», потым — «За победу над Германией», а затым яшчэ некалькі іншых.

Пра вайну бацька не вялікі аматар распавядаць. Калі аднойчы я папрасіў яго, каб расказаў, ён нахмурыўся, уздыхнуў:

— Калі-небудзь, сын, як падрасцеш. Расказаць пра вайну — не казачку распавесці…

З маці ён больш гаваркі, але не заўсёды. Тую тэму — ваенную — ён хаваў у сабе ўсё жыццё.

Аднойчы ўначы я прачнуўся ад іх нягучнай размовы.

— Сонца зайшло, цемра апраметная і цішыня, толькі немцы параненыя ў полі крычаць, сваіх клічуць. Дыскі мы ўсе расстралялі… Я і кажу: адыходзіць трэба, Мікалай, пакуль цэлыя... А ён раз'юшыўся, рукамі махае, зусім не пазнаць чалавека… Я разумеў яго. Мікола атрымаў ліст з Ленінграда: сям'я яго пры бамбёжцы загінула — маці, бацька, жонка і дачка маленькая... Кажа злосным голасам: нікуды не пайду, пакуль апошняга гада не прыкончу. Фінку ў зубы і папоўз. Ну, і я за ім... Ён з немца штых-нож здымае і мне праз плячо кідае, быў загад такі — збіраць, мо дзеля ўліку іх страт, хто ведае... Два поўныя рамяні назбіралася, мо штук з сорак...

Маці ўздыхае, маўчыць. Потым напаўголаса гаворыць:

— А да нас у Лясец неяк летам прыехалі немцы, жудасныя, у чорнай форме... Сагналі ўсіх у адно месца. Галоўны праз перакладчыка пытаецца: «Хто камуніст, камсамолец, — падняць руку!» Я і сяброўка мая — Вольга Макшун, што побач стаяла, — былі адзіныя на ўсю вёску камсамолкі. Страшна ад такога загаду стала, але рук не падымаем, маўчым, галовы паапускалі... Перакладчык зноў паўтарае свой загад, і мне здаецца, што ўсе людзі чамусьці на нас пазіраюць... Падумала: «Мусіць выдаць нас немцам хочуць…» Усталявалася гнятлівая цішыня. І тут здарылася нечаканае — стараста вясковы, стары Іванчык, укленчыў перад афіцэрам і кажа: «Яны ж не камсамолкі, яны толькі настаўніцы, калі вы іх забярэце — хто ж будзе вучыць нашых дзяцей? Фашыст кажа: «Добра, праверым, але калі ты кажаш няпраўду, расстраляем і іх, і цябе». І расстралялі б, мусіць, ды пашанцавала: партызаны зрабілі каля Даманавічаў дыверсію, і немцы гэтыя неўзабаве ад нас з'ехалі...

Пасля доўгага маўчання, зноў чуецца голас бацькі:

— Перад самай вайной далі мне ў часці водпуск, дзесяць сутак... Ехаць няма куды, акрамя як да старэйшага брата Фёдара, — ён тады з фінскай вярнуўся, ажаніўся... Пакуль дабраўся з Петразаводска ў свой Крычаўскі раён, пара ўжо і назад на службу, толькі два дні і пагасцяваў. Ад вёскі да станцыі кіламетраў з дзесяць. Брат у калгасе фурманку ўзяў, каб мяне адвезці. І трэба ж — з кіламетр нават

не ад'ехалі, як даганяе нас «палутарка», — іх усяго на раён мо некалькі і было. Ну, падняў руку, каб спынілася. Падумаў, чаго дарэмна каня марыць, на машыне далей паеду. Шафёр прытармазіў, я — за рэчмяшок, заскочыў у кузаў... Ды потым толькі ўспомніў, што з-за спешкі нават не абняўся, не пацалаваўся з братам. Здагадаўся толькі азірнуцца ды памахаць на развітанне рукой…

Маўчанне, напружанае маўчанне, бацька, мусіць, хавае ў сабе боль, не дае выйсці вонкі.

— Не магу, Вольга, сабе ўсё жыццё даравацьь, што зрабіў так… Нейкае зацьменне найшло на мяне. А ўжо як сядзеў у той палутарцы, сябе дакараў, як толькі мог, за такое глупства… Падумаў жа запознена — колькі б мы маглі з братам за тую дарогу, пакуль ехалі да чыгуначнай станцыі, расказаць адно аднаму, паўспамінаць, перагаварыць... Эх, бяда зялёная, жывём заўсёды заднім розумам. Ніколі сабе таго не дарую, што ад брата, роднага брата, уцёк. Я дэмабілізаваўся толькі ў сорак шостым. Прыехаў дадому, а брата няма на свеце...

Потым іх размова робіцца цішэйшай, і пад закалыханне родных галасоў я зноў неўпрыкметку моцна засынаю…

У вялікай зашклёнай рамцы, дзе знаходзяцца фотаздымкі ўсёй нашай радні, ёсць тры фотакарткі маладых прыгожых хлопцаў у будзёнаўках. Гэта бацькавы браты, значыць, мае дзядзькі, — я ж іх ніколі не бачыў.

Аляксей з Янкам загінулі на фронце, Фёдар вярнуўся з вайны спрэс скалечаны, і неўзабаве памёр ад ранаў. Бацьку таксама крамсануў асколак нямецкага снарада: на яго спіне вялікая барвовая «латка» з парванымі краямі.

Ён працуе ў Калінкавіцкім аддзяленні дзяржбанка. З дому выходзіць рана, вяртаецца позна, — з намі, дзецьмі, важдаецца толькі ў выхадныя.

З вялікім нецярпеннем мы з братам чакаем бацькавага вяртання з экзаменацыйных сесій. Бацька вучыцца ў Ленінградзе — завочна ў інстытуце. Акрамя розных прысмакаў, што не знойдзеш у тутэйшых крамах, бацька заўсёды прывозіць кнігі — свае, па эканоміцы, для маці — яе любімых Пушкіна і Міцкевіча, іншую класіку, і нам — розную дзіцячую літаратуру.

Маці таксама вельмі занятая працай. Яна выкладае ў дзвюх калінкавіцкіх школах беларускую мову і літаратуру, але ж зараз, пасля нараджэння майго малодшага брата, у адпачынку.

Схільнасць да збірання цікавых кніг у мяне ад яе. Кніг у нашай хаце багата, імі забіта даверху вялікая драўляная этажэрка. Калі бацькоў няма побач, я з цікавасцю разглядаю «дарослыя» кнігі. Сярод іх ёсць адна без вокладкі, вельмі дзіўная: здаецца, па-расейску надрукавана, але ж у канцы шмат якіх слоў стаіць цвёрды знак, і яшчэ ў тэксце некалькі дзіўных літар сустракаецца, — у маім буквары такіх няма.

У старых, выдадзеных яшчэ мо да майго нараджэння, падручніках маці, на першай старонцы партрэт вусатага дзядзькі з прыжмурам вачэй, пад ім — верш беларускага паэта-класіка з назвай «Сталін». Тэксту я ўжо не памятаю, засталіся толькі ва ўспамінах рэфрэнам некалькі радкоў, якія паўтараюцца:

*Як сонейка свеціць*
*Дарослым і дзецям.*

(Дык вось, аказваецца, у гонар каго наша двухпавярховая цагляная школа раней звалася Сталінскай!).

Каля павароту ў завулак я азіраюся, і з ганка мне ўсе махаюць рукамі. Тады я ўжо бягу з падскокваннем уздоўж доўгай штыкетнай агароджы на паралельную нашай — вуліцу Калініна, у пачатку якой («у горадзе») стаіць вялікі драўляны, счарнелы ад старасці, будынак. Двухпавярховая «Сталінская» школа перапоўнена, заняткі ідуць у тры змены, і з гэтай акалічнасці наш першы, а зараз ужо другі «Б» клас часова змешчаны тут, у Доме піянераў.

Ад старэнькай буфетчыцы, што на вялікім перапынку прадае нам піражкі і кісель у шклянках, мы ведаем, што тут да рэвалюцыі знаходзілася яўрэйская сінагога, а потым, да вайны — гарвыканкам.

Гарадок наш невялікі. У цэнтры, па вуліцы Савецкай, брукаваная маставая і драўляныя тратуары. Ад чыгуначнай станцыі, што нагадвае пра сябе паравознымі гудкамі, яго аддзяляюць пусткі і агароды. Праз горад працякае невялікая рачулка, у якой летам мы весела плюхаемся, ловім апалонікаў і ўюноў. Дзеці празвалі яе Пераплюйкай (яна ўсяго 3-4 метры шырынёй), аднак шыльда каля моста на Савецкай абвяшчае, што гэта Закаванка.

А жанчыны, што палошчуць бялізну каля другога моста, на Гомельскім тракце, называюць яе Каўня. (Праз шмат гадоў я знайшоў у нейкім даведніку яе афіцыйную назву — Канал Н-1. Калінкавіцкі канал. І ўжо зусім нядаўна, на мапах 1842 і 1878 гадоў, што захоўваюцца ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі, адшукалася яе сапраўдная, даўно забытая назва — *рэчка Каленкаўка*).

Па святах на вялізную драўляную арку, што з'яўляецца ўваходам у агароджаны плотам гарадскі сквер (інакш бы яго хутка знішчылі козы з навакольных панадворкаў) прымацоўваюць белае палотнішча, на якім увечары бясплатна дэманструецца кіно. Звычайна, гэта патрыятычная стужка накшталт «Чырвоных чарцянат» ці «Подзвігу разведчыка».

Толькі паўгода таму ў Калінкавічах адчыніўся прасторны, раскошны кінатэатр «Знамя», дзе ўжо не дэманструюць, як раней, у старым драўляным «Нардоме» (РДК) «нямое» кіно. Новая зала заўсёды запоўнена, а ў суботу ці нядзелю трапіць можна толькі тады, калі адстаіш велізарную, выдаўжаную з фае аж на вуліцу, чаргу.

У горадзе яшчэ няма высотных будынкаў гандлёвага дома «Бярозка», гастранома «Юбілейны», Палескага саўгаса-тэхнікума, велічнага Свята-Казанскага храма. На іх месцы несамавітыя драўляныя хаткі з садкамі і агародамі.

У крамах — чэргі, хлеб прадаюць па адным бохане ў рукі, цукар, крупы і любімыя намі цукеркі «падушачкі» — на вагу.

У горадзе, памятаю, яшчэ шмат гужавога транспарту, рэдкія аўтобусы заўсёды перапоўненыя, а вакол «Масквіча», «Волгі» ці «Пабеды» (на іх звычайна ў горад прыязджаюць лётчыкі з суседняга гарнізона Бабровічы), хутка збіраюцца хлапчукі і нават дарослыя.

У хатах яшчэ няма цэнтралізаванага ацяплення, водаправода і прыроднага газу. Да ўладальнікаў рэдкіх тэлевізараў, каб паглядзець канцэрт сталічных артыстаў, вечарамі збіраецца амаль што палова вуліцы. Калі людзі не ўмяшчаюцца ў хаце, «цудоўную скрынку» прыладжваюць на падаконнік разнасцежанага акна. Затое амаль што ў кожным доме ды, нават, дзе-нідзе на вулічных слупах вісяць чорныя «талеркі» радыётранслятараў, якія скіраваны на адну хвалю:

— *... міралюбівая знешняя палітыка нашай партыі і дзяржавы... агрэсіўная сутнасць імперыялізму... вышэй сцяг сацыялістычнага спаборніцтва!*

На крамах і афіцыйных будынках вісяць плакаты з заклікамі перавыконваць заданні сямігодкі і ўрачыста абвяшчаецца, што сучаснае пакаленне савецкіх грамадзян будзе жыць пры камунізме.

Мы, зялёная моладзь, не сумняваемся, што так яно і будзе насамрэч. Дарослыя не вельмі вераць, але ж размаўляюць пра тое няшмат, напаўголаса, час ад часу ганьбячы нейкага «кукурузніка». У вачах большасці з іх — сум і незразумелая нам, дзецям, асуджанасць ад няздзейсненай пасля страшэннай вайны і перамогі ў ёй мары аб лепшым жыцці. І яшчэ ніхто не ведае, што дзесьці далёка ўжо праходзіць падрыхтоўку на касманаўта Юрый Гагарын, і яшчэ ніхто не здагадваецца, што ў гэтыя восеньскія дні нашым Калінкавічам спаўняецца *чатырыста гадоў.*

У старой драўлянай забягалаўцы, якую нядаўна перайменавалі ў «Рэстаран», засядаюць цаліннікі, якія вярнуліся з казахстанскіх стэпаў. А шыльду «Чайная» перанеслі далей, у такую ж самавітую будыніну, што месцілася напачатку Жыткавіцкага тракту. Звычайна яна пустуе, але ж у кірмашовы дзень бітком набіта

фурманшчыкамі з навакольных вёсак, якія п'юць зусім не гарбату, а напой з «градусамі». Тут сустракаюцца былыя аднапалчане, і тады перакус зацягваецца надоўга, а праз шырока расчыненыя дзверы разам з клубамі дыму ад «Беламорканала» і тутэйшага самасаду на вуліцу даносяцца абрыўкі сардэчных гутарак…

Падчас рэлігійных святаў ажыўляецца звычайна пусты двор прыгожай мураванай Свята-Нікольскай царквы, што насупраць гарадского сквера. Мы, школьнікі, дакладна ведаем, што рэлігія — гэта опіум для народа (злавеснае слова «опіум» азначае відавочна нешта дрэннае, атрутнае), але ж з цікавасцю назіраем здалёку на гэты натоўп, складзены ў асноўным з пажылых кабецін, нейкіх старцаў і жабракоў.

Запомніўся адзін жабрак, сярэдніх гадоў, які сядзеў заўсёды на пероне чыгуначнай станцыі і прасіў міласціну. Каля ног у яго павернутая «гузікам» уніз зашмальцаваная кепка з некалькімі медзякамі; абедзве рукі адсечаны вышэй запясцяў. Мясцовыя яму не падаюць, бо ўсе ведаюць, што гэта былы паліцай. Яго пакаралі так партызаны за жудаснае злачынства, пра якое ўзгадваць не хочацца.

Хіба толькі пасажыры, што сыходзяць на станцыі з паяздоў, кідаюць яму дробязь, думаючы, што гэта інвалід вайны. Калі ж састаў адпраўляецца далей, ён паднімаецца, спрытна падхоплівае сваімі кульцямі пляскатую кепку — і знікае.

Гэтаму, лічы, яшчэ пашанцавала, лёгка (калі так можна казаць) выкруціўся. Старэйшыя хлопцы паказалі нам, малечы, галіну на старым дубе, — насупраць чайной, на якой, пасля вызвалення горада, нейкія «смершаўцы» (і што за людзі такія, пра якіх гавораць шэптам?) прылюдна павесілі пяцярых злоўленых паліцаяў.

І калі наш дзіцячы гурт (мае суседзі-аднагодкі Алесь Мельнік, Віктар Маскаленка, Валера Шаўко, Васіль Ком і я) часам увечары крочыць паблізу таго дуба, мы ўсе сцішваемся, нам робіцца жудасна, і мы трывожна кідаем позіркі ў цемрадзь лістоты, нібы там можна было ўгледзець тых вісельнікаў.

Яшчэ адзін прывід існуе на так званай Адамчыкавай горцы. Уласна кажучы, гэта ўжо мы так празвалі вялікую ўзгорыстую пясчаную пустку на ўскрайку Гомельскага тракту, таму што ў бліжэйшай да яе хаце жыве Адамчык, хлопчык гадоў сямі. У студзеньскую ноч сорак чацвёртага, калі нашы войскі з боем бралі горад, з гэтай горкі вёў жорсткі агонь нямецкі кулямёчык. Калі фашыста ўрэшце забілі, то выявілася, што гэта быў нейкі штрафнік, прыкаваны да свайго кулямёта ланцугом.

Гэта не байка. Бацька Адамчыка, Павел, неяк распавёў сябрам, што доўга валтузіўся, пакуль зняў з мерцвяка той ланцуг, а потым — спраўны кажух. Ужо ў сталым узросце, завітаўшы неяк з Мурманска да малодшага брата ў нашу «фінскую хатку», я са здзіўленнем пачуў, як майго пляменніка-падлетка клікалі з вуліцы сябры:

— Віцька, чакаем цябе на Адамчыкавай горцы!

Яна існуе і сёння, хаця, як мне здаецца, моцна зменшылася. І Адам Паўлавіч, ужо маючы ўнукаў, жыве ўсё там жа.

Пасля заканчэння вайны мінула ўжо пятнаццаць гадоў, але сляды яе ўсё яшчэ бачныя і прыкметныя. На нашай вуліцы жывуць некалькі адзінокіх «салдатак», чые мужы загінулі на фронце. Дзеці ўжо выраслі і раз'ехаліся па свеце, альбо памерлі ў віхурным ліхалецці.

Па шматгадовай звычцы робяць, акрамя сваёй, жаночай, яшчэ і мужчынскую працу — спрытна ўпраўляюцца з канём, колюць дровы і цягаюць на сабе вялікія мяхі з бульбай. Дзве з іх — Тамара і Хрысціна — часта сустракаюцца каля калодзежа насупраць нашае хаты і, паставіўшы вёдры з карамысламі на зямлю, аб нечым доўга гутараць. Іншы раз вецер даносіць іх размову, і я здагадваюся, што так ажыўлена абмяркоўваюцца здарэнні неймавернай даўніны:

— Ужо як я прасіла, як маліла гэтага немчыка: паночку, даражэнькі, не забірай падсвінка, у мяне ж дзеткі малыя, а ён шчэрыцца, рожа паганая, «гут», «гут» — забралі, і курэй апошніх палавілі...

На ўскрайку суседняй вуліцы Загараднай, амаль што ў лесе, стаіць маленькая, урослая ў зямлю хатка з адзіным акном і страхой з чароту. Каля яе няма ні

агарода, ні палісадніка, усё зарасло пустазеллем. Тут жыве старая Тэкля — дробненькая, сухенькая, з пранізлівымі вачамі на маршчыністым твары, вар'ятка.

Па ўласцівай дзіцячым зграйкам жорсткасці мы іншы раз шпурляем услед розным бадзягам і жабракам каменьчыкі ці снежкі (гэта наша вуліца!), але ж Тэклю ніколі не чапаем. Мы ведаем, што ў 1945 годзе ў Тэкліну хатку, акурат у Дзень Перамогі, прынеслі «пахавальную» на яе адзінага сына. Гаспадара яе, простага калгасніка, яшчэ да вайны арыштавалі як «ворага народа» і расстралялі.

У той дзень уся Базарная плошча з навакольнымі вуліцамі была запруджана святочным натоўпам. Тут былі ўсе жыхары Калінкавічаў, медыцынскі персанал і параненыя, акрамя ляжачых, са шпіталя, што месціўся ў «Сталінскай» школе. Гучаў духавы аркестр, усе абдымаліся, танцавалі, радасна спявалі — усе, акрамя гэтай жанчыны. Людзі бачылі, як яна моўчкі блукала ў натоўпе, з жоўтай паперчынай у руцэ. З таго дня, мусіць, яна і страціла розум.

Паўз нашую хатку часта праходзіць зграбны мужчына гадоў пад сорак, забеспячэнец канторы па нарыхтоўцы жывёлы. Будынак яе знаходзіцца на самым краі вуліцы Бялова. У адной руцэ нязменны партфель, рукаў шарсцяной гімнасцёркі другой — пусты, акуратна падаткнуты пад афіцэрскую папругу. Увесь твар у шнарах і плямінах апёкаў: гарэў у танку.

У суседа Рамана адна нага значна карацейшая за другую, з-за чаго ён ходзіць вельмі павольна і неяк бокам. Кажуць, што праваяваў ён толькі адзін дзень, і ў гэты ж дзень яго паранілі. У другога суседа, старога Астапа, адной нагі зусім няма — страціў яе яшчэ ў Першую сусветную. Седзячы ў пагодлівы летні вечар на калодзе ля свайго плоту, ён дыміць сваёй піпкай — «насагрэйкай» і распавядае Раману, ці каму іншаму, пра тую сваю вайну і пра грамадзянскую, сведкам якой ён быў ужо дома.

— Як пагнаў Будзённы пілсудчыкаў на захад, дык і паны нашы, Горват з Навакоўскім, хутка ў Варшаву збеглі. Пакуль безуладдзе, пачалі мужыкі лясы панскія сячы — хто сабе на хату, хто на продаж... Жаўнеры польскія не пярэчылі, памятаю, казалі толькі: «Сячыце, сячыце, пся крэў, сячыце і сасну і дуб, але ж толькі лазу не чапайце. Калі мы вернемся, мы той лазой вас сячы будзем». Не вярнуліся, дзякуй богу...

На Астапавым двары няма сабакі, і таму мы смела лазім туды па чарэшню, якая рана тут выспявае. Іншы раз стары заўважыць нас праз акно, стукае па шкле пальцам, і махае сваёй мыліцай. Зыходзім з двара спаважна і знарок запаволена — усё роўна ж бязногі, не дагоніць.

Улетку, карыстаючыся тым, што ў нашых бацькоў, зморaных штодзённай цяжкай працай, да нас проста «рукі не даходзяць», мы робім вылазкі ў лес за ўсходняй ускраінай горада. Там шмат траншэй, акопаў і бліндажоў, якія хаця ўжо і пазарасталі хмызняком, але ўсё яшчэ захоўваюць у сабе нямала вайскавых трафеяў.

Калі па траншэі змяяцца кавалкі чырвонага тэлефоннага дроту — гэта нямецкая. Патроны ляжаць тут пад тонкім пластом зямлі дзе-нідзе проста россыпам, за пяць хвілін можна назбіраць поўныя прыгаршчы. Мы кідаем іх у вогнішча і жвава хаваемся па акопах і варонках, прыпадаючы да зямлі. Неўзабаве чуецца частае хлопанне, а іншы раз недзе побач ціўкне шалёная куля. І жудасна, і весела! Пры раскопках зрэдку трапляюцца таксама міны і снарады, але ж мы іх у рукі не бяром: каля трох гадоў таму, некалькі хлапчукоў з вуліцы Куйбышава ўзарвалі вялікі снарад і ўсе, акрамя аднаго, загінулі. Уцалелы зараз амаль не чуе, моцна кульгае і ходзіць у школу заўсёды адзін...

Але ж больш вабіць іншае. З сябрам Алесем Мельнікам, вялікім аматарам кніг, мы часта наведваем дзіцячую бібліятэку, што займае частку старога драўлянага будынка па вуліцы Першамайскай і заўсёды перапоўнена дзятвой. Паклаўшы свае кніжкі на яшчэ высокую для нас стойку, мы стаім у чарзе да бібліятэкаркі і з цікавасцю разглядаем выстаўленую насупраць нас, на паліцах, літаратуру. Мяне прыцягвае пяты том («Сусветная гісторыя») шматтомнай дзіцячай энцыклапедыі. Але ж строгая гаспадыня ўсіх гэтых кніжных багаццяў хутка спыняе —

малы яшчэ! (Праз паўгода яна ўсё ж дасць мне гэтую вялікую жоўтую кнігу, якую я перачытаю разы тры, напэўна.)

За першы год навучання мы моцна пасябравалі і напрыканцы летніх канікулаў з вялікай нецярплівасцю чакалі новай сустрэчы ў школе. Клас быў вялікі, інтэрнацыянальны: больш як палову яго складалі яўрэйскія хлапчукі, астатнія былі «тутэйшыя» — беларусы, у тым ліку і я, і рускія, у асноўным з сем’яў вайскоўцаў, што жылі ў калінкавіцкім ваенным гарадку.

Нават праз паўстагоддзе я добра памятаю тую бурлівую, нястрымную, набытую за лета, энергію сваіх васьмігадовых равеснікаў. На парце каля дзвярэй сядзіць сын чыгуначніка Валера Гуцаў (вывучыўся потым на інжынера) і першая прыгажуня класа Таццяна Нізаўцова (будучы галоўны эканаміст аднаго з калінкавіцкіх прадпрыемстваў). За імі — Рыгор Тозік (скончыў «мараходку», стаў суднавым механікам), Люда Церашковіч (зараз кіруе раённым ДК), Валера Міронаў (авіяцыйны тэхнік), Вольга Цімашэнка (настаўніца), Коля Завядзееў (высакакласны электрык) і Таццяна Малашчанка (харэограф).

А вось Эла Махцюк, Аркадзь Феферман, Фіма Шэхтман, Слава Сусцін, Рэгіна Гозман, Фіма Фактаровіч, Аркадзь Голад — яны потым пераехалі ў Ізраіль, ЗША, і адбыліся там як паспяховыя прадпрымальнікі, урачы і педагогі. На перадапошняй парце сярэдняга раду сяджу я і мой цёзка Валодзька Скаржынскі, сын начальніка калінкавіцкага ваеннага шпіталя; у дарослым жыцці абодва мы станем афіцэрамі.

Сёння, на першым занятку новага навучальнага года, мы ўважліва слухаем нашу настаўніцу — Ніну Гаўрылаўну Куляшову. Усе дзяўчынкі нашага класа (і хлапчукі таксама) проста ў яе закаханыя.

Ужо ва ўзросце, лагодная і спакойная, з мяккім прыемным голасам, яна пільна назірае за кожнай партай, іншы раз павольна ходзіць па класе, схіляючыся над нашымі сшыткамі.

Ніна Гаўрылаўна ведае ўсё пра кожнага з нас, ведае нашых бацькоў, старэйшых братоў і сясцёр, ведае зашмат цікавага — ведае, здаецца, усё на свеце! А яшчэ — яна жонка былога чырвонага кавалерыста, што ваяваў «на грамадзянскай» у дывізіі самога Чапаева!

Настаўніца распавядае нам аб нашай Радзіме, яе гісторыі, аб цяжкіх дваццатых гадах, калі яны, маладыя калінкавіцкія камсамольцы, будавалі новае жыццё, аб усенароднай вайне з фашыстамі; расказвае пра вучня чыгуначнай школы Косціка Ярмілава і яго сяброў, пра герояў калінкавіцкага падполля, пра вызваленне і пасляваеннае аднаўленне Беларусі. Памятаю, калі яна скончыла свой аповед, я падняў руку і спытаў, што азначае назва нашага горада і калі ён з’явіўся.

— Калінкавічы яшчэ не так даўно былі маленькім мястэчкам, — адказала Ніна Гаўрылаўна, — і я чула, чаму так называліся: былі ў акружэнні калінавых гаёў. У кожнага горада ёсць свая гісторыя, і наша, напэўна, таксама вельмі цікавая. Але ж яна яшчэ не напісана, і, можа, гэта зробіш менавіта ты, Валодзя, калі вырасцеш…

Гэтыя словы мудрай жанчыны я запомніў назаўсёды. Яны сталі нават компасам у маім жыцці.

Я кожны дзень збіраю крупінкі нашай гісторыі, яе светлыя старонкі, падзеі і эпізоды. Іх назбіралася шмат. І неўзабаве я выпушчу кнігу, якая будзе называцца «Мы — з берагоў Каленаўкі».

…А сумка тая, афіцэрская, што маці купіла, і сёння ў шафе ляжыць. Як напамінак пра той час.

Ды і напрарочыла гандлярка мне мой лёс — стаў я афіцэрам, марскім, на трох марах на караблі плаваў. А ўсё роўна ж прыплыў у свае родныя Калінкавічы — у свой родны край, да берагоў Каленаўкі.

Міхась СТРАЛЕЦ

# УЗОР КРАЯЗНАЎЧАГА ДАСЛЕДАВАННЯ

**Вольга ПАПКО**.
**Род Дзяконскіх і іх маёнткі на Брэстчыне ў XIX—XX стагоддзях.**
Брэст, Альтэрнатыва, 2009.

Кандыдат гістарычных навук, дацэнт кафедры філасофіі і культуралогіі Брэсцкага дзяржаўнага тэхнічнага універсітэта Вольга Мікалаеўна Папко даўно атрымала трывалую рэпутацыю сістэмнага аналітыка ў гістарычных даследаваннях. Яе навуковыя пошукі звычайна адрозніваюцца міждысцыплінарнасцю, вельмі шырокім прыцягненнем метадаў розных навук, выкарыстаннем велізарнай колькасці крыніц. Зразумела, толькі такі чалавек здольны ажыццявіць па ўсіх мерках сур'ёзнае краязнаўчае даследаванне. Добра вядома, што краязнаўчая праблематыка з'яўляецца міждысцыплінарнай у сваёй аснове. Менавіта да гэтай праблематыкі звяртаецца В. Папко ў сваёй кнізе «Род Дзяконскіх і іх маёнткі на Брэстчыне ў XIX—XX стагоддзях».

Прадмет даследавання аўтара поўнасцю супадае з назваю кнігі. Яшчэ да азнаямлення з яе тэкстам рэцэнзент задаў сабе слушнае пытанне: «Што яму вядома аб родзе Дзяконскіх?» Адказ на гэтае пытанне ніяк не мог быць станоўчым. «Гісторыя роду памешчыкаў Дзяконскіх не была прадметам даследавання ні беларускіх, ні польскіх даследчыкаў» да выхаду рэцэнзуемай манаграфіі. Дацэнт кафедры філасофіі і культуралогіі Брэсцкага дзяржаўнага тэхнічнага універсітэта займалася, вобразна кажучы, асваеннем цаліны, здзейсніўшы сапраўдны навуковы подзвіг. Увазе чытачоў прапанавана сістэмная рэканструкцыя гісторыі роду Дзяконскіх і іх маёнткаў на Брэстчыне ў XIX—XX стагоддзях.

Сістэмная рэканструкцыя ў манаграфіі В. Папко грунтуецца перш за ўсё на матэрыялах Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі, Дзяржаўнага архіва Брэсцкай вобласці, Дзяржаўнага архіва Гродзенскай вобласці, а таксама цікавай інфармацыі, з якой даследчыца азнаёмілася ў час працы ў бібліятэках Рэспублікі Польшча і Рэспублікі Беларусь, кантактаў з нашчадкамі роду Дзяконскіх.

Пасля выхаду манаграфіі многія пытанні па родзе Дзяконскіх можна лічыць знятымі. «Аўтарам вылучана і вывучана дзве галіны гэтага роду… Заснавальнікам адной з іх умоўна можна лічыць Яна Дзяконскага па прозвішчы Валынец, што дазволіла назваць яе «галіною Валынца»… Другая з вывучаных галін умоўна названа аўтарам «пятровіцкай», па маёнтку Пятровічы ў Кобрынскім уездзе, які належаў роду ў 1741—1939 гадах. Вольгай Мікалаеўнай самастойна «складзены генеалагічныя табліцы даследаваных галін роду Дзяконскіх». Кожная з галін паказваецца ў інтэр'еры рэалій, якія ў XIX—XX стагоддзях кардынальна мяняліся. Спачатку размова ішла аб Расіі, у якой актыўна ішоў працэс разлажэння феадалізму, затым Дзяконскія мелі справу з рэаліямі парэформеннай Расіі, якая перажывала стадыю манапалістычнага капіталізму, былі сведкамі бальшавіцкага перавароту, савецка-польскай вайны, жылі і дзейнічалі ў якасці грамадзян Другой Рэчы Паспалітай, сталі закладнікамі драматычных падзей, якія былі звязаны з далучэннем

Заходняй Беларусі да БССР і Другой сусветнай вайной.

Прынцыпова важна адзначыць, што В. Папко адлюстроўвае на прыкладзе Дзяконскіх тыя перадумовы сялянскай рэформы 1861 года, якія звычайна не ўзгадваюцца ў навучальнай літаратуры. Яна піша: «У сярэдзіне ХІХ стагоддзя ў Кобрынскім павеце склалася катастрафічная эканамічная сітуацыя. Некалькі гадоў запар быў неўраджай, што прымусіла поўнасцю раздаць запасы хлеба з сельскіх магазінаў, якія захоўваліся на такі выпадак. Памешчыкі былі вымушаны браць пазыкі. Прыродныя катаклізмы (град і бясконцыя дажджы), а таксама голад і тагачасны стан медыцыны прывялі да некалькіх хваляў эпідэмій халеры і тыфу. Гэтую сітуацыю значна пагоршылі перамяшчэнні рускіх войскаў па Маскоўска-Варшаўскай шашы, да палёў бітвы Крымскай вайны (1853—1856 гг.). Пастой войскаў наносіў урон сялянскай гаспадарцы, здараліся канфлікты паміж салдатамі і сялянамі».

Дзяконскія мелі дачыненне і да кардынальных зменаў у транспартнай інфраструктуры заходніх губерняў Расійскай імперыі, якія сталі прасочвацца з пачатку 1840-х гадоў. Вядома, што «ў 1842 годзе пачаліся работы па будаўніцтве Маскоўска-Варшаўскай шашы. Па тых часах гэта была вельмі добрая, якасная і ажыўленая дарога, на якой размяшчаліся паштовыя станцыі. Шаша прайшла праз землі І. Дзяконскага, а ў вёсцы Пятровічы была пабудавана паштовая станцыя, на якой змяшчалася 25 коней і 8 фурманаў. У 60-я гады ХІХ стагоддзя гэтая станцыя лічылася трэцяй па значэнні ў Гродзенскай губерні».

Таленавітая даследчыца не абышла і калізіі пачатку парэформеннага перыяду, якія найбольш яскрава праявіліся ў ходзе паўстання 1863 года ў Літве, Польшчы, на Беларусі. «Падзеі 1863 года цяжка ўдарылі па сям'і Дзяконскіх. У пачатку траўня 1863 года Караль Дзяконскі (1840-?) прыняў удзел у дзеяннях паўстанцкага атрада ў Гары-Горках Магілёўскай губерні, дзе ён вучыўся ў земляробчым інстытуце. Пасля арышту Караля асудзілі на 8 год катаргі і накіравалі ў Сібір. Вялікі маёнтак бацькі Радванічы Царкоўныя быў канфіскаваны ў казну. Малодшы брат Караля, Севярын (1842-?) быў арыштаваны па падазрэнні ў дапамозе паўстанцам, але потым выпушчаны на свабоду».

Удала паказана дачыненне Дзяконскіх да прадпрымальніцкай сферы ў часы манапалістычнага капіталізму. Вядома, напрыклад, што «Мар'яну-Тадэвушу Дзяконскаму належала некалькі вінакурных заводаў, якія знаходзіліся ў яго маёнтках. На тыя часы гэта была даволі распаўсюджаная з'ява ў памешчыцкіх гаспадарках».

Новым рубяжом у жыцці Дзяконскіх з'явіўся бальшавіцкі пераварот у Расіі. Мар'ян-Тадэвуш Дзяконскі, безумоўна, меў рацыю, калі «напярэдадні падзей польска-савецкай вайны 1919—1920 гадоў… вырашыў прадаць большасць сваіх уладанняў на Пружаншчыне… Ён не быў упэўнены ў тым, што зможа пакарыстацца імі. Існавала рызыка, што гэтыя землі апынуцца ў складзе савецкай дзяржавы».

Вялікай удачай даследчыцы трэба лічыць прасочванне лёсу маёнткаў Дзяконскіх у выніку аграрнай рэформы ў Польшчы 1920-х гадоў. В. Папко спецыяльна спыняецца на іх маёнтках у Кобрынскім і Пружанскім паветах, пераканаўча тлумачыць, чаму «землі ў маёнтку Каралін былі прададзены значна хутчэй, чым гэта адбывалася ў маёнтках Дзяконскіх на Пружаншчыне». Бліскуча валодаючы метадамі псіхагісторыі, аўтар грунтоўна паказвае псіхалагічны стан Альбіна Дзяконскага, які валодаў маёнткам Каралін, што на Кобрыншчыне і ўладальніка маёнтка Чахец, што на Пружаншчыне, Януша Дзяконскага ў сувязі з указанай рэформай. Вельмі слушным трэба прызнаць тое, што В. Папко разглядае ў кантэксце дадзенай рэформы чатырохгадовы судовы разбор паміж Янушам Дзяконскім і Юзафам Драхеймам, у выніку якога «былая маёмасць Дзяконскіх была падзелена на дзве часткі.

Тая частка, што належала Я. Дзяконскаму, захавала назву Чахец. Былую частку яго, якая трапіла да Драхейма, назвалі Казімірава (або Казімiраў), ад назвы самага маленькага фальварка з яго ўгоддзяў».

Крах Другой Рэчы Паспалітай, пачатак германскай акупацыі абазначылі круты злом у гісторыі аналізуемага роду. «Большасць сядзіб роду Дзяконскіх і іх родзічаў былі знішчаны ў гады Першай сусветнай вайны. У гады вайны згарэла сядзіба Дзяконскіх у Тулічах, гаспадарчыя пабудовы былі разабраны. Аб былой сядзібе нагадваюць толькі рэшткі парку. Галоўная сядзіба роду Дзяконскіх на Брэстчыне — Пятровічы — таксама не захавалася да нашых дзён… У добрым стане аказаліся толькі два будынкі ў Пружанскім раёне: сядзібныя дамы ў Магілёўцах і Чахцы».

Памяць пра род Дзяконскіх павінна захоўвацца на айчыннай тэрыторыі. В. Папко, безумоўна, мае рацыю, прапануючы «ўключыць комплекс былога маёнтка Чахец у розныя турыстычныя маршруты».

Канечне, няма і не можа быць кніг, у якіх расстаўлены ўсе кропкі над «і». Рэцэнзуемая кніга — не выключэнне. Аўтар прызнае, што ў гэтай працы існуюць некаторыя прагалы, якія тлумачацца адсутнасцю адпаведных дакументаў.

Безумоўна, як любое комплекснае даследаванне, праца В. Папко знойдзе цікавасць з боку шырокага кола чытачоў, якія прадстаўляюць наступныя галіны: краязнаўства, гісторыю Беларусі, гісторыю архітэктуры, гісторыю дзяржавы і права, эканамічную гісторыю Польшчы, генеалогію, культуралогію, анамастыку, геральдыку. Гэтая кніга павінна стаць настольнай у экскурсаводаў, супрацоўнікаў музеяў, спецыялістаў па ахове помнікаў гісторыі і культуры. Рэцэнзент быў сведкам таму, як удала ўкараняе аўтар вынікі сваёй працы ў навучальны працэс. Сапраўды, на грунце рэцэнзуемай кнігі можна распрацаваць спецкурс для студэнтаў ВНУ, прапанаваць тэматыку дакладаў, рэфератаў, паведамленняў, уносіць карэктывы ў змястоўную частку некаторых лекцый.

**ЛІПЕНЬ**

**1**

75 гадоў з дня нараджэння (1935) Крываля Сцяпана Антонавіча, беларускага празаіка, парадыста.

**3**

115 гадоў з дня нараджэння Каган Сары Рувімаўны (1895—1941), беларускай паэтэсы, празаіка. Пісала на яўрэйскай, беларускай і рускай мовах.

60 гадоў з дня нараджэння Арахоўскага Міколы (Мікалая Аляксандравіча; 1950—1997), беларускага драматурга.

**5**

105 гадоў з дня нараджэння Мулера Канстанціна Аляксандравіча (1905—1993), беларускага і расійскага балетмайстра, артыста балета, заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь.

**6**

105 гадоў з дня нараджэння Глебкі Пятра (Пятра Фёдаравіча; 1905—1969), беларускага паэта, перакладчыка, драматурга, вучонага, грамадскага дзеяча.

**7**

60 гадоў з дня нараджэння (1950) Крошкіна Алега Уладзіміравіча, беларускага жывапісца.

**8**

85 гадоў з дня нараджэння Клышкі Міхася Канстанцінавіча (1925—1984), беларускага мовазнаўца.

**10**

110 гадоў з дня нараджэння Сергіевіча Пётры (Пятра Аляксандравіча; 1900—1984), беларускага і літоўскага жывапісца, графіка, мастака-манументаліста, заслужанага дзеяча мастацтваў Літвы.

100 гадоў з дня нараджэння Астравумава Сяргея Паўлавіча (1910—1991), беларускага акцёра і рэжысёра, заслужанага дзеяча культуры Рэспублікі Беларусь.

**11**

80 гадоў з дня нараджэння Рэя Івана Пятровіча (1930—2002), беларускага жывапісца, заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь.

**14**

105 гадоў з дня нараджэння Сакола Пятра (сапр. Масальскі Пётр Аляксандравіч; 1905—1985), беларускага паэта, перакладчыка.

90 гадоў з дня нараджэння Астапенкі Алеся (Аляксандра Кірылавіча; 1920—1970), беларускага паэта, перакладчыка.

**15**

110 гадоў з дня нараджэння Дубоўкі Уладзіміра Мікалаевіча (1900—1976), беларускага паэта, празаіка, перакладчыка, крытыка.

100 гадоў з дня нараджэння Стэльмаха Уладзіміра Мацвеевіча (1910—1974), беларускага тэатральнага дзеяча, драматурга, акцёра, крытыка, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР.

**16**

90 гадоў з дня нараджэння Харытоненкі Яўгена Міхайлавіча (1920—1998), беларускага жывапісца, педагога.

70 гадоў з дня нараджэння (1940) Загорскай Ніны Сямёнаўны, беларускай паэтэсы, публіцыста, крытыка, сцэнарыста, перакладчыка, заслужанага работніка культуры Рэспублікі Беларусь.

60 гадоў з дня нараджэння (1950) Белавусавай Галіны Аляксандраўны, беларускай танцоўшчыцы, заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь.

60 гадоў з дня нараджэння (1950) Цвятковай Ірыны Міхайлаўны, беларускага кампазітара, заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь.

**19**

60 гадоў з дня нараджэння (1950) Сулкоўскага Уладзіміра Якаўлевіча, беларускага мастака.

**20**

130 гадоў з дня нараджэння Леўчыка Гальяша (сапр. Ляўковіч Ілья Міхайлавіч; 1880—1944), беларускага паэта, празаіка, перакладчыка.

**21**

150 гадоў з дня нараджэння Каменскага Антона Іосіфавіча (1860—1933), беларускага і польскага графіка і жывапісца.

105 гадоў з дня нараджэння Бобрыка Янкі (Івана Іванавіча; 1905—1942), беларускага паэта, кінакрытыка.

50 гадоў з дня нараджэння (1960) Новікава Пятра Анатольевіча, беларускага мастака манументальна-дэкаратыўнага мастацтва.

**22**

100 гадоў з дня нараджэння Акулёнка Пятра Сяргеевіча (1910—1996), беларускага балетмайстра, заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь.

**23**

100 гадоў з дня нараджэння Аляксеенкі Барыса Леанідавіча (1910—1944), беларускага акцёра.

90 гадоў з дня нараджэння Карнеевай Ніны Аляксееўны (1920—2007), беларускай актрысы, народнай артысткі Беларусі.

75 гадоў з дня нараджэння Рагачовай Галіны Рыгораўны (1935—1992), беларускай актрысы.

**24**

190 гадоў з дня нараджэння Крашэўскага Люцыяна (1820—1892), мастака, фатографа.

60 гадоў з дня нараджэння (1950) Сінельнікавай Людмілы Мікалаеўны, беларускай і расійскай артысткі балета, заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь.

**25**

170 гадоў з дня нараджэння Крачкоўскага Юльяна Фаміча (1840—1903), беларускага фальклярыста, этнографа, гісторыка і педагога.

105 гадоў з дня нараджэння Барашкі Іларыя (Іларыёна Мацвеевіча; 1905—1968), беларускага празаіка, сцэнарыста, крытыка, драматурга, перакладчыка.

60 гадоў з дня нараджэння (1950) Жыткевіча Сяргея Пятровіча, беларускага рэжысёра, сцэнарыста.

**27**

75 гадоў з дня нараджэння (1935) Мурашова Віктара Міхайлавіча, беларускага скульптара.

**28**

120 гадоў з дня нараджэння Рэшаця Язэпа (1890—1958), беларускага рэлігійнага і культурна-асветніцкага дзеяча.

105 гадоў з дня нараджэння Дубовіка Міколы (1905—1928), беларускага паэта.

75 гадоў з дня нараджэння (1935) Арловай Таццяны Дзмітрыеўны, беларускага тэатразнаўца, педагога.

70 гадоў з дня нараджэння (1940) Даўгялы Алега Міхайлавіча, беларускага жывапісца.

70 гадоў з дня нараджэння (1940) Тумаша Генадзя (сапр. Тумас Яўген Змітравіч), беларускага паэта, празаіка, перакладчыка.

**30**

140 гадоў з дня нараджэння Харламповіча Канстанціна Васільевіча (1870—1932), беларускага гісторыка царквы, педагога.

85 гадоў з дня нараджэння Федчанкі Ларысы Мікалаеўны (1925—1996), беларускай актрысы, заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь.

80 гадоў з дня нараджэння Кахно Ігара Паўлавіча (1930—1988), беларускага літаратуразнаўца, крытыка.

## ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ І ПАДПІСЧЫКІ «ПОЛЫМЯ»!

**Ідзе падпіска на II паўгоддзе 2010 года:**

*індывідуальная льготная для настаўнікаў (індэкс — 00471)*

на 1 месяц — 6100 руб.
на 3 месяцы — 18 300 руб.

*індывідуальная (індэкс — 74985)*

на 1 месяц — 9400 руб.
на 3 месяцы — 28 200 руб.

*ведамасная (індэкс — 749852)*

на 1 месяц — 12 900 руб.
на 3 месяцы — 38 700 руб.

*ведамасная льготная для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь (індэкс — 00727)*

на 1 месяц — 10 500 руб.
на 3 месяцы — 31 500 руб.

***e-mail: polymya@bk.ru***

Рэдакцыя часопіса «Полымя», 220034, Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара,
намесніка галоўнага рэдактара — 284-80-12,
аддзелаў прозы, паэзіі, навукі,
крытыкі і літаратуразнаўства — 288-22-37.

Стыльрэдактар *М. М. Гілевіч*
Камп'ютэрная вёрстка *С. І. Таргонскай*

Падпісана ў друк 15.07.10 г. Фармат 70×108 1/16. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,80. Ул.-выд. арк. 16,48. Тыраж 2901 экз. Заказ 1676.
Рэгістрацыйны № 9 ад 22.07.09 г.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79. ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.